«ПРАВААБАРОНЦЫ ЗА СВАБОДНЫЯ ВЫБАРЫ»

ВЫБАРЫ Ў ПАЛАТУ ПРАДСТАЎНІКОЎ
НАЦЫЯНАЛЬНАГА СХОДУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
ШОСТАГА СКЛІКАННЯ
11 верасня 2016 г.

# ВЫНІКІ
## НЕЗАЛЕЖНАГА НАЗІРАННЯ
### факты, аналіз, каментары

МІНСК, 2017

ГРАМАДСКАЯ КАМПАНІЯ «ПРАВААБАРОНЦЫ ЗА СВАБОДНЫЯ ВЫБАРЫ»

# ВЫБАРЫ Ў ПАЛАТУ ПРАДСТАЎНІКОЎ НАЦЫЯНАЛЬНАГА СХОДУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ШОСТАГА СКЛІКАННЯ, 11 верасня 2016 г.

Аналітычная справаздача па выніках назірання

Рэдактар: Таццяна Рэвяка

Дадзенае выданне ўтрымлівае аналіз усіх этапаў выбарчай кампаніі па выбарах дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь шостага склікання. Аналіз зроблены па падстваe вынікаў незалежнага назірання, якое ажыццяўлялася Праваабарончым цэнтрам «Вясна» і Рэспубліканскім праваабарончым грамадскім аб'яднаннем «Беларускі Хельсінкскі камітэт» у межах кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары».
У кнізе даецца ацэнка выбарчага працэсу з пункту гледжання беларускага выбарчага заканадаўства і міжнародных стандартаў свабодных і дэмакратычных выбараў. У выданні прадстаўлены таксама рэкамендацыі на ўдасканаленні выбарчага заканадаўства Беларусі, якія дазволяць наблізіць беларускія выбары да міжнародных стандартаў, павысіць узровень даверу да вынікаў выбараў з боку грамадзянаў і міжнароднай супольнасці.
Аналіз выбарчай кампаніі заснаваны на справаздачах доўгатэрміновых і кароткатэрміновых назіральнікаў.

*У выданні выкарыстаны фотаздымкі кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары», а таксама з сайтаў minsk.gov.by, mspring.online, http://edinstvo.by,  http://licviny.info, nn.by*

ПРАВААБАРОНЦЫ ЗА СВАБОДНЫЯ ВЫБАРЫ

ВЯСНА праваабарончы цэнтр

БЕЛАРУСКІ ХЕЛЬСІНКСКІ КАМІТЭТ

# ЗМЕСТ

# СПІС ПРЫНЯТЫХ СКАРАЧЭННЯЎ

АБСЕ — Арганізацыя па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе
АГП — Аб'яднаная грамадзянская партыя
АВК — акруговая выбарчая камісія
БАЖ — Грамадская арганізацыя «Беларуская асацыяцыя журналістаў»
БВ — базавая велічыня (21 руб)
Беларускі саюз жанчын — Грамадскае аб'яднанне «Беларускі саюз жанчын»
Белая Русь — Рэспубліканскае грамадскае аб'яднанне «Белая Русь»
БДІПЧ АБСЕ — Бюро па дэмакратычных інстытутах і правах чалавека Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе
БНФ — Партыя БНФ
БПЛ «Справядлівы свет» — Беларуская партыя левых «Справядлівы свет»
БРСМ — Грамадскае аб'яднанне «Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі»
БСДП (Г) — Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Грамада)
БССП — Беларуская сацыяльна-спартыўная партыя
БХК — Рэспубліканскае праваабарончае грамадскае аб'яднанне «Беларускі Хельсінкскі камітэт»
БХД — Беларуская хрысціянская дэмакратыя
ВА — выбарчая акруга
Венецыянская камісія — Еўрапейская камісія за дэмакратыю праз права
ВК — Выбарчы кодэкс Рэспублікі Беларусь
ГА — грамадская арганізацыя
Каляндарны план — Каляндарны план арганізацыйных мерапрыемстваў па падрыхтоўцы і правядзенні выбараў дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь шостага склікання
КаАП — Кодэкс Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэннях
КПБ — Камуністычная партыя Беларусі
КХП — Кансерватыўна-Хрысціянская Партыя — БНФ
ЛДПБ — Ліберальна-дэмакратычная партыя Рэспублікі Беларусь
ППНС — Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь
РППС — Рэспубліканская партыя працы і справядлівасці
Рух «За Свабоду» — Праваабаронча-асветніцкае грамадскае аб'яднанне Рух «За Свабоду»
СНД — Саюз незалежных дзяржаў
ТВК — тэрытарыяльная выбарчая камісія
УВК — участковая выбарчая камісія
Цэнтральная камісія / ЦВК — Цэнтральная камісія Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў

# УВОДЗІНЫ

Кампанія «Праваабаронцы за свабодныя выбары» — незалежная і палітычна незаангажаваная сумесная ініцыятыва Праваабарончага цэнтра «Вясна» і Рэспубліканскага праваабарончага грамадскага аб'яднання «Беларускі Хельсінкскі камітэт».

Кампанія не падтрымлівае якіх-небудзь палітычных партый і палітычных дзеячоў. Увесь выбарчы працэс ацэньваецца максімальна непрадузята, сыходзячы выключна з прынцыпаў свабодных, дэмакратычных і празрыстых выбараў, пры якіх народ можа ў поўнай меры рэалізаваць сваё канстытуцыйнае права на ўдзел у кіраванні сваёй краінай.

Мэта кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары» — назіранне за выбарамі ўсіх узроўняў у Рэспубліцы Беларусь, ацэнка выбарчага працэсу і забеспячэння правоў чалавека падчас выбарчай кампаніі з пункту гледжання беларускага выбарчага заканадаўства і міжнародных стандартаў свабодных і дэмакратычных выбараў, інфармаванне беларускай грамадскасці і міжнароднай супольнасці пра ход электаральнай кампаніі і зробленыя высновы.

Назіранне ў межах кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары» ажыццяўляецца сіламі сябраў Праваабарончага цэнтра «Вясна» і Беларускага Хельсінкскага камітэта ў строгай адпаведнасці з дзеючым нацыянальным заканадаўствам.

З першага дня выбараў у межах кампаніі дзейнічала 55 доўгатэрміновых назіральнікаў, прадстаўніцтва якіх у АВК дазволіла ахапіць працэс волевыяўлення больш за 70% выбарцаў краіны. Вынікі апрацоўкі штотыднёвых справаздач назіральнікаў распаўсюджваліся ў форме тыднёвых справаздач кампаніі і папярэдніх справаздач кампаніі па асобных этапах выбараў.

Падчас датэрміновага галасавання назіранне ажыццяўлялася на 182 УВК, а ў дзень выбараў на 350 УВК па ўсёй тэрыторыі краіны. Справаздачы апрацоўваліся штодзённа, гэта дазволіла выявіць агульныя тэндэнцыі ў арганізацыі выбарчага працэсу і ацаніць узровень парушэнняў ВК.

З аналітычнай справаздачай па выніках назірання за выбарамі і выпрацаванымі рэкамендацыямі па далейшым удасканаленні выбарчага заканадаўства кампанія «Праваабаронцы за свабодныя выбары» азнаёміць Цэнтральную выбарчую камісію, Палату прадстаўнікоў беларускага парламента, Вярхоўны Суд, а таксама міжнародныя назіральныя місіі Бюро па дэмакратычных інстытутах і правах чалавека АБСЕ, Парламенцкай Асамблеі Рады Еўропы, Садружнасці Незалежных Дзяржаў.

# ВЫСНОВЫ

Выбары дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь шостага склікання пачаліся на фоне складанай геапалітычнай абстаноўкі ў свеце і Еўропе, найперш у сувязі з расійска-ўкраінскім крызісам. Нягледзячы на тое, што выбарам спадарожнічалі неспрыяльныя тэндэнцыі ў сацыяльным і эканамічным развіцці краіны, кампанія адбывалася на больш спрыяльным унутрыпалітычным фоне, чым папярэдняя.

Трэба адзначыць, што ўлады Беларусі не адмовіліся ад рэпрэсіўных практык у дачыненні да сваіх палітычных апанентаў: па-ранейшаму прыцягваліся да адміністрацыйнай адказнасці ўдзельнікі мірных сходаў, абмяжоўваліся іншыя грамадзянскія і палітычныя правы, на працягу года з'явіліся новыя палітычныя зняволеныя. У цэлым улады Беларусі не зрабілі захадаў, скіраваных на сістэмныя і якасныя змены ў галіне правоў чалавека, найперш на заканадаўчым узроўні.

У выбарчай кампаніі 2016 г. можна вызначыць некаторыя станоўчыя тэндэнцыі ў параўнанні з папярэднімі: адсутнасць значных перашкодаў з боку ўлады пры зборы подпісаў за вылучэнне кандыдатаў у дэпутаты і правядзенні агітацыйных мерапрыемстваў, невялікі працэнт адмоў у рэгістрацыі ініцыятыўных груп і адмоў у рэгістрацыі саміх кандыдатаў.

Але пры падрыхтоўцы выбараў улады Беларусі фактычна не ўлічылі рэкамендацыі БДІПЧ АБСЕ і кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары», выпрацаваныя па выніках назірання за папярэднімі кампаніямі, а тых нешматлікіх, але шырока анансаваных зменаў, унесеных у некаторыя Пастановы ЦВК, было відавочна недастаткова, каб якасна змяніць характар выбарчай кампаніі ў бок яе большай дэмакратычнасці і транспарэнтнасці.

Выбары дэпатутаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь шостага склікання ў цэлым не адпавядалі шэрагу ключавых міжнародных стандартаў правядзення дэмакратычных і свабодных выбараў. Найперш гэтыя высновы абумоўлены адсутнасцю роўнага доступу да дзяржаўных СМІ для ўсіх кандыдатаў, адсутнасцю бесстаронніх выбарчых камісій, фактамі выкарыстання адміністрацыйнага рэсурсу на карысць праўладных кандыдатаў, шматлікімі фактамі прымусу выбаршчыкаў да ўдзелу ў датэрміновым галасаванні, закрытасцю шэрагу выбарчых працэдур для назіральнікаў.

Традыцыйна найбольшыя падставы для крытыкі даюць непразрыстыя для назіральнікаў працэдуры падліку галасоў, што дае падставы для сур'ёзных сумневаў адносна адпаведнасці вынікаў такога падліку рэальнаму волевыяўленню выбаршчыкаў.

## Выбарчыя камісіі

— фарміраванне ТВК, АВК і УВК адбывалася на фоне шырока анансаваных ЦВК новых падыходаў, якія павінны былі прымяняцца адказнымі органамі: магчымасць прысутнасці назіральнікаў (у тым ліку міжнародных) на пасяджэннях органаў па фарміраванні ВК, абмеркаванне дзелавых і палітычных якасцяў вылучаных у камісіі прэтэндэнтаў, персанальнае галасаванне ў выпадку конкурсу на месцы ў камісіях;

— пры фарміраванні ТВК і АВК адпаведныя органы часта прымянялі гэтыя падыходы, аднак пры фарміраванні УВК назіральнікі адзначалі, што на большасці пасяджэнняў склад камісій прымаўся спісамі, без прадстаўлення і абмеркавання кандыдатур;

— адсутнасць заканадаўча замацаваных крытэраў для прэтэндэнтаў у склад ВК па-ранейшаму робіць магчымым суб'ектыўны падыход да персанальнага складу гэтых камісій; Пастанова ЦВК № 18 на практыцы не паспрыяла большаму палітычнаму плюралізму: як і падчас папярэдніх выбараў, пры фарміраванні ТВК, АВК і УВК перавага аддавалася прадстаўнікам праўладных палітычных партый і грамадскіх аб'яднанняў;

— доля прадстаўнікоў палітычных партый у складзе ТВК, АВК і УВК па-ранейшаму застаецца нязначнай (24,2%, 13,6% і 5,2% адпаведна) у параўнанні з доляй прадстаўнікоў грамадскіх аб'яднанняў (51%, 54,3% і 44,1% адпаведна);

— асноўнымі арганізатарамі выбараў, як і раней, з'яўляліся прадстаўнікі пяці найбуйнейшых праўладных грамадскіх аб'яднанняў — Белая Русь, БРСМ, Беларускі саюз жанчын, Беларускае грамадскае аб'яднанне ветэранаў, ФПБ; сумарнае іх прадстаўніцтва ў ТВК, АВК і УВК склала 40%, 42,3% і 50,7% адпаведна;

— пры фарміраванні камісій захаваўся дыскрымінацыйны падыход да прадстаўнікоў апазіцыйных партый: працэнт праходнасці іх прадстаўнікоў у склад камісій заставаўся традыцыйна нізкім — 31,2% ад вылучаных у ТВК, 19,4% ад вылучаных у АВК і 10,3% ад вылучаных ва УВК; агульны працэнт іх прадстаўніцтва ў складзе ТВК, АВК і УВК нязначны (5,4%, 1,8% і 0,08%); падчас выбараў дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў у 2012 г. доля прадстаўнікоў апазіцыйных партый у АВК склала 3% ад агульнай колькасці сябраў камісій, на выбарах дэпутатаў парламента адпаведна 2,2%, ва УВК доля прадстаўнікоў апазіцыйных партый была яшчэ меншая: 0,01% на выбарах 2012 г. і 0,07% на выбарах 2008 г.;

— нязначная колькасць прадстаўнікоў палітычных партый у складзе камісій адлюстроўвае спецыфіку беларускай палітычнай мадэлі, пры якой асноўнымі палітычнымі суб'ектамі пры правядзенні выбарчых кампаній выступаюць прадстаўнікі праўрадавых грамадскіх аб'яднанняў і працоўных калектываў.

## Вылучэнне і рэгістрацыя кандыдатаў

— этап вылучэння і рэгістрацыі кандыдатаў прайшоў без істотных адрозненняў ад мінулых парламенцкіх выбарчых кампаній, збор подпісаў адбываўся ў спакойнай абстаноўцы і без значных перашкодаў для ініцыятыўных груп з боку ўлады;

— адзначаліся асобныя факты выкарыстання адміністрацыйнага рэсурсу на карысць праўладных кандыдатаў, ціску на сябраў ініцыятыўных груп па вылучэнні апазіцыйных кандыдатаў;

— у шэрагу АВК (27%) праверка подпісаў па вылучэнні кандыдатаў была дастаткова празрыстай, назіральнікі мелі магчымасць адсочваць гэты працэс, у тым ліку працэдуру выпадковай выбаркі подпісаў для праверкі, што расцэньваецца як станоўчая практыка; негатыўным фактарам выбарчай кампаніі з'яўляецца тое, што ў большасці АВК (73%), як і раней, назіральнікам кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары» адмоўлена ў праве назіраць за працэдурай праверкі подпісаў;

— выбарчая кампанія 2016 г. адзначана большай колькасцю вылучэнняў у кандыдаты ў дэпутаты ў параўнанні з мінулымі кампаніямі (365 — у 2008 г., 464 — у 2012 г., 630 — у 2016 г.) і меншай колькасцю адмоў у рэгістрацыі кандыдатаў (23% — у 2008 г., 24,7% — у 2012 г., 14,8% — у 2016 г.).

## Перадвыбарчая агітацыя

— перадвыбарчая агітацыя не стала значнай сацыяльна-палітычнай з'явай для беларускага грамадства і прайшла малазаўважна для выбаршчыкаў;

— рашэнні мясцовых органаў улады адносна месцаў, у якіх дазволены масавыя агітацыйныя мерапрыемствы і размяшчэнне агітацыйных матэрыялаў, у большасці рэгіёнаў былі лепшымі ў параўнанні з адпаведнымі рашэннямі падчас выбараў 2012 і 2015 гг.; у некаторых рэгіёнах захоўвалася негатыўная практыка мінулых кампаній;

— не былі забяспечаны роўныя правы кандыдатаў; лепшыя ўмовы для агітацыі былі створаны для кандыдатаў ад улады: на іх карысць актыўна выкарыстоўваўся адміністрацыйны рэсурс, былі задзейнічаныя электронныя і друкаваныя СМІ; адзначаны факты сустрэч праўладных кандыдатаў з выбаршчыкамі ў працоўны час, маніпуляцыі з інфармацыяй аб графіку сустрэч на сайтах мясцовых адміністрацый і інш.;

— адзначаны выпадкі цэнзуры выступаў і праграм кандыдатаў, перашкодаў у публікацыі агітацыйных матэрыялаў (патрабаванні ўзгадніць, скарэктаваць змест і інш.), хаця дзеючае вы-

барчае заканадаўства не прадугледжвае патрабавання ўзгаднення тэкстаў выбарчых друкаваных матэрыялаў друкарнямі і не накладае такіх абавязкаў на саміх кандыдатаў; адзначаны факты дыскрэдытацыі апазіцыйных і незалежных кандыдатаў.

## Датэрміновае галасаванне

— у датэрміновым галасаванні ўзялі ўдзел 31,29 % выбаршчыкаў — гэта болей, чым на папярэдніх парламенцкіх выбарах 2012 г. (25,9%); фактычна датэрміновае галасаванне ператварылася ў норму, што не адпавядае патрабаванням ВК;

— падчас назірання за датэрміновым галасаваннем зафіксаваны шматлікія факты прымусу грамадзян да ўдзелу ў ім з боку адміністрацыі прадпрыемстваў і ВНУ (да 18% выбарчых участкаў з тых, дзе вялося назіранне); гэта паўтарыла негатыўную практыку папярэдніх выбарчых кампаній;

— дадзеныя камісій і дадзеныя назіральнікаў па галасаванні выбаршчыкаў адрозніваліся ў бок павелічэння, гэта фіксавалася ва ўсе дні датэрміновага галасавання; агульная розніца паміж дадзенымі па колькасці выбаршчыкаў, якія ўзялі ўдзел у датэрміновым галасаванні, скалала 14% з УВК, на якіх вялося назіранне; на парламенцкіх выбарах 2012 г. такая розніца складала 10,4%;

— практыка правядзення датэрміновага галасавання заставалася адной з сістэмных праблем выбарчага працэсу і стварала шырокія магчымасці для выкарыстання адміністрацыйнага рэсурсу і іншых маніпуляцый; у сувязі з гэтым рэкамендацыі БДІПЧ АБСЕ ў частцы зменаў працэдур датэрміновага галасавання застаюцца актуальнымі.

## Галасаванне па месцы знаходжання выбаршчыкаў

Існуючыя працэдуры галасавання па месцы знаходжання выбаршчыкаў давалі магчымасці для маніпуляцый. Назіральнікі не маглі праверыць, ці сапраўды паступалі заяўкі выбаршчыкаў аб арганізацыі галасавання па месцы знаходжання, што на практыцы дазваляла арганізаваць такое галасаванне і без заявак (86,4%).

На некаторых участках зафіксавана анамальна высокая колькасць прагаласаваўшых па месцы знаходжання.

## Галасаванне на выбарчых участках і падлік галасоў

У ВК адсутнічае апісанне працэдуры падліку выбарчых бюлетэняў. Рэкамендацыі БДІПЧ АБСЕ і прапановы кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары» аб урэгуляванні гэтай працэдуры праз пастанову ЦВК пры падрыхтоўцы выбараў не былі ўлічаны.

Як і падчас папярэдніх выбарчых кампаній, УВК ажыццяўлялі сумесны і адначасовы падлік бюлетэняў, не агалошваючы і не дэманструючы ўсім прысутным кожны выбарчы бюлетэнь. Такая працэдура падліку бюлетэняў не з'яўляецца празрыстай і не дазваляе суаднесці вынікі назірання за падлікам галасоў з дадзенымі, адлюстраванымі ў пратаколе аб выніках галасавання. 95,31% назіральнікаў кампаніі адзначылі, што працэдура падліку галасоў насіла непразрысты характар. Падчас назірання за парламенцкімі выбарамі 2012 г. гэтая лічба склала 92,3%.

Падчас назірання за працэдурай падліку галасоў назіральнікамі кампаніі адзначаліся і іншыя парушэнні: у 32% назіраных УВК не агалошваліся вынікі асобнага падліку галасоў, у 42% назіраных УВК падлік бюлетэняў не ажыццяўляўся асобна за кожнага кандыдата, у 61% УВК назіральнікі знаходзіліся ў нязручным для ажыццяўлення назірання за падлікам галасоў месцы.

## Скаргі і звароты

Колькасць зваротаў па пытаннях падрыхтоўкі і правядзення выбараў дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў шостага склікання, паводле афіцыйных звестак ЦВК, павялічылася ў параўнанні з мінулымі выбарамі на 82% (з 938 зваротаў падчас выбараў 2012 г. да 1716 падчас кампаніі 2016 года).

Нягледзячы на адпаведныя патрабаванні пастановы ЦВК ад 8 чэрвеня 2016 г. № 22 «Аб інфармаванні грамадзян аб працы па падрыхтоўцы і правядзенні выбараў у Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь шостага склікання», згодна з якімі выканаўчыя камітэты абавязаны публікаваць рашэнні выбарчых камісій на сваіх сайтах, на практыцы большасць такіх рашэнняў не былі апублікаваны.

Як і падчас папярэдніх выбарчых кампаній, у кампаніі 2016 года адзначаны факты адвольнага прымянення норм ВК аб тэрмінах для падачы скарг, што не дазваляла кандыдатам у дэпутаты рэалізаваць сваё права на абскарджанне незаконных рашэнняў.

Ніводная скарга ў суд на рашэнні аб фарміраванні выбарчых камісій не была задаволеная.

# ВЫБАРЧАЯ КАМПАНІЯ: ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ КАНТЭКСТ, СІТУАЦЫЯ З ПРАВАМІ ЧАЛАВЕКА

Выбары адбываліся ў складанай геапалітычнай абстаноўцы, якая існуе сёння ў Еўропе і свеце. На сітуацыю ў Беларусі найбольшы ўплыў аказваў расійска-ўкраінскі канфлікт, а таксама працяглы эканамічны крызіс, падзенне даходаў насельніцтва і рост беспрацоўя ў краіне.

На працягу апошняга года перад парламенцкай кампаніяй адзначалася паляпшэнне адносін паміж Беларуссю, ЕС і ЗША. У жніўні 2015 года былі вызваленыя ўсе 6 беларускіх палітвязняў, якія на той момант знаходзіліся ў зняволенні. Найперш з гэтым было звязана рашэнне ЕС аб замарозцы, а пазней і скасаванні санкцый у дачыненні да Беларусі. Парламенцкая кампанія шмат у чым вызначала лёс дыялогу Беларусі з Захадам, у ЕС не раз заяўлялі, што парламенцкія выбары-2016 стануць экзаменам для Мінска. Такую заяву, у прыватнасці, зрабіў 11 ліпеня 2016 года камісар ЕС па пытаннях еўрапейскай палітыкі суседства Ёханэс Хан пасля заканчэння сёмага нефармальнага дыялогу краін «Усходняга партнёрства» ў Кіеве. «Відавочна, у такі час мы павінны пацвердзіць моцную падтрымку Еўрапейскага Саюза для суседзяў з усходу. Я думаю, што ў Беларусі адбыліся некаторыя станоўчыя змены. Вядома, мы яшчэ не дасягнулі таго ўзроўню, якога б хацелася, але мы разумеем, якія сёння існуюць складанасці і выклікі. Для нас, вядома, вельмі важна, як пройдуць выбары. Гэта таксама магчымасць паглядзець, як яны будуць праведзены, як яны рыхтуюцца. Але ў асноўным на сённяшні момант я цалкам упэўнены, што мы можам працягваць такі асцярожны ход развіцця адносінаў».

У гэтай сітуацыі беларускія ўлады былі зацікаўленыя ў правядзенні выбарчай кампаніі ў «ціхім рэжыме» як стандартную працэдуру па прызначэнні прадстаўнікоў у заканадаўчы орган, персанальны склад якога перадвызначаны загадзя. Улады зрабілі ўсё магчымае, каб выбарчая кампанія заставалася малапрыкметнай, незаўважнай і малацікавай для беларускага грамадства. Дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі выбарчую кампанію асвятлялі мінімальна, у асноўным абмяжоўваючыся адлюстраваннем дзейнасці выбарчых камісій і дзяржаўных органаў па падрыхтоўцы выбараў, змяшчалі афіцыйныя матэрыялы ЦВК, заклікі да ўдзелу ў выбарах. З матэрыялаў дзяржаўных медыяў выбарчы працэс выглядаў не як барацьба палітычных сіл і ідэй, а як строга рэгламентаваны тэхнічны працэс у межах кадравай палітыкі дзяржавы. Несумненна, падобнае асвятленне выбарчай каманіі ў СМІ максімальна звузіла магчымасці для выбаршчыкаў зрабіць свядомы выбар падчас галасавання. У той жа час дзяржаўныя СМІ актыўна асвятлялі падрыхтоўку і правядзенне V Усебеларускага народнага сходу (22—23 чэрвеня, Мінск), рэпрэзентуючы яго як найвышэйшую форму народаўладдзя. Арганізацыя Сходу ажыццяўлялася органамі выканаўчай улады па такіх працэдурах, якія выключылі магчымасць удзелу ў ім прадстаўнікоў апазіцыі.

Не значна паўплываў на заўважнасць выбарчай кампаніі даволі шматлікі ўдзел кандыдатаў ад апазіцыйных партый і рухаў. Нягледзячы на актыўна абмяркоўваемую напярэдадні выбараў ідэю байкоту, падаўляючая большасць апазіцыі аддала перавагу стратэгіі ўдзелу, адзначаючы разуменне маніпулятыўнасці і кіруемасці працэсу выбараў. Свой удзел у кампаніі прадстаўнікі апазіцыі тлумачылі найперш тым, што намераны паказаць сапраўдную сутнасць працэсу і не дапусціць прызнання выбараў назіральнікамі АБСЕ. У цэлым дзеянні апазіцыі былі накіраваны на выкарыстанне парламенцкай кампаніі дзеля кантактаў з шырокім колам выбаршчыкаў, пашырэнне партыйных праграм у грамадстве і павелічэнне колькасці сваіх прыхільнікаў. Многія партыйныя лідары ў сітуацыі адсутнасці надзеяў на перамогу не сталі вылучаць свае кандыдатуры. Частка партый удзельнічалі самастойна, не ўваходзячы ў кааліцыі (Партыя БНФ, Беларуская партыя левых «Справядлівы свет», Кампанія «Гавары праўду» і інш.), Рух «За Свабоду», Аб'яднаная грамадзянская партыя і аргкамітэт па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» аб'ядналіся ў Правацэнтрысцкую кааліцыю. Агульнай стратэгіі на выбарах апазіцыйныя сілы не мелі.

У параўнанні з папярэдняй парламенцкай выбарчай кампаніяй 2012 года выбары адбываліся на лепшым, але зусім не спрыяльным унутрыпалітычным фоне.

Беларускія ўлады не змаглі цалкам адмовіцца ад палітычна-матываванага пераследу, і на пачатак выбарчай кампаніі ў чэрвені 2016 года за кратамі знаходзіўся палітвязень Міхаіл Жамчужны, пад вартай утрымліваўся актывіст Дзмітрый Паліенка за ўдзел у мірнай акцыі, блогер Эдуард Пальчыс, які пазней быў прызнаны беларускімі праваабарончымі арганізацымі палітычным зняволеным. У ліпені на прымусовае псіхіятрычнае лячэнне суд накіраваў 80-гадовага Аляксандра Лапіцкага, прызнаўшы яго вінаватым у дыфамацыйных правапарушэннях (абразе прэзідэнта, прадстаўніка ўлады, суддзяў), узяты пад варту ўдзельнік акцыі пратэсту пасля прэзідэнцкіх выбараў 2010 года Уладзімір Кондрусь, якога праваабаронцы адразу прызналі палітвязнем.

Нягледзячы на тое, што на працягу апошняга года перад выбарамі назіралася агульнае змяншэнне ўзроўню рэпрэсій у краіне, улады Беларусі працягвалі выкарыстоўваць негатыўныя практыкі ў дачыненні да сваіх палітычных апанентаў. У верасні былі зафіксаваны выпадкі прымянення адвольных затрыманняў палітычных актывістаў — дадзены від пераследу не ўжываўся ўладамі Беларусі са жніўня 2015 года. Масавыя адміністрацыйныя арышты ў дачыненні да ўдзельнікаў мірных сходаў, якія практыкаваліся ў мінулыя гады, перад і падчас выбарчай кампаніі не ўжываліся, аднак шырока распаўсюджанай стала практыка прыцягнення іх да адміністрацыйнай адказнасці ў форме штрафаў. Так, з пачатку 2016 года да старту выбарчай кампаніі былі зафіксаваны 284 выпадкі затрыманняў і прыцягнення да адміністрацыйнай адказнасці грамадскіх і палітычных актывістаў, 235 разоў удзельнікі мірных акцый былі аштрафаваны на агульную суму 7 479 базавых велічынь (каля 80 тысяч долараў). За тры месяцы выбарчай кампаніі зафіксаваны 77 выпадкаў затрыманняў і адміністрацыйных пакаранняў удзельнікаў акцый, не звязаных з выбарчым працэсам, адбыліся 55 адміністрацыйных працэсаў, вынікам якіх сталі штрафы на агульную суму 1 712 базавых велічынь (больш за 18 тысяч долараў). За ўдзел у акцыі пратэсту супраць несправядлівых выбараў, якая адбылася на наступны дзень пасля выбараў, былі аштрафаваны 20 актывістаў і палітыкаў на агульную суму 827 базавых велічынь (каля 9 тысяч долараў)[1]. Такім чынам, відавочна, што ўлады выкарыстоўвалі тактыку ўдушэння грамадска-палітычнай актыўнасці праз эканамічныя санкцыі.

Выбарчая кампанія праходзіла ва ўмовах татальнага парушэння права на свабоду сходаў і свабоду выказвання меркаванняў. Заканадаўства і практыка яго прымянення дазвалялі адмаўляць актывістам без дастатковых прычын у правядзенні масавых мерапрыемстваў. Правядзенне несанкцыянаваных мерапрыемстваў цягнула адміністрацыйны пераслед іх удзельнікаў.

Працягвалася практыка прыцягнення да адміністрацыйнай адказнасці журналістаў, якія супрацоўнічаюць з замежнымі СМІ без акрэдытацыі па абвінавачанні ў «незаконным вырабе і распаўсюдзе прадукцыі СМІ». Прычым атрыманне акрэдытацыі па-ранейшаму блакавалася МЗС Беларусі. У выніку ціску з боку спецслужбаў Беларусі і звязанай з ім інфармацыйнай прапагандысцкай кампаніі ў шэрагу дзяржаўных СМІ спыніў сваю дзейнасць на тэрыторыі Беларусі незалежны інстытут сацыялагічных даследаванняў — НІСЭПД. Праваабарончая супольнасць краіны звязвала дадзеную кампанію з парламенцкімі выбарамі, а таксама са спробамі абмежавання права на атрыманне і распаўсюд інфармацыі — вынікаў незалежных сацыялагічных даследаванняў па розных аспектах унутрыпалітычнага і грамадскага жыцця краіны.

Не адбылося станоўчых зменаў у сферы свабоды асацыяцый. Незалежным арганіацыям па-ранейшаму Міністэрства юстыцыі адмаўляла ў рэгістрацыі, ставячы пад пагрозу ўжывання арт. 193.1 Крымінальнага кодэкса, які прадугледжвае адказнасць за дзейнасць ад імя незарэгістраванай арганізацыі. Такая практыка ўжывалася і ў адносінах да палітычных партый і аб'яднанняў палітычнай скіраванасці, у тым ліку — актыўных удзельнікаў выбарчай кампаніі (Партыя «Беларускія Хрысціянскія Дэмакраты», Грамадзянская кампанія «Гавары праўду»). Адсутнасць афіцыйнай рэгістрацыі не дазваляла незарэгістраваным палітычным партыям паўнавартасна ўдзельнічаць у выбарчым працэсе — вылучаць кандыдатаў у дэпутаты праз партыйнае вылучэнне, прапаноўваць сваіх прадстаўнікоў у выбарчыя камісіі. Абмежаванні ў вылучэнні сваіх прадстаўнікоў ва ўчастковыя камісіі адчувалі палітычныя партыі і грамадскія аб'яднанні, якім адмоўлена ў рэгістрацыі рэгіянальных структур у мясцовых органах улады. Сітуацыя з адмовамі ў рэгістрацыі новых палітычных суб'ектаў мае зацяжны характар і працягваецца з 2000 года.

Такім чынам, праваабаронцы адзначаюць, што падчас выбарчай кампаніі захоўваўся сістэмны і сістэматычны характар парушэнняў правоў чалавека. Магчымасці рэалізацыі грамадзянскіх і палітычных правоў, гарантаваных Канстытуцыяй Беларусі і міжнароднымі нормамі, па-ранейшаму насілі скрайне лімітаваны характар.

[1] https://spring96.org/persecution

Ацэньваючы выбарчы працэс у Беларусі, спецыяльны дакладчык ААН па пытанні аб становішчы ў галіне правоў чалавека ў Беларусі Міклаш Харасці падкрэсліў, што знешні спакой, з якім былі праведзены парламенцкія выбары ў Беларусі 11 верасня 2016 года, не мусіць зацямніць фундаментальныя сістэмныя парушэнні. Ён лічыць, што выбары даказалі відавочную адсутнасць палітычнай волі для заахвочвання і абароны правоў чалавека ў Беларусі. «Я высока ацэньваю адсутнасць гвалту і часткова пашыраныя магчымасці для правядзення мерапрыемстваў кандыдатамі. Я таксама вітаю абранне адной сяброўкі апазіцыйнай партыі і адной незалежнай культурнай дзяячкі пасля двух дзесяцігоддзяў поўнай адсутнасці якой-небудзь апазіцыі ў парламенце. Тым не менш, права грамадзян на свабодныя і сумленныя выбары па-ранейшаму жорстка парушаецца ў абцугах рэпрэсіўных законаў і інстытутаў, гэтак жа, як і ў час папярэдніх парламенцкіх або прэзідэнцкіх выбараў». Паводле Міклаша Харасці, «нават абранне кандыдаткі ад апазіцыі выявіла цалкам кіраваны характар выбарчага працэсу. Выклікае шкадаванне, што Беларусь не разглядае магчымасці рэальных зменаў у кірунку роўнага доступу да СМІ, вартай даверу яўкі, сумленнага падліку галасоў і плюралістычнага парламента», — падсумоўвае сваю пазіцыю сп. Харасці ў адмысловай заяве.

# ПРАВАВАЯ БАЗА ВЫБАРЧАЙ СІСТЭМЫ

Прававую базу выбарчай сістэмы краіны складаюць Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь, Выбарчы кодэкс Рэспублікі Беларусь і іншыя заканадаўчыя акты, а таксама Пастановы Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў.

Выбарам у Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь шостага склікання папярэднічала ўнясенне зменаў у ВК. Апошняе з іх, унесенае Законам Рэспублікі Беларусь № 268-З ад 4 чэрвеня 2015 г., канкрэтызуе і пашырае сферу забароны замежнага фінансавання выбарчага працэсу.

Раней Законам Рэспублікі Беларусь ад 25 лістапада 2013 г. № 72-З былі ўнесены змены ў ВК, якія закранулі парадак дзяржаўнага фінансавання агітацыі, увялі акрэдытацыю назіральнікаў, прадугледзелі стварэнне абласных, Мінскай гарадской, тэрытарыяльных выбарчых камісій, якія, у тым ліку, кіруюць дзейнасцю акруговых і участковых выбарчых камісій, разглядаюць скаргі на іх рашэнні, вызначаюць вынікі выбараў дэпутатаў на тэрыторыі вобласці і г. Мінска. Прадугледжана таксама накіраванне палітычнымі партыямі, якія вылучылі сваіх кандыдатаў у парламент, сябраў гэтых камісій з дарадчым голасам.

Пад пагрозай прыцягнення да адміністрацыйнай адказнасці была забаронена агітацыя за байкот выбараў. Замацаваны падставы, на якіх можа быць адмоўлена ў рэгістрацыі кандыдата ў дэпутаты. У адрозненне ад папярэдніх, выбары 2016 г. праходзілі ў адзін тур. Пераможцам лічыўся той кандыдат, які набраў большасць галасоў грамадзян, што ўзялі ўдзел у галасаванні.

Названыя змены, на жаль, не ўлічылі Рэкамендацыі АБСЕ, зробленыя па выніках назірання за парламенцкімі выбарамі 2012 г. Больш за тое, некаторыя новыя нормы ВК па шэрагу пазіцый нават пагоршылі сітуацыю ў параўнанні з раней існаваўшымі нормамі.

4 студзеня 2014 г. Рэспубліка Беларусь далучылася да Канвенцыі аб стандартах дэмакратычных выбараў, выбарчых правоў і свабод дзяржаў-удзельніц СНД, падпісанай 7 кастрычніка 2002 г. у г. Кішынёў. Новыя нормы аб забароне агітацыі за байкот выбараў відавочна супярэчаць згаданай Канвенцыі СНД, якая прадугледзела, што байкот ці заклікі да байкоту выбараў з'яўляюцца формамі вольнага ажыццяўлення грамадзянамі іх выбарчых правоў і свабод, а перашкода ажыццяўленню гэтых правоў павінна пераследвацца па законе.

Як і падчас папярэдніх парламенцкіх і прэзідэнцкіх выбараў, Цэнтральная камісія захавала практыку выбарачнай публікацыі сваіх пастаноў, што не адпавядае прынцыпу галоснасці выбараў (на дзень выбараў было апублікавана 24 з 55 пастаноў ЦВК).

Гэтымі пастановамі ЦВК увяла шэраг новых норм, якія, паводле меркавання сябраў ЦВК, улічваюць прапановы па ўдасканаленні выбарчых працэсаў, распрацаваныя БДІПЧ АБСЕ па выніках прэзідэнцкіх выбараў 2015 г. Для вывучэння рэкамендацый БДІПЧ АБСЕ і разгляду магчымасцяў іх імплементацыі ў выбарчы працэс 12 лютага 2016 г. па распараджэнні А. Лукашэнкі была створана міжведамасная экспертная група. ЦВК улічыла 2 з 30 прапаноў гэтай групы.

Пастановай ад 8 чэрвеня 2016 г. №18 «Аб тлумачэнні прымянення палажэнняў Выбарчага кодэкса Рэспублікі Беларусь, якія прадугледжваюць парадак утварэння выбарчых камісій пры правядзенні выбараў дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь шостага склікання» ЦВК устанавіла, што на пасяджэннях мясцовых выканкамаў па стварэнні выбарчых камісій усіх узроўняў павінны праводзіцца абмеркаванні дзелавых і палітычных якасцяў кандыдатаў, вылучаных у склад выбарчых камісій. Пры гэтым у выпадку конкурсу павінна праводзіцца персанальнае абмеркаванне і галасаванне па прапанаваных кандыдатурах. Акрамя таго замацавана, што на пасяджэннях выканкамаў маюць права прысутнічаць прадстаўнікі палітычных партый і грамадскіх аб'яднанняў, чые назіральнікі акрэдытаваны ў ЦВК.

Зацверджанымі палажэннямі канкрэтызаваныя правы нацыянальных і міжнародных назіральнікаў. У перыяд датэрміновага галасавання і ў дзень выбараў назіральнікі маюць права атрымліваць ад УВК інфармацыю пра колькасць грамадзян у спісах выбарцаў і пра тое, колькі грамадзян прагаласавалі. Акрамя таго, назіральнікі, акрэдытаваныя ў адпаведнай АВК, атрымалі права прысутнічаць пры перадачы пратаколаў з УВК. На сайтах мясцовых выканкамаў павінны быць судовыя рашэнні па выбарчых спрэчках, што, на думку старшыні ЦВК, адпавядае рэкамендацыям БДІПЧ АБСЕ і павялічвае празрыстасць працэсу.

Важным крокам да падвышэння празрыстасці інфармацыі аб выбарчым працэсе стала Пастанова ЦВК ад 8 чэрвеня 2016 г. №22 «Аб інфармаванні грамадзян аб працы па падрыхтоўцы

і правядзенні выбараў у Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь шостага склікання». Згодна з дадзенай пастановай, у перыяд падрыхтоўкі і правядзення парламенцкіх выбараў інфармацыя аб ходзе выбарчай кампаніі публікуецца ў газетах, заснавальнікамі якіх з'яўляюцца абласныя, Мінскі гарадскі, раённыя, гарадскія ў гарадах абласнога падпарадкавання выканаўчыя камітэты і размяшчаецца на афіцыйных сайтах названых выканаўчых камітэтаў, а таксама адміністрацыяў раёнаў у гарадах у спецыяльна створанай рубрыцы «Выбары 2016». Пастанова падрабязна рэгулюе змест дадзенай рубрыкі і тэрміны размяшчэння той ці іншый інфармацыі выканаўчымі органамі. Выканаўчыя органы абавязаны паведамляць пра ўсе пасяджэнні выбарчых камісій і прынятыя на іх рашэнні. Моцным бокам дадзенай Пастановы з'яўляецца абавязковасць інфармацыі, якую выканаўчыя органы павінны прадастаўляць грамадзянам у вызначаныя тэрміны. З іншага боку, выканаўчыя органы не абавязаны выкладваць самі дакументы, якімі зацвярждана тое ці іншае рашэнне, а могуць публікаваць толькі вытрымкі ці наогул толькі агалошваць рашэнне.

Варта адзначыць, што самы адчувальны момант выбарчай кампаніі, які заўжды выклікаў асаблівую крытыку назіральнікаў, а менавіта парадак падліку галасоў, як і раней, застаўся не патлумачаным ні ў метадычных дапаможніках, ні ў пастановах ЦВК. Нязменнасць парадку падліку галасоў з кампаніі ў кампанію паказвае незацікаўленасць ЦВК у арганізацыі празрыстага падліку галасоў.

Згодна з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь (арт. 84, 91) і Выбарчым кодэксам (арт. 56) «выбары ў Палату прадстаўнікоў новага склікання прызначаюцца Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь не пазней чым за чатыры месяцы і праводзяцца не пазней чым за 30 дзён да заканчэння паўнамоцтваў Палаты прадстаўнікоў дзеючага склікання».

Дата выбараў — 11 верасня — была прызначана Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь №190, падпісаным 6 чэрвеня 2016 года. Выбары праводзіліся ў 110 акругах шляхам галасавання паводле мажарытарнай сістэмы. На выбарах былі задзейнічаны 110 акруговых і 6 149 участковых выбарчых камісій (у тым ліку 49 за межамі краіны).

# ВЫБАРЧЫЯ КАМІСІІ

## 1. Прававая база

Працэс фарміравання выбарчых камісій пры правядзенні выбараў дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь шостага скліканя рэгуляваўся Выбарчым кодэксам Рэспублікі Беларусь са зменамі, унесенымі Законам Рэспублікі Беларусь ад 4 чэрвеня 2015 года № 268-З, і Пастановай ЦВК ад 8 чэрвеня 2016 г. №18 «Аб тлумачэнні прымянення палажэнняў Выбарчага кодэкса Рэспублікі Беларусь, якія прадугледжваюць парадак утварэння выбарчых камісій пры правядзенні выбараў дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь шостага склікання».

Згодна з арт. 28 ВК, падрыхтоўку і правядзенне выбараў дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў забяспечваюць абласныя, Мінская гарадская тэрытарыяльныя выбарчыя камісіі, акруговыя і ўчастковыя выбарчыя камісіі.

## 2. Фарміраванне тэрытарыяльных і акруговых выбарчых камісій

Змены ў ВК 2013 г. увялі дадатковы ўзровень выбарчых камісій пры правядзенні парламенцкіх выбараў — гэта тэрытарыяльныя выбарчыя камісіі (ТВК — абласныя і Мінская гарадская тэрытарыяльныя выбарчыя камісіі. Такім чынам, упершыню на парламенцкіх выбарах дзейнічалі абласныя і Мінская гарадская тэрытарыяльныя выбарчыя камісіі. Паўнамоцтвы камісій замацаваны ў арт. 391 ВК. Названыя камісіі кіруюць дзейнасцю акруговых і ўчастковых выбарчых камісій. Важным паўнамоцтвам тэрытарыяльных камісій з'яўляецца тое, што яны разглядаюць заявы і скаргі на рашэнні і дзеянні акруговых і ўчастковых выбарчых камісій. Гэта зняло з ЦВК нагрузку па разгляду такіх заяваў і скаргаў, што дало магчымасць ЦВК выдаткоўваць больш часу на выкананне іншых паўнамоцтваў.

ТВК і АВК з'яўляюцца важным механізмам выбарчага працэсу, які істотна ўплывае на правядзенне свабодных і дэмакратычных выбараў.

Згодна з арт. 34 ВК, абласныя, Мінская гарадская тэрытарыяльныя і акруговыя камісіі па выбарах дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў фарміруюцца прэзідыумамі абласных, Мінскага гарадскога Саветаў дэпутатаў і абласнымі, Мінскім гарадскім выканаўчым камітэтамі з прадстаўнікоў палітычных партый, іншых грамадскіх аб'яднанняў, працоўных калектываў, а таксама прадстаўнікоў грамадзян, вылучаных у склад камісіі шляхам падачы заявы, у складзе 9-13 сябраў не пазней за 75 дзён да выбараў.

Палітычная партыя, іншае рэспубліканскае грамадскае аб'яднанне, працоўны калектыў арганізацыі, калектыў структурнага падраздзялення, група выбаршчыкаў мае права вылучыць у абласную, Мінскую гарадскую, акруговую, участковую выбарчую камісію толькі па адным прадстаўніку.

Як правіла, не менш адной трэціны складу камісіі складаюць прадстаўнікі палітычных партый і іншых грамадскіх аб'яднанняў. У склад камісіі не могуць уваходзіць суддзі, пракуроры, кіраўнікі мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў. Дзяржаўныя служачыя не могуць складаць больш за адну трэціну складу камісіі. На пасяджэнні органаў, якія ўтвараюць камісіі, маюць права прысутнічаць прадстаўнікі палітычных партый, іншых грамадскіх аб'яднанняў, працоўных калектываў, грамадзян, што вылучылі сваіх прадстаўнікоў.

Рашэнне аб утварэнні камісій у сямідзённы тэрмін з дня яго прыняцця публікуецца ў друку. Рашэнне органа, які ўтварыў камісію, можа быць абскарджана ў трохдзённы тэрмін з дня яго прыняцця адпаведна ў абласны, Мінскі гарадскі, раённы, гарадскі суд суб'ектамі, якія вылучылі сваіх прадстаўнікоў у склад камісіі. Суд разглядае скаргу ў трохдзённы тэрмін, яго рашэнне з'яўляецца канчатковым.

Фарміраванне ТВК і АВК адбывалася на фоне шырока анансаваных ЦВК новых падыходаў, якія павінны прымяняцца адказнымі органамі: магчымасць прысутнасці назіральнікаў (у тым ліку міжнародных) на пасяджэннях органаў падчас фарміравання выбарчых камісій, абмеркаванне дзелавых і палітычных якасцяў вылучаных у камісіі прэтэндэнтаў. У выпадках, калі колькасць вылучаных у камісіі перавышае прадугледжаную колькасць сябраў камісій, павінна заслу-

хоўвацца інфармацыя па кожнай кандыдатуры і праводзіцца персанальнае галасаванне. Гэтыя падыходы былі замацаваныя ў Пастанове ЦВК № 18 ад 8 чэрвеня 2016 г. Таксама Пастанова замацавала магчымасць назіральнікаў прысутнічаць на пасяджэннях органаў, адказных за фарміраванне камісій.

Аналітыкі кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары» звярнуліся ў ЦВК з просьбай растлумачыць уведзены Пастановай №18 тэрмін «палітычныя якасці», які з'яўляецца важным крытэрам адбору асоб у выбарчыя камісіі. У адказе за подпісам старшыні ЦВК Лідзіі Ярмошынай адзначалася, што «выбарчае заканадаўства не ўтрымлівае легальнага тлумачэння такіх паняццяў як дзелавыя і палітычныя якасці асобы, вылучанай у склад выбарчай камісіі», а далей, па сутнасці, прызнавалася замена паняцця «палітычныя якасці» паняццем «палітычныя погляды»: «Да палітычных якасцяў адносяць палітычныя погляды, узровень прадстаўніцтва грамадскіх аб'яднанняў і партый у рэгіёне, іх пазнавальнасць і аўтарытэт сярод насельніцтва».

Эксперт кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары» Павел Сапелка адрасаваў старшыні ЦВК зварот з патрабаваннем выключыць з Пастановы тэрмін «палітычныя якасці» да фармавання ўчастковых выбарчых камісій, паколькі «як паказала практыка фармавання ТВК і АВК, менавіта ацэнка палітычных поглядаў асоб, вылучаных у склад гэтых камісій, і стала першапрычынай палітычна матываванага, селектыўнага падыходу пры іх фармаванні і вывучэнні пытанняў аб уключэнні ці неўключэнні тых ці іншых асоб у склад выбарчых камісій. Асобы, якія прытрымліваюцца палітычных поглядаў, што не супадаюць з афіцыйнай палітыкай дзеючай улады, і належаць да апазіцыйных палітычных суб'ектаў, у значна большай ступені не ўключаліся ў склад выбарчых камісій, чым прадстаўнікі палітычных партый і арганізацый, лаяльных да ўладаў». Такія паняцці, як пазнавальнасць і аўтарытэт сярод насельніцтва той ці іншай палітычнай партыі ці аб'яднання патрабуюць вывучэння гэтага пытання з дапамогай сацыялагічных апытанняў, правесці якія ў кароткія тэрміны, вызначаныя для фармавання выбарчых камісій, немагчыма, а ў адваротным выпадку меркаванні прадстаўнікоў мясцовых органаў улады, якія фармуюць камісіі, могуць не супадаць з рэальным меркаваннем грамадзянаў, падкрэсліў эксперт.

У адказе на дадзены зварот кіраўніца ЦВК паведаміла: «Цэнтральная камісія не бачыць падстаў для карэкціроўкі названай пастановы і выключэння з яе тэрміна «палітычныя якасці», які выклікае, на Вашу думку, розначытанне. Пастанова Цэнтральнай камісіі, якая абавязвае органы, што фармуюць выбарчыя камісіі, ажыццяўляць гэтую працэдуру адкрыта, галосна і засноўваючыся на выніках абмеркавання прэтэндэнтаў у сябры камісій, не абмяжоўвае ўдзельнікаў гэтай дыскусіі ў падыходах да ацэнкі як дзелавых, так і палітычных якасцяў названых асоб».

Такім чынам, ужыванне падобных недакладных фармулёвак, тлумачэння якіх няма ў выбарчым заканадаўстве, пакідала шырокае поле для інтэрпрэтацый, а значыць, і для селектыўных, адвольных адмоў ва ўключэнні асобных прэтэндэнтаў у склад камісій. Варта адзначыць, што праблема адсутнасці заканадаўча замацаваных крытэраў адбору прэтэндэнтаў у камісіі і гарантый уключэння ў склад гэтых камісій прадстаўнікоў усіх палітычных суб'ектаў, што бяруць удзел у выбарчым працэсе, заставалася актуальнай.

## 2.1. Вылучэнне ў склад ТВК і АВК

У адпаведнасці з Каляндарным планам арганізацыйных мерапрыемстваў па падрыхтоўцы і правядзенні выбараў дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў шостага склікання, зацверджаным 08.06.2016 г. Пастановай Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў №14, вылучэнне прадстаўнікоў у склад абласных, Мінскай гарадской, акруговых выбарчых камісій і прадастаўленне ў органы, якія іх фарміруюць, адпаведных дакументаў адбывалася не пазней за 24 чэрвеня 2016 г.

У склад сямі тэрытарыяльных (абласных і г. Мінска) выбарчых камісій (ТВК) былі вылучаны 144 чалавекі *(Дадатак 1)*, 14 з якіх дэлегаваны двума суб'ектамі. Адзін з чатырнаццаці — грамадзянамі шляхам падачы заяў і двума грамадскімі аб'яднаннямі. Асабліва папулярным такі спосаб вылучэння стаў у Гродзенскай вобласці, дзе 12 з 16 прэтэндэнтаў у ТВК вылучаліся ад двух суб'ектаў, адным з якіх было праўладнае аб'яднанне (галіновы прафсаюз, Фонд міру, арганізацыя ветэранаў вайны ў Афганістане, Беларускі саюз жанчын). Такі шлях вылучэння не супярэчыць заканадаўству, але істотна ўплывае на статыстыку.

Усяго палітычнымі партыямі ў склад ТВК было вылучана 37 прадстаўнікоў (26% ад вылучаных), з іх ад апазіцыйных партый — 16 чалавек (43% ад прадстаўнікоў партый).

Грамадскімі аб'яднаннямі былі вылучаны 62 чалавекі (43% са 144). Як і падчас папярэдніх выбараў, актыўна прасоўвалі сваіх прадстаўнікоў праўладныя грамадскія аб'яднанні: Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі — 16 чалавек (11,1%), Беларускае грамадскае аб'яднанне ветэранаў — 5 чалавек (3,5%), БРСМ — 7 чалавек (4,9%), РГА «Белая Русь» — 7 чалавек (4,9%), Беларускі саюз жанчын — 7 (4,9%). Гэтыя пяць грамадскіх аб'яднанняў далі 31% ад агульнай колькасці вылучаных у склад ТВК і 68% ад прапанаваных грамадскімі і іншымі аб'яднаннямі адпаведна.

Сваіх прадстаўнікоў накіравалі ў ТВК таксама Рух «За свабоду» (4 чалавек) і ГА БНФ «Адраджэнне» — 1 чалавек.

Сярэдні конкурс на адно месца (пры колькасці сябраў у 13 чалавек) у тэрытарыяльныя камісіі склаў 1,6 чалавекі на месца. У Гродне на адно месца прэтэндавалі ў сярэднім 1,2 чалавекі, некаторыя камісіі былі сфарміраваныя фактычна без конкурсу. У Магілёўскай вобласці на ўдзел у камісіі прэтэндавалі 26 чалавек (2 на месца).

## Колькасць вылучаных у склад тэрытарыяльных камісій рознымі суб'ектамі




У склад акруговых выбарчых камісій было вылучана 2014 чалавек *(Дадатак 2).* Сярод іх ад палітычных партый — 353 прэтэндэнты (18% ад вылучаных), з іх ад апазіцыйных партый — 134 чалавекі (38% ад усіх партыйцаў).

Ад грамадзян шляхам падачы заяваў было вылучана 639 чалавек (35%), ад працоўных калектываў — 145 чалавек (6,6%), ад грамадскіх арганізацый і аб'яднанняў — 925 чалавек (46% ад колькасці вылучаных).

Актыўнымі ўдзельнікамі арганізацыі выбарчага працэсу з'явіліся прадстаўленая сваімі галіновымі прафсаюзамі Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі, што вылучыла ў склад АВК 249 чалавек (12,3%). Таксама Беларускае грамадскае аб'яднанне ветэранаў — 94 чалавекі (4,7%), БРСМ і РГА «Белая Русь» — па 110 чалавек (па 5,5%), Беларускі саюз жанчын — 100 (5%). Гэтыя пяць грамадскіх аб'яднанняў вылучылі 663 чалавекі — 33% ад агульнай колькасці вылучаных у склад ТВК і 72% ад вылучаных грамадскімі і іншымі аб'яднаннямі адпаведна.

Сваіх прадстаўнікоў накіравалі ў АВК таксама Рух «За свабоду» (44 чалавек) і ГА БНФ «Адраджэнне» — 13 чалавек.

У Гродзенскай вобласці ў акруговыя і ў тэрытарыяльныя камісіі большасць прэтэндэнтаў вылучаліся ад двух суб'ектаў: 158 са 195 — праўладнымі грамадскімі аб'яднаннямі і групамі грамадзян. Для іншых абласцей гэта не характэрна: у трох абласцях такі альтэрнатыўны спосаб вылучэння не выкарыстоўваўся, у Мінску двума суб'ектамі вылучана 12 чалавек, у Віцебскай вобласці 4.

Апазіцыйныя партыі ўзялі даволі актыўны ўдзел у працэсе вылучэння сваіх прадстаўнікоў у камісіі: Беларуская партыя левых «Справядлівы свет» — 72 чалавекі, Партыя БНФ — 28 чалавек, БСДП (Г) — 17 чалавек. Такім чынам, усяго апазіцыйныя палітычныя партыі вылучылі ў камісіі 150 чалавек.

Для параўнання: у гэтай выбарчай кампаніі апазіцыйныя партыі вылучылі 134 прадстаўнікі ў АВК — 43% ад усіх вылучаных прадстаўнікоў партый; падчас выбараў дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў 2008 года апазіцыйныя партыі вылучалі 118 чалавек, што складала 31,9% ад усіх прэтэндэнтаў ад палітычных партый. У 2012 годзе апазіцыйныя партыі вылучылі 199 чалавек — 49,75% ад прэтэндэнтаў ад палітычных партый. Такім чынам, нягледзячы на адсутнасць спрыяльных умоў для дзейнасці, падчас сёлетніх выбараў апазіцыйныя палітычныя партыі працягвалі захоўваць актыўнасць.

Сярэдні конкурс на адно месца (пры колькасці сябраў у 13 чалавек) у акруговыя камісіі склаў 1,4 чалавекі на месца. У Гродзенскай вобласці — 1,15, а ў Магілёўскай вобласці — 1,6 чалавекі на месца.

Усяго было сфарміравана 110 акруговых камісій: у Мінску — 20, у Мінскай і Гомельскай абласцях — па 17, у Брэсцкай вобласці — 16, у Віцебскай вобласці — 14, у Гродзенскай вобласці — 13 камісій.

## Колькасць вылучаных у склад акруговых камісій рознымі суб’ектамі




Практычна ў кожнага суб'екта была магчымасць падаць дакументы ў адпаведны орган. Былі выключэнні: Рух «За свабоду» 19 чэрвеня вылучыў сваіх прадстаўнікоў у склад трох выбарчых камісій, што павінны быць створаны на тэрыторыі Брэсцкай вобласці. Так, Сяргей Вакуленка быў вылучаны ў абласны выбарам, Віталь Чмель — у Брэсцкую-Заходнюю акруговую выбарчую камісію №1, а Карней Пятровіч — у Баранавіцкую-Заходюю акруговую выбарчую камісію №5. 22 чэрвеня выпіска з адпаведнага рашэння была накіравана ў аблвыканкам і праз два дні там яе атрымалі, пра што сведчылі дадзеныя «Белпошты». Аднак 27 чэрвеня падчас сумеснага паседжання аблвыканкама і прэзідыума абласнога Савета дэпутатаў, дзе фармаваліся выбарчыя камісіі, дакументы Руху «За Свабоду» не былі зачытаны і разгледжаны. Пазней прадстаўніку Руху было паведамлена, што здарылася гэта таму, што дакументы не былі прадстаўлены ў тэрміны, прадугледжаныя законам (дадзеныя аб уручэнні адпаведнага паштовага паведамлення гэта абвяргаюць). Рух «За свабоду» звярнулася с гэтай нагоды ў суд, аднак суддзя Брэсцкага абласнога суда Ніна Усцімчук скаргу не задаволіла.

У Мінску прэтэндэнтаў у склад камісій ад апазіцыйных партый выклікалі ў арганізацыйна-кадравы аддзел Мінгарвыканкама і аблвыканкама для высвятлення здольнасцяў гэтых прэтэндэнтаў да працы ў выбарчай камісіі. У той жа час прадстаўнікам партый, якія выказалі намер прысутнічаць на сумесных пасяджэннях, загадана падрыхтаваць інфармацыю аб прэтэндэнтах у камісіі.

## 2.2. Пасяджэнні па ўтварэнні ТВК і АВК

Сумесныя пасяджэнні прэзідыумаў абласных, мінскага гарадскога Саветаў дэпутатаў і абласных, Мінскага гарадскога выканаўчых камітэтаў адбыліся ў адпаведнасці з Каляндарным планам не пазней за 27 чэрвеня 2016 г.

У п. 6 Пастановы ЦВК № 18 ад 8.06.2016 г. была ўрэгулявана магчымасць прысутнасці назіральнікаў (у тым ліку і міжнародных) пры правядзенні пасяджэнняў органаў, што фарміруюць камісіі. Варта адзначыць, што адсутнасць такога ўрэгулявання на папярэдніх выбарах у некаторых выпадках стварала перашкоды ў назіранні за працэдурамі фарміравання выбарчых камісій.

Назіральнікамі адзначалася наяўнасць кворуму пры правядзенні пасяджэнняў адпаведных органаў. Усе прадстаўнікі суб'ектаў, што вылучалі прадстаўнікоў у склад ТВК і АВК, мелі магчымасць прысутнічаць на пасяджэннях органаў, якія іх фарміравалі.

Назіральнікі адзначылі, што ў розных абласцях Беларусі былі выкарыстаны розныя практыкі фарміравання камісій.

Згодна з п. 6 Пастановы ЦВК № 18, перад прыняццем рашэння аб складзе камісіі выносіцца на абмеркаванне пытанне аб дзелавых і палітычных якасцях вылучаных асоб. У выпадку, калі колькасць вылучаных у камісій перавышае колькасць прадугледжаных месцаў, заслухоўваецца інфармацыя па кожнай кандыдатуры і праводзіцца персанальнае галасаванне.

У сувязі з тым, што ніякіх дадатковых тлумачэнняў ад ЦВК адносна таго, якімі дзелавымі і палітычнымі якасцямі павінен валодаць вылучаны ў выбарчыя камісіі прэтэндэнт, не было, у кожным канкрэтным выпадку пад гэтым разумелі розныя рэчы: наяўнасць/адсутнасць судзімасцяў, папярэдні досвед працы ў камісіі, наяўнасць/адсутнасць сталай працы, характырыстыкі з месца працы, палітычныя погляды і перакананні прэтэндэнтаў і інш.

Начальнік упраўлення арганізацыйна-кадравай працы Мінгарвыканкама Арцём Цуран адзначыў, што «асаблівасць цяперашняй выбарчай кампаніі складаецца ў тым, што ўпершыню на пасяджэнні пройдзе абмеркаванне кандыдатаў перад галасаваннем і зацвярджэннем складаў камісій, будуць разглядацца палітычныя перакананні, асабістыя і дзелавыя якасці прэтэндэнтаў»[2]. Перад пасяджэннем прэтэндэнтаў у камісіі запрашалі на сумоўе ў арганізацыйна-кадравы аддзел Мінгарвыканкама.

Напачатку пасяджэння начальнік Галоўнага ўпраўлення арганізацыйна-кадравай працы Гродзенскага аблвыканкама Сяргей Пацэвіч назваў крытэры адбору прэтэндэнтаў: досвед працы ў выбарчых камісіях, станоўчыя характарыстыкі па выніках вывучэння асабістых справаў і з месца працы. Што датычыць прадстаўнікоў дэмакратычных партый, то таксама ўлічваліся характарыстыкі, дадзеныя па месцы жыхарства ад участковых. Было падкрэслена, што прадстаўнікі ад БРСМ, «Белай Русі», Беларускага саюза жанчын, Савета ветэранаў, Ветэранаў вайны ў Афганістане, што з'яўляюцца шматлікімі і масавымі грамадскімі аб'яднаннямі, рэпрэзентуюць інтарэсы бальшыні грамадзян. Заяўлялася, што прадстаўнік Партыі БНФ Эдвард Дмухоўскі неаднаразова прыцягваўся да адміністрацыйнай адказнасці (за ўдзел у грамадскіх акцыях — рэд.), беспрацоўны, а прадстаўнік Беларускай партыі левых «Справядлівы свет» прыцягваўся да адміністрацыйнай і крымінальнай адказнасці. Няўключаная ад «Справядлівага свету» прэтэндэнтка (кухар па прафесіі) таксама характарызавалася Сяргеем Пацэвічам у негатыўным тоне. Астатніх няўключаных ён прэзентаваў як асобаў без досведу працы ў выбарчых камісіях і рэкамендаваў не ўключаць іх.

Перад пачаткам сумеснага пасяджэння Гомельскага аблвыканкама і аблсавета выступіў загадчык аргаддзела аблвыканкама Д.А. Ражкоў і падкрэсліў, што Прэзідыум Гомельскага аблсавета і аблвыканкама не абавязаны абгрунтоўваць уключэнне ці неўключэнне ў склад камісій і не звязаны ніякімі крытэрамі і квотамі. Ён жа зачытваў спіс кандыдатаў у камісіі, даваў ім кароткую характырыстыку і праводзіў рэйтынгавае галасаванне. З выступу можна было зрабіць выснову, што крытэр усё ж быў — вопыт працы ў камісіях.

Уключэнне ў Магілёўскую абласную ТВК адбывалася па прадстаўленні рабочай групы, якую ўзначальваў начальнік упраўлення арганізацыйна-кадравай работы аблвыканкама Генадзь Герасіменка. Галасаванне праходзіла спісамі па кожнай камісіі. Магілёўскі праваабаронца Барыс Бухель, што вылучаўся шляхам збору подпісаў, не быў прапанаваны рабочай групай. У адказ на пытанне аб прычыне старшыня пасяджэння, кіраўнік абласной вертыкалі Уладзімір Даманеўскі прапанаваў Барысу Бухелю звярнуцца з гэтым пытаннем да рабочай групы пазней, запэўніўшы праваабаронцу, што яму адкажуць на ўсе яго пытанні. Члены аблвыканкама і прэзідыума абла-

---

2 http://minsknews.by/blog/2016/06/27/v-minske-sformirovanyi-izbiratelnyie-komissii-povyiboram-v-palatu-predstaviteley/

вета дэпутатаў падтрымалі прапанову старшыні. А.Бухель абскардзіў адмову паведаміць прычыны неўключэння яго ў склад камісіі. ЦВК у сваім адказе прызнала, што пры фармаванні камісій у Магілёўскай вобласці не было выканана патрабаванне Пастановы ЦВК: «У Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў праведзена праверка па Вашай скарзе аб парушэнні пункта 6 Пастановы Цэнтральнай камісіі ад 8 чэрвеня 2016 года № 18, які прадугледжвае персанальнае галасаванне па кандыдатурах прэтэндэнтаў у склад выбарчых камісій, пры фарміраванні Магілёўскай абласной і акруговых камісій у Магілёўскай вобласці. Выкладзеныя Вамі факты не ўказваюць на парушэнне выбарчага закона, але сведчаць аб невыкананні растлумачэнняў Цэнтральнай камісіі. У сувязі з гэтым звернута ўвага Магілёўскага аблвыканкама на неабходнасць няўхільнага выканання пастаноў Цэнтральнай камісіі пры падрыхтоўцы і правядзенні выбараў», — адзначалася ў адказе Барысу Бухелю за подпісам Лідзіі Ярмошынай.

У Віцебску падчас сумеснага пасяджэння Віцебскага аблвыканкама і аблсавета прадстаўнікам палітычных партый і грамадскіх аб'яднанняў, якія вылучалі сваіх прадстаўнікоў у склад ТВК і АВК, далі па тры хвіліны на прадстаўленне прэтэндэнтаў. Такім чынам, калі, напрыклад, Рух «За свабоду» вылучаў па вобласці 15 чалавек, на прадстаўленне кожнага з прэтэндэнтаў адводзілася па 10-15 секунд.

У Брэсце пасяджэнне доўжылася больш за тры гадзіны. Зачытваліся прозвішчы прэтэндэнтаў, месцы іх працы, спосаб вылучэння. Галасаванне праходзіла спісам. Галасавалі заўсёды адзінагалосна. Звярталася заўсёды ўвага на вопыт працы ў камісіях. Адборам кандыдатаў у выбарчыя камісіі займаліся «працоўныя групы», у функцыю якіх уваходзіла «вывучэнне дзелавых і палітычных якасцяў асоб, якія вылучаны ў склад акруговых камісій». Распараджэнне адносна стварэння «працоўных груп» выдаў 20 чэрвеня старшыня Брэсцкага аблвыканкама Анатоль Ліс для кіраўнікоў гарадскіх і раённых камітэтаў вобласці. Кіраўнікам «працоўных груп» было загадана прадставіць інфармацыю па кожнай кандыдатуры з рэкамендацыямі па фармаванні складу акруговай выбарчай камісіі да 10 гадзін раніцы 27 чэрвеня ў галоўнае ўпраўленне арганізацыйна-кадравай працы Брэсцкага абвыканкама.

Падчас утварэння акруговых выбаркамаў па Мінскай вобласці на сумесным паседжанні прэзідыума Мінскага абласнога Савета дэпутатаў і Мінскага абласнога выканаўчага камітэта чыноўнікі галасавалі паводле загадзя складзенага спісу. Галасаванне адбывалася практычна без разыходжанняў: альбо амаль усе за, альбо супраць. Прычыны неўключэння не называліся. Па адной з Салігорскіх акругаў склалася цікавая сітуацыя: усе 13 месцаў у акруговай камісіі былі запоўнены, калі у спісе для абмеркавання заставаліся яшчэ тры прэтэндэнты. У выніку проста прагаласавалі супраць. У выніку ў камісію не трапіў вылучэнец ад Руху «За свабоду» Уладзімір Шыла.

У цэлым назіральнікі адзначалі, што галасаванне за прэтэндэнтаў у камісіі ў большасці выпадкаў насіла фармальны характар, хоць і суправаджалася абмеркаваннем вылучаных кандыдатур. У падтрымку прадстаўнікоў праўладных палітычных партый і грамадскіх аб'яднанняў галасавалі практычна адзінагалосна, а за прадстаўнікоў апазіцыйных партый выказваліся амаль адзінагалосна супраць.

Тое, што склад камісій быў загадзя вызначаны, пацвярджае выпадак, які адбыўся з актывістам Партыі БНФ Яўгенам Сіцко, вылучаным у акруговую камісію Івацэвіцкай выбарчай акругі №1. Раніцай 27 чэрвеня яму патэлефанавалі з выканкама і запрасілі на першае паседжанне акруговай камісіі на 29 чэрвеня. Пры гэтым склад усіх акруговых камісій у Брэсцкай вобласці быў зацверджаны на супольным пасяджэнні аблвыканкама і абласнога савета дэпутатаў, якое пачалося у той жа дзень у 14 гадзін і працягвалася каля трох гадзін. Такім чынам, у выканкаме Івацэвічаў пра тое, хто трапіць у склад выбарчай камісіі, ведалі яшчэ да выканання ўсіх неабходных працэдур і нават паспелі запрасіць іх на першае паседжанне.

## 2.3. Склад створаных камісій

Усяго было створана 7 тэрытарыяльных камісій (абласныя і Мінская гарадская), у якія былі ўключаныя 91 чалавек *(Дадатак 3)* і 110 акруговых выбарчых камісій, у склад якіх увайшлі 1430 чалавек *(Дадатак 4)*.

Доля прадстаўнікоў палітычных партый у складзе ТВК і АВК аказалася нязначнай (24,2% і 13,6% адпаведна) у параўнанні з доляй прадстаўнікоў грамадскіх аб'яднанняў (51% і 54,3% адпаведна).

## Доля прадстаўнікоў палітычных партый у складзе ТВК




## Доля прадстаўнікоў палітычных партый у складзе АВК




Асноўнымі арганізатарамі выбараў, як і раней, сталі прадстаўнікі пяці найбуйнейшых праўладных грамадскіх аб'яднанняў — Белая Русь, БРСМ, Беларускі саюз жанчын, Беларускае грамадскае аб'яднанне ветэранаў, ФПБ. Агулам гэтыя аб'яднанні вылучылі 42 чалавекі ў ТВК і 663 у АВК , з іх 37 сталі сябрамі ТВК (88% ад вылучаных) і 605 сябрамі АВК (91,2% ад вылучаных). Сумарнае іх прадстаўніцтва ў ТВК і АВК склала 40% і 42,3% адпаведна.

Традыцыйна нізкім заставаўся працэнт праходнасці ў склад камісій прадстаўнікоў апазіцыйных партый. З 16 чалавек, вылучаных апазіцыйнымі партыямі, у склад ТВК увайшлі 5 (31,2 % ад вылучаных), а са 134, вылучаных апазіцыйнымі партыямі, у склад АВК уключана 26 чалавек (19,4 % ад вылучаных). Агульны працэнт іх прадстаўнікоў у складзе ТВК і АВК нязначны (5,4% і 1,8%) ад агульнай колькасці сябраў.

Такім чынам, відавочнае дыскрымінацыйнае стаўленне да тых грамадзян, якія былі вылучаны ў камісіі ад апазіцыйных партый. Гэта тэндэнцыя была зафіксавана і падчас папярэдніх выбарчых кампаній: падчас парламенцкіх выбараў 2012 г. доля прадстаўнікоў апазіцыйных партый у складзе АВК складала 3% (24% ад вылучаных апазіцыйнымі партыямі), на выбарах 2008 г. — 2,2% (32% ад вылучаных).






Патрабаванне закона, датычнае абмежавання ўдзелу дзяржаўных служачых у дзейнасці камісій, немагчыма было пракантраляваць, паколькі ў большасці абласцей спісы сябраў ТВК і АВК публікаваліся без указання іх месца працы і службовай пасады — толькі па спосабу вылучэння. Аднак агульныя тэндэнцыі можна прасачыць па інфармацыі з тых рэгіёнаў, дзе такія звесткі аказаліся вядомымі.

Адна з такіх тэндэнцый — своеасаблівая «маскіроўка» прадстаўнікоў уладнай вертыкалі і дзяржслужачых пад вылучэнцаў ад палітычных партый, грамадскіх аб'яднанняў, працоўных калектываў і грамадзян шляхам збору подпісаў выбаршчыкаў. Яшчэ адна выразная тэндэнцыя — «пераемнасць» складу камісій з папярэдніх выбараў. Таксама зафіксавана, што традыцыйна ўзначалілі і занялі ключавыя пазіцыі ў тэрытарыяльных і акруговых камісіях супрацоўнікі выканкамаў і кіраўнікі дзяржаўных прадпрыемстваў і устаноў.

Аналіз кіраўніцтва акруговых камісій (старшыні, намеснікі, сакратары), створаных у Гомельскай вобласці, паказаў, што практычна ўсе структуры ўзначалілі намеснікі старшынь выканкамаў па ідэалагічнай працы. Гэтыя ж людзі на працягу многіх кампаній працуюць у рознага кшталту выбарчых камісіях. Напрыклад, намеснік кіраўніка адміністрацыі Чыгуначнага раёна Гомеля Наталля Кавалёва ўзначаліла АВК Юбілейнай акругі №31, намеснік кіраўніка адміністрацыі Цэнтральнага раёна Вольга Дацэнка — АВК Цэнтральнай акругі №33, намеснік кіраўніка адміністрацыі Савецкага раёна Гомеля Алена Герашчанка — АВК Савецкай акругі №34, намеснік кіраўніка адміністрацыі Навабеліцкага раёна Васіль Зубец — АВК Навабеліцкай акругі №36. Аналагічна, па аднаму і таму ж трафарэту старшынямі акруговых камісій з'яўляюцца Ігар Палуян — намеснік старшыні Гомельскага райвыканкама, Леанід Валатаўскі — намеснік старшыні Жыткавіцкага райвыканкама, Віктар Касцяйкоў — намеснік старшыні Жлобінскага райвыканкама, Алег Макушынскі — намеснік старшыні Калінкавіцкага райвыканкама, Канстанцін Пятроўскі — намеснік старшыні Светлагорскага райвыканкама, Жанна Чарняўская — намеснік старшыні Хойніцкага райвыканкама. Вылучаны яны для працы ў камісіях «грамадскасцю» — прафсаюзнымі арганізацыямі, грамадзянамі шляхам збору подпісаў, Беларускім саюзам жанчын і гэтак далей. У акруговых камісіях абавязкова прысутнічаюць начальнікі аддзела арганізацыйна-кадравай працы выканкамаў — ці сакратарамі, ці намеснікамі старшынь камісій. Так, начальнік упраўлення па працы, занятасці і сацыяльнай дапамозе Мазырскага райвыканкама Пётр Шуцько ўзначаліў АВК Палескай акругі №43, а ў Рэчыцы камісію ўзначаліў упраўляючы справамі райвыканкама Рыгор Якушаў. Яго калега па Буда-Кашалёву Вячаслаў Кірыленка ўзначаліў таксама акруговую камісію. На Сельмашаўскай акрузе Гомеля №32 вырашылі ўзмацніць камісію і паставілі кіраваць ёй намесніка начальніка па ідэалагічнай працы КЖРЭУП «Сяльмашаўскае» Андрэя Лаўшука, а яго намеснікам прызначылі Мікалая Кавалевіча — намесніка генеральнага дырэктара ААТ «Гомсельмаш» па ідэалогіі. Такім чынам, аж два «буйныя» ідэолагі будуць гарантаваць празрыстасць і дэмакратычнасць выбарчай працэдуры.

У склад АВК ***па Ленінскай выбарчай акрузе № 78*** у Бабруйску ўвайшла Валянціна Афанасенка, якая вылучалася ад Рэспубліканскага прафсаюза работнікаў дзяржаўных і іншых устаноў, але працуе начальнікам аддзела арганізацыйна-кадравай працы Ленінскага раёна. Яна ўжо не аднойчы была сябрам і сакратаром выбарчых камісій, падчас парламенцкай кампаніі атрымала пасаду сакратара камісіі. Святлана Бабко — таксама мае вялікі вопыт працы ў ВК, яна вылучалася ад «Беларускага фонду міру», а працуе ў гэтай жа адміністрацыі начальнікам аддзела ідэалагічнай працы, культуры і па справах моладзі. Ірына Епіфанава вылучалася ад прафсаюза работнікаў лёгкай прамысловасці, працуе старшынёй прафкама фабрыкі «Славянка», яна заняла пасаду старшыні камісіі. Ад Камуністычнай партыі Беларусі вылучалася загадчыца дзіцячым садком №74, дзеючая дэпутатка гарсавета Валянціна Максімава. Васіль Краснікаў вылучаўся ад выбаршчыкаў працоўнага калектыву аддзелу адукацыі, спорту і турызму адмінстрацыі Ленінскага раёна. Аляксандр Мельнік таксама ўваходзіў у ВК у 2015-м годзе, зараз ён вылучаны ад выбаршчыкаў. Іна Новікава вылучалася ад «Беларускага саюза жанчын», працуе дырэктаркай тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва. Валянціна Селязнёва ўваходзіла ў склад ВК і на папярэдніх парламенцкіх, і на прэзідэнцкіх выбарах. Зараз яна вылучалася ад выбаршчыкаў, працуе галоўным спецыялістам прадстаўніцтва «Магілёўскае абласное ўпраўленне Рэспубліканскага цэнтра па аздараўленні і санаторна-курортным лячэнні насельніцтва». Яна заняла пасаду намесніцы старшыні камісіі. Наталля Смыслава таксама шмат разоў працавала на выбарах, зараз вылучалася ад «Белай Русі», яна старшыня раённай арганізацыі. З вопытам і Тамара Турцэвіч, яна вылучалася ад Беларускага грамадскага аб'яднання ветэранаў.

У склад АВК *акругі № 79 Першамайскага раёна* Бабруйска ўвайшоў Віктар Гарбанёў — ужо шмат гадоў нязменны старшыня камісій, ён зноў вылучаўся ад грамадзян, працуе дырэктарам будаўнічага прафесійна-тэхнічнага каледжа. Зноў у склад камісіі патрапіў і Генадзь Чубуркоў, які вылучаўся ад «Белай Русі», а працуе інжынерам на «Бабруйскаграмашы». Ад выбаршчыкаў у камісію вылучылася загадчыца бібліятэкай Святлана Бяляк. Зноў у камісіі Таццяна Гаўрыленка, яна вылучалася ад «Беларускага саюза жанчын». Не ўпершыню ў ВК увайшла і першы сакратар Першамайскага райкама БРСМ Варвара Галеева. Вадзім Кулікоў вылучаўся ад «Беларускага фонду міру», ён неаднойчы ўваходзіў у склад камісій. Аляксандр Адзіночанка вылучаўся ад выбаршчыкаў, а працуе ў адміністрацыі Першамайскага раёна кіраўніком справамі. Гэты чыноўнік ужо трапляў у камісію на мінулых выбарах, але ад «Белай Русі». Ларыса Ражкова таксама не навічок у выбарчых камісіях, зараз яна вылучалася ад выбаршчыкаў калектыву дзіцячай школы мастацтваў імя Алоўнікава, у якой працуе выкладчыцай. Кацярына Шырокая мае вопыт працы ў якасці сакратаркі камісіі, зараз яна вылучалася ад прафсаюза работнікаў дзяржаўных і іншых устаноў. Таццяна Шчусь працавала на некалькіх апошніх выбарах, яна ўжо традыцыйна вылучалася ад грамадзян.

У АВК *Бабруйскай Сельскай акругі № 80* старшынёй была абрана Ірына Старавойтава, якая ўжо мела вопыт працы на выбарах у Палату прадстаўнікоў і працуе галоўным бухгалтарам Бабруйскага райвыканкама, вылучалася ад працоўнага калектыву. Намесніца старшыні акруговай камісіі, Наталля Якімава, займала аналагічную пасаду і раней, яна — кіраўніца справамі Бабруйскага райвыканкама, вылучалася ад «Беларускага саюза жанчын». Сакратар камісіі Святлана Семянчукова — намесніца галоўнага бухгалтара аддзела адукацыі, спорту і турызму Бабруйскага райвыканкама, вылучалася ад прафсаюза работнікаў адукацыі і навукі. Яна таксама мае вопыт працы на выбарах у ПП НС.

Зноў патрапіла ў выбарчую камісію Алена Белавусава, вылучалася ад выбаршчыкаў, працуе галоўным спецыялістам упраўлення ідэалагічнай працы гарвыканкама. Таццяна Арцюхова, дзеючая дэпутатка Кіраўскага раённага Савета, працуе загадчыцай дзіцячага садка №4 у Кіраўску, вылучалася ад выбаршчыкаў. Яўгенія Доўнар мае вопыт кіравання выбарчай камісіяй, яна старшыня раённай арганізацыі Беларускага грамадскага аб'яднання ветэранаў, і ад яго ж вылучалася. Аліна Калашманава галоўны бухгалтар аддзела ідэалагічнай працы райвыканкама, вылучалася ад «Беларускага фонду міру». Вераніка Падаляк мае вопыт працы ў ВК, яна першы сакратар Бабруйскага райкама БРСМ, вылучалася ад сваёй арганізацыі. Яшчэ адна вопытная сябра камісіі — Таццяна Тарасевіч, працуе дырэктаркай раённага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва, вылучалася ад «Белай Русі». Віталь Токараў вылучаўся ад выбаршчыкаў, працуе начальнікам Кіраўскага філіяла «Магілёўаблдарбуд». Былы дэпутат райсавета Сяргей Феднеў таксама патрапіў ў склад ВК, вылучаўся ад прафсаюзу работнікаў аграпрамысловага комплексу, у якім займае пасаду старшыні. Ірына Бобр неаднойчы ўваходзіла ў склад камісій падчас выбараў, тады яна вылучалася ад «Белай Русі», зараз ад выбаршчыкаў. Працуе галоўным спецыялістам па аўтаматызацыі Кіраўскага райвыканкама.

У акруговай выбарчай камісіі *Маладзечанскай сельскай акругі № 73* старшынёй камісіі стала Святлана Юрчык, якая працуе начальнікам аддзела Маладзечанскага райвыканкама па працы са зваротамі насельніцтва і юрыдычных асоб. Намеснікам стаў Аляксандр Уланчык — кіраўнік справамі Валожынскага райвыканкама. Абодва яны былі вылучаны шляхам збору подпісаў грамадзян. У апублікаваных на афіцыйных сайтах паведамленнях аб кіраўніцтве камісіі іх пасады ніяк не адлюстраваны.

Старшынёй акруговай камісіі *Мазырскай выбарчай акругі №42* быў абраны Ігар Баранаў, намеснікам старшыні — Вераніка Байкова, сакратаром — Святлана Лаўрук. Супрацоўнік райвыканкама Вераніка Байкова прадстаўляла ў камісіі «Белую Русь», на мінулых выбарах яна прадстаўляла прафсаюзы. Галоўны ўрач мясцовай бальніцы Ігар Баранаў прадстаўляў прафсаюзы — а на мінулых выбарах вылучаўся таксама грамадскасцю — «Белай Руссю». Таксама прафсаюзамі быў вылучаны дырэктар прадпрыемства «Колор» Пётр Зыкун, дырэктар ААТ «Мазыраграпрамснаб» Вячаслаў Патароча. «Беларускі саюз жанчын» накіраваў працаваць у камісію галоўнага рэдактара мясцовай газеты Ларысу Чорную.

Старшынёй акруговай выбарчай камісіі *Шклоўскай выбарчай акругі №90* стаў вылучэнец ад Камуністычнай партыі Беларусі Аляксандр Гурынаў, старшыня раённай арганізацыі работнікаў адукацыі і навукі, сакратар Шклоўскай раённай арганізацыі КПБ. Аляксандр Гурынаў узначальваў Шклоўскую раённую выбарчую камісію падчас прэзідэнцкіх выбараў 2015 года, як

вылучэнец ад КПБ ён працаваў у складзе акруговай камісіі Шклоўскай выбарчай акругі №90 на выбарах дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў у 2012 годзе. Намеснікам старшыні камісіі была абраная вылучэнка ад Беларускага грамадскага аб'яднання ветэранаў Галіна Марфель, дырэктар УА «Шклоўскі дзяржаўны прафесійны ліцэй №12». На парламенцкіх выбарах 2012 года Галіна Марфель уваходзіла ў склад акруговай камісіі ў якасці вылучэнкі ад гэтага працоўнага калектыву, падчас прэзідэнцкіх выбараў 2015 года яна таксама працавала намеснікам старшыні ў складзе Шклоўскай раённай выбарчай камісіі, але ўжо як вылучэнка ад раённай арганізацыі ГА «Беларускі саюз жанчын». Сакратарам акруговай камісіі стала Алена Пекерт, якая была вылучаная ад Рэспубліканскага прафесійнага саюза работнікаў дзяржаўных і іншых устаноў. Як вылучэнка ад гэтага ж прафсаюза Алена Пекерт працавала і ў раённай выбарчай камісіі падчас прэзідэнцкіх выбараў 2015 года. Месца працы Алены Пекерт — начальнік аддзела арганізацыйна-кадравай працы Шклоўскага райвыканкама. Шэсць з трынаццаці членаў дадзенай АВК працавалі ў складзе аналагічнай камісіі ў 2012 годзе, іншыя яе чальцы былі сябрамі выбарчых камісій падчас прэзідэнцкіх і мясцовых выбараў.

Старшынёй АВК *Крычаўскай выбарчай акругі №83* была абраная вылучэнка ГА «Беларускі фонд міру» Алена Зданові́ч, якая працуе дырэктарам Дома быту. Падчас прэзідэнцкіх выбараў 2015 года спадарыня Зданові́ч таксама працавала ў выбарчай камісіі, толькі ў якасці вылучэнкі ад РГА «Белая Русь». Намеснікам старшыні акруговай камісіі стаў вылучэнец шляхам падачы заявы грамадзян, ён жа начальнік арганізацыйна-кадравага аддзела Крычаўскага райвыканкама Міхаіл Мяшкура. Сакратарам камісіі абраная яшчэ адна райвыканкамаўская чыноўніца, спецыяліст аддзела па зваротах грамадзян Наталля Ткачэнка. Яна вылучалася ў склад камісіі ад РГА «Белая Русь», у 2015 годзе — ад прафсаюза працаўнікоў дзяржаўных і іншых устаноў, раней працавала ў аддзеле ідэалогіі Крычаўскага райвыканкама.

Акруговую камісію *Салігорскай гарадской выбарчай акругі №68* узначаліла Святлана Радзюк, якая ўзначальвала ТВК падчас мінулых прэзідэнцкіх выбараў. У 2008 годзе яна вылучалася ў акруговую камісію ад выканкама, у 2010 годзе прадстаўляла прафсаюз работнікаў дзяржаўных установаў, гэтым разам накіраваная грамадскім аб'яднаннем «Беларускі саюз жанчын». Намеснікам старшыні акруговай камісіі быў абраны Анатоль Махлай, накіраваны ў склад камісіі ад «Белай Русі». Спадар Махлай з'яўляецца галоўным ідэолагам калійнага гіганта ААТ «Беларуськалій» і лічыцца шэрым кардыналам усіх выбараў у Салігорскім раёне. Сакратарам камісіі стала Жанна Ставер, фармальна вылучаная ад грамадзян шляхам падачы заявы, якая насамрэч з'яўляецца спецыялістам аддзела адукацыі Салігорскага райвыканкама. Сярод іншых чыноўнікаў у склад камісіі патрапіў Юры Чухроў — дырэктар гарадскога УКБ, Яўгенія Сямак — юрыст райвыканкама, Ганна Носава — спецыяліст аддзела культуры, Святлана Вярыга — эканаміст аддзела адукацыі. Ёсць у складзе камісіі і два былых намеснікі старшыні райвыканкама — Аляксандр Лазука і Ірына Зубарэвіч.

Аналагічны малюнак можна назіраць у акруговых камісіях *Салігорскай сельскай выбарчай акругі №69* і *Слуцкай выбарчай акругі №67*. Першую ўзначаліла Ганна Ермалінская, дырэктар салігорскай гімназіі №1, якая кіравала працай выбарчых камісій living узроўню падчас папярэдніх выбарчых кампаній. Слуцкую АВК ужо трэція выбары запар узначальвае кіраўнік дзяржаўнага прадпрыемства «Аграсэрвіс» і старшыня мясцовай арганізацыі «Белая Русь» Андрэй Кунцэвіч. Ягоным намеснікам абраны дырэктар слуцкай філіі іншага дзяржпрадпрыемства «Мінаблпаліва» Аляксандр Андрушкевіч, які з 1994 па 2014 год з'яўляўся нязменным старшынём АВК і ТВК на выбарах усіх узроўняў.

Старшынёй АВК *Бярозаўскай акругі №9* быў абраны дырэктар Бярозаўскага будаўнічага ліцэя, былы работнік райвыканкама Аляксандр Неліповіч, які неаднойчы быў старшынёй і намеснікам старшыні АВК і ТВК на папярэдніх выбарах. Намеснікам стаў намеснік начальніка ідэалагічнага аддзела райвыканкама Аляксандр Крагель. Сакратарам бязменна была абрана вядучы спецыяліст аддзела арганізацыйна-кадравай працы выканкама Алена Муратава. У такім складзе было кіраўніцтва Бярозаўскай раённай выбарчай камісіі падчас прэзідэнцкіх выбараў 2010 і 2015 гадоў.

У акруговай камісіі *Быхаўскай выбарчай акругі №81*старшынёй камісіі быў абраны Віктар Агнетаў, яго намеснікам стаў Міхаіл Казлоў, сакратарам камісіі — Таццяна Ермаліцкая. Віктар Агнетаў, які накіраваны ў склад акруговай камісіі ад РГА «Белая Русь», працуе кіраўніком спраў Быхаўскага райвыканкама. Вылучэнка Рэспубліканскага прафсаюза работнікаў дзяржаўных і іншых установаў Таццяна Ермаліцкая таксама працуе ў Быхаўскім райвыканкаме начальнікам аддзе-

ла арганізацыйна-кадравай работы. Вылучэнец Камуністычнай партыі Беларусі Міхаіл Казлоў да выхаду на пенсію ўзначальваў у тым жа Быхаўскім райвыканкаме аддзел адукацыі. Іншыя сябры акруговай камісіі неаднаразова ўваходзілі ў склад выбарчых камісій розных узроўняў, многія з іх працуюць у разнастайных райвыканкамаўскіх структурах. Так, вылучэнец ГА «БРСМ» Аляксандр Жэлабкевіч узачальвае Быхаўскую раённую інспекцыю прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя. Наталля Брызгалава, якая была вылучана ў склад камісіі шляхам падачы заявы ад выбаршчыкаў, працуе загадчыкам вучэбна-метадычнага кабінета аддзела адукацыі Быхаўскага райвыканкама. Яшчэ адна вылучэнка шляхам падачы заявы выбаршчыкаў Таццяна Бабічава працуе кіруючай справамі Слаўгарадскага райвыканкама.

## 3. Фарміраванне ўчастковых выбарчых камісій

У адпаведнасці з арт. 28 Выбарчага кодэкса, падрыхтоўку і правядзенне выбараў дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў разам з абласнымі і Мінскай гарадской тэрытарыяльнымі выбарчымі камісіямі (ТВК) забяспечваюць участковыя выбарчыя камісіі (УВК). Менавіта УВК арганізуюць галасаванне, падлік галасоў і ўстанаўленне вынікаў галасавання на выбарчых участках, што робіць іх адным з ключавых механізмаў выбарчага працэсу. На этапе агітацыі УВК накіроўвае выбаршчыкам інфармацыю пра кандыдатаў у дэпутаты; кантралюе на тэрыторыі ўчастка для галасавання захаванне правіл размяшчэння агітацыйных матэрыялаў. УВК разглядае заявы і скаргі па пытаннях падрыхтоўкі выбараў, арганізацыі галасавання, падліку галасоў і прымае па іх рашэнні.

Як і тэрытарыяльныя выбарчыя камісіі, УВК складаюцца з прадстаўнікоў палітычных партый, іншых грамадскіх аб'яднанняў, працоўных калектываў, а таксама прадстаўнікоў грамадзян, якія вылучаны ў склад камісій шляхам збору подпісаў.

Парадак накіравання прадстаўнікоў у склад УВК рэгуляваўся палажэннямі Пастановы ЦВК № 18 ад 8.06.2016 г.

Палітычныя партыі і грамадскія аб'яднанні, працоўныя калектывы, калектывы іх структурных падраздзяленняў і выбаршчыкі могуць вылучаць сваіх прадстаўнікоў у склад УВК у наступным парадку:

Кіруючыя органы абласных арганізацыйных структур — ва УВК, якія ўтвараюцца на тэрыторыі вобласці; кіруючы орган Мінскай гарадской арганізацыйнай структуры — ва УВК, якія ўтвараюцца на тэрыторыі г. Мінска; раённых, гарадскіх, раённых у гарадах арганізацыйных структур — ва УВК, якія ўтвараюцца ў адпаведным раёне, горадзе, раёне горада; першасная арганізацыя палітычнай партыі, іншага грамадскага аб'яднання мае права вылучаць свайго прадстаўніка ва ўчастковую камісію таго ўчастка для галасавання, на тэрыторыі якога знаходзіцца першасная арганізацыя;

Сходы размешчаных на тэрыторыі раёна, горада, раёна ў горадзе, пасёлка, сельсавета працоўных калектываў арганізацый або калектываў іх структурных падраздзяленняў, якія налічваюць не менш за 10 працуючых;

Выбаршчыкі ў колькасці не менш за 10 чалавек — ва УВК участка для галасавання, на тэрыторыі якога яны пражываюць.

Усе вышэйназваныя суб'екты маюць права вылучаць толькі па адным сваім прадстаўніку ў склад УВК.

УВК фарміруюцца раённымі, гарадскімі, выканаўчымі камітэтамі, а ў гарадах з раённым падзелам — мясцовымі адміністрацыямі ў складзе 5-19 членаў.

Суб'екты, якія вылучылі свайго прадстаўніка ў склад камісіі, маюць права абскардзіць рашэнне адпаведнага органа ў раённым, гарадскім судзе.

Магчымасці вылучэння ў склад УВК ад палітычных партый і іншых грамадскіх аб'яднанняў, як і раней, абмяжоўваюцца патрабаваннем наяўнасці арганізацыйных структур. Такім чынам, рэспубліканскія грамадскія аб'яднанні, якія не маюць арганізацыйных структур у абласцях, наогул пазбаўлены магчымасці вылучаць сваіх прадстаўнікоў у склад участковых выбарчых камісій.

У адрозненні ад папярэдніх выбарчых кампаній Пастанова ЦВК № 18 прадугледзела магчымасць прысутнасці назіральнікаў (у тым ліку і міжнародных) на паседжаннях раённых выканкамаў і адміністрацый (у гарадах з раённым дзяленнем) пры фарміраванні УВК.

Таксама згодна з п. 6 дадзенай Пастановы перад прыняццем рашэння аб фарміраванні УВК выносіцца на абмеркаванне пытанне аб дзелавых і палітычных якасцях асоб, якія былі вылучаны

ў склад выбарчай камісіі, а калі колькасць прэтэндэнтаў у склад камісіі перавышае колькасць прадугледжаных членаў камісіі, заслухоўваецца інфармацыя па кожнай кандыдатуры і праводзіцца персанальнае галасаванне.

У сувязі з адсутнасцю тлумачэння тэрміна «палітычныя якасці» ў дзеючым заканадаўстве эксперты кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары» звярнуліся па тлумачэнні ў ЦВК, а пасля адказу , што пад тэрмінам «палітычныя якасці асобы» ЦВК разумее «палітычныя погляды, узровень прадстаўніцтва грамадскіх аб'яднанняў і партый у рэгіёне, іх пазнавальнасць і аўтарытэт сярод насельніцтва» — прапанавалі прыбраць тэрмін дадзены тэрмін з п. 6 Пастановы ЦВК № 18 перад пачаткам фармавання УВК.

У сваім адказе ад 12.07.2016 г. на зварот праваабаронцаў ЦВК паведаміла, што не бачыць падстаў для карэкціроўкі названай пастановы і выключэння з яе тэрміна «палітычныя якасці».

## 3.1. Вылучэнне ў склад УВК

Згодна з Каляндарным планам арганізацыйных мерапрыемстваў па падрыхтоўцы і правядзенні выбараў дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў шостага склікання, вылучэнне прадстаўнікоў у склад участковых камісій і прадстаўленне адпаведных дакументаў аб вылучэнні ў органы, якія ўтвараюць камісіі, адбывалася да 24 ліпеня; фармаванне УВК — да 27 ліпеня. На працягу 7 дзён пасля прыняцця рашэнняў аб утварэнні УВК, органы, якія іх утварылі, павінны былі апублікаваць сваё рашэнне.

Усяго ў склад 5 971 участковых выбарчых камісій, паводле Цэнтральнай камісіі *(Дадатак 5)*, было вылучана 73 278 кандыдатур, у тым ліку ад грамадзян шляхам падачы заяваў — 27 428 прадстаўнікоў (37,5%), ад працоўных калектываў — 9 257 (12,6%), ад палітычных партый 4 272 (5,8 %) і ад іншых грамадскіх аб'яднанняў — 32 321 (44,1%) прадстаўнікоў.

**Колькасць вылучаных у склад участковых камісій ад розных суб'ектаў**




Як і ў ранейшыя выбарчыя кампаніі, лідарамі па вылучэнні з'яўляліся праўладныя грамадскія аб'яднанні: Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі — 9 350 прэтэндэнтаў (12,8%), ГА «Белая Русь» — 4 626 (6,3%), Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі (БРСМ) — 4 066 (5%), Беларускі саюз жанчын — 4344 (5,9%), Беларускае грамадскае аб'яднанне ветэранаў — 3160 (4,3%).

Напрыклад, у Гродненскай вобласці гэтыя суб'екты вылучылі ўсяго 91% прэтэндэнтаў ад грамадскіх аб'яднанняў або 42,9% ад агульнай колькасці вылучаных ва УВК. Актыўнасць гэтых арганізацый у параўнанні з папярэднімі выбарамі павялічылася; гэтыя пяць грамадскіх аб'яднанняў вылучылі 34,5% ад агульнай колькасці вылучаных у склад ТВК і 79% ад вылучаных грамадскімі і іншымі аб'яднаннямі адпаведна. У бягучай выбарчай кампаніі ў цэлым доля вылучаных у склад УВК прадстаўнікоў палітычных партый і грамадскіх аб'яднанняў узрасла з 47% у 2012 годзе да 49,9%.

На прыкладзе звестак Віцебскага аблвыканкама можна прааналізаваць і склад прэтэндэнтаў ад «іншых грамадскіх аб'яднанняў»: ад Беларускага таварыства Чырвонага Крыжа было вылучана 342 прадстаўнікі, ад Беларускага фонду міру — 208, ад Беларускага саюза афіцэраў — 66, ад Беларускага саюзу ветэранаў вайны ў Афганістане — 28 прадстаўнікоў. Яшчэ 4 прадстаўнікі

вылучаныя од невядомых аб'яднанняў. 8 прадстаўнікоў былі вылучаныя ад апазіцыйнага Віцебскага ГА «Самакіраванне і грамадства». Такім чынам, мінімум 4 619 з 4 631 вылучаных у склад камісіі прадстаўлялі праўладныя грамадскія аб'яднанні.

Сваіх прадстаўнікоў у склад УВК прапанавалі 10 палітычных партый з 15 зарэгістраваных. Пры гэтым лаяльныя ўладам палітычныя партыі павялічылі сваю актыўнасць. Напрыклад, Рэспубліканская партыя працы і справядлівасці вылучыла 1 141 прэтэндэнта (у 2012 годзе — 832).

З 4 272 прадстаўнікоў партый 514 (12% ад вылучаных ад партый ці 0,7% ад агульнай колькасці вылучаных) былі вылучаны апазіцыйнымі партыямі.

У параўнанні з парламенцкай кампаніяй 2012 г. актыўнасць апазіцыйных партый нязначна знізілася: на выбарах 2012 г. 664 кандыдатуры ад пяці апазіцыйных партый складалі каля 0,8 % ад агульнага ліку вылучэнцаў. Прыблізна тыя ж лічбы былі і ў час прэзідэнцкай кампаніі 2015 года, калі партыі вылучылі 515 з 3 877 прэтэндэнтаў ад партый. Паводле дадзеных Цэнтральнай камісіі, Беларуская партыя левых «Справядлівы свет» вылучыла 169 чалавек, Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя («Грамада») — 42, АГП — 223, Партыя БНФ — 80 прэтэндэнтаў.

У асноўным усе пакеты дакументаў па вылучэнні прадстаўнікоў у камісіі былі разгледжаны адпаведнымі органамі. Разам з тым, зафіксаваны выпадак, калі па віне супрацоўніка выканкама дакументы не былі прадстаўлены для разгляду. 20 ліпеня Гомельская абласная арганізацыя партыі левых «Справядлівы свет» накіравала па пошце пратаколы аб вылучэнні кандыдатаў на ўключэнне ў камісіі ў шэсць выканкамаў Гомельскай вобласці. Пяць выканкамаў 22 ліпеня атрымалі карэспандэнцыю, а шосты — Светлагорскі райвыканкам — не. 26 ліпеня партыйцы пачалі біць трывогу, і толькі тады супрацоўніца выканкама пайшла на пошту і атрымала карэспандэнцыю, але было позна. Ліст быў дасланы ў выканкам, і праз сайт «Белпошты» актывісты праверылі, што 22 ліпеня была «спроба ўручыць карэспандэнцыю». Сапраўды райвыканкам атрымаў паведамленне аб паштовым адпраўленні, і сакратарка пайшла на пошту, каб яго атрымаць, але там была доўгая чарга, і яна вырашыла не стаяць. Пасля 17.00 сакратарка зноў наведала аддзяленне сувязі, і зноў там была чарга, і яна вырашыла не стаяць, і яе начальнік (кіраўнік справамі райвыканкама) дазволіў ёй гэта — даў такую каманду. 23 і 24 ліпеня сакратарка мела выходныя дні, і таму не хадзіла на пошту. А 25 ліпеня зноў пайшла — і зноў была вялікая чарга, і яна, як сыходзіць з адказу выканкама «прыняла рашэнне аб немэтазгоднасці далейшага знаходжання ў памяшканні паштовай сувязі, пасля чаго вярнулася на сваё працоўнае месца». Такім чынам, 24 кандыдатуры ў камісіі ад партыі левых «Справядлівы свет» нават не разглядаліся. Партыя падала скаргу ў суд з просьбай адмяніць рашэнне выканкама аб стварэнні ўчастковых камісій у сувязі з тым, што вылучэнцы ад «Справядлівага свету» не былі дапушчаны да вылучэння. Суд скаргу не задаволіў, маўляў, выканкам не вінаваты, што позна атрымаў дакументы.

## 3.2. Пасяджэнні па ўтварэнні УВК

Пасяджэнні раённых, гарадскіх выканаўчых камітэтаў, а ў гарадах з раённым дзяленнем — мясцовых адміністрацый па стварэнні ўчастковых выбарчых камісій адбываліся 25, 26 і 27 ліпеня 2016 года па ўсёй краіне.

Назіральнікі і прадстаўнікі суб'ектаў, якія вылучылі прэтэндэнтаў у адпаведныя УВК, не сустрэлі вялікіх перашкодаў для прысутнасці на пасяджэннях.

У сярэднім паседжанні працягваліся каля 2 гадзін, але зафіксаваны і выпадкі значна больш хуткацечных працэдур. Смаргонскі выканаўчы раённы камітэт правёў паседжанне за 55 хвілін, разглядзеўшы 426 кандыдатур, а адміністрацыя Кастрычніцкага раёна г. Магілёва справілася з разглядам 985 кандыдатур за 54 хвіліны. Некаторыя пасяджэнні адбываліся больш за 6 гадзін. Так, Слуцкі раённы выканаўчы камітэт абмяркоўваў 808 кандыдатаў 6,5 гадзін, пры тым што адміністрацыя Ленінскага раёна г. Магілёва за той жа час змагла разгледзець кандыдатуры 1494 вылучэнцаў, адміністрацыя Савецкага раёна г. Мінска амаль увесь працоўны дзень (7 гадзін 40 хвілін) разглядала 1067 кандыдатур, а адміністрацыя Фрунзенскага раёна г. Мінска працавала 8 гадзін і 17 хвілін, каб разгледзець 1607 кандыдатаў.

Органы, якія фармуюць УВК, у большасці выпадкаў прынялі ў склад камісій усіх, хто падаваў свае дакументы. На большасці пасяджэнняў за склад УВК галасавалі спісам, без абмеркавання вылучаных кандыдатур.

На паседжанні Смаргонскага раённага выканаўчага камітэта адмоў ва ўключэнні ў склад УВК не было, усе 426 кандыдатаў увайшлі ў склад камісій. Пасяджэнне адбывалася наступным чынам: зачытвалася назва камісіі, лічбавы і персанальны склад з агучваннем прозвішча, імя, імя па бацьку кожнага кандыдата ў склад камісіі. Прапаноўвалася зрабіць заўвагі. Іх не было. Затым праводзілася галасаванне за зацвярджэнне складу камісіі. Пры гэтым у пачатку пасяджэння Смаргонскага райвыканкама абмяркоўвалася пытанне аб выкананні патрабавання ЦВК аб абмеркаванні кожнай кандыдатуры. Дакладчык адзначыў, што выкананне займе шмат часу, таму шляхам галасавання быў абраны вышэйапісаны шлях зацвярджэння складу камісій. Пасля галасавання па складзе ўчастковых камісій назіральнік Алесь Дзергачоў задаў пытанне, чаму камісіі сфармаваны па вытворчаму прынцыпу, г. зн. многія цалкам створаны з прадстаўнікоў адной арганізацыі на чале з дырэктарам, што пазбаўляе такія камісіі незалежнасці. На гэта паступіў адказ, што гэта не пярэчыць заканадаўству, а гарантыя незалежнасці — сумленнасць чальцоў камісій.

На пасяджэнні па фармаванні складу ўчастковых выбарчых камісій у Крычаўскім раёне старшыня райвыканкама Васіль Сысоеў распавёў прысутным, што Цэнтральная выбарчая камісія рэкамендавала праводзіць абмеркаванне па кожнай вылучанай у склад участковай камісіі кандыдатуры. Аднак, у сувязі з тым, што ў склад участковых камісій няма альтэрнатыўных прэтэндэнтаў, а таксама з-за правядзення ў раёне жніва, ён прапанаваў галасаваць па складу ўчастковых камісій спісам без абмеркавання. Прапанову Васіля Сысоева падтрымалі. Былі зачытаны прозвішчы членаў участковых камісій з указаннем, дзе чалавек працуе і якім шляхам ён вылучаўся. Галасаванне па складу кожнай участковай камісіі адбывалася спісам без абмеркавання кандыдатур.

На паседжанні Кастрычніцкай раённай адміністрацыі Магілёва было сфармавана 68 камісій, з іх па шасці камісіях, дзе быў конкурс, ішло персанальнае галасаванне. Выступоўца зачытваў прозвішча, імя, імя па бацьку, месца працы, партыйнасць, кім вылучаны, наяўнасць досведу працы ў камісіі. Абмеркавання не было, а было толькі давядзенне інфармацыі. Выбіралі толькі тых, хто раней працаваў у камісіі, без тлумачэнняў адзінагалосна прагаласавалі супраць двух прадстаўнікоў «Справядлівага свету». За склад астатніх камісій галасавалі спісамі, не абмяркоўваючы і нават не называючы прозвішчаў тых, хто ў іх камісіі.

Прыкладна чвэрць паседжанняў адбывалася з абмеркаваннем часткі вылучаных кандыдатаў, у тым ліку іх дзелавых і палітычных якасцяў, што сведчыць аб выкарыстанні норм Пастановы ЦВК ад 8 чэрвеня 2016 г. №18, якая ўпершыню прадугледзела такое абмеркаванне.

Аднак назіральнікі адзначылі, што тэрміны «дзелавыя і палітычныя якасці асобы», органы, якія ўтваралі УВК, разумелі па-рознаму. Так, адміністрацыя Фрунзенскага раёна г. Мінска не прымала ў склад УВК беспрацоўных. Адміністрацыя Партызанскага раёна г. Мінска асноўнымі крытэрамі для ўключэння ў камісію назвала грамадскую і палітычную дзейнасць, арганізацыйныя здольнасці, уменне працаваць з людзьмі і чуць іх. Пры разглядзе атрыманых дакументаў у адміністрацыі Маскоўскага раёна ў г. Мінску загадчыца аддзела арганізацыйна-кадравай працы Н.М. Юргелевіч адзначала, што сябры камісій павінны працаваць аператыўна, а не ствараць дыскусійныя клубы. У склад участковых выбарчых камісій па Салігорскай гарадской выбарчай акрузе №68 увайшлі толькі правераныя кадры, абсалютна большасць з якіх з'яўляліся сябрамі ўчастковых выбаркамаў у мінулых выбарчых кампаніях. Падчас прэзентацыі кандыдатур улады вельмі акцэнтавалі ўвагу аб наяўнасці ў кожнага досведу працы ў выбаркамах падчас ранейшых выбараў.

У якасці крытэраў адбору ва УВК прадстаўнікамі райвыканкамаў называліся таксама працоўная актыўнасць, падтрымка дзяржаўнай палітыкі. Такія «крытэрыі» ўжо традыцыйна з'яўляюцца асноўнай прычынай адмоў ва ўключэнні ў склад камісій прэтэндэнтаў, вылучаных апазіцыйнымі партыямі. Трэба адзначыць, што замацаваны ў п. 6 Пастановы № 18 тэрмін «палітычныя якасці» ў большасці выпадкаў разумеўся менавіта як падтрымка прэтэндэнтаў палітыкі ўрада.

У Гродне на паседжанні адміністрацыі Ленінскага раёна, якое доўжылася паўтары гадзіны, былі ўтвораны 65 участковых камісій. Ніводны з 21 вылучаных прадстаўнікоў дэмакратычных партый (16 прадстаўнікоў АГП, 4- Партыі БНФ, 1 — БСДП) у склад участковых камісій не патрапіў. На тэрыторыі Кастрычніцкага раёна былі ўтвораны 73 участковыя камісіі. Ніхто з прадстаўнікоў дэмакратычных партый таксама не былі ўключаны ў склад камісій. Ад дэмакратычных сіл вылучалася 10 чалавек: ад АГП — 7, Беларускай партыі левых «Справядлівы свет» — 2, БСДП — 1. Было заяўлена, што дакументы ад вылучэнцаў гэтых партый няправільна аформлены. На абодвух паседжаннях называліся толькі прозвішчы рэкамендаваных адміністрацыяй

асоб у склад участковых камісій, пасля чаго адбывалася галасаванне за склад канкрэтных камісій. Асноўныя агучаныя крытэры «адбору» былі названыя: досвед працы ў камісіях папярэдніх кампаній па выбарах, камунікабельнасць, сяброўства ў масавых арганізацыях, актыўны ўдзел у грамадскім жыцці.

На пасяджэнні Маладэчанскага райвыканкама характарызавалася кожная кандыдатура. Калі колькасць прэтэндэнтаў супадала з зацверджаным колькасным складам камісіі, то галасавалі спісам. А там, дзе быў конкурс, разглядалася і ставілася на галасаванне кожная кандыдатура. Падымаліся прадстаўнікі структур, якія вылучалі дадзенага чалавека і давалі характарыстыку. Часцей за ўсё гучалі такія, як «идеологически грамотный», «с активной гражданской позицией». Калі ж нейкі малады чалавек упершыню вылучаўся ў камісію казалі: «Малады, актыўны, хай набіраецца досведу». Выключэнне склаў мясцовы хрысціянскі дэмакрат Міхаіл Марцінкевіч. Калі прадстаўнікі розных структураў сталі даваць характарыстыкі сваім вылучэнцам, то двое з іх закранулі і кандыдатуру Марцінкевіча, хаця да яго вылучэння не мелі аніякага дачынення. Спачатку выказалася начальнік раённага аддзела адукацыі Драпеза І.Ф., маўляў, паколькі Марцінкевіч працуе ў гэтай сістэме. Яна ахарактарызавала яго як добрага работніка, але безыніцыятыўнага. Потым падняўся старшыня Цюрлёўскага сельвыканкама Кушнярэвіч Ул.А. і адзначыў, што хоць Марцінкевіч і жыве ў Цюрлях, але ніяк сябе не зарэкамендаваў. У выніку Міхаіл Марцінкевіч не патрапіў ва ўчастковую камісію.

У шэрагу выпадкаў прэтэндэнты на ўключэнне ў камісіі выклікаліся на сумоўе ў органы, якія ствараюць камісіі. Так, у адміністрацыю Цэнтральнага р-на г. Мінска на сумоўе быў запрошаны вылучаны ў склад аднаго з УВК раёна член АГП, былы дэпутат Вярхоўнага Савета СССР і Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Аляксандр Дабравольскі. Падчас сумоўя прадстаўнікі адміністрацыі паспрабавалі зладзіць «іспыт» на веданне норм ВК. Пры гэтым невядома, ці ладзіліся падобныя іспыты для прэтэндэнтаў, вылучаных ва УВК ад праўладных грамадскіх арганізацый і партый, прадстаўнікоў працоўных калектываў.

Напярэдадні этапа фарміравання УВК, старшыня ЦВК Л. Ярмошына адзначыла недапушчальнасць фармальнага падыходу да фарміравання УВК. Паводле яе ўстаноўкі, калі няма конкурсу на ўключэнне ў склад камісіі, неабходна каротка ахарактарызаваць кожную кандыдатуру, пасля чаго можна правесці галасаванне спісам. Пры наяўнасці конкурсу неабходна прадставіць не толькі кароткія характарыстыкі, але і праводзіць галасаванне па кожнай кандыдатуры асобна, каб было зразумела, за каго прагаласавалі. Аднак, як сведчаць назіральнікі кампаніі, пры фарміраванні УВК адказныя органы не заўсёды кіраваліся падыходам, агучаным старшынёй ЦВК.

## 3.3. Склад створаных камісій

Усяго было сфарміравана 5971 УВК, у склад якіх уключана 65856 сябраў. У склад камісій увайшло 89,8% ад агульнай колькасці прэтэндэнтаў (73 293) *(Дадатак 6)*.

**Прадстаўнікі ў складзе УВК па спосабу вылучэння**



Традыцыйна высокі ўзровень «праходнасці» (89% ад вылучаных) прадэманстравалі кандыдаты ад сямі партый, лаяльных да дзеючай улады. З 3773 вылучаных праўрадавымі партыямі, у склад УВК увайшлі 3358 чалавек.

Яшчэ вышэйшая «праходнасць» зафіксавана адносна прадстаўнікоў пяці найбуйнейшых праўладных аб'яднанняў. Прадстаўніцтва ад ГА «Белая Русь», ГА «Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі», Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі, Беларускага саюза жанчын і Беларускага грамадскага аб'яднання ветэранаў аказалася значна вышэй сярэднестатыстычнай: з 27080 прадстаўнікоў, вылучаных імі, у склад УВК увайшлі 25546 чалавек (94%).

Пры фарміраванні УВК быў відавочны дыскрымінацыйны падыход выканкамаў да прадстаўнікоў апазіцыйных партый: з 514 прадстаўнікоў пяці апазіцыйных партый, вылучаных у склад УВК, у камісіі ўвайшлі толькі 53 чалавекі (10,3 % ад вылучаных). У выніку прадстаўнікі апазіцыйных партый складаюць 0,08 % ад агульнага складу членаў УВК, што меней чым на парламенцкіх выбарах 2012 г. (61 чалавек ці 0,1% ад агульнага складу УВК) і прыкладна роўная колькасць прадстаўнікоў апазіцыі ў складзе УВК на парламенцкіх выбарах 2008 г. (48 чалавек ці 0,07 %).

Такім чынам, як і падчас папярэдніх выбарчых кампаній, асноўнымі арганізатарамі выбараў у краіне выступаюць прадстаўнікі пяці найбуйнейшых праўладных аб'яднанняў: ГА «Белая Русь», ГА «Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі», Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі, Беларускага саюза жанчын і Беларускага грамадскага аб'яднання ветэранаў. Прадстаўнікі гэтых арганізацый маюць 25546 сваіх членаў у складзе УВК, что складае 38,7 % ад агульнай колькасці членаў УВК.

Ад грамадзян шляхам падачы заявы ў склад УВК увайшлі 24106 чалавек, што складае 36,6% ад агульнай колькасці членаў УВК. Для параўнання доля прадстаўнікоў усіх палітычных партый у складзе УВК складае ўсяго 5,2%.

## Суадносіны вылучаных і ўключаных у склад УВК прадстаўнікоў розных суб'ектаў




Вынікі фармавання УВК паказваюць, што адсутнасць заканадаўча замацаваных крытэрыяў для прэтэндэнтаў у склад выбарчых камісій па-ранейшаму спрыяла суб'ектыўнаму падыходу да персанальнага складу камісій. Шырока анансаваныя новыя падыходы, замацаваныя ў пастанове ЦВК №18, на практыцы не паспрыялі большаму палітычнаму плюралізму: як і падчас папярэдніх выбараў пры фарміраванні УВК перавага аддавалася прадстаўнікам праўладных палітычных партый і грамадскіх аб'яднанняў.

Пры аналізе персанальнага складу УВК, там дзе гэта аказалася магчымым, была выяўленая тая ж тэндэнцыя, якая зафіксавана і пры фарміраванні ТВК і АВК: дзеля выканання патрабавання Выбарчага кодэксу аб абмежаванні колькасці дзяржслужачых у камісіі адной трэцяй часткай, а таксама з мэтай імітацыі «шырокага грамадскага прадстаўніцтва», значная частка дзяржслужачых вылучалася ва ўчастковыя камісіі ад грамадскіх аб'яднанняў і шляхам збору подпісаў выбаршчыкаў. Гэтым тлумачыцца нежаданне паведамляць пра месцы працы сябраў УВК: у рэгіянальным друку, на сайтах гарадскіх і раённых выканаўчых камітэтаў былі апублікаваны толькі імя і прозвішча, імя па бацьку сябраў камісіі і інфармацыя пра спосаб вылучэння. Інфармацыя пра месцы працы не рабілася публічнай яшчэ таму, што камісіі ў падаўляючай большасці сфарміраваны і кіраваліся па вытворчым прынцыпе.

Яшчэ адна трывалая тэндэнцыя: падаўляючая большасць асоб, якія былі ўключаны ў УВК, ужо былі ў складзе камісій на мінулых выбарах розных узроўняў.

Для пацверджання дадзеных высноваў прыводзім дадзеныя па складзе шасці ўчастковых выбарчых камісій: трох УВК з Баранавіцкая-Заходняя выбарчая акруга № 5 і трох Баранавіцкая-Усходняя выбарчая акруга № 6. Параўнаўчы аналіз зроблены назіральнікам Сяргее Гоўшам (недакладнасці ва ўказанні пасад магчымы ў межах 1%).

## Параўнальны склад УВК:
## парламенцкія выбары 2016 года — прэзідэнцкія выбары 2015 года — прэзідэнцкія выбары 2010 года.

### *Баранавіцкая-Заходняя выбарчая акруга № 5, участак № 19 (№ 47 — у 2015 г.). Сярэдняя школа №16*

| *№ п/п* | *Прозвішча, імя* | *Кім вылучаны* | *Месца працы* | *Пасада* | *Ці быў у камісіі ў 2015 годзе* | *Ці быў у камісіі ў 2010 годзе* |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Дзяўго Вячаслаў | працоўным калектывам | СШ № 16 г.Баранавічы | **СШ № 16 дырэктар (Старшыня УВК)** | быў | Не. Быў іншы дыр. гэтай СШ |
| 2. | Абрамчык Святлана | ГА «Белая Русь» | СШ № 16 | **псіхолаг (сакратар УВК)** | была | была |
| 3. | Аскальдовіч Алёна | гар. арг. белар. Фонду міру | СШ № 16 | настаўніца | была | была |
| 4. | Валасевіч Ірына | шляхам збору подпісаў | СШ № 16 | **завуч (намеснік старшыні УВК)** | была | не |
| 5. | Варабей Сяргей | шляхам збору подпісаў | СШ № 16 | настаўнік | быў | быў |
| 6. | Карабанава Наталля | ГА «БРСМ» | СШ № 16 | настаўніца | была | не |
| 7. | Швед Наталля | шляхам збору подпісаў | СШ № 16 | настаўніца | была | была |
| 8. | Кажамякіна Святлана | шляхам збору подпісаў | СШ № 16 | настаўніца | была | была |
| 9. | Кірык Святлана | шляхам збору подпісаў | СШ № 16 | настаўніца | была | не |
| 10. | Лагвіненка Святлана | ад перш. арг. Чырвонага Крыжа | СШ № 16 | настаўніца | не | была |
| 11. | Ніканові Тамара | ад перш. прафсаюзнай арг. СШ № 16 | СШ № 16 | настаўніца | не | была |
| 12. | Алесік Ірына | шляхам збору подпісаў | СШ № 16 | настаўніца | была | не |

## *Баранавіцкая-Заходняя выбарчая акруга № 5, участак № 6. Ліцэй № 1*

| № п/п | Прозві-шча, імя | Кім вылучаны | Месца працы | Пасада | Ці быў у камісіі ў 2015 годзе | Ці быў у камісіі ў 2010 годзе |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Бычкоўскі Аляксей | ад прац. калектыву Ліцэя № 1 | ліцэй № 1 | **дырэктар (старшыня УВК)** | быў | быў. |
| 2. | Козіч Вольга | шляхам збору подпісаў | ліцэй № 1 | **завуч (намеснік старшыні УВК)** | была | была |
| 3. | Грыцэвіч Святлана | ГА «Белая Русь» | ліцэй № 1 | **настаўніца (сакратар УВК)** | была | была |
| 4. | Данжурава Раіса | шляхам збору подпісаў | ліцэй № 1 | настаўніца | была | не |
| 5. | Долмат Ала | шляхам збору подпісаў | ліцэй № 1 | настаўніца | была | не |
| 6. | Кагіцін Генадзь | ад перш. арг. Чырвонага Крыжа | ліцэй № 1 | настаўнік | быў | быў |
| 7. | Кадзевіч Таццяна | ад перш. арг. Чырвонага Крыжа | ліцэй № 1 | настаўніца | была | была |
| 8. | Кардаш Сяргей | шляхам збору подпісаў | ліцэй № 1 | настаўнік | быў | не |
| 9. | Лісіна Ма-рына | ад перш. арг. «Бел. саюза жанчын» | ліцэй № 1 | настаўніца | была | была |
| 10. | Мішкевіч Алёна | шляхам збору подпісаў | ліцэй № 1 | лабарантка | была | была |
| 11. | Разанцава Святлана | ад гар. арг. бел. прафс. работнікаў адук. і навукі | ліцэй № 1 | настаўніца | была | была |
| 12. | Стромская Вольга | шляхам збору подпісаў | ліцэй № 1 | настаўніца | была | не |
| 13. | Шастак Аляксандр | ад перш. арг. ГА БРСМ | ліцэй № 1 | настаўнік | не | не |

## *Баранавіцкая-Заходняя выбарчая акруга № 5, участак № 20 (№ 48 — у 2015 годзе). Баранавіцкі аўтаагрэгатны завод*

| № п/п | Прозвішча, імя | Кім вылучаны | Месца працы | Пасада | Ці быў у камісіі ў 2015 годзе | Ці быў у камісіі ў 2010 годзе |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Юркевіч Віталій | ад перш. прафс. арг. Баран. аўтаагрэгатнага завода | БАЗ | **дырэктар (старшыня УВК)** | быў | быў |
| 2. | Парфянкоў Аляксандр | ад прац. калектыву заводакіравання | БАЗ | **старшыня прафкама (намеснік старшыні УВК)** | быў | быў |
| 3. | Крыцкая Інга | ад перш. арг. «Бел. саюза жанчын» | БАЗ | спецыяліст | была | была |
| 4. | Віннічак Віталій | ад перш. арг. «Белая Русь» | БАЗ | нам. дырэктара | быў | быў |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 5. | Жых Аляксандр | ад прац. калект. аддзела забеспячэння | БАЗ | нач. аддз. знешняй каапер. | быў | не |
| 6. | Кусцінская Вольга | ад прац. калект. аддзела галоўнага тэхнолага | БАЗ | інжынер | была | не |
| 7. | Місюн Святлана | ад прац. калект.продаж | БАЗ | бухгалтар | была | не |
| 8. | Петрушкевіч Святлана | ад прац. калект. страй-групы і адм.-гасп. бюро | БАЗ | бухгалтар | была | не |
| 9. | Саліхава Лілія | ад прац. калект. бухгал. | БАЗ | бухгалтар | была | была |
| 10. | Севасцьянчык Аляксандр | ад прац. калект. аховы | БАЗ | ахоўнік | быў | не |
| 11. | Ушакова Валянціна | ад перш. арг. ГА ветэранаў | БАЗ | спецыяліст | была | была |
| 12. | Шаламіцкі Аляксандр | ад прац. калектыву энергацэха | БАЗ | інжынер | не | не |

## *Баранавіцкая-Усходняя выбарчая акруга № 6, участак № 14 (№ 26 у 2015 годзе). Сярэдняя школа № 20*

| *№ п/п* | *Прозвішча, імя* | *Кім вылучаны* | *Месца працы* | *Пасада* | *Ці быў у камісіі ў 2015 годзе* | *Ці быў у камісіі ў 2010 годзе* |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Мішын Міхаіл | ад прац. калектыву СШ 20 | СШ № 20 | **дырэктар (старшыня УВК)** | быў | быў |
| 2. | Кудрук Алёна | ад перш. арг. «Белая Русь» | СШ № 20 | **намеснік дырэктра (намеснік старшыні УВК)** | была | была |
| 3. | Гулько Зоя | ад гар. арг. ГА ветэранаў | СШ № 20 | настаўніца | была | была |
| 4. | Даніловіч Святлана | шляхам збору подпісаў | СШ № 20 | настаўніца | была | была |
| 5. | Дар'іна Ала | ад гар. арг. ГА «Бел. саюз жанчын» | СШ № 20 | настаўніца | была | была |
| 6. | Дзехцяр Ірына | шляхам збору подпісаў | СШ № 20 | настаўніца | была | не |
| 7. | Коршун Ала | шляхам збору подпісаў | СШ № 20 | настаўніца | была | была |
| 8. | Кудрук Ігар | шляхам збору подпісаў | СШ № 20 | настаўнік | быў | быў |
| 9. | Мазоль Алёна | ад гар. арг. таварыст-ва Чырвонага Крыжа | СШ № 20 | настаўніца | была | была |
| 10. | Урбановіч Святлана | шляхам збору подпісаў | СШ № 20 | настаўніца | была | была |
| 11. | Царык Наталля | ад перш. прафс. арг. СШ № 20 | СШ № 20 | настаўніца | была | не |
| 12. | Букрэй Таццяна | шляхам збору подпісаў | СШ № 20 | настаўніца | была | не |
| 13. | Шпак Васілій | шляхам збору подпісаў | СШ № 20 | тэхн. супрац. СШ | быў | быў |

## *Баранавіцкая-Усходняя выбарчая акруга № 6, участак № 28 (№ 40 у 2015 годзе). Занальны цэнтр гігіены і эпідэміялогіі*

| № п/п | Прозвішча, імя | Кім вылучаны | Месца працы | Пасада | Ці быў у камісіі ў 2015 годзе | Ці быў у камісіі ў 2010 годзе |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Плескацэвіч Сяргей | ад прац. калект. аддзела эпідэміялогіі | ЦГіЭ | **дырэктар (старшыня УВК)** | быў | быў |
| 2. | Сырыца Мікалай | ад прац. калект. службы гасп. забеспячэння | ЦГіЭ | **намеснік дырэктара (намеснік старшыні УВК)** | быў | не |
| 3. | Жыгадла Наталля | ад прац. калект. аддз. гігіены і харчавання | ЦГіЭ | спецыяліст | была | была |
| 4. | Калюха Таццяна | ад прац. калект. мікрабіял. лабараторыі | ЦГіЭ | лабарант | была | не |
| 5. | Маслава Жана | ад перш. арг. Чырвонага Крыжа | ЦГіЭ | сакр. гал. урача | была | была |
| 6. | Рубец Анатолій | ГА «Белая Русь» | ЦГіЭ | заг. дэз. аддзела | быў | не |
| 7. | Саўчык Святлана | шляхам збору подпісаў | ЦГіЭ | стаціст | была | была |
| 8. | Шпакава Марына | ад прац. калект. аддзела камунальнай гігіены | ЦГіЭ | пам. доктара-гігіеніста | была | была |
| 9. | Бокач Наталля | шляхам збору подпісаў | ЦГіЭ | спецыяліст | не | не |
| 10. | Дзерман Дар'я | ад гар. арг. БРСМ | ЦГіЭ | спецыяліст | не | не |
| 11. | Петрашэвіч Сяргей | ад перш. прафс. арганізацыі ЦГіЭ | ЦГіЭ | спецыяліст | не | не |
| 12. | Усюкевіч Наталля | ад прац. кал.аддзела прафдэзінфекцыі | ЦГіЭ | спецыяліст | не | не |

## *Баранавіцкая-Усходняя выбарчая акруга № 6, участак № 12 (№ 24 у 2015 годзе). Сярэдняя школа № 17*

| № п/п | Прозвішча, імя | Кім вылучаны | Месца працы | Пасада | Ці быў у камісіі ў 2015 годзе | Ці быў у камісіі ў 2010 годзе |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Марозава Алёна | ад прац. калектыву СШ № 17 | СШ № 17 | **дырэктар (старшыня УВК)** | была | была |
| 2. | Шода Сяргей | шляхам збору подпісаў | СШ № 17 | нам. дырэктара | быў | быў |
| 3. | Карпава Галіна | ад гар. арг. прафс. раб. адукацыі і навукі | СШ № 17 | лабарантка | была | была |
| 4. | Валынец Антон | шляхам збору подпісаў | СШ № 17 | настаўнік | быў | не |
| 5. | Дзям'янаў Сяргей | шляхам збору подпісаў | СШ № 17 | настаўнік | быў | быў |
| 6. | Барбарыч Вольга | ад гар. арг. ГА «Белая Русь» | СШ № 17 | нам. дырэктара | была | не |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 7. | Люхта Святлана | ад гар. арг. ГА «Саюз жанчын» | СШ № 17 | настаўніца | была | не |
| 8. | Лукашэвіч Віталій | шляхам збору подпісаў | СШ № 17 | настаўнік | быў | быў |
| 9. | Морхат Наталля | ад гар. арг. бел. Фонду міру | СШ № 17 | настаўнік | была | была |
| 10. | Новік Таццяна | шляхам збору подпісаў | СШ № 17 | настаўніца | была | была |
| 11. | Рогацень Жана | шляхам збору подпісаў | СШ № 17 | настаўніца | была | не |
| 12. | Сабалеўскі Віктар | шляхам збору подпісаў | СШ № 17 | настаўнік | быў | быў |
| 13. | Шкурко Святлана | ад перш. арг. тавар. «Чырвонага Крыжа» | СШ № 17 | настаўніца | была | была |

Па выніках фармавання УКВ можна зрабіць выснову, што, нягледзячы на пэўныя змены ў працэсе іх фарміравання, на выніку гэта не паўплывала. З пункту гледжання нацыянальнага заканадаўства фармальна ўчастковыя камісіі сфарміраваны без значных парушэнняў, але лічыць іх бесстароннімі і незалежнымі немагчыма.

# ВЫЛУЧЭННЕ І РЭГІСТРАЦЫЯ КАНДЫДАТАЎ

У адпаведнасці з Выбарчым кодэксам і Каляндарным планам, вылучэнне кандыдатаў у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў пачынаецца за 70 дзён і заканчваецца за 40 дзён да выбараў (з 3 ліпеня па 1 жніўня ўключна); рэгістрацыя кандыдатаў у дэпутаты пачынаецца за 40 дзён і заканчваецца за 30 дзён да выбараў (з 2 па 11 жніўня).

## 1. Прававая рэгламентацыя

Для рэгістрацыі кандыдата ў АВК прадстаўляюцца дакументы, вызначаныя ў арт. 66 ВК, сярод якіх: заява аб згодзе балатавацца, біяграфічныя дадзеныя, копіі дакументаў, якія пацвярджаюць звесткі пра адукацыю і месца працы, дэкларацыя аб даходах і маёмасці асобы.

У адпаведнасці са зменамі ў ВК, унесенымі ў 2013 годзе, дадаткова павінны быць прадстаўлены звесткі аб судзімасці, калі асоба, якая вылучана кандыдатам у дэпутаты, раней мела судзімасць. Пры вылучэнні кандыдата ў дэпутаты Палаты прадстаўнікоў шляхам збору подпісаў выбаршчыкаў для рэгістрацыі дадаткова прадстаўляюцца таксама падпісныя лісты. Паводле дапаўненняў, унесеных у ВК у 2013 годзе, дакументы на рэгістрацыю могуць быць пададзены як самім патэнцыйным кандыдатам, так і яго прадстаўніком на падставе даверанасці.

Па выніках праверкі пададзеных дакументаў і дакладнасці подпісаў выбаршчыкаў АВК прымае рашэнне аб рэгістрацыі кандыдатаў і ў двухдзённы тэрмін пасля рэгістрацыі выдае кандыдатам адпаведныя пасведчанні.

У 2013 годзе ВК дапоўнены арт. 68-1, які прадугледзеў выпадкі, калі АВК павінна, а калі — мае права адмовіць у рэгістрацыі кандыдатам у дэпутаты.

АВК адмаўляе ў рэгістрацыі кандыдата ў выпадку: неадпаведнасці асобы тым патрабаванням, якія прад'яўляе ВК да кандыдата; наяўнасці судзімасці; невыканання прадугледжаных ВК патрабаванняў да вылучэння кандыдата; непрадстаўлення аднаго або некалькіх дакументаў, неабходных для рэгістрацыі кандыдата; недастатковай для рэгістрацыі кандыдата колькасці сапраўдных подпісаў выбарцаў, сабраных у падтрымку вылучэння кандыдатам; выкарыстання ў інтарэсах атрымання грашовых сродкаў ці іншай матэрыяльнай дапамогі замежных дзяржаў, арганізацый або замежных грамадзян, міжнародных арганізацый; наяўнасці ў падпісных лістах па вылучэнні кандыдата ў дэпутаты больш за 15 працэнтаў несапраўдных подпісаў ад агульнай колькасці правераных подпісаў выбарцаў; у іншых выпадках неадпаведнасці парадку вылучэння патрабаванняў ВК РБ.

АВК мае права адмовіць у рэгістрацыі кандыдата ў выпадку: прадстаўлення ў дэкларацыі аб даходах і маёмасці неадпаведных звестак, якія маюць істотны характар; выкарыстання пераваг службовага становішча ў інтарэсах абрання; удзелу адміністрацыі арганізацыі ў зборы подпісаў выбарцаў, прымусу ў працэсе збору подпісаў і ўзнагароджання выбарцаў за ўнясенне подпісу; паўторнага парушэння патэнцыйным кандыдатам ці яго ініцыятыўнай групай патрабаванняў выбарчага заканадаўства, калі раней ім было вынесена папярэджанне.

Змены 2013 года закранулі і працэдуру абскарджання рашэнняў аб адмове ў рэгістрацыі кандыдатам у дэпутаты. Цяпер рашэнне АВК аб адмове ў рэгістрацыі абскарджваецца ў вышэйшую ВК, а яе рашэнне — у абласны (Мінскі гарадскі) суд. (Раней рашэнне АВК абскарджвалася ў Цэнтральную камісію, а яе рашэнне — у Вярхоўны Суд).

## 2. Рэгістрацыя ініцыятыўных груп

Згодна з артыкулам 65 ВК адным са спосабаў вылучэння кандыдатаў у дэпутаты з'яўляецца збор подпісаў выбаршчыкаў, які ажыццяўляецца ініцыятыўнай групай у колькасці не менш за 10 чалавек.

### 2.1. Прававая база

Для рэгістрацыі ініцыятыўнай групы не пазней чым за 65 дзён да выбараў асоба, якая вылучаецца кандыдатам у дэпутаты, павінна падаць у адпаведную акруговую выбарчую камісію пісь-

мовую заяву аб рэгістрацыі ініцыятыўнай групы, копіі старонак пашпарта, што пацвярджаюць беларускае грамадзянства і рэгістрацыю на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, спіс сябраў ініцыятыўнай групы.

Акруговая выбарчая камісія разглядае заяву ў пяцідзённы тэрмін з дня яе паступлення, рэгіструе ініцыятыўную групу і выдае яе сябрам адпаведныя пасведчанні і падпісныя лісты для збору подпісаў выбаршчыкаў у падтрымку асобы, якая прапануецца для вылучэння кандыдатам у дэпутаты. У рэгістрацыі адмаўляецца ў выпадку парушэння патрабаванняў ВК.

Рашэнне акруговай выбарчай камісіі аб адмове ў рэгістрацыі ініцыятыўнай групы можа быць абскарджана асобай, якая вылучаецца кандыдатам у дэпутаты, у тэрытарыяльную выбарчую камісію ў трохдзённы тэрмін з дня яго прыняцця. Рашэнне тэрытарыяльнай выбарчай камісіі ў трохдзённы тэрмін можа быць абскарджана ў абласны (Мінскі гарадскі) суд. Суд разглядае скаргу ў трохдзённы тэрмін, яго рашэнне з'яўляецца канчатковым.

## 2.2. Працэс рэгістрацыі ініцыятыўных груп

Працэс рэгістрацыі ініцыятыўных груп кандыдатаў у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў праходзіў больш дэмакратычна, чым падчас папярэдняй выбарчай кампаніі. Аднак зафіксаваны асобныя выпадкі нездавальняючай працы АВК па прыёме дакументаў і перашкод з боку ўладаў у дачыненні да сябраў ініцыятыўных груп. Такія факты фіксаваліся ў асноўным датычна апазіцыйных кандыдатаў.

У першыя дні прыёму дакументаў назіральнікі кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары» зафіксавалі асобныя выпадкі адсутнасці сябраў камісій на сваіх працоўных месцах у вызначаны час, што перашкаджала падачы дакументаў. У г. Баранавічы 29 чэрвеня прэтэндэнт у кандыдаты Таццяна Малашчанка не адразу змагла падаць дакументы ў акруговую выбарчую камісію Баранавіцкай-Заходняй выбарчай акругі № 5.

У г. Шклоў падобная сітуацыя адбылася 30 чэрвеня ў АВК Шклоўскай выбарчай акругі № 90. Актывіст «Гавары праўду» з г. Бялынічы Пётр Шымбалёў здолеў падаць дакументы толькі пасля доўгага пошуку сябраў камісіі ў кабінетах мясцовага райвыканкама. Старшыня камісіі Аляксандр Гурынаў патлумачыў гэту сітуацыю менавіта пачаткам працы, пры тым што першае пасяджэнне АВК адбылося толькі напярэдадні. Аналагічным чынам падавала дакументы ў АВК Слуцкай выбарчай акругі №67 Аліна Нагорная: сябры камісіі з'явіліся на месцы і прынялі дакументы толькі пасля яе тэлефанавання ў ЦВК.

Член акруговай камісіі Слонімскай выбарчай акругі № 58 Генадзь Назаранка адмаўляўся прымаць дакументы на рэгістрацыю ініцыятыўнай групы кандыдата ў дэпутаты Івана Шэгі. Падставай для адмовы прыняць дакументы сябра АВК назваў тое, што сярод сяброў ініцыятыўнай групы Івана Шэгі ёсць і тыя, хто жыве не ў Слонімскім раёне, што нібыта не адпавядае патрабаванням закона. Іван Шэга папрасіў Генадзя Назаранку высветліць спрэчнае для яго пытанне ў старшыні камісіі Алены Мачалінай. Старшыня камісіі пацвердзіла, што Іван Шэга мае рацыю, і дакументы на рэгістрацыю ініцыятыўнай групы неабходна прыняць. Але спадар Назаранка сказаў, што неабходна, каб былі пры прыёме дакументаў пашпарты ўсіх сяброў ініцыятыўнай групы. Іван Шэга зноў зрабіў Назаранку заўвагу адносна яго некампетэнтнасці і сказаў, што іх пашпартоў не трэба, а толькі прэтэндэнта ў кандыдаты. І толькі пасля ўсіх гэтых недарэчнасцяў, звязаных з некампетэнтнасцю члена камісіі, дакументы на рэгістрацыю прынялі.

Толькі з другога разу змог падаць дакументы на рэгістрацыю ініцыятыўнай групы сябра аргкамітэта «Руху за незалежнасць» Алесь Мех з Кобрына. Каб даведацца, калі адбудзецца паседжанне АВК па рэгістрацыі ініцыятыўных груп, 4 ліпеня ён доўга спрабаваў датэлефанавацца да акруговай камісіі, але ніхто трубку не падымаў. Сакратарка райвыканкама параіла патэлефанаваць дзяжурнай па камісіі Ганне Брынчук на працоўнае месца. Г.Брынчук — супрацоўніца арганізацыйнага аддзела райвыканкама. Толькі тады Мех змог даведацца, што паседжанне па рэгістрацыі ініцыятыўных груп прызначана на 5 ліпеня. Як стала вядома на паседжанні, дакументы сябраў ініцыятыўнай групы Алеся Меха праходзілі праверку праз пашпартны стол. І толькі 5 ліпеня адтуль у выбарчую камісію прыйшоў адказ, што ўсё ў парадку, усе сябры групы з'яўляюцца грамадзянамі Беларусі.

На сябраў некаторых ініцыятыўных груп аказваўся ціск. Марына Хоміч, якая вылучалася кандыдатам ад партыі БХД па Кальварыйскай выбарчай акрузе №104 (старшыня — Зінаіда Жаголкіна) у г. Мінску, паведаміла, што з камісіі тэлефанавалі ўсім 39 сябрам яе ініцыятыўнай групы і распытвалі аб сур'ёзнасці іх намераў удзелу ў зборы подпісаў.

У г. Лунінцы Брэсцкай вобласці прыхільнікі прэтэндэнта ў кандыдаты Леаніда Дубаносава сутыкнуліся з запалохваннем: дваіх маладых людзей тэрмінова выклікалі ў ваенкамат, жанчыне пагражалі забраць дзяцей, вымусіўшы яе выйсці са складу ініцыятыўнай групы.

У г. Светлагорску грамадскі актывіст Юрый Ляшэнка паведаміў, што пасля рэгістрацыі сваёй ініцыятыўнай групы атрымаў пазоў аб высяленні з дома для часовага пражывання. Акруговая выбарчая камісія Старавіленскай выбарчай акругі №105 (старшыня — Мікалай Буры) адмовіла ў рэгістрацыі ініцыятыўнай групы сябра АГП Мікалая Казлова на той падставе, што ў спісе ініцыятыўнай групы былі выяўлены неадпаведнасці. Мікалай Казлоў абскардзіў адмову АВК у Мінскую гарадскую выбарчую камісію. Было прынята рашэнне адмяніць рашэнне АВК Старавіленскай выбарчай акругі № 105 і зарэгістраваць яго ініцыятыўную групу, выключыўшы з яе членаў з «некарэктнымі дадзенымі».

Таксама АВК Старавіленскай выбарчай акругі №105 адмовіла ў рэгістрацыі ініцыятыўнай групы Мікалая Статкевіча. Фармальнай падставай паслужыла наяўнасць ў прэтэндэнта ў кандыдаты непагашанай судзімасці. У сваім рашэнні АВК спаслалася на норму ч. 7 арт. 60 ВК, паводле якой кандыдатамі ў дэпутаты не могуць быць вылучаны грамадзяне, што не маюць права ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь займаць пасады ў дзяржаўных органах і іншых дзяржаўных арганізацыях у сувязі з наяўнасцю судзімасці. Варта ўзгадаць, што пасля вызвалення палітзняволеных іх рэабілітацыя застаецца адным з патрабаваннем ЕС да Беларусі.

У Крычаве сябру Камуністычнай партыі Беларусі Уладзіміру Ушакову было адмоўлена ў рэгістрацыі ініцыятыўнай групы. Уладзімір Ушакоў сцвярджае, што акруговая камісія спачатку дазволіла яму падаць спіс чальцоў сваёй ініцыятыўнай групы, напісаны ад рукі, а пазней, незадоўга да сканчэння тэрміну рэгістрацыі, намеснік старшыні акруговай камісіі, начальнік арганізацыйна-кадравага аддзела Крычаўскага райвыканкама Міхаіл Мяшкура запатрабаваў яго прадаставіць надрукаваны спіс. Міхаіл Мяшкура таксама абтэлефаноўваў чальцоў ініцыятыўнай групы і цiснуў на іх, кажучы, што яны ўжо пажылыя людзі, і не змогуць збіраць подпісы. Уладзімір Ушакоў упэўнены, што начальнік арганізацыйна-кадравага аддзела Крычаўскага райвыканкама персанальна аказваў ціск на некалькіх чальцоў яго ініцыятыўнай групы з мэтай дабіцца іх адмовы ад удзелу ў ёй. Па меркаванні У. Ушакова, адмова ў рэгістрацыі ягонай ініцыятыўнай групы была звязана з тым, што акруговая камісія мела ўказанне зменшыць колькасць прэтэндэнтаў у кандыдаты па Крычаўскай акрузе №83, каб знізіць канкурэнцыю старшыні раённага Савета дэпутатаў Таццяны Марачкавай, якая вылучалася па дадзенай акрузе.

Падчас дадзенага этапу выбараў зафіксаваны выпадкі нетранспарэнтнай працы выбарчых камісій. Так, 5 ліпеня назіральнік Алег Мацкевіч прысутнічаў на чарговым паседжанні АВК Барысаўскай сельскай выбарчай акругі № 63. Пасля разгляду запланаваных пытанняў старшыня АВК заявіў: «Паседжанне скончанае, усе свабодны». А пасля секунднай паўзы: «Сябраў камісіі прашу застацца, будзем вырашаць арганізацыйныя пытанні». На паседжанні, акрамя сябраў камісіі, прысутнічалі два назіральнікі — Алег Мацкевіч і назіральнік ад «Белай Русі». Алег Мацкевіч не стаў спрачацца і пакінуў памяшканне, але сваю пазіцыю адносна таго, што з'яўляецца «паседжаннем», на якім гарантавана можа прысутнічаць назіральнік, выклаў у сваім звароце ў акруговую камісію.

Праваабаронца адзначыў: «У адпаведнасці з Практычным дапаможнікам, зацверджаным пастановай Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў ад 17 траўня 2016 г. № 9, асноўнай арганізацыйнай формай працы тэрытарыяльнай, акруговай камісіі з'яўляецца паседжанне. На паседжаннях маюць права прысутнічаць назіральнікі. Лічу, што калегіяльная праца (пры наяўнасці кворуму і вышэй) акруговай выбарчай камісіі Барысаўскай сельскай выбарчай акругі № 63 па вырашэнні пытанняў, звязаных з выбарчым працэсам, па-за рамкамі паседжання, як асноўнай арганізацыйнай формы, супярэчыць прынцыпу адкрытасці і галоснасці выбарчага працэсу, а таксама парушае правы акрэдытаваных пры камісіі назіральнікаў».

Старшыня акруговай камісіі П. В. Навіцкі ў адказе на зварот Алега Мацкевіча напісаў, што «5 ліпеня 2016 года на паседжанні акруговай камісіі пытанні, запланаваныя для разгляду, былі разгледжаны ў поўным аб'ёме і пры назіральніках, акрэдытаваных на момант правядзення паседжання. Згодна Практычнаму дапаможніку, зацверджанаму пастановай Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў, старшыня акруговай камісіі ажыццяўляе агульнае кіраўніцтва дзейнасцю камісіі і ў праве вызначаць форму працы камісіі.

Выходзячы з вышэйпададзенага, інструкцыйная нарада, праведзеная пасля паседжання камісіі, не з'яўляецца парушэннем артыкула 13 Выбарчага кодэксу Рэспублікі Беларусь у частцы незабеспячэння адкрытасці і галоснасці пры падрыхтоўцы і правядзенні выбараў». Такую ж пазіцыю заняла і Мінская абласная камісія, куды А.Мацкевіч таксама накіраваў скаргу *(Дакумент 1)*.

## 2.3. Вынікі рэгістрацыі ініцыятыўных груп

Паводле дадзеных ЦВК, усяго ў акруговыя выбарчыя камісіі паступіла 479 заяў, 3 заявы былі адкліканы *(Дадатак 7)*.

Зарэгістраваны 446 ініцыятыўных груп. 30 групам было адмоўлена ў рэгістрацыі, што складае 6,2%. Пры гэтым большасць адмоў зафіксаваная ў Мінску: 25 груп са 139 заяўленых, што складае 18%.

| *Год правядзення выбараў* | *Пададзена заявак* | *Адмоўлена ў рэгістрацыі* | *Зарэгістравана* | *% адмовы* |
|---|---|---|---|---|
| **2008** | 455 | 23 | 423 | 5% |
| **2012** | 440 | 85 | 354 | 19,3% |
| **2016** | 479 | 30 | 446 | 6,2% |

Працэнт адмоў у рэгістрацыі ініцыятыўных груп прыклана суадносіцца з працэнтам падчас мінулых кампаній па выбарах дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў.

Высокая колькасць адмоў у рэгістрацыі ініцыятыўных груп падчас выбараў 2012 года тлумачыцца тым, што групы Мікалая Статкевіча і Алеся Міхалевіча спрабавалі зарэгістравацца адразу ў некалькіх АВК, што не прадугледжана ВК.

З агульнай колькасці асоб, чые ініцыятыўныя групы былі зарэгістраваны, членамі партый з'яўляюцца 160 чалавекі (33%). Больш за ўсё зарэгістравана ініцыятыўных груп прадстаўнікоў Аб'яднанай грамадзянскай партыі — 39 (24% ад колькасці партыйных вылучэнцаў шляхам збору подпісаў), Партыі БНФ — 29 (18%), Беларускай партыі левых «Справядлівы свет» 23 (14%), Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада) — 16 (ці 10%).

# 3. Збор подпісаў

Згодна з патрабаваннямі Выбарчага кодэкса і Каляндарным планам, збор подпісаў за вылучэнне кандыдатаў у дэпутаты ажыццяўляўся з моманту рэгістрацыі ініцыятыўных груп да 1 жніўня 2016 года ўключна.

## 3.1. Прававая база

Артыкул 65 Выбарчага кодэкса прадугледжвае, што асобу, якая прапануецца для вылучэння кандыдатам у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў па выбарчай акрузе групай выбаршчыкаў, павінны падтрымаць не менш за 1000 выбаршчыкаў, якія пражываюць на тэрыторыі дадзенай выбарчай акругі.

У падпісных лістах павінны быць подпісы выбаршчыкаў, якія пражываюць на тэрыторыі выбарчай акругі.

У арт. 61 ВК сказана, што ў падпісным лісце ўказваюцца прозвішча, імя і імя па бацьку выбаршчыка, дата нараджэння, месца жыхарства, серыя і нумар пашпарта грамадзяніна Рэспублікі Беларусь або рэквізіты іншага дакумента, вызначанага Цэнтральнай камісіяй. Звесткі пра выбаршчыка ўносяцца ў падпісны ліст рукапісным спосабам. Выбаршчык уласнаручна ставіць у падпісным лісце дату подпісу і распісваецца. Подпісы нумаруюцца.

Удзел адміністрацыі арганізацыі ў зборы подпісаў, роўна як і прымус у працэсе збору подпісаў і ўзнагарода выбаршчыкаў за ўнясенне подпісу, не дапускаюцца. Парушэнне гэтых патрабаванняў можа быць падставай для адмовы ў рэгістрацыі альбо адмены рашэння аб рэгістрацыі кандыдата.

Збор подпісаў выбаршчыкаў можа ажыццяўляцца ў форме пікетавання. Атрыманне дазволу на правядзенне пікетавання для ўказаных мэтаў не патрабуецца, калі яно праводзіцца ў месцах, не забароненых мясцовымі выканаўчымі і распарадчымі органамі.

Падпісны ліст завяраецца членам ініцыятыўнай групы, якія збіралі подпісы. Сябра ініцыятыўнай групы пры завярэнні падпіснога ліста ставіць подпіс і дату яе ўнясення, а таксама ўказвае прозвішча і ініцыялы.

## 3.2. Вызначэнне месцаў, забароненых для збору подпісаў

У межах падрыхтоўкі да этапа збору подпісаў мясцовыя ўлады прынялі рашэнні пра месцы, забароненыя для правядзення пікетаў па зборы подпісаў. Згодна з Каляндарным планам, дадзены працэс завяршыўся да 27 чэрвеня.

Колькасць месцаў, у якіх забаронены збор подпісаў, у многіх гарадах скарацілася ў параўнанні з папярэднімі выбарамі. У многіх рэгіёнах не было забароны збору подпісаў на тэрыторыі ўстаноў адукацыі, медычных устаноў, устаноў культуры і спорту, сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва і іншае.

Напрыклад, у параўнанні з парламенцкімі выбарамі 2012 года, у г. Гродна з ліку месцаў, дзе забаронены збор подпісаў, выключаныя тэрыторыі арганізацый, якія забяспечваюць абараназдольнасць, бяспеку дзяржавы і жыццядзейнасць насельніцтва (грамадскі транспарт, прадпрыемствы вода-, цепла- і энергазабеспячэння і інш.). Выключана вельмі недакладная фармулёўка пра «месцы, што ўяўляюць небяспеку для жыцця і здароўя грамадзян, перашкаджаюць працы прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый і руху транспарту».

Падобная сітуацыя склалася ў Магілёве: гарвыканкам зняў забарону на пікетаванне для збору подпісаў на тэрыторыі ўстановаў фізкультуры і спорту, сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва, на адлегласці меней за 50 метраў ад прадпрыемстваў з колькасцю працоўных болей за 300 чалавек, на адлегласці меней за 200 метраў ад будынкаў і ўстаноў, у якіх знаходзяцца арганізацыі, на якія ўскладзены функцыі рэдакцый тэлевізійных і радыёвяшчальных СМІ.

У Салігорску першапачатковым рашэннем спачатку быў уведзены, але пазней асобным рашэннем скарочаны спіс забароненых месцаў: у прыватнасці, адменена забарона на збор подпісаў каля помнікаў архітэктуры, гісторыі і культуры. Знікла абсурдная забарона на збор подпісаў на пешаходных пераходах, уведзена больш дакладнае вызначэнне аб'ектаў чыгуначнага і аўтамабільнага транспарту. Улічана крытыка мясцовых актывістаў, якія ўказвалі на адсутнасць дакладнага пераліку тэрыторый канкрэтных арганізацый, што раней стварала небяспеку канфліктных сітуацый пры зборы подпісаў ініцыятыўнымі групамі кандыдатаў.

У Маладзечна з пераліку аб'ектаў, каля якіх забаронена праводзіць пікеты, выключаны грамадскі транспарт, прадпрыемствы вода-, цепла- і энергазабеспячэння, установы аховы здароўя і адукацыі.

Слуцкія ўлады дазволілі збор подпісаў каля будынкаў сельскіх выканкамаў, а забарону на збор подпісаў каля ўстановаў аховы здароўя пакінулі толькі для Слуцкай цэнтральнай раённай бальніцы.

У Ваўкавыскім раёне пікеты можна было праводзіць усюды і нават побач з будынкамі выканаўчых і распарадчых органаў улады, на тэрыторыі ўстаноў адукацыі і медыцыны, а таксама на вакзалах, чаго нельга было рабіць у іншых райцэнтрах Гродзеншчыны. У Ваўкавыску пікеты нельга было праводзіць толькі на пешаходным мосце праз чыгунку ў раёне станцыі Ваўкавыск-горад, на пуцеправодах па вуліцах Ракасоўскага, Жолудзева, 129 Арлоўскай дывізіі, што лічыцца небяспечным для жыцця і здароўя людзей.

На Віцебшчыне ў розных раёнах умовы для зборшчыкаў подпісаў былі няроўнымі. Напрыклад, на сайтах Докшыцкага, Бешанковіцкага, Чашніцкага, Полацкага райвыканкамаў паведамлялася, што адзіным абмежаваннем для ўдзельнікаў пікетаў будзе адлегласць 20 метраў ад будынкаў райвыканкама, суду, пракуратуры, міліцыі. На Пастаўшчыне, Гарадоччыне і Лепельшчыне зборшчыкам подпісаў нельга набліжацца бліжэй як на 20 метраў яшчэ і да ваенкаматаў, райаддзелаў МНС, дэпартаментаў аховы, установаў адукацыі і дзіцячых дашкольных установаў, прадпрыемстваў вода- цепла- і энергазабеспячэння, «арганізацый аховы здароўя» (у Лепельскім раёне), «бальніц і тэрыторыі вайсковай часткі 94017» (у Гарадоцкім раёне). У Шаркоўшчынскім раёне зборшчыкам подпісаў таксама нельга было ладзіць пікеты бліжэй чым у 20-ці метрах ад пералічаных вышэй адміністрацыйных будынкаў. Апрача гэтага, збор подпісаў забараняўся «на тэрыторыі цэнтральнага сквера, які прылягае да плошчы Леніна». У Талачынскім і Аршанскім райвыканкамах палічылі, што 20 метраў — гэта занадта мала. І вызначылі, што да будынкаў выканаўчых і распарадчых органаў, судоў, пракуратур, ваенкаматаў, аддзелаў МНС мусіць быць адлегласць, большая за 50 метраў. У Талачынскім раёне ў пералік аб'ектаў, да якіх можна набліз

жацца толькі на гэтую адлегласць, дадаліся яшчэ «аб'екты чыгуначнага і аўтамабільнага транспарту», «чыгуначныя і аўтобусныя станцыі», «тэрыторыі арганізацый і прадпрыемстваў». Самыя спрыяльныя ўмовы для збору подпісаў на пікетах у Віцебскай вобласці зацвердзіў Міёрскі райвыканкам. Згодна з рашэннем Міёрскага райвыканкама, пікеты па зборы подпісаў нельга было ладзіць толькі на тэрыторыях «установаў адукацыі» і «арганізацый аховы здароўя».

У Мінску ў параўнанні з мінулымі парламенцкімі выбарамі (2012 год) абмежавальны спіс дапоўніўся некалькімі новымі аб'ектамі. Так, пікетаванне па зборы подпісаў нельга было праводзіць «у падземных пешаходных пераходах, на тэрыторыі плошчы Якуба Коласа, плошчы Дзяржаўнага сцяга». Аднак, на гэты раз у спіс забароненых месцаў не патрапілі тэрыторыі арганізацый, якія забяспечваюць жыццядзейнасць насельніцтва (грамадскі транспарт, прадпрыемства водна-, цепла- і энергазабеспячэння, установы дашкольнай і агульнай сярэдняй адукацыі, арганізацыі аховы здароўя). Не было абмежаванняў і па адлегласці пікетаў ад тэрыторыяў ядзерных установак, аб'ектаў, прызначаных для вытворчасці або захоўвання радыёактыўных рэчываў і матэрыялаў, адпрацаваўшых ядзерных матэрыялаў і (або) эксплуатацыйных радыёактыўных адходаў у тым ліку захоўвання ядзерных матэрыялаў, а таксама ад будынкаў, збудаванняў, у якіх знаходзяцца арганізацыі з функцыяй рэдакцый тэлевізійных і радыёвяшчальных сродкаў масавай інфармацыі, а таксама радыётэлевізійных і радыёперадаючых станцый.

Тым не менш, у многіх гарадах умовы засталіся ранейшымі, шмат дзе забаронена збіраць подпісы выбаршчыкаў на цэнтральных плошчах (Мінск, Віцебск, Бабруйск, Салігорск, Слуцк, Маладзечна). У некаторых рэгіёнах, як, напрыклад, у Бялынічах, за аснову было ўзята рашэнне Бялыніцкага райвыканкама, якое вызначала месцы, забароненыя для правядзення пікетавання пры зборы подпісаў за прэтэндэнтаў у кандыдаты ў прэзідэнты падчас прэзідэнцкіх выбараў 2015 года.

У Бабруйску, калі параўноваць з выбарамі ў ПП НС 2012-га года, месцаў для пікетаванняў з мэтай збору подпісаў стала болей. Напрыклад, тады пад забарону траплялі тэрыторыі, прылеглыя да рэдакцый СМІ, прадпрыемстваў вода, цепла, і энергазабеспячэння, дзіцячых садкоў, установаў агульнай сярэдняй адукацыі, арганізацый аховы здароўя, забарона адносна якіх была знята падчас кампаніі-2016. Але пад забарону трапілі, акрамя плошчаў Леніна і Перамогі, падземны пешаходны пераход (у Бабруйску такі адзін, каля самага буйнога прадыпрыемства ў горадзе — ААТ «Белшына»), таксама пікетоўшчыкам забаранілі набліжацца (на адлегласці менш за 50 метраў) да аб'ектаў чыгуначнага і аўтамабільнага траспарту (вакзалы, станцыі, пасадачныя платформы), будынкаў прадстаўнічых, выканаўчых і распарадчых органаў, судоў, органаў пракуратуры, тэрыторый вайсковых частак.

Згодна з рашэннямі Глускага, Дрыбінскага, Клічаўскага, Касцюковіцкага і Чэрыкаўскага райвыканкамаў, забараняўся збор подпісаў выбаршчыкаў на тэрыторыі ўстаноў адукацыі, культуры, аховы здароўя, фізічнай культуры і спорта; на тэрыторыях чыгуначных і аўтавакзалаў; на адлегласці менш 50 метраў ад будынкаў мясцовых прадстаўнічых, выканаўчых і распарадчых органаў і іх структурных падраздзяленняў, органаў пракуратуры, суда, тэрыторый арганізацый, якія забяспечваць абароназдольнасць, бяспеку дзяржавы і жыццядзейнасць насельніцтва. Дрыбінскі райвыканкам дадаткова да гэтага забараніў збор подпісаў на тэрыторыях аб'ектаў гандлю і бытавога абслугоўвання насельніцтва, згодна рашэння Клічаўскага райвыканкама забаранялася збіраць подпісы шляхам пікетавання ў цэнтральнай частцы горада і ў памяшканнях крам і прадпрыемстваў грамадскага харчавання ўсіх форм уласнасці.

Варта адзначыць, што ў многіх рэгіёнах рашэнні мясцовых выканаўчых органаў аб месцах, забароненых для збору подпісаў, былі праз некаторы час пасля іх вынясення зменены ў бок пашырэння колькасці такіх месцаў. Так адбылося, напрыклад, з рашэннем Магілёўскага гарвыканкама, Дрыбінскага, Бялыніцкага, Слуцкага, Салігорскага райвыканкамаў і інш.

## 3.3. Умовы збору подпісаў

Ініцыятыўныя групы выбаршчыкаў па вылучэнні кандыдатаў у дэпутаты ажыццяўлялі збор подпісаў шляхам правядзення вулічных пікетаў і абыходу выбаршчыкаў па месцы іх жыхарства. Прэтэндэнты ў кандыдаты ад дэмакратычных сіл аддавалі перавагу вулічным пікетам, паколькі для іх гэта не толькі сродак збору подпісаў, але і магчымасць заявіць пра сябе ва ўмовах адсутнасці доступу да дзяржаўных СМІ.

Пры зборы подпісаў фіксаваліся выпадкі няроўных умоў для збору подпісаў ініцыятыўнымі групамі прэтэндэнтаў у кандыдаты ў залежнасці ад іх лаяльнасці да ўладаў.

### 3.3.1. Выкарыстанне адміністрацыйнага рэсурсу

Падчас збору подпісаў адзначаны выпадкі выкарыстання адміністрацыйнага рэсурсу, але не такія маштабныя, як у папярэднія выбарчыя кампаніі.

У Светлагорску кіраўнікі прадпрыемстваў раілі сваім падначаленым ставіць подпісы ў падтрымку дзеючага дэпутата Палаты прадстаўнікоў па Светлагорскай ВА № 46, старшыні раённай арганізацыі ГА «Беларускі саюз жанчын» Галіны Філіповіч і ігнараваць іншых прэтэндэнтаў. Подпісы за Філіповіч збіралі на ААТ «Светлагорскі цэлюлозна-картонны камбінат», ААТ «Светлагорскхімвалакно», ААТ «Светлагорскі завод ЖБВК».

У Слуцку на прадпрыемстве КУП «Слуцкае ЖКГ» зафіксаваныя выпадкі прымусовага збору подпісаў за вылучэнне рэдактара газеты «Слуцкі край» Валянціны Ражанец.

У Маладзечна ініцыятыўная група па вылучэнні прэтэндэнта на кандыдата ў дэпутаты, намесніка старшыні райвыканкама па пытаннях сацыяльнай сферы і ідэалагічнай работы Людмілы Кананові таксама задзейнічала адміністрацыйны рэсурс: на прадпрыемствах бюджэтнай сферы подпісы збіраліся ў працоўны час.

У Оршы педагогаў адклікалі з чарговага адпачынку і накіроўвалі збіраць подпісы ў падтрымку дзеючага дэпутата Палаты прадстаўнікоў па Аршанскай гарадской ВА № 26 Людмілы Дабрынінай. Такая ж сітуацыя ў г. Гродна: настаўнікі збіралі подпісы ў падтрымку дырэктара СШ №13 Ліліі Кірак, якая вылучалася прэтэндэнтам у кандыдаты па Гродзенскай-Цэнтральнай ВА № 51.

У Полацку наведвальніку паліклінікі непасрэдна падчас прыёму ў доктара прапанавалі паставіць подпіс за вылучэнне дзеючага дэпутата Палаты прадстаўнікоў па Полацкай гарадской ВА № 28 Наталлі Гуйвік. На прыёме ў кабінеце знаходзілася трэцяя асоба — таксама медсястра — з падпісным аркушам. Грамадзянін паскардзіўся на гэты выпадак у ЦВК. У адказе Цэнтральная камісія адзначыла, што парушэння выбарчага заканадаўства не зафіксавана: сябра ініцыятыўнай групы зайшла на працу ў свой вольны час, а будынак медычнай установы не ўваходзіць у пералік месцаў, дзе забаронена збіраць подпісы.

6 ліпеня на Наваполацкай ЦЭЦ супрацоўніца аддзела кадраў збірала ў працоўны час подпісы ў падтрымку Вадзіма Дзевятоўскага. У частцы падпісных лістоў зборшчыкам была пазначана яна, а ў частцы — яе непасрэдны кіраўнік, загадчык аддзела кадраў. Да кожнага з сябраў ініцыятыўнай группы праўладнага прэтэндэнта на дэпутацкі мандат на гэтым прадпрыемстве даведзены план па колькасці подпісаў.

У г. Верхнядзвінску зафіксавана такая практыка: у ініцыятыўную групу праўладнага кандыдата ўключаюць людзей, якія працуюць на буйнейшых прадпрыемствах. І калі ініцыятыўная група складаецца са 120-ці чалавек, як у начальніка Полацкага раённага вузла электрасувязі Андрэя Юніцына, то кожнаму сябру застаецца сабраць на сваім працоўным месцы не больш за 10 подпісаў.

У Крычаўскай выбарчай акрузе № 83 збор подпісаў у падтрымку вылучэння старшыні Крычаўскага раённага Савета дэпутатаў, члена КПБ Таццяны Марачковай быў арганізаваны кіраўніцтвам ААТ «Крычаўцэменташыфер» — намеснікам генеральнага дырэктара ААТ «Крычаўцэменташыфер» Жанай Кустрэй у працоўны час. На просьбу ад назіральніка Сяргея Няроўнага да АВК Крычаўскай выбарчай акругі №83 праверыць інфармацыю з акруговай камісіі паведамілі, што «факты не зусім пацвердзіліся», бо подпісы ў падтрымку кандыдата на ААТ «Крычаўцаменташыфер» сапраўды збіраліся,але, нібыта, не ў працоўны час і, нібыта, не на працоўных месцах, работнікі прадпрыемства ўсё не так зразумелі.

У Мазыры ва ўстановах дашкольнага выхавання і на прадпрыемствах збіралі подпісы ў падтрымку вылучэння дзеючага дэпутата Палаты прадстаўнікоў па Мазырскай ВА № 42 Мікалая Расохі. У Рэчыцкім райпо і на ААТ «Рэчыцкі тэкстыль» прымушалі падпісвацца за праўладнага кандыдата, намесніка старшыні Гомельскага абласнога выканаўчага камітэта Баляслава Пірштука.

### 3.3.2. Перашкоды падчас збору подпісаў

Значных перашкодаў пры зборы подпісаў з боку ўлады не адзначана. Выключэнне складаюць асобныя інцыдэнты, звязаныя ў асноўным са зборам подпісаў у інтэрнатах і падчас пікетаў, адзначаны факты праяваў агрэсіі з боку выбаршчыкаў у дачыненні да зборшчыкаў подпісаў.

У Мінску 6 ліпеня супрацоўнікі інтэрната ДУА «Беларускі дзяржаўны медыцынскі універсітэт» на праспекце Дзяржынскага забаранялі збіраць подпісы прэтэндэнту ў кандыдаты Паў-

лу Стэфановічу і сябру яго ініцыятыўнай групы Зміцеру Кавалгіну. Выкліканыя супрацоўнікі міліцыі прапанавалі Стэфановічу і Кавалгіну праехаць у аддзяленне міліцыі для высвятлення абставінаў. Пасля складання пратакола апытання, што агулам доўжылася каля трох гадзін, іх выпусцілі.

У Гомелі камендант інтэрната КРУП «Цэнтральны» не дапускала ініцыятыўную групу Юрыя Глушкова (Гомельская-Цэнтральная ВА №33). Пасля ўмяшальніцтва адказных асоб пытанне было вырашана.

У Мінску ў сувязі са скаргамі на празмерную актыўнасць асобных ініцыятыўных груп, якія збіраюць подпісы непасрэдна на паверхах інтэрнатаў, старшыня Мінскай гарадской ВК Сяргей Хільман на пасяджэнні выбаркама заявіў, што сябры ініцыятыўных груп павінны прытрымлівацца правіл наведвання інтэрнатаў. Была дадзена ўстаноўка, паводле якой дазволена збіраць подпісы толькі ў холах першых паверхаў інтэрнатаў, а таксама каля будынкаў.

Кандыдат па Гомельскай-Сельмашаўскай акрузе №32 У. Кацора паведаміў, што на сяброў яго групы аказваўся псіхалагічны ціск: некалькі разоў з аўтамабіля (нумар 9038IE3) невядомыя людзі рабілі фотаздымкі, на адным з пікетаў супрацоўнікі міліцыі прымусілі зняць бел-чырвона-белы сцяг і інш.

У Віцебску, Баранавічах асобныя супрацоўнікі службы аховы прадпрыемстваў і гандлёвых кропак выклікалі нарады міліцыі, каб не дазволіць збор подпісаў. Аднак супрацоўнікі міліцыі не перашкаджалі збору подпісаў, паколькі ва ўсіх гэтых месцах рашэннем мясцовых уладаў ён не быў забаронены.

Так, 13 ліпеня ў г. Баранавічы сябры ініцыятыўнай групы Таццяны Малашчанка ладзілі пікет побач з крамай «Карона». Як толькі пачалі збор подпісаў, начальнік аховы крамы пачаў патрабаваць узгаднення пікета з кіраўніцтвам крамы, у выпадку адмовы ён патрабаваў пакінуць тэрыторыю. Пасля адмовы пікетоўшчыкаў і тлумачэння, што ім не патрэбны дазвол, бо яны маюць права на збор подпісаў, начальнік выклікаў супрацоўніка міліцыі. Супрацоўнік міліцыі валодаў сітуацыяй, таму ініцыятыўная група надалей працягнула збор подпісаў без перашкод. Аналагічная сітуацыя адбылася ў Бабруйску падчас збору подпісаў сябрамі ініцыятыўнай групы Алега Жалнова.

### 3.3.3. Папярэджанні і іншыя спагнанні

Акруговая камісія выбарчай акругі №107 у Мінску вынесла папярэджанне прадстаўніцы АГП Вользе Маёравай на падставе таго, што нібыта яна займаецца забароненай перадвыбарчай агітацыяй на этапе збору подпісаў. «Уважлівы» грамадзянін паведаміў акруговай камісіі, што ў паштовай скрыні знайшоў партыйную ўлётку АГП. Разам з тым, ва ўлётцы не ўзгадвалася пра выбарчую кампанію, у ёй утрымлівалася інфармацыя пра вынікі партыйнай канферэнцыі, на якой былі абраны новыя кіраўнікі раённых і гарадской партыйных структур, сярод якіх — Вольга Маёрава.

Прэтэндэнтам у кандыдаты, якія з'яўляюцца сябрамі апазіцыйных партый, Юрыю Казакевічу (Баранавіцкая-Заходняя ВА №5) і Мікалаю Чарнавусу (Баранавіцкая-Усходняя ВА №6) былі вынесены папярэджанні «за агітацыю» — выкарыстанне падчас збору подпісаў слоганаў. На майцы Мікалая Чарнавуса была змешчана назва праграмы АГП: «Миллион рабочих мест». На стэндзе Юрыя Казакевіча было напісана: «Мы патрабуем перамен». Гэта паставіла іх у няроўныя ўмовы з праўладнымі прэтэндэтамі ў кандыдаты, якім за слоганы папярэджанні не выносіліся. Напрыклад, у Мінску на банеры прэтэндэнта ў кандыдаты Аляксея Сокала выкарыстоўваўся слоган «За словам справа, за справай — вынік!», аднак папярэджанне на яго адрас з боку АВК Усходняй выбарчай акругі №107 не выносілася. Пасля абскарджвання папярэджанні апазіцыйным прэтэндэнтам у кандыдаты былі адменены.

З прэтэндэнткай у кандыдаты, прадстаўніцай Хрысціянска-дэмакратычнага руху Вольгай Кавальковай намесніца старшыні АВК выбарчай акругі №103 правяла «тлумачальную гутарку пра недапушчальнасць дыскрэдытацыі выбараў у Рэспубліцы Беларусь і выканання правілаў афармлення пікетаў пры агітацыі». Такой стала рэакцыя АВК на скаргу адносна выкарыстання на пікеце па зборы подпісаў у падтрымку В.Кавальковай бел-чырвона-белага сцягу з сіняй зоркай (выкарыстанне незарэгістраванай сімволікі), а таксама з-за відэазапісу, на якім адказны сакратар БХД Дзяніс Садоўскі на пікеце кажа пра ўжо прызначаных дэпутатаў і фальсіфікацыю выбараў у краіне.

Прадстаўніку БХД Паўлу Пракаповічу, які вылучаўся па выбарчай акрузе № 73 у Маладэчне, папярэджанне акруговай выбарчай камісіяй было вынесена на той падставе, што збор подпісаў за вылучэнне ў кандыдаты немагчыма сумяшчаць з антыалкагольнай агітацыяй, якую праводзяць хрысціянскія дэмакраты.

Прэтэндэнты ў кандыдаты з Віцебску Таццяна Севярынец, Алена Шабуня і Георгі Станкеіч былі пакараны штрафамі памерам 5 базавых велічынь па абвінавачанні ва ўдзеле ў несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве. Падставай для судовага разбіральніцтва стаў супольны пікет па зборы подпісаў, які прэтэндэнты ў кандыдаты 27 ліпеня ладзілі на вуліцы Леніна. Падчас складанння пратаколаў у Кастрычніцкім РАУС яны даведаліся, што толькі адзін бок вуліцы Леніна не падпадаў пад забарону на збор подпісаў. Спачатку Таццяна Севярынец, Алена Шабуня і Георгі Станкеіч збіралі подпісы на не забароненым баку вуліцы, але размаўляць з выбаршчыкамі замінала гучная рэклама, якая транслявалася ад гандлёвага цэнтра «Марка-сіці», тады яны перайшлі на другі бок.

29 ліпеня АВК Сухараўскай выбарчай акругі № 101 вынесла пісьмовае папярэджанне ініцыятыўнай групе намесніка старшыні Руху «За свабоду» Алеся Лагвінца за парушэнне п. 10 арт. 61 ВК і невыкананне абмежаванняў пры зборы подпісаў, устаноўленых п.13 Пастановы ЦВК. Гэта выразілася, на думку АВК, у раздачы друкаваных матэрыяляў выбаршчыкам падчас збору подпісаў, а таксама ва ўзнагароджанні выбаршчыкаў за пастаўленыя імі подпісы. Алесь Лагвінец у трохдзённы тэрмін абскардзіў вынесенае папярэджанне ў Мінскую гарадскую тэрытарыяльную камісію. 5 жніўня скарга была разгледжана і пакінута без задавальнення. Трэба адзначыць, што ў вынесеным АВК папярэджанні ініцыятыўнай групе А. Лагвінца быў няправільна ўказаны пункт арт. 61 ВК (у п.10 арт. 61 ВК ідзе гаворка аб правілах запаўнення падпіснога ліста). Таксама ў папярэджанні не было ўказана, якія друкаваныя матэрыялы і калі раздаваліся ініцыятыўнай групай, а таксама што маецца на ўвазе пад «подкупам выбаршчыкаў». Паводле слоў А. Лагвінца, у АВК яму вусна патлумачылі, што на яго паступіла ўсяго дзве скаргі. Адна з іх — на тое, што на пікеце раздавалася газета «Народная воля» і яго візітоўкі. Пры разглядзе скаргі Мінская гарадская камісія падтрымала аргументы прадстаўнікоў АВК, што бясплатная раздача выбарчшыкам газеты «Народныя воля» з'яўляецца ўзнагароджаннем выбаршчыкаў пры зборы подпісаў, забароненым арт. 61 ВК. Алесь Лагвінец не адмаўляў факту раздачы візітовак і газет, але лічыць, што гэта можна кваліфікаваць як раздачу друкаваных матэрыялаў, а не як узнагароджанне выбарчшыкаў. Трэба адзначыць, што пад узнагароджаннем выбаршчыкаў пры зборы подпісаў выбарчае заканадаўства разумее перадачу грашовых сродкаў, падарункаў, іншых матэрыяльных каштоўнасцяў, правядзенне ільготных распродажаў ці аказанне паслуг на льготных умовах. Такая кваліфікацыя парушэння пры зборы подпісаў ініцыятыўнай групай А. Лагвінца мае істотнае значэнне, таму што, згодна з арт. 68.1 ВК, узнагароджанне выбарчшыкаў падчас збору подпісаў можа з'яўляцца падставай для адмовы ў рэгістрацыі ў якасці кандыдата ў дэпутаты без паўторнага папярэджання. Другое папярэджанне ініцыятыўнай групе А. Лагвінца нібыта было вынесена за правядзенне пікета па зборы подпісаў 27 ліпеня ў мінскім мікрараёне «Сухарава» з удзелам вядомага рок-музыкі Лявона Вольскага, выступ якога сабраў каля 1500 чалавек. Сваю негатыўную рэакцыю на гэты пікет выказала старшыня ЦВК Лідзія Ярмошына. Яна адзначыла, што выступ музыкі на пікеце па зборы подпісаў з'яўляецца агітацыяй і сур'ёзным парушэннем. Пазней яна таксама дадала, што падчас гэтага пікету абражалі іншых вылучэнцаў — камуністаў. Трэба адзначыць, што матываванага пісьмовага папярэджання ад АВК з указаннем парушэнняў, дапушчаных ініцыятыўнай групай, Алесь Лагвінец не атрымаў. Згодна з выбарчым заканадаўствам, вынясенне папярэджання прымаецца ў выглядзе калегіяльнага рашэння камісіі і афармляецца пратаколам пасяджэння і пісьмовым матываваным рашэннем.

## 3.4. Працэдура праверкі сапраўднасці подпісаў

Пасяджэнні АВК па праверцы подпісаў, як і раней, у асноўным адбываліся ў закрытым для назіральнікаў рэжыме і насілі непразрысты характар.

Большасць назіральнікаў не мелі магчымасці прысутнічаць пры праверцы подпісаў АВК. Аб такой магчымасці паведамілі толькі 27% назіральнікаў кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары». Пры гэтым у Мінску ў 67% АВК назіральнікам далі магчымасць прысутнічаць пры праверцы, у Магілёўскай вобласці — у 57% выпадкаў (у чатырох АВК з сямі), у Віцебскай — у 11% (у адной АВК з дзевяці). У Мінскай, Гродзенскай і Брэсцкай абласцях назіральнікам практычна нідзе не дазволілі прысутнічаць пры праверцы подпісаў.

# Галосная і публічная праверка звестак аб кандыдатах у прысутнасці назіральнікаў




Практычна ўсе назіральнікі кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары» звярнуліся ў АВК з заявамі аб прадастаўленні магчымасці назіраць за працэсам праверкі подпісаў за вылучэнне кандыдатаў. Амаль усім было адмоўлена: АВК спасылаліся на арт. 13 ВК, згодна з якім прысутнасць пры праверцы подпісаў і дакументаў не ўваходзіць у паўнамоцтвы назіральніка. Аднак адмова ў магчымасці назіраць за праверкай подпісаў і дакументаў па вылучэнні і рэгістрацыі кандыдатаў у дэпутаты з'яўляецца парушэннем таго ж арт. 13 ВК, у якім сцвярджаецца, што выбары павінны адбывацца галосна і празрыста.

Падобныя адказы атрымалі назіральнікі з Наваполацка, Гродна, Баранавічаў, Жодзіна, Магілёва, Салігорска, Смаргоні, Мазыра, Маладзечна, Барысава, Бярозы, Віцебска, Верхнядзвінска і інш. Многія назіральнікі ў сувязі з атрыманымі адказамі АВК падалі скаргі ў ТВК і ЦВК, але іх скаргі не былі задаволены.

Так, назіральнік у акруговай камісіі Маладзечанскай сельскай выбарчай акругі №73 Алесь Капуцкі ў звароце выклаў просьбу прадставіць яму магчымасць прысутнічаць пры праверцы подпісаў і дакументаў і апеляваў да адкрытасці і галоснасці, якая гарантавана артыкулам 13 Выбарчага кодэкса. У адказе за подпісам старшыні акруговай камісіі Юрчыка С.В. таксама давалася спасылка на артыкул 13 ВК, указвалася на прынцып адкрытасці і галоснасці, а таксама на тое, што не мае права рабіць назіральнік, апісвалася працэдура праверкі пададзеных на рэгістрацыю дакументаў выбарчай камісіяй, а далей рабілася выснова: «Такім чынам, з вышэйпададзенага вынікае, што праверка подпісаў выбаршчыкаў і адпаведных ім дадзеных, якія змяшчаюцца ў падпісных лістах, у падтрымку меркаваных кандыдатаў у дэпутаты і дакументаў, прадстаўленых у камісію для рэгістрацыі кандыдатаў у дэпутаты, уваходзіць у кампетэнцыю членаў акруговай выбарчай камісіі, а не назіральніка. Гэтак жа прысутнасць назіральніка пры правядзенні праверкі не агаворана ў Выбарчым кодэксе Рэспублікі Беларусь. На падставе вышэйсказанага Ваша просьба не адпавядае нормам Выбарчага кодэкса Рэспублікі Беларусь і не можа быць задаволена».

Зварот назіральніка Аляксея Лапіцкага ў акруговую камісію Жодзінскай выбарчай акругі №64 адносна магчымасці прысутнічаць пры праверцы подпісаў быў разгледжаны на паседжанні. Старшыння камісіі Сяргей Афанасенкаў на галасаванне паставіў пытанне ў наступнай інтэрпрэтацыі: «Камісія, у прынцыпе, укамплектаваная ў такім аб'ёме, што яна спраўляецца з сваімі абавязкамі. Памагатых нам — не трэба. Таму мы адмаўляем Аляксею Іванавічу ў выкананні абавязкаў сябраў камісіі. Хто «за» — прашу галасаваць?» Камісія падтрымала адмову. У пісьмовым адказе за подпісам С. Афанасенкі было сказана: «У артыкуле 13 Выбарчага кодэкса Рэспублікі Беларусь вызначаны пералік правоў назіральніка, у якім не прадугледжана

права прысутнічаць пры праверцы падпісных аркушаў з подпісамі выбаршчыкаў, пададзеных у акруговую камісію ініцыятыўнымі групамі асоб, вылучаемых кандыдатамі ў дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь. Разам з тым, нагадваем, што назіральнік не мае права ствараць перашкоды для нармальнай працы камісіі, а таксама ўмешвацца ў яе працу».

Баранавіцкаму назіральніку Сяргею Гоўшу старшыня АК Т. Латышава па Баранавіцкай-Заходняй выбарчай акрузе № 5 адказала, што «задаволіць вашу просьбу аб прадстаўленні вам магчымасці прысутнічаць пры праверцы сапраўднасці подпісаў выбаршчыкаў, адабраных для гэтага падпісных лістоў і назірання за працэсам праверкі подпісаў у іх немагчыма». Адмова была матывавана артыкулам 67 Выбарчага кодэкса, згодна з якім «праверку сапраўднасці подпісаў выбаршчыкаў ажыццяўляюць члены акруговых выбарчых камісій. Удзел назіральнікаў у працэсе праверкі сапраўднасці подпісаў выбаршчыкаў не прадугледжаны».

Старшыня АВК №22 Наталля Ждановіч запрасіла назіральніка ад РПГА «Беларускі Хельсінскі камітэт» прысутнічаць пры працэдуры праверкі падпісных лістоў. Яна амаль паўгадзіны знаёміла прысутных з пратаколам «предварительной проверки листов», вызначыла адказных за раздадзеныя лісты і загадала самастойна праверыць іх. У адказ на просьбу назіральніка азнаёміцца з пратаколам і іншымі паперамі, яна адказала, што гэта дакументы ўнутранага карыстання.

3 жніўня ў Гродна адбылося пасяджэнне АВК №52, на якім вызначаўся парадак адбору і метады праверкі падпісных лістоў. Старшыня камісіі Алег Бялінскі на працягу 20 хвілін агучыў прававыя пытанні, пасля папрасіў назіральнікаў выйсці і ўжо за зачыненымі дзвярыма раздаў сябрам камісіі лісты з подпісамі для праверкі.

Разам з тым, аналіз справаздач назіральнікаў паказвае адсутнасць у рэгіёнах адзіных падыходаў у гэтым пытанні. Напрыклад, АВК Мазырскай ВА №42 дало такі адказ на адпаведную заяву актывіста кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары»: «Назіральнік у акруговай выбарчай камісіі мае магчымасць толькі прысутнічаць на пасяджэннях адпаведнай выбарчай камісіі, а права на знаёмства з дакументамі, згодна з ч. 5 арт. 13, ён не мае». Але камісія прапанавала назіральніку прагледзець адабраныя для праверкі подпісы за прэтэндэнта Рамана Скуратоўскага, (яму адмоўлена ў рэгістрацыі з-за відавочнай несапраўднасці 80,7% подпісаў).

У той жа час, зварот назіральніка ў АВК №110 у Мінску аб прысутнасці на праверцы подпісаў і дакументаў задаволілі. Але гэта мела фармальны характар: насамрэч у прысутнасці назіральніка асобныя сябры камісіі правяралі подпісы моўчкі, некаторыя спасылаліся на занятасць і абяцалі рабіць праверку ў іншы дзень. Пра час і месца праверкі подпісаў сябрамі АВК назіральніку не паведамілі.

Прысутнічалі на пасяджэннях АВК і маглі глядзець падпісныя лісты назіральнікі, зарэгістраваныя ў Бабруйска-Ленінскай № 78 і Бабруйскай сельскай ВА № 80. У Полацкай АВК №27 назіральнік прысутнічаў на пасяджэнні, але не мог бачыць змест падпісных лістоў. Назіральніку ў Рэчыцкай ВА №44 на словах далі магчымасць сачыць за праверкай подпісаў, але фактычна стварылі неадпаведныя ўмовы: кожны сябар забраў з сабою на працоўнае месца пэўную колькасць падпісных лістоў. У Гомельскай-Цэнтральнай ВА №33 назіральніка запрасілі толькі на выніковую працэдуру праверкі. Да гэтага сябры камісіі ўжо прагледзелі подпісы, а ў яго прысутнасці толькі тэлефанавалі і ўдакладнялі звесткі. У адказ на просьбу назіральніка на кароткі час яму паказалі падпісныя лісты двух прэтэндэнтаў.

Па меркаванні экспертаў кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары», непразрыстасць працэдур праверкі подпісаў стварае магчымасці для маніпуляцый і палітычна матываваных падыходаў пры прыняцці рашэнняў аб адмове ў рэгістрацыі ці рэгістрацыі канкрэтнага кандыдата ў дэпутаты.

## 4. Вынікі рэгістрацыі кандыдатаў у дэпутаты

Паводле дадзеных ЦВК (Дадатак 8), усяго ў Рэспубліцы Беларусь рознымі шляхамі было вылучана 630 кандыдатаў. З іх 93 адмоўлена ў рэгістрацыі, што складае 14,8% ад агульнай колькасці вылучаных (істотна ніжэй у параўнанні з 24,7% адмоваў на парламенцкіх выбарах 2012 г.). Яшчэ 16 чалавек (2,5%) самастойна знялі свае кандыдатуры. Ніводнай безальтэрнатыўнай акругі на выбарах не было (у 2012 г. такіх акруг было чатыры).

Прадстаўнікі палітычных партый вылучылі 387 кандыдатаў, што складае 50,6% ад агульнай колькасці вылучаных. Вынікі рэгістрацыі партыйных кандыдатаў наступныя:

| Назва палітычнай партыі | Колькасць вылучаных кандыдатаў | Колькасць зарэгістраваных кандыдатаў | Колькім асобам адмоўлена ў рэгістрацыі (%) |
|---|---|---|---|
| Беларуская партыя «Зялёныя» | 5 | 5 | 0 (0%) |
| Беларуская партыя левых «Справядлівы свет» | 46 | 38 | 8 (17%) |
| Беларуская патрыятычная партыя | 18 | 16 | 2 (11%) |
| Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Грамада) | 29 | 27 | 2 (7%) |
| Камуністычная партыя Беларусі | 52 | 44 | 8 (15%) |
| Ліберальна-дэмакратычная Партыя (ЛДП) | 90 | 77 | 13 (14%) |
| Аб'яднаная грамадзянская партыя (АГП) | 67 | 57 | 10 (15%) |
| Партыя БНФ | 60 | 49 | 11 (18%) |
| Рэспубліканская партыя працы і справядлівасці (РППС) | 20 | 18 | 2 (10%) |

99% з тых, каму было адмоўлена ў рэгістрацыі кандыдатам, вылучаліся адным суб'ектам. Большасць незарэгістраваных прэтэндэнтаў вылучаліся ад палітычных партый (51%).

Найбольш адмоваў адзначана сярод тых, хто вылучаўся грамадзянамі шляхам збору подпісаў (37%). Сярод прэтэндэнтаў, якія вылучаліся толькі ад палітычных партый, яна складае 16% (з 354 зарэгістравана 298). З іх 45% атрымаўшых адмову — гэта сябры апазіцыйных партый (АГП, Грамада, БНФ, «Справядлівы свет»). Усе кандыдаты, якія вылучаліся ад палітычных партый і адначасова ад іншых суб'ектаў (грамадзян, або грамадзян і працоўных калектываў) былі зарэгістраваны (33 чалавекі). Таксама зарэгістравана 99% (89 з 90) кандыдатаў, якія вылучаліся грамадзянамі шляхам збору подпісаў і працоўнымі калектывамі адначасова. Варта адзначыць, што часцей за ўсё такім спосабам вылучаюцца кандыдаты, якіх падтрымлівае ўлада.

Кандыдатамі вылучаліся 28 дзеючых дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў, а таксама 43 дэпутаты мясцовых Саветаў дэпутатаў. Усе яны былі зарэгістраваны. Доля жанчын сярод зарэгістраваных кандыдатаў складае 25%.




Самай распаўсюджанай (як вышэй указвалася — 37%), але не адзінай, прычынай адмоваў у рэгістрацыі з'яўляліся несапраўдныя подпісы.

Алесь Лагвінец не быў зарэгістраваны па прычыне вынесеных падчас этапу збору подпісаў двух папярэджанняў (першае — за «невыкананне абмежаванняў пры зборы подпісаў выбаршчыкаў, што было выказана ў раздачы друкаваных матэрыялаў выбаршчыкам пры зборы подпісаў, а таксама ўзнагароджанні выбаршчыкаў за ўнясенне подпісу ў падпісныя лісты»; другое — вусна за канцэрт Лявона Вольскага, які адбыўся 27 ліпеня ў мікраараёне «Сухарава»).

Па Гомельскай-Цэнтральнай акрузе №33 было адмоўлена ў рэгістрацыі з-за недакладных дадзеных па прыбытках Алегу Гарбенку, галоўнаму інжынеру аднаго з расійскіх прадпрыемстваў, беспартыйнаму. Прэтэндэнт у кандыдаты адзначыў, што не мае прыбыткаў і жыве на сродкі сваёй грамадзянскай жонкі. Падатковая ж удакладніла, што дадзены грамадзянін выйграваў у казіно, і адзін з буйных выйгрышаў складаў 11 мільёнаў рублёў (да дэнамінацыі). Таму акруговая камісія адмовіла яму ў рэгістрацыі. Таксама недакладнасці ў дэкларацыі аб прыбытках і маёмасці сталі прычынай адмовы ў рэгістрацыі вылучэнкі ад Партыі БНФ Кацярыны Шуст па Слуцкай выбарчай акрузе №67. Валеры Матусевіч, які вылучаўся ад Беларускай партыі левых «Справядлівы свет» па Жодзінскай выбарчай акрузе №64, не быў зарэгістраваны з-за памылкі ў пададзенай дэкларацыі аб даходах, у якой не былі задэклараваныя 150 простых акцый ААТ «Аўтамагістраль» (Матусевіч працуе кіроўцам у Мінску). На гэтым жа паседжанні акруговай камісіяй не быў зарэгістраваны прадпрымальнік Алег Навіцкі па прычыне выяўленых фактаў узнагароджвання ў памеры 5 тыс. рублёў некалькіх выбаршчыкаў за пастаўленыя подпісы ў яго падтрымку. Цікава, што на паседжанне былі выкліканы і заслуханы асобы, якія пацвердзілі, што асабіста атрымлівалі грошы.

Не змог дабіцца адмены рэгістрацыі спачатку ініцыятыўнай групы Таццяны Марачкавай, а затым і рэгістрацыі яе ў якасці кандыдата па Крычаўскай выбарчай акрузе №83 член Камуністычнай партыі Беларусі Уладзімір Ушакоў. Ён сцвярджаў, што Таццяна Марачкава, якая была вылучана шляхам збору подпісаў выбаршчыкаў і ад КПБ, была «заднім чыслом» прынятая ў члены партыі на пазачарговым сходзе раённай арганізацыі, пра які не паведамілі яму і цэламу шэрагу іншых членаў раённай арганізацыі КПБ. Па яго словах, на сходзе наогул не было неабходнага кворуму для прыняцця рашэння аб прыёме Таццяны Марачкавай у партыю. На момант рэгістрацыі ініцыятыўнай групы Таццяна Марачкава не з'яўлялася членам КПБ, хоць указала ў дакументах партыйнасць. Па меркаванні У.Ушакова, толькі гэтага факта падману дастаткова для адхілення «камуністкі» Марачкавай ад удзелу ў парламенцкіх выбарах. Гэтая пазіцыя не была падтрымана ні АВК, ні ЦВК. У адказе за подпісам старшыні Цэнтральнай камісіі Лідзіі Ярмошынай Уладзіміру Ушакову паведамілі, што ў яго звароце адсутнічаюць дадзеныя для перагляду рашэння аб адмене рэгістрацыі Таццяны Марачкавай кандыдатам у дэпутаты па Крычаўскай выбарчай акрузе. Указанне неадпавядаючых сапраўднасці дадзеных біяграфічнага характару кандыдатам у дэпутаты не з'яўляецца падставай для адмены рашэння аб рэгістрацыі, адзначалася ў адказе.

### Параўнанне вынікаў рэгістрацыі кандыдатаў выбарчай кампаніі 2016 года з вынікамі ранейшых выбараў

| Год выбараў | Вылучана кандыдатаў | Адклікана заяў | Адмоўлена | Зарэгістравана | % адмоваў |
|---|---|---|---|---|---|
| 2008 | 365 | 5 | 84 | 276 | 23% |
| 2012 | 494 | 9 | 122 | 363 | 24,7% |
| 2016 | 630 | 16 | 93 | 521 | 14,8% |

Такім чынам, выбарчая кампанія адзначана большай колькасцю вылучэнняў у кандыдаты ў дэпутаты ў параўнанні з мінулымі кампаніямі і меншым узроўнем адмоваў у рэгістрацыі кандыдатаў. На дадзеным этапе, па меркаванні «Праваабаронцаў за свабодныя выбары», не адзначалася відавочна дыскрымінацыйнага стаўлення ў адносінах да апазіцыйных кандыдатаў.

Разам з тым, падчас выбарчай кампаніі ўлады не змаглі цалкам устрымацца ад рэпрэсіўных мер у дачыненні да прадстаўнікоў апазіцыі, якія выказалі намер удзельнічаць у выбарах у якасці кандыдатаў. Так, пасля таго, як актывістка Руху «За Свабоду» і сябра Партыі БНФ Вольга Дамаскіна, загадчыца Музея традыцыйнага ручнога ткацтва Паазер?я ў Полацку, публічна абвясціла пра свой намер балатавацца ў Палату прастаўнікоў, яе папярэдзілі пра непрацягненне працоўнага кантракта. Пры гэтым раней кантракты з ёй перазаключаліся аўтаматычна — скончыўся адзін, і яна падпісвала наступны. У філіяле Нацыянальнага Полацкага гісторыка-культурнага музея-запаведніка — Музеі традыцыйнага ручнога ткацтва Паазер'я — Вольга Дамаскіна працавала 16 гадоў, з іх апошнія 4 гады — загадчыцай. У 2016 годзе атрымала другую адукацыю — пасля гістарычнага факультэта — вышэйшую адукацыю па кваліфікацыі «Музеязнаўца», прычым менавіта полацкі музей-запаведнік аплочваў навучанне. Звальняючы В.Дамаскіну, музейны комплекс нават не знайшоў ёй замену, што сведчыць пра тое, што звальненне не рыхтавалася, а было вынікам палітычных прычын, звязаных з выбарамі.

## 5. Ініцыятывы па ўдасканаленні выбарчага заканадаўства

Назіральнікі кампаніі з розных гарадоў Беларусі звярнулі ўвагу, што падчас збору подпісаў за вылучэнне кандыдатаў у дэпутаты ініцыятыўныя групы на пікетах актыўна выкарыстоўваюць матэрыялы, напрыклад, банеры з партрэтамі сваіх вылучэнцаў, выраб якіх, відавочна, патрабуе пэўных матэрыяльных выдаткаў. Гэта паставіла пытанне пра парушэнне роўнасці паміж прэтэндэнтамі ў кандыдаты.

Эксперт кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары» Валянцін Стэфановіч у ліставанні са старшынёй ЦВК Лідзіяй Ярмошынай ставіў пытанні адносна фінансавых магчымасцяў прэтэндэнтаў у кандыдаты. У выніку выявілася неабходнасць урэгулявання пытання заканадаўчым органам.

Пытанне выдаткаў па правядзенні выбараў рэгулюе артыкул 48 ВК. Частка 10 названага артыкула забараняе вылучэнцам у кандыдаты ў дэпутаты выкарыстоўваць грашовыя сродкі ці іншую матэрыяльную дапамогу толькі ў выпадках, пералічаных у частцы 9 гэтага ж артыкула — то бок, замежнай матэрыяльнай і іншай дапамогі. Ніякіх іншых абмежаванняў для вылучэнцаў у выкарыстанні матэрыяльнай і іншай дапамогі ад палітычных партый, грамадскіх аб'яднанняў, грамадзян ці асабістых сродкаў на этапе збору подпісаў ВК не ўтрымлівае. Але пры гэтым усе аб'яднанні і грамадзяне Беларусі могуць уносіць свае грашовыя сродкі толькі ў ствараемы ЦВК пазабюджэтны фонд, паколькі, у адрозненне ад прэзідэнцкіх выбараў, асобы, якія прэтэндуюць на дэпутацкі мандат, маюць права засноўваць спецыяльны выбарчы фонд толькі з моманту рэгістрацыі кандыдатам у дэпутаты, то бок, на ранейшым этапе яны не могуць аплочваць выдаткі, звязаныя са зборам подпісаў за сваё вылучэнне.

Паколькі ў Выбарчым кодэксе няма дакладна сфармуляванага парадку выкарыстання матэрыяльных сродкаў асобамі, якія вылучаюцца ў кандыдаты, Валянцін Стэфановіч звярнуўся ў ЦВК з просьбай патлумачыць палажэнні Выбарчага кодэкса пра парадак выкарыстання матэрыяльных сродкаў для вырабу інфармацыйных матэрыялаў на этапе збору подпісаў ініцыятыўнымі групамі, а таксама пра магчымасць далейшага выкарыстання гэтых матэрыялаў пры правядзенні агітацыі кандыдатамі ў дэпутаты. У адказе на зварот праваабаронцы старшыня ЦВК Лідзія Ярмошына пагадзілася з тым, што вышэйназваныя пытанні не цалкам урэгуляваныя нарматыўна, і адзначыла, што Цэнтральная камісія не мае паўнамоцтваў рэгламентаваць сваімі пастановамі пытанні да моманту іх вырашэння на заканадаўчым узроўні. «У сваю чаргу пашырэнне заканадаўчага рэгулявання ў гэтай сферы патрабуе аналізу рэальных затрат на выраб інфармацыйных матэрыялаў, стэндаў, банераў, а таксама ступені ўплыву гэтага абсталявання на волевыяўленне выбаршчыкаў. Улічваючы, што такое абсталяванне прадастаўляецца ініцыятыўным групам, як правіла, грамадскімі аб'яднаннямі і на бязвыплатнай аснове, Цэнтральная камісія не мае якіх-небудзь звестак, што дазволілі б ёй зрабіць абгрунтаванае заключэнне», — паведамляе старшыня Цэнтрвыбаркама.

У цэлым яна падкрэсліла, што «Цэнтральная камісія па пытанні збору подпісаў на пікетах прытрымліваецца пазіцыі спрашчэння гэтай працэдуры і скасавання штучных бар'ераў пры вылучэнні кандыдатаў шляхам збору подпісаў выбаршчыкаў». (Дакумент 2)

Адзначаючы задаволенасць скіраванасцю ЦВК на спрашчэнне працэдуры збору подпісаў на пікетах, павелічэнне колькасці месцаў для пікетавання і іншыя падобныя меры, Валянцін Стэфановіч выказаў здзіўленне тым, што Лідзія Ярмошына ў сваім адказе падкрэслівае, што абсталяванне для пікетаў перадаецца грамадскімі аб'яднаннямі на бязвыплатнай аснове.

«Грамадскае аб'яднанне грамадскаму аб'яднанню няроўня. Адныя з іх фінансуюцца з дзяржбюджэту, іншыя — за кошт сяброўскіх унёскаў. Праз гэта магчымыя розныя ўмовы для тых, хто вылучаецца ў кандыдаты. І мы рады, што ЦВК зараз ліберальная ў сваіх падыходах і не настойвае на ўрэгуляванасці збору подпісаў выбаршчыкаў у пікетах, але мы памятаем такія падыходы ЦВК, калі прэтэндэнту ў кандыдаты выносілася папярэджанне толькі за ламінаванне інфармацыйнага плаката, зробленую для таго, каб уберагчы плакат ад дажджу. Варта падкрэсліць, што ў гэтай частцы ў законе нічога не памянялася».

З улікам усіх адзначаных фактаў, праваабаронца настойвае на неабходнасці ўрэгулявання ўзнятага ім пытання заканадаўчым органам:

«Дзеля забеспячэння роўнасці ўсіх асоб, якія вылучаюцца ў якасці кандыдатаў, варта было б пашырыць правілы, уведзеныя для прэзідэнцкіх выбараў, і на парламенцкія кампаніі. Трэба, каб і прэтэндэнты ў кандыдаты ў дэпутаты атрымалі права засноўваць спецыяльны выбарчы фонд з моманту рэгістрацыі сваіх ініцыятыўных групаў, і каб інфармацыя пра гэтыя фонды была празрыстая — каб было бачна, хто пералічаў грошы ў гэтыя фонды і колькі».

# ПЕРАДВЫБАРЧАЯ АГІТАЦЫЯ

Агітацыйная кампанія адбылася ў вызначаны Каляндарным планам тэрмін: з дня рэгістрацыі кандыдатаў у дэпутаты па 10 верасня 2016 г. уключна.

Цікава, што падчас дадзенага перыяду з 525 зарэгістраваных кандыдатаў 40 сышлі з выбарчай гонкі, нярэдка без тлумачэння прычын такога рашэння. Адносна аднаго з кандыдатаў рашэнне аб рэгістрацыі было адменена.

## 1. Прававая база

Парадак вядзення агітацыі за кандыдатаў у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў рэгулюецца ВК і пастановамі ЦВК.

Згодна з арт. 45 Выбарчага кодэкса, грамадзянам Рэспублікі Беларусь, палітычным партыям, іншым грамадскім аб'яднанням, працоўным калектывам, davераным асобам кандыдатаў у деэпутаты, ініцыятыўным групам, якія праводзяць агітацыю за абранне кандыдатаў у дэпутаты, прадастаўляецца права свабоднага і ўсебаковага абмеркавання перадвыбарчых праграм кандыдатаў у дэпутаты, іх палітычных, дзелавых і асабістых якасцяў, правядзення агітацыі за ці супраць кандыдата на сходах, мітынгах, у сродках масавай інфармацыі, а таксама падчас сустрэч з выбаршчыкамі.

Забараняецца агітацыя, пры правядзенні якой ідзе прапаганда вайны, гучаць заклікі да гвалтоўнай змены канстытуцыйнага ладу і іншае. Таксама забаронена агітацыя, якая ўключае заклікі да зрыву, або адмены, або пераносу тэрміну выбараў, прызначаных у адпаведнасці з заканадаўчымі актамі Рэспублікі Беларусь.

Мясцовыя выканкамы вызначаюць памяшканні для правядзення сустрэч кандыдатаў у дэпутаты з выбаршчыкамі, а таксама для перадвыбарчых сходаў, якія арганізуюцца выбарцамі. У такім жа парадку вызначаюцца месцы для размяшчэння друкаваных агітацыйных матэрыялаў.

Заявы аб прадастаўленні памяшканняў падаюцца кандыдатамі, даверанымі асобамі кандыдатаў і выбарцамі ў адпаведныя ВК не пазней, чым за два дні да запланаванай даты правядзення мерапрыемства. Памяшканні для правядзення сустрэч з выбарцамі, перадвыбарчых сходаў прадастаўляюцца бясплатна ў парадку чарговасці паступлення заяў. Кандыдаты ў дэпутаты маюць права за кошт сродкаў выбарчага фонду арандаваць будынкі і памяшканні для правядзення сустрэч з выбаршчыкамі, якія прадастаўляюцца кандыдатам на роўных умовах.

Для арганізацыі масавых мерапрыемстваў кандыдаты ў дэпутаты і даверbegin асобы кандыдатаў накіроўваюць апавяшчэнне ў мясцовы выканаўчы і распарадчы орган не пазней, чым за два дні да запланаванай даты правядзення мерапрыемства.

Згодна з арт. 46 ВК, кандыдаты ў дэпутаты з часу іх рэгістрацыі на роўных правах карыстаюцца дзяржаўнымі СМІ, якія, у сваю чаргу, абавязаны забяспечваць роўныя магчымасці для перадвыбарчых выступаў кандыдатаў, апублікавання праграм кандыдатаў і агітацыі.

У адпаведнасці Пастановай ЦВК ад 28 чэрвеня 2016 г. № 32 кандыдат у дэпутаты мае права апублікаваць сваю перадвыбарчую праграму ў адной з рэспубліканскіх газет («Звязда», «Народная газета», «Рэспубліка»), ці ў адпаведнай абласной газеце, ці ў дзяржаўных раённых (гарадскіх) газетах. Аб'ём перадвыбарчай праграмы не можа перавышаць дзвюх машынапісных старонак (не больш за 4000 знакаў з прабеламі пры камп'ютарным наборы).

Кандыдат у дэпутаты мае права таксама на адзін выступ па тэлебачанні і адзін выступ па радыё працягласцю не больш за пяць хвілін кожны. Пры жаданні не менш чым двух кандыдатаў у дэпутаты праводзяцца тэледэбаты, у якіх кожны кандыдат мае права на 5 хвілін эфірнага часу. Выступы па тэлебачанні і тэледэбаты ідуць у запісах.

Кандыдаты ў дэпутаты маюць права выкарыстоўваць сродкі свайго выбарчага фонду для агітацыі ў СМІ на падставе дамовы з рэдакцыяй ці з уладальнікам Інтэрнэт-рэсурсу. Пры гэтым апошнія маюць права вызначаць умовы прадастаўлення эфірнага часу і месца для публікацыі, а таксама кошты дадзеных паслуг, якія павінны быць адзінымі для ўсіх кандыдатаў.

Выбарчая кампанія праходзіла па правілах ВК у рэдакцыі ад 25.11.2013, якімі устаноўлена, што ўсе выдаткі на выраб друкаванай агітацыйнай прадукцыі аплочваюцца выключна са сродкаў выбарчых фондаў, створаных кандыдатамі ў дэпутаты. Са сродкаў дзяржаўнага бюджэту ЦВК вырабляе і распаўсюджвае толькі агульныя інфармацыйныя матэрыялы пра ўсіх кандыдатаў у дэпутаты.

Максімальны памер выдаткаў са сродкаў выбарчага фонду кандыдата не можа перавышаць 1000 базавых велічынь. Фонд можа складацца з унёскаў самога кандыдата, а таксама ўнёскаў фізічных (да 5 БВ ад кожнай) і юрыдычных асоб (да 10 БВ).

Для назіральнікаў і журналістаў не прадугледжана магчымасці праверкі крыніц ахвяраванняў і выдаткавання сродкаў. Законнасць фарміравання і выдаткавання выбарчага фонду ацэньваюць толькі фінансавая органы і ЦВК.

# 2. Умовы правядзення агітацыі

Дзеля збору сродкаў, звязаных з ажыццяўленнем агітацыйнай дзейнасці, свае выбарчыя фонды стварылі толькі 322 кадыдаты, што склала 67% ад агульнай колькасці кандыдатаў, якія працягнулі свой удзел у выбарчай кампаніі пасля рэгістрацыі (484).

Апошнія 5 дзён агітацыі (6-10 верасня 2016 г.) супадалі з днямі датэрміновага галасавання, што з'яўляецца відавочнай хібай дзеючага выбарчага заканадаўства.

Кандыдаты, якія былі зарэгістраваны пасля абскарджвання адмоў у рэгістрацыі, у параўнанні з іншымі кандыдатамі мелі менш часу для вядзення агітацыйнай кампаніі.

## 2.1. Агітацыя ў выглядзе масавых мерапрыемстваў

Да 1 жніўня мясцовыя выканаўчыя і распарадчыя органы па ўзгадненні з адпаведнымі АВК павінны былі вызначыцца з месцамі для правядзення ў паведамляльным парадку масавых мерапрыемстваў (сходаў па-за памяшканнямі, мітынгаў, пікетавання), якія арганізуюцца кандыдатамі ў дэпутаты Палаты прадстаўнікоў, іх даверанымі асобамі.

У параўнанні з папярэднімі выбарамі, падчас выбарчай кампаніі 2016 года было вызначана значна больш месцаў для агітацыі. Замест вызначэння асобных з іх, райвыканкамы дазволілі праводзіць агітацыю практычна паўсюль. Выключэнні склалі чыгуначныя станцыі, аўтастанцыі, некаторыя плошчы, месцы на пэўнай адлегласці (20—100 м) ад выканкамаў, судоў, іншых органаў улады і іншае. У Слуцку і Салігорску негатыўным момантам засталася забарона масавых мерапрыемстваў на галоўных гарадскіх плошчах. Фармальна пад такія выключэнні трапілі некаторыя найбольш зручныя пляцоўкі (напрыклад, насупраць выканкамаў), але кандыдаты, у тым ліку апазіцыйныя, без перашкодаў праводзілі там пікеты.

Напрыклад, калі ў Бабруйску ў 2012 годзе для агітацыйных мерапремстваў у выглядзе сходаў па-за памяшканнямі было вызначана ўсяго пару адкрытых пляцовак на задворках, то зараз пад пікетаванні можна самастойна было абраць больш шматлюдныя месцы, але адштурхоўвацца трэба было ад спісу забароненых месцаў — тых, што траплялі пад забарону і падчас збору подпісаў.

Рашэнне Гомельскага гарвыканкама істотна павялічыла колькасць месцаў для сустрэч з выбаршчыкамі па-за межамі памяшканняў. Падчас выбарчых кампаній 2012 і 2015 гг. такіх месцаў было толькі два. Падчас кампаніі-2016 для правядзення сустрэч з выбаршчыкамі можна было абіраць любыя месцы за некаторымі выключэннямі.

Аднак некаторыя мясцовыя адміністрацыі, напрыклад у гарадах Глыбокае, Смаргонь, Орша, Хоцімск, Чэрыкаў і іншых, працягнулі негатыўную практыку мінулых выбарчых кампаній.

У гарадах з раённым дзяленнем часам назіраліся розныя падыходы пры вызначэнні месцаў для агітацыі. Так, напрыклад, адміністрацыя Ленінскага раёна Магілёва ў адрозненне ад рашэння адміністрацыі Кастрычніцкага раёна не дапускала правядзення масавых перадвыбарчых мерапрыемстваў на тэрыторыі ўстаноў адукацыі і аховы здароўя. Але дадзеныя разыходжанні пазней былі нівеліяваны: рашэнне адміністрацыі Кастрычніцкага раёна было дапоўнена пунктам аб забароне такіх мерапрыемстваў на тэрыторыі ўстаноў адукацыі і аховы здароўя.

Паводле дадзеных ЦВК па стане на 08.09.2016, за перыяд агітацыйнай кампаніі кандыдатамі ў дэпутаты і іх даверанымі асобамі было пададзена 988 апавяшчэнняў пра правядзенне 180 830 масавых агітацыйных мерапрыемстваў па спрошчанай працэдуры. З іх у Мінску падалі 488 апавяшчэнняў (каля 50%) пра 173 717 масавыя мерапрыемствы (96%). *(Дадатак 9)*

Асаблівасцю выбарчай кампаніі стала актыўнае выкарыстанне праўладнымі кандыдатамі магчымасцяў праводзіць агітацыю ў форме масавых мерапрыемстваў па-за памяшканнямі, чаго не назіралася падчас папярэдніх выбараў.

Агітацыя ў выглядзе масавых мерапремстваў праходзіла ў асноўным спакойна, аднак актыўныя апазіцыйныя кандыдаты сутыкаліся і з перашкодамі з боку прадстаўнікоў мясцовай выканаўчай улады.

Так, 26 жніўня ў в. Міжэрычы Зэльвенскага р-на каля мясцовай крамы сябры ініцыятыўнай групы кандыдата ў дэпутаты Івана Шэгі праводзілі агітацыйны пікет. Праз некаторы час да іх пад'ехала старшыня Тулаўскага сельсавета Таццяна Умарава. Пікетоўшчыкі паказалі ёй свае дакументы і паведамілі, што праводзяць мерапрыемства законна. Спадарыня Умарава выказала незадавальненне пікетоўшчыкамі і запісала дадзеныя іх пашпартоў, пасля чаго пікет працягнуўся.

Кандыдату ад АГП па Баранавіцкай-Заходняй ВА №5 Мікалаю Чарнавусу гарвыканкам забараніў ладзіць пікеты ў тых месцах, дзе ён прасіў, з-за інтарэсаў яго канкурэнта — дэпутата Палаты прадстаўнікоў Вольгі Палітыка. Яна заявіла, што не хоча, каб побач з яе пікетамі стаялі кандыдаты ад апазіцыі, і ўлады пайшлі ёй насустрач.

Кандыдат ад АГП па Віцебскай-Кастрычніцкай акрузе №20 Ірына Яскевіч у адказ на сваё пажаданне зладзіць інфармацыйныя пікеты пачула ў аддзеле ідэалогіі Кастрычніцкай раённай адміністрацыі, што да 10 верасня ўсе пляцоўкі ўжо распісаныя і занятыя яе канкурэнтамі: дзеючым дэпутатам Аляксандрам Цацохам, сябрам КПБ Уладзімірам Якаўлевым і прадстаўніком ЛДП Дзмітрыем Езафатавым. Аднак дамаўляцца кандыдатцы не было з кім: пікетаў у вызначаных месцах ніхто не праводзіў. А 9 верасня імкненне віцебскай кандыдаткі зладзіць агітацыйны пікет у замоўлены загадзя час скончылася непрадказальна. На агітацыйнай пляцоўцы яна ўбачыла ўдзельнікаў імпрэзы, арганізаванай бліжэйшай школай. Праўда, «дзіцячае свята» было аформлена перадвыбарчымі заклікамі і наяўнасцю каманды праўладнага канкурэнта Аляксандра Цацохі. Спадарыня Яскевіч патлумачыла арганізатарам, што мае права на гадзінны пікет, але не хоча псаваць свята ні дзецям, ні іх бацькам, якія сабраліся на агітпляцоўцы. Яна вывесіла свае плакаты і сцяг АГП. Прадстаўніца ідэалагічнага аддзела спрабавала запярэчыць: маўляў, сцяг і ўлёткі псуюць афармленне сцэны, загадала іх зняць. Пасля таго, як Ірына Яскевіч адмовілася, чыноўніца не вырашылася сама зрабіць гэта, агітацыйная прадукцыя знаходзілася на сваім месцы да канца імпрэзы.

Назіральнікі фіксавалі факты выкарыстання праўладнымі кандыдатамі адміністрацыйнага рэсурсу і службовага становішча пры арганізацыі агітацыйных масавых мерапрыемстваў. Так, па распараджэнні даверанай асобы кандыдата ў дэпутаты па Салігорскай гарадской выбарчай акрузе №68 Андрэя Рыбака — дырэктара дзяржаўнага швачнага прадпрыемства «Купалінка» Таццяны Яроты асобныя работнікі фабрыкі ў працоўны час і з выкарыстаннем дзяржаўнай уласнасці арганізоўвалі пікеты каля гарадскога рынка «Кастрычніцкі».

Кандыдат у дэпутаты па Віцебскай-Чкалаўскай акрузе №18, загадчык кафедры медуніверсітэта Сяргей Занько для арганізацыі пікетаў, якія адбываліся ў працоўны час, выкарыстоўваў службовы мікрааўтобус.

Выкарыстанне кандыдатам у дэпутаты па Магілёўскай-Прамысловай акрузе №87 Пятром Салаўёвым (працуе галоўным інжынерам — першым намеснікам генеральнага дырэктара ААТ «Магілёўхімвалакно») пераваг службовага становішча заключалася таксама ў тым, што прадстаўнікі ягонага перадвыбарчага штабу на пікеты дастаўляліся і дастаўлялі неабходные абсталяванне на службовым мікрааўтобусе, за рулём якога знаходзіўся штатны кіроўца. Увесь час, пакуль праходзілі пікеты, службовая машына стаяла побач на стаянцы, там жа знаходзіўся і кіроўца.

Назіральнікі паведамлялі пра парушэнні з боку праўладных кандыдатаў, якія праводзілі агітацыйныя мерапрыемствы з выкарыстаннем сродкаў па-за выбарчым бюджэтам. 11 жніўня быў зацверджаны прадстаўнік кандыдата ў дэпутаты па Мазырскай ВА № 42 Мікалая Расохі па фінансавых пытаннях. 15 жніўня 2016 года Мазырская раённая арганізацыя прафсаюзаў зладзіла пікет, на якім распаўсюджваліся друкаваныя агітацыйныя матэрыялы ў падтрымку кандыдата Мікалая Расохі, што зафіксаваў мясцовы тэлеканал. 19 жніўня на сайце мазырскага райвыканкама ў рубрыцы «Выбары-2016» з'явілася інфармацыя АВК аб паступленні і выдаткаванні грашовых сродкаў з асабістага рахунка гэтага кандыдата, з якой вынікае, што грашовыя сродкі Мікалай Расоха пакуль не выдаткоўваў. Сітуацыя, калі агітацыйная прадукцыя зроблена і распаўсюджваецца не за кошт выбарчага рахунка кандыдата, парушае патрабаванні ВК.

## 2.2. Агітацыйныя сходы

Месцамі для сустрэч з выбаршчыкамі ўлады вызначылі дамы культуры, актавыя залы ўстаноў адукацыі, медыцыны і прадпрыемстваў (па ўзгадненні з адміністрацыямі). Назіральнікі ў цэлым характэрызавалі гэтыя месцы як зручныя.

Так, у Бабруйску раённыя адміністрацыі вызначылі не адно, як у папярэднія выбарчыя кампаніі, а некалькі памяшканняў для правядзення сустрэч з выбаршчыкамі, размешчаных у розных кутках акруг: у Першамайскім раёне — чатыры такія памяшканні і столькі ж у Ленінскім раёне.

Згодна з рашэннем Слонімскага райвыканкама кандыдаты ў дэпутаты маглі вольна праводзіць сустрэчы ў Цэнтры культуры, палацы Пуслоўскага ў мікрараёне Альбярцін, у дзяржаўных установах: у школе мастацтваў, цэнтры народнай творчасці, сельскіх цэнтрах культуры, клубах і ў іншых зручных для кандыдатаў у дэпутаты месцах. Раней падобныя сустрэчы маглі адбывацца толькі ў глядзельнай зале кінатэатра «Мір».

У большасці рэгіёнаў спіс месцаў для сустрэч пашырыўся. Але былі і выключэнні, напрыклад, у Смаргонскай ВА №59 2 з 5 месцаў былі надзвычай нязручнымі для выбаршчыкаў.

Па дадзеных ЦВК *(Дадатак 10)*, было пададзена 1295 заяў аб прадастаўленні памяшканняў для правядзення 4014 сустрэчы кандыдатаў і іх даверaных асоб з выбаршчыкамі. У адрозненне ад масавых мерапрыемстваў, сустрэчы з выбаршчыкамі ў Мінску праводзіліся не так актыўна (91 заява аб правядзенні 299 сустрэч — па 7% ад агульнай колькасці заяў і сустрэч). Лідарамі па колькасці пададзеных заяў аб сустрэчах з выбаршчыкамі сталі Мінская і Віцебская вобласці — 433 (33%) і 362 (28%) адпаведна. Найбольшая колькасць заяўленых сустрэч адзначана ў Віцебскай вобласці — 1141 сустрэч ці 28%, а таксама ў Мінскай вобласці — 1013 (25%).

43% назіральнікаў адзначылі, што мясцовыя органы ўлады прадстаўлялі кандыдатам і іх даверaным асобам іншыя, акрамя вызначаных, памяшканні для сустрэч з выбаршчыкамі; 55% назіральнікаў адзначылі, што ўсе кандыдаты ў іх акрузе маглі на роўных умовах сустракацца з выбаршчыкамі ў гэтых памяшканнях; у 13% выбарчых акруг мясцовыя адміністрацыі не дазвалялі асобным кандыдатам праводзіць сустрэчы з выбаршчыкамі ў памяшканнях.

На сходах, арганізаваных у памяшканнях, перад выбаршчыкамі выступалі пераважна праўладныя прэтэндэнты на дэпутацкі мандат. У іх падтрымку нярэдка выкарыстоўваўся адміністрацыйны рэсурс, ствараліся магчымасці, недасяжныя для іншых кандыдатаў.

У вельмі спрыяльных умовах адбывалася агітацыйная кампанія кандыдата ў дэпутаты па Жодзінскай ВА №64, вылучанага ад ААТ «БелАЗ» і зборам подпісаў, намесніка старшыні Жодзінскага гарадскога Савета Дзмітрыя Заблоцкага. Яго даверaная асоба, старшыня Жодзінскага гарадскога Савета Наталля Сушко на сустрэчы заявіла, што кандыдата ад ААТ «БелАЗ» падтрымліваюць гарадскія ўлады. 26 жніўня ў Жодзіне прайшло мерапрыемства, скарыстанае для агітацыі за гэтага кандыдата. Звесткі пра падзею апублікаваў сайт Жодзінскага выканкама. Дзмітрый Заблоцкі праводзіў сустрэчы ў Жодзіне ў памяшканнях БелАЗ і «Світанак».

Кандыдат па Слуцкай ВА №67, галоўны рэдактар газеты «Слуцкі край» Валянціна Ражанец па дамоўленасці з кіраўніцтвам ДУП «ПМК-226» і Слуцкага цукроварафінаднага камбіната сустракалася з выбаршчыкамі-працаўнікамі гэтых прадпрыемстваў.

Кіраўнік справамі Мінскага абласнога выканаўчага камітэта, кандыдат па Маладзечанскай сельскай ВА №73 Іван Маркевіч сустракаўся з выбаршчыкамі ў памяшканнях сельсаветаў Маладзечанскага раёна.

Васіль Чэкан, начальнік Дэпартамента па матэрыяльных рэзервах Міністэрства па надзвычайных сітуацыях, які балатаваўся па Віцебскай-Чыгуначнай ВА №19, не прытрымліваўся афіцыйнага графіка сустрэч з выбаршчыкамі і межаў сваёй выбарчай акругі. Кандыдат анансаваў сустрэчу з выбаршчыкамі на 24 жніўня ў зале мясцовага каледжа. Сустрэча не адбылася, пра яе ў каледжы нават не ведалі. Затое высветлілася, што сустрэча прайшла ў іншы дзень і ніякай афіцыйнай інфармацыі пра яе не давалася. З іншым праўладным кандыдатам ён выступаў перад выбаршчыкамі ў працоўны час у Віцебскай абласной філармоніі, якая тэрытарыяльна належыць іншай акрузе (Віцебская-Кастрычніцкая ВА №20). На сустрэчу склікалі працоўны калектыў.

Адзначаны факты прымусу да ўдзелу ў агітацыйнай кампаніі кандыдатаў ад улады. У Смаргоні школьныя адміністрацыі прымушалі настаўнікаў прыходзіць на сустрэчу з праўладным кандыдатам Адамам Кавальком.

У Гомелі 5 верасня ў ДК глухіх «Віпра» прайшла сустрэча выбаршчыкаў з кандыдатам у дэпутаты па Юбілейнай акрузе Іванам Каржом, начальнікам Інстытута нацыянальнай бяспекі, які раней узначальваў Гродненскае і Гомельскае УКДБ. На сустрэчы прысутнічалі працаўнікі ААТ «Гомелькабель», прычым і тыя, якія не жывуць на акрузе. «Мы прыйшлі працоўнымі калектывамі», — адзначалі выбаршчыкі.

Праўладныя кандыдаты актыўна выкарыстоўвалі свой удзел у сацыяльна значных мерапрыемствах у агітацыйных мэтах. Паводле мясцовых СМІ, за некалькі дзён старшыня Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу, кандыдат па Докшыцкай ВА №22 Уладзімір Андрэйчанка паспеў выступіць на адкрыцці дзіцячага садка ў г.п. Ушачы Віцебскай вобл., на настаўніцкіх канферэнцыях у г. Глыбокае, а на Дзень ведаў падарыў СШ №1 г. Докшыцы камп'ютарны клас.

Кандыдат у дэпутаты па Светлагорскай ВА №46, дзеючы дэпутат Галіна Філіповіч мела магчымасць выступаць перад выбаршчыкамі на святах, якія адбыліся 19 жніўня ў вёсках Прудок і Маісееўка Светлагорскага раёна. З канцэртнымі праграмамі выступалі мясцовыя артысты, якіх мабілізаваў аддзел ідэалогіі і культуры. Пра святочныя мерапрыемствы паведамленні ў мясцовай газеце з'явіліся, а пра выступленні на іх Галіны Філіповіч не ўзгадвалася. Для арганізацыі сустрэч з кандыдатам выкарыстоўваўся адміністрацыйны рэсурс. На яе сустрэчы з выбаршчыкамі 1 верасня прысутнічалі кіраўнікі прадпрыемстваў горада, а таксама былі задзейнічаны брыгады БРСМ.

На прадпрыемствах Рэчыцы былі арганізаваны сустрэчы з намеснікам старшыні Гомельскага аблвыканкама, кандыдатам па Рэчыцкай ВА №44 Баляславам Пірштуком, яго даверанымі асобамі і інш.

Была зафіксавана тэндэнцыя ўтойвання ў рэгіёнах адміністрацыямі звестак пра час і месца сустрэч праўладных кандыдатаў ад іх канкурэнтаў па выбарчай акрузе. Падобная сітуацыя адзначалася, напрыклад, у выбарчых акругах №1 і № 2 г. Брэста.

Маніпуляцыі з інфармацыяй аб сустрэчах кандыдатаў з выбаршчыкамі былі заўважаны на сайтах адміністрацый раёнаў г. Мінска. З іх грамадскасць магла даведацца пра агітацыйныя мерапрыемствы выключна праўладных кандыдатаў, інфармацыі пра дзейнасць іншых кандыдатаў, якія ішлі па акругах сталіцы, не было. Напрыклад, сайт адміністрацыі Маскоўскага раёна даваў расклад сустрэч толькі трох кандыдатаў па трох выбарчых акругах: Ігара Камароўскага ў Паўднёва-Заходняй ВА №98, Людмілы Макарынай-Кібак у Грушаўскай ВА №99 і Аксаны Гайдук у Ясенінскай ВА №100. Інфармацыя пра сустрэчы астатніх 12 кандыдатаў, якія ішлі па гэтых акругах, не размяшчалася. Аналагічная сітуацыя быа адзначана на сайтах адміністрацый Савецкага, Завадскога раёнаў сталіцы.

Бабруйская газета «Трыбуна працы» публікавала расклад сустрэч з выбарчшыкамі толькі аднаго з пяці кандыдатаў па Бабруйскай сельскай ВА № 80, дырэктара ТАА «Бабушкина крынка» Ігара Кананчука. Аналіз графіка сустрэч паказвае, што большасць з іх адбыліся ў працоўны час.

Адначасова адзначаліся факты перашкод з боку ўлады для асобных кандыдатаў. Кандыдату ад АГП па Бярозаўскай ВА №9 Аляксандру Кабанаву адмовілі ў правядзенні сустрэчы на ААТ «Бярозабудматэрыялы», сарвалі некалькі сустрэч з працоўнымі калектывамі на ААТ «Бярозаўскі маторарамонтны завод», ААТ «Цеплапрыбор», ва Упраўленні дарожнага будаўніцтва.

Кандыдат Алег Аксёнаў, які балатаваўся на Магілёўскай-Цэнтральнай ВА №85, не змог правесці папярэдне ўзгодненую з АВК сустрэчу з выбаршчыкамі ў памяшканні СШ №21.

Апазіцыйных кандыдатаў не дапускалі да сустрэч з працоўнымі калектывамі на тэрыторыі Гомельскай-Навабеліцкай ВА №36.

У Лунінецкім раёне незалежнаму кандыдату па Лунінецкай ВА №13 Леаніду Дубаносаву прадстаўнікі мясцовай улады забаранілі сустракацца з выбаршчыкамі ў вызначаных для гэтага месцах. У в. Кажан-Гарадок кіраўнік справамі мясцовага сельвыканкама Галіна Малафейчык не задаволіла патрабаванне кандыдата, спаслаўшыся на тое, што з выбаршчыкамі ўжо сустракаецца канкурэнт Дубаносава, праўладны кандыдат Ігар Невар.

На сустрэчу з кандыдатам у дэпутаты па Салігорскай гарадской выбарчай акрузе Аляксандрам Малочкам, якая адбывалася ў актавай зале абагачальнай фабрыкі першага рудакіравання «Беларуськалія», не пусцілі ягонага бацьку Віктара Малочку — даверaную асобу і кіраўніка перадвыбарчага штабу. Начальнік аддзела кадраў Аляксандр Цесавец за гадзіну да мерапрыемства прабег па кабінетах адміністрацыі фабрыкі і фактычна забараніў усім сустракацца з кандыдатам. Ад тых, хто ўсё адно хацеў прыйсці на сустрэчу, патрабавалі пісаць заяву «за свой кошт».

## 2.3. Агітацыя шляхам распаўсюду друкаваных матэрыялаў

Большасць назіральнікаў паведамілі, што месцы для агітацыйных матэрыялаў былі зручнымі і ў параўнанні з мінулымі выбарамі сітуацыя альбо не змянілася, альбо палепшылася. У асноўным такімі месцамі былі рэкламна-інфармацыйныя тумбы на прыпынках грамадскага транспарту, каля вакзалаў, інфармацыйныя стэнды, дошкі аб'яваў ЖЭС, вітрыны і іншае.

На Віцебшчыне два райвыканкамы — Браслаўскі і Талачынскі — у сваіх рашэннях не рабілі канкрэтнага пераліку аб'ектаў для размяшчэння плакатаў, улётак ды іншай агітацыйнай прадукцыі, а выклалі толькі агульныя рэкамендацыі: агітацыйныя друкаваныя матэрыялы можна раз-

мяшчаць у вітрынах крамаў, каля ўваходаў у банкі, установы, прадпрыемствы гандлю і бытавога абслугоўвання насельніцтва, а таксама на рэкламных тумбах і дошках аб'яваў. Адсутнасць канкрэтных абмежаванняў можа расцэньвацца як станоўча, так і адмоўна: ініцыятыўныя групы кандыдатаў нярэдка скардзяцца на тое, што агітацыйныя матэрыялы знікаюць паводле негалосных распараджэнняў кіраўнікоў некаторых устаноў ці арганізацый. І ў выпадку, калі ў якасці месца распаўсюду візуальнай інфармацыі пазначаны канкрэтны аб'ект, лягчэй шукаць адказных за захаванасць плакатаў ці ўлётак.

У Магілёве знялі патрабаванне ўзгаднення размяшчэння агітацыйных матэрыялаў з кіраўніцтвам пералічаных устаноў і арганізацый, але ў большасці іншых рэгіёнаў назірання такое патрабаванне захавалася. Так, згодна з рашэннем Гомельскага гарвыканкама, для размяшчэння перадвыбарчай агітацыі захоўваўся дазваляльны прынцып, які забараняў рабіць гэта па-за вызначанымі месцамі. Вызначаных месцаў было толькі 19 на ўсю выбарчую акругу, у той час як прыпынкаў грамадскага транспарту на тэрыторыі акругі больш за 100.

Былі выпадкі, калі АВК не пераправяралі статус месцаў і вызначалі іх каля тых аб'ектаў, якіх ужо не існуе.

Адзначаны выпадкі перашкод у публікацыі агітацыйных матэрыялаў апазіцыйных кандыдатаў (патрабаванні ўзгадніць, скарэктаваць змест гэтых матэрыялаў). Пры гэтым дзеючае выбарчае заканадаўства не прадугледжвае патрабавання ўзгаднення тэкстаў выбарчых друкаваных матэрыялаў друкарнямі і не накладае такіх абавязкаў на саміх кандыдатаў.

Падобныя праблемы ўзніклі, у прыватнасці, у кандыдатаў ад АГП Уладзіміра Шанцава (Магілёўская сельская ВА №88) і Сяргея Смалякова (Магілёўская-Прамысловая ВА №87). Супрацоўнікі Магілёўскай друкарні ім С. Собаля адмовіліся друкаваць іх улёткі без папярэдняга «ўзгаднення» іх зместу.

Зафіксаваны нават выпадкі, калі кандыдаты сутыкаліся з адмовамі з боку акруговых камісій размяшчаць біяграфічныя звесткі ў тым выглядзе, як ім прадстаўлялі прэтэндэнты на дэпутацкія мандаты. АВК Светлагорскай ВА №46 адмовілася друкаваць біяграфію кандыдата ад партыі «Зялёныя» Юрыя Ляшэнкі ў прадстаўленым выглядзе, палічыўшы агітацыяй частку біяграфіі, дзе казалася, што кандыдат займаецца грамадскай дзейнасцю, стварае працоўныя месцы, дапамагае інвалідам. Юрый Ляшэнка накіраваў скаргу ў ЦВК і атрымаў адказ, што акруговай камісіі прапанавана ўключыць біяграфію цалкам: «ЦВК раіць выбарчым камісіям пры падрыхтоўцы тэксту плаката ўлічваць, перш за ўсё, інтарэсы выбаршчыкаў, гэта значыць прадстаўляць інфармацыю, якая дазволіць ім скласці аб'ектыўнае ўяўленне аб кандыдатах». Пасля ў АВК Светлагорскай ВА №46 запэўнілі, што біяграфія Ляшэнкі будзе апублікавана без купюр і рэдакцыі.

Кандыдат у дэпутаты па выбарчай акрузе №9 Мельнік А.Н. падаў у акруговую камісію свае біяграфічныя дадзеныя, дзе засведчыў: «З'яўляюся праваслаўным вернікам». Акруговая камісія выкрасліла гэтыя звесткі. Кандыдат падаў скаргу ў Брэсцкую абласную выбарчую камісію. 23 жніўня ТВК паведаміла кандыдату аб задавальненні яго скаргі.

Акруговая камісія Магілёўскай-цэнтральнай выбарчай акругі №85 пры падрыхтоўцы агульнага інфармацыйнага плаката выкарыстала няўзгоднены здымак кандыдата ад Партыі БНФ Зміцера Салаўёва. Пры гэтым падчас рэгістрацыі З.Салаўёва кандыдатам у дэпутаты ён падаў у акруговую выбарчую камісію сваю біяграфію і фота. На здымку яго партрэт быў на фоне банера Партыі БНФ з гербамі «Пагоня». На агульным плакаце ў выніку быў надрукаваны здымак, на якім З.Салаўёў быў сфатаграфаваны ў іншай вопратцы і на чыста белым фоне.

Некаторыя кандыдаты сутыкаліся з цяжкасцямі пры размяшчэнні сваіх перадвыбарчых плакатаў у вызначаных для гэтага месцах. Так адбылося на цэнтральным паштовым аддзяленні Слоніма з кандыдатам па Слонімскай ВА №58 Іванам Шэгам. Загадчыца аддзялення сказала, што не мае права вывешваць агітацыйныя плакаты ў падтрымку Івана Шэгі без загаду начальніка Раённага вузла паштовай сувязі Аляксандра Траццяка. Пры гэтым у рашэнні Слонімскага раённага выканаўчага камітэта № 517 ад 22 ліпеня 2016 года паведамлялася пра дазвол на размяшчэнне агітацыйных друкаваных матэрыялаў пра кандыдатаў у дэпутаты ў крамах, паштовых аддзяленнях, аптэках і г.д. Адмову ў размяшчэнні агітацыйных матэрыялаў Івана Шэгі атрымаў і кіраўнік выбарчага штаба кандыдата Віктар Марчык у вёсцы Сурынка. Калі ён звярнуўся да прадаўца вясковай крамы з просьбай прымацаваць агітацыйную ўлётку, жанчына спалохана адмовілася гэта зрабіць. Яна сказала, што «калі павесіць на краме плакат з Шэгам — то яе начальнікі з'ядуць ці выганяць з працы».

У Полацку ў адной з гандлёвых кропак кандыдату ад партыі БНФ па Полацкай гарадской ВА №27 Вользе Дамаскінай не дазволілі вывесіць агітацыйную прадукцыю, пры тым, што інфармацыя пра іншага, праўладнага кандыдата па гэтай акрузе ўжо вісела.

Кандыдату ад Беларускай партыі «Зялёныя» па Светлагорскай ВА №46 Юрыю Ляшэнку таксама давялося пераадолець адміністрацыйныя перашкоды, каб размясціць сваю агітацыйную прадукцыю і інш.

Кандыдат па Лунінецкай ВА №13 Леанід Дубаносаў паведамляў, што ягоныя агітацыйныя матэрыялы знішчаюць невядомыя асобы. Аналагічную праблему агучваў і кандыдат па Салігорскай гарадской выбарчай акрузе Аляксандр Малочка.

У розных рэгіёнах краіны назіральнікі фіксавалі факты распаўсюду агітацыйных матэрыялаў праўладных кандыдатаў, выробленых з парушэннем устноўленага парадку.

Так, у гарадскім пасёлку Хоцімск і Хоцімскім раёне актыўна распаўсюджваліся агітацыйныя ўлёткі ў падтрымку кандыдата ў дэпутаты па Крычаўскай выбарчай акрузе №83, старшыні Крычаўскага раённага Савета дэпутатаў Таццяны Марачкавай. На ўлётках адсутнічалі неабходныя выходныя дадзеныя: адрас арганізацыі, якая вырабіла друкаваныя матэрыялы, і прозвішча і ініцыялы заказчыка. Такія ж улёткі Таццяны Марачкавай распаўсюджваліся і на тэрыторыі Клімавіцкага раёна. Пры гэтым кандыдат-камуніст змясціла на ўлётках праваслаўны царкоўны каляндар на 2017 год.

Аналагічныя парушэнні ўтрымліваліся ў агітацыйных друкаваных матэрыялах кандыдата ў дэпутаты па Барысаўскай сельскай выбарчай акрузе № 63 Тамары Красоўскай.

Абодва кандыдаты па Жодзінскай выбарчай акрузе №64 парушалі ўмовы выпуску і распаўсюду агітацыйных друкаваных матэрыялаў. На улётках, плакатах і каляндарыках Дзмітрыя Заблоцкага, а таксама на улётках Аляксандра Гурыненкі не былі пазначаны патрабуемыя выбарчым заканадаўствам звесткі: адрас арганізацыі, якая вырабіла друкаваныя матэрыялы; нумар і дата выдачы пасведчання аб дзяржаўнай рэгістрацыі вытворцы друкаваных выданняў; прозвішча і ініцыялы заказчыка. За дадзеныя парушэнні акруговая камісія Жодзінскай выбарчай акругі №64 на сваім паседжанні 8 верасня вынесла папярэджанні абодвум кандыдатам.

За парушэнне заканадаўства акруговая выбарчая камісія Асіповіцкай ВА №89 вынесла папярэджанне кандыдату ў дэпутаты, дзеючаму дэпутату Палаты прадстаўнікоў па гэтай жа акрузе Мікалаю Калтунову. Такім чынам камісія адрэагавала на скаргу назіральніка БХК на Глускім выбарчым участку №2 Ігара Кірына, які заўважыў, што Мікалаем Калтуновым распаўсюджваецца агітацыйная прадукцыя, выробленая з парушэннем Выбарчага кодэкса. Агітацыйныя плакаты Мікалая Калтунова былі вывешаны на Глускім выбарчым участку №2, а таксама ў вітрынах магазінаў у Глуску. Выходныя дадзеныя агітацыйнага плаката Мікалая Калтунова былі няпоўныя.

## 2.4. Агітацыя ў сродках масавай інфармацыі

Кандыдаты мелі магчымасць скарыстацца правам выступу на ТВ і надрукаваць сваю праграму ў дзяржаўных СМІ, аднак некаторыя адмовіліся ад яго; на дзяржаўным тэлебачанні выступілі 416 кандыдатаў (80% ад агульнай колькасці зарэгістраваных кандыдатаў і 85% ад колькасці кандыдатаў, якія працягвалі ўдзел у выбарах); на дзяржаўным радыё — 380 кандыдатаў (72% ад агульнай колькасці зарэгістраваных і 77% ад тых, што працягвалі ўдзел у кампаніі) *(Дадатак 11)*; у тэледэбатах узялі ўдзел 227 кандыдатаў (43% ад агульнай колькасці зарэгістраваных і 46% ад тых, што працягвалі ўдзел у кампаніі). *(Дадатак 12.)* 385 кандыдатаў у дэпутаты накіравалі свае перадвыбарчыя праграмы для апублікавання ў газетах. Гэта складае 74% ад агульнай колькасці зарэгістраваных кандыдатаў ці 79% ад колькасці кандыдатаў, якія працягвалі ўдзел у выбарах[3].

Некаторыя кандыдаты сутыкнуліся з цэнзурай сваіх перадвыбарчых выступаў і тэкстаў у друкаваных выданнях. Былі зафіксаваны асобныя выпадкі забароны паказу выступаў кандыдатаў у дэпутаты .

Рэдакцыя газеты «Вечерний Брест» прапанавала старшыні абласной арганізацыі БСДП (Грамада) Ігару Маслоўскаму (Брэсцкая-Памежная ВА №4) унесці змены ў тэкст сваёй агітацыйнай публікацыі. У афіцыйным адказе выконваючага абавязкі рэдактара газеты Наталлі Васюк адзначалася, што матэрыял Ігара Маслоўскага не прымаецца да публікацыі з-за выразаў, якія могуць быць успрынятыя як «абраза на адрас людзей розных прафесій». Маецца на

3 http://rec.gov.by/sites/default/files/pdf/Elections-PPNS6-sved4.pdf.

ўвазе наступны фрагмент: «Не падтрымлівайце на выбарах лекараў, ваенных і іншых добрых людзей — яны кандыдаты ад улады. Усе яны добрыя людзі пакуль на сваім месцы, але ўсе яны залежныя ад начальства і пераўтвараюцца ў «дрэнных» дэпутатаў. Гэтыя добрыя людзі галасуюць за тое, што ім кажуць. Менавіта з іх маўклівай згоды падвысілі пенсійны ўзрост, пазбавілі стажу тых, хто служыў у арміі, быў у дэкрэтным адпачынку, вучыўся ва ўніверсітэце і г.д. Менавіта яны падтрымалі падатак на беспрацоўных і нічога не зрабілі для стварэння новых рабочых месцаў». Пасля ўмяшальніцтва выбарчай камісіі ў газеце знялі свае прэтэнзіі да тэкста кандыдата ў дэпутаты. Аднак гэта была не адзіная скарга кандыдата ў дэпутаты на рэдакцыю выдання. Наступная скарга датычыла таго, што ягоная перадвыбарчая праграма была апублікавана ў №67 гэтай газеты ад 24 жніўня накладам 4300 асобнікаў. Разам з тым, перадвыбарчая праграма іншага кандыдата — дэпутата Палаты прадстаўнікоў Уладзіміра Базанава была апублікавана ў газеце «Вячэрні Брэст» у №66 ад 19 жніўня, які выйшаў накладам 10000 асобнікаў. «Адпаведна, перадвыбарчую праграму Уладзіміра Базанава атрымалі на 5700 сем'яў больш, чым маю, — заўважыў лідар брэсцкіх сацыял-дэмакратаў. — Калі ўлічыць, што ў сярэднім у кватэры пражывае 3 выбаршчыкі, то ў цэлым гэта можа складаць парадку 17 100 выбаршчыкаў». Разам з тым, дзяржаўныя СМІ, выданні, што часткова фінансуюцца з рэспубліканскага або мясцовага бюджэтаў, а таксама сродкі масавай інфармацыі, адным з заснавальнікаў якіх выступаюць дзяржаўныя органы ці арганізацыі, абавязаны забяспечваць роўныя магчымасці для перадвыбарчых выступаў кандыдатаў.

У Смаргонскай дзяржаўнай газеце «Светлы шлях» (№35 ад 26.08.16) былі размешчаны праграмы кандыдатаў Ірыны Вештард і Адама Кавалька. Праграма Вештард была надрукавана драбнейшым шрыфтам і таму займала прыкладна на 20-25% меншую плошчу. Ірына Вештард паведаміла, што пасля здачы праграмы на публікацыю яна заехала ў рэдакцыю газеты і зрабіла праўкі ў тэксце. Але пры друку праўкі былі праігнараваны, праграма выйшла ў першапачатковым варыянце.

Кандыдату па Свіслацкай выбарчай акрузе № 93 у Мінску Юрыю Хашчавацкаму ў публікацыі перадвыбарчай праграмы адмовіла газета «Вечерний Минск». У адмове галоўнага рэдактара газеты Протаса было сказана: «Паважаны Юрый Іосіфавіч! Паведамляем, што Ваша перадвыбарная праграма, пададзеная 19.08.2016 у рэдакцыю газеты «Вечерний Минск» УП Агенцтва «Мінск-Навіны», не можа быць апублікаваная, бо не адпавядае патрабаванням артыкулаў 47 і 75 Выбарчага кодэкса Рэспублікі Беларусь ад 11 лютага 2000 г. № 37-З. З павагай, галоўны рэдактар газеты «Вечерний Минск» С.А.Протас». У артыкулах 47 і 75 гаворыцца, што «праграма кандыдата не павінна змяшчаць прапаганды вайны, заклікаў да гвалтоўнай змены канстытуцыйнага ладу, парушэння тэрытарыяльнай цэласнасці Рэспублікі Беларусь, да сацыяльнай, нацыянальнай, рэлігійнай і расавай варожасці, заклікаў, якія падахвочваюць або маюць сваёй мэтай падахвочванне да зрыву, або адмены, або пераносу тэрміну выбараў, прызначаных у адпаведнасці з заканадаўчымі актамі Рэспублікі Беларусь, а таксама абразаў і паклёпу ў дачыненні да службовых асоб Рэспублікі Беларусь, іншых кандыдатаў у дэпутаты». Кандыдат у дэпутаты выказаў здагадку, што ў газеце маглі палічыць абразай характарыстыку прэзідэнта як «не вельмі адукаванага чалавека» ці сцвярджэнне, што ён «падманам прысвоіў сабе права абірацца пажыццёва».

25 жніўня на мясцовым тэлебачанні Смаргоні адмянілі трансляцыю выступу кандыдата ў дэпутататы па Смаргонскай акрузе ад партыі АГП Мікалая Уласевіча. Кандыдат гаварыў пра інцыдэнт на АЭС і магчымыя пагрозы. Раней афіцыйная газета Астравецкага райвыканкама «Астравецкая праўда» адмовілася друкаваць перадвыбарчую праграму Мікалая Уласевіча. У адмове гаварылася, што праграма кандыдата не адпавядае патрабаванням ч.1 арт. 47 і ч. 1 арт. 75 ВК, у якіх ідзе гаворка пра забарону на заклікі да змены канстытуцыйнага ладу, распальванне міжнацыянальнай ці сацыяльнай варожасці, а таксама абразу і паклёп на службовых асоб. У праграме Уласевіча змяшчалася нібыта неадпаведная рэчаіснасці інфармацыя адносна апанента ад улады Адама Кавалько пра яго злоўжыванні. Рэдакцыя прапанавала змяніць тэкст праграмы кандыдата. Нават у судзе Астравецкага раёна кандыдат не змог аспрэчыць забарону на адмову сродкаў масавай інфармацыі ў апублікаванні перадвыбарчай праграмы і прадстаўленні эфірнага часу. *(Дакумент 3)*

Не ўсе запісаныя выступы кандыдатаў былі паказаныя. Не выйшаў у эфір выступ Паўла Стэфановіча, кандыдата ад АГП, які балатаваўся па Паўднёва-Заходняй ВА №98 г. Мінска. Большая частка тэзісаў Стэфановіча, з якімі ён звяртаўся да выбаршчыкаў, была прысвечаная аднаму з

пунктаў яго перадвыбарчай праграмы — легалізацыі марыхуаны. Паводле каментара старшыні ЦВК Лідзіі Ярмошынай, выступ не паказалі, таму што ён парушаў нормы заканадаўства, якое супрацьдзейнічае наркагандлю.

16 жніўня па тэлебачанні быў паказаны выступ кандыдата ад АГП па Гомельскай-Юбілейнай ВА №31 Уладзіміра Няпомняшчых, пры гэтым частка надпісу «За Беларусь без Лукашэнкі» на яго адзенні была закрыта, у выніку чаго глядач бачыў толькі словы «За Беларусь».

1 верасня на тэлеканале «Беларусь-3» адбыўсяся эфір тэледэбатаў кандыдатаў па Бярозаўскай ВА №9, сябра АГП Аляксандра Кабанава і сябра БПЛ «Справядлівы свет» Аляксандра Мельніка. Некаторыя выказванні Аляксандара Кабанава былі выразаныя.

Кандыдат у дэпутаты па ВА №83 Таццяна Шамбалава сумесна са сваёй даверанай асобай Віталём Рымашэўскім падалі скаргі ў акруговую камісію Крычаўскай ВА №83, Магілёўскую абласную камісію і ЦВК на парушэнне выбарчага заканадаўства пры правядзенні тэледэбатаў. 23 жніўня, падчас запісу тэлебатаў, вядучы, галоўны рэдактар ТРК «Магілёў» А. Скарабагатаў перашкаджаў выступам Віталя Рымашэўскага. Падобных дзеянняў у адносінах да іншай удзельніцы тэлебатаў, кандыдата ў дэпутаты Палаты прадстаўнікоў, старшыні Крычаўскага райсавета Таццяны Марачкавай з боку рэдактара не назіралася.

Белтэлерадыёкампанія забараніла выстаўляць паказаныя на канале «Беларусь-3» ролікі кандыдатаў у сацыяльных сетках, спасылаючыся на свае аўтарскія правы на гэты агітацыйны відэакантэнт.

Старшыня Назіральнага савета па кантролі за выкананнем парадку і правіл правядзення перадвыбарчай агітацыі ў СМІ, першы намеснік міністра інфармацыі Беларусі Ігар Луцкі патлумачыў правілы выкарыстання сацсетак у перадвыбарчай агітацыі: «кандыдату ў дэпутаты не забаронена карыстацца сацыяльнымі сеткамі ў агітацыйных мэтах пры ўмове, што ў такую дзейнасць не будуць укладвацца матэрыяльныя сродкі»[4]. Эксперты кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары» выказалі меркаванне, што пры адсутнасці дэтальна прапрацаваных працэдур прымяненне падобнай нормы на практыцы выклікае мноства пытанняў.

Дзейнасць апазіцыйных кандыдатаў практычна ігнаравалася дзяржаўнымі СМІ, у той час як актыўнасць кандыдатаў ад улады асвятлялася шырока.

Акрамя публікацыі праграмных матэрыялаў, мясцовыя СМІ шмат пісалі пра кандыдатаў ад улады ў кантэксце сацыяльна значных мерапрыемстваў. Актыўна прасоўваліся ў прэсе дэпутат Палаты прадстаўнікоў, кандыдат па Наваполацкай ВА № 24 Вадзім Дзевятоўскі, старшыня Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу, кандыдат па Докшыцкай ВА №22 Уладзімір Андрэйчанка, дэпутат Палаты прадстаўнікоў, кандыдат па Светлагорскай ВА №46 Галіна Філіповіч, начальнік аддзела сацыяльнага развіцця ААТ «Гродна-Азот», кандыдат па Гродзенскай-Кастрычніцкай ВА №50 Віктар Русак, дэпутат Палаты прадстаўнікоў, старшыня пастаяннай камісіі па правах чалавека, нацыянальных адносінах і сродках масавай інфармацыі, кандыдат па Лідскай ВА № 55 Андрэй Наумовіч і інш.

Змест і аб'ём публікацый, прысвечаных праўладным кандыдатам, у некаторых рэгіянальных выданнях указваў на няроўнае стаўленне да ўдзельнікаў выбарчага працэсу.

Газета «Светлагорскія навіны» (№ 62 ад 16.08.2016) у рубрыцы «Выбары-2016» апублікавала разгорнуты матэрыял пра аднаго з пяці кандыдатаў па Светлагорскай ВА №46. Герой артыкула — дзеючы дэпутат Палаты прадстаўнікоў Галіна Філіповіч.

Газета «Полацкі веснік» (№ 64 ад 16.08.2016) на першай старонцы размясціла інфармацыю пра адкрыццё разліковага рахунка, час сустрэч з даверанымі асобамі і выбарцамі кандыдата па Полацкай гарадской ВА № 27 Наталлі Гуйвік, таксама дзеючага дэпутата Палаты прадстаўнікоў. Звесткі пра рахункі трох іншых кандыдатаў па акрузе склалі адзін, менш падрабязны матэрыял, надрукаваны пазней.

Газета «Жодзінскія навіны» (ад 16.08.2016) у рубрыцы «Народ и власть» апублікавала артыкул, у цэнтры якога асоба кандыдата па Жодзінскай ВА №64, генеральнага дырэктара ААТ «БЕЛАЗ» Дзмітрыя Заблоцкага. Назва артыкула сугучна слогану выбарчай праграмы Заблоцкага.

[4] http://www.belta.by/politics/view/vybory-2016-mininform-belarusi-pojasnil-kak-pravilno-vesti-predvybornuju-agitatsiju-v-sotssetjah-202887-2016/#top

Варта адзначыць, што яшчэ да моманту рэгістрацыі кандыдатаў дзяржаўныя выданні актыўна публікавалі матэрыялы пра праўладных прэтэндэнтаў на дэпутацкі мандат. 3 жніўня Гродзенская абласная ТВК разглядала скаргу назіральніка Рамана Юргеля на публікацыю серыі артыкулаў аб праўладных прэтэндэнтах у дэпутаты ў газеце Гродзенскага аблвыканкама «Гродзенская праўда». Назіральнік указаў артыкулы, якія маюць характар прыхаванай агітацыі:

— артыкул «Каб сэрца стукала» аб Тамары Далгашэй, сябра Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу, галоўным лекары Гродзенскага абласнога клінічнага кардыяцэнтра, якая вылучаецца ў кандыдаты па Гродзенскай-Ленінскай выбарчай акрузе № 52 (нумар ад 2016/07/13 №55);

— артыкул «Прафсаюзы заўсёды побач» пра Валерыя Саўко, які вылучаецца ў кандыдаты па Шчучынскай выбарчай акрузе № 60 (нумар ад 2016/07/20 №57);

— артыкул «Мы датычныя да іх лёсу» пра Лілію Кір'як, дырэктарку СШ №13 г. Гродна, якая вылучаецца ў кандыдаты па Гродзенскай-Цэнтральнай выбарчай акрузе №51 (нумар ад 2016/07/23 №58);

— артыкул «Ад ідэі да рэалізацыі» пра Алу Сопікаву, дзеючага дэпутата ПП НС, якая вылучаецца ў кандыдаты па Слонімскай выбарчай акрузе № 58 (нумар ад 2016/07/23 №58);

— артыкул «Перадавы вопыт для рабочых спецыяльнасцяў» пра Сяргея Літвіна, дырэктара Скідзельскага дзяржаўнага сельскагаспадарчага прафесійнага ліцэя, які вылучаецца ў кандыдаты па Гродзенскай сельскай выбарчай акрузе № 53 (нумар ад 2016/07/23 №58).

Гэтыя публікацыі парушалі роўнасць патэнцыйных кандыдатаў у дэпутаты і з'яўляліся прыхаванай перадвыбарчай агітацыяй. Пры гэтым у газеце «Гродзенская праўда» адсутнічалі артыкулы пра іншых асоб, якія збіралі подпісы і мелі намер падаваць дакументы на рэгістрацыю ў якасці кандыдатаў у дэпутаты.

Па скарзе Юргеля ТВК прыняла рашэнне, што перадвыбарчай прыхаванай агітацыі ў артыкулах газеты пра праўладных прэтэндэнтаў у кандыдаты не было, адміністрацыйны рэсурс не выкарыстоўваўся. Гучалі аргументы, што ні журналісты газеты, ні кіроўцы, ні прыбіральшчыцы, якія працуюць у «Гродзенскай праўдзе», не ўваходзяць у склад ініцыятыўных груп праўладных вылучэнцаў, нумары газеты ў час збору подпісаў не раздаваліся. І ўвогуле артыкулы пра гэтых вылучэнцаў выпадковыя, так супала, таму што цэлы год газета друкуе падобныя артыкулы пра вартых, аўтарытэтных людзей рэгіёна, дасягнуўшых у жыцці нечага важкага. Са слоў аднаго з членаў камісіі, «не пра беспрацоўных жа, нічога не дасягнуўшых у жыцці людзей, пісаць газеце». Галоўны рэдактар «Гродзенскай праўды» таксама адпрэчваў усялякую сувязь з аблвыканкамам і сцвярджаў, што ні ад каго не атрымліваў ніякіх загадаў пра друкаванне падобных артыкулаў і не выкарыстоўваў адміністрацыйнага рэсурсу, даводзіў, што газета не атрымлівае з бюджэту ніякіх фінансавых сродкаў.

Гэтая ж тэндэнцыя асвятлення дзейнасці выключна праўладных вылучэнцаў працягнулася і пасля рэгістрацыі кандыдатаў. Раман Юргель падаў скаргу ў Цэнтральную камісію на прадмет выкарыстання дзяржаўнай прэсай адміністрацыйнага рэсурсу для агітацыі за вылучаных уладай кандыдатаў у дэпутаты. ЦВК за подпісам Лідзіі Ярмошынай паведаміла, што Назіральны савет па кантролі за выкананнем парадку і правілаў правядзення перадвыбарчай агітацыі ў сродках масавай інфармацыі рэкамендаваў газеце «Гродзенская праўда» ўстрымацца ад публікацый падобнага характару, якія могуць быць расцэнены як «схаваная агітацыя» ў інтарэсах некаторых кандыдатаў. Адначасова Назіральны савет па кантролі за СМІ рэкамендаваў Гродзенскай абласной выбарчай камісіі ўзмацніць кантроль за выкананнем правілаў перадвыбарчай агітацыі.

## 3. Назіральны Савет па СМІ

Пастановай ЦВК №43 ад 3 жніўня ў склад Назіральнага Савета па кантролі за выкананнем парадку і правіл правядзення перадвыбарчай агітацыі ў сродках масавай інфармацыі, быў уключаны старшыня «Беларускай асацыяцыі журналістаў» Андрэй Бастунец.

Старшыня Цэнтральнай камісіі Лідзія Ярмошына распавяла, у ЦВК паступіў зварот ад кіраўніка БАЖ А.Бастунца, які прасіў уключыць яго і сябра Праўлення арганізацыі Алега Агеева ў склад Назіральнага Савета. Л. Ярмошына прапанавала задаволіць зварот напалову, уключыўшы ў склад Савета аднаго А.Бастунца. Зачытаўшы біяграфію Бастунца, Ярмошына сказала, што ён з'яўляецца дасведчаным спецыялістам у галіне журналістыкі, перш за ўсё з прававога пункта гледжання. «Ду-

маю, яго меркаванне будзе адрозніваецца ад меркаванняў іншых членаў Савета і дапаможа прыняць якаснае рашэнне пры разглядзе спрэчак падчас перадвыбарнай агітацыі», адзначыла старшыня ЦВК. Сакратар ЦВК Мікалай Лазавік паведаміў, што на прэзідэнцкіх выбарах паступала аналагічная заяўка, але яна не была задаволеная, бо склад савета з прадстаўнікоў дзяржаўных СМІ «катэгарычна адмовіўся працаваць з прадстаўнікамі апазіцыйнай журналісцкай арганізацыі».

«Праваабаронцы за свабодныя выбары» ўключэнне ў склад Назіральнага Савета прадстаўніка незалежнай журналісцкай арганізацыі расцанілі як станоўчы крок. Аднак 29 жніўня Цэнтральная камісія па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў адмовіла ў запрашэнні прадстаўніка РПГА «Беларускі Хельсінкскі Камітэт» на пасяджэнне Назіральнага Савета. Як было адзначана ў адказе ЦВК, прадугледжаныя выбарчым заканадаўствам правы нацыянальных назіральнікаў, акрэдытаваных на выбарах пры выбарчых камісіях, даюць права на ўдзел у пасяджэннях адпаведных камісій. Што датычыцца прысутнасці на пасяджэннях Назіральнага Савета, згодна з існуючай практыкай, на гэтыя пасяджэнні дапускаюцца спецыяльныя аналітыкі па СМІ доўгатэрміновых місій міжнародных назіральнікаў. У тэлефоннай размове загадчыца арганізацыйна-кадравага аддзела ЦВК Алена Дзмухайла заявіла прадстаўніку РПГА «Беларускі Хельсінкскі Камітэт», што ў міжнародных назіральнікаў больш правоў, чым у нацыянальных.

Праца Назіральнага Савета па кантролі за СМІ па-ранейшаму заставалася закрытай ад грамадскасці, ЦВК не паведамляла пра характар разгледжаных спрэчак і вынікі іх разгляду.

Толькі дзякуючы каментарам Андрэя Бастунца стала вядома, колькі, якія скаргі, у якім парадку і з якімі вынікамі былі разгледжаны.

На першым паседжанні[5], на якое быў запрошаны прадстаўнік БАЖ, разглядалася скарга кандыдата па Шчучынскай выбарчай акрузе №60 Сяргея Трафімчыка, вылучанага Партыяй БНФ. Сяргей Трафімчык прасіў савет даць прававую ацэнку некалькім публікацыям у дзяржаўных газетах «Зара над Нёманам», «Гродзенская праўда» і «Дзянніца». Публікацыі пабачылі свет пасля рэгістрацыі ініцыятыўных груп і тычыліся дзейнасці яшчэ аднаго прэтэндэнта па гэтай акрузе, старшыні абласной арганізацыі Беларускага прафсаюза работніка дзяржаўных і іншых устаноў Валерыя Саўко. У матэрыялах гаворка ішла пра пікеты па зборы подпісаў, якія зладзіў В.Саўко, і пра мерапрыемствы, у якіх ён браў удзел. Таксама ў двух выданнях было надрукавана інтэрв'ю з В.Саўко як старшынёй абласной прафсаюзнай арганізацыі. С.Трафімчык прасіў Савет даць ацэнку гэтым публікацыям і накіраваць кіраўнікам названых вышэй СМІ рэкамендацыі па недапушчэнні парушэння дзяржаўнымі СМІ роўных умоваў для кандыдатаў і стварэння переваргі адным кандыдатам перад іншымі ў інтарэсах вылучэння і абрання. Па словах А.Бастунца, большасць чальцоў Савета не бачыла ў гэтых матэрыялах парушэнняў, бо выбарчае заканадаўства не рэгламентуе дзейнасць СМІ да рэгістрацыі кандыдатаў у дэпутаты і пачатку агітацыйнай кампаніі, а ўмяшальніцтва ў рэдакцыйную палітыку медыяў недазволена. Да таго ж у большасці са згаданых публікацыяў не ўзгадвалася ні пра выбары, ні пра намер В.Саўко балатавацца ў Палату прадстаўнікоў. Што тычыцца матэрыялаў пра пікеты, то пікетаў іншых патэнцыйных кандыдатаў проста не было. Меркаванне А.Бастунца адрознівалася ад высноў большасці чальцоў Савета: ён звярнуў увагу на храналогію з'яўлення публікацый — адразу пасля рэгістрацыі ініцыятыўнай групы В.Саўко — і надуманасць нагоды для інтэрв'ю з ім (60-годдзе абласной прафсаюзнай арганізацыі, якое святкавалася яшчэ ўвесну). Ён выказаў меркаванне, што гэтыя публікацыя сведчылі пра выкарыстанне адміністрацыйнага рэсурсу для падтрымкі пэўнага кандыдата і ўтрымлівалі схаваную рэкламу ўдзельніка выбарчай гонкі, хаця пра выбары ў іх і не ўзгадвалася. Нечакана для А.Бастунца гэтую пазіцыю часткова падтрымала старшыня ЦВК Лідзія Ярмошына. Яна пагадзілася з тым, што рэдактары дзяржаўнай прэсы Гродзеншчыны жывуць не ў беспаветранай прасторы, ведалі пра рэгістрацыю ініцыятыўнай групы Валерыя Саўко і мусілі больш уважліва паставіцца да публікацый інтэрв'ю з ім. Па яе словах, калі б гэткія матэрыялы былі надрукаваны пасля пачатку перыяду агітацыі, то гэта магло б стаць падставай нават для прыцягнення рэдактараў дзяржаўных газет да адміністрацыйнай адказнасці. Але паколькі публікацыі з'явіліся на больш ранняй стадыі, то ніякіх норм закона выданні не парушылі і можна казаць толькі пра некарэктнасць іх паводзін. У рашэнні Назіральнага Савета была зафіксавана наступная пазіцыя:

— Парушэння выбарчага заканадаўства ў дадзеным выпадку не было, бо Выбарчы кодэкс рэгламентуе такія сітуацыі ў дачыненні да ўжо зарэгістраваных кандыдатаў у дэпутаты (якім Саўко на той момант яшчэ не быў);

5 https://baj.by/be/content/andrey-bastunec-prynyau-udzel-u-pasyadzhenni-naziralnaga-saveta-pry-cvk

— Тым не менш, шэраг публікацый сапраўды быў некарэктным.

— Рашэнне аб гэтым будзе накіравана ў рэдакцыі газет «Зара над Нёманам», «Гродзенская праўда» і «Дзянніца» з рэкамендацыямі па карэктнай працы ў перыяд выбараў.

На наступным паседжанні Назіральнага Савета[6] разглядаліся скаргі кандыдатаў у дэпутаты Юрыя Хашчавацкага, Максіма Крупейчанкі, а таксама назіральніка ад грамадскага аб'яднання «БХК» Рамана Юргеля.

Сябра Аб'яднанай грамадзянскай партыі Юрый Хашчавацкі прасіў Назіральны Савет прызнаць незаконнай адмову рэдакцыі газеты «Вячэрні Мінск» надрукаваць яго перадвыбарчую праграму. А.Бастунец быў адзіны, хто выступаў за тое, каб скарга была задаволеная. Астатнія сябры Савета — прадстаўнікі Міністэрства інфармацыі і дзяржаўных СМІ — лічылі, што рэдакцыя «Вячэрняга Мінска» дзейнічала ў межах сваіх паўнамоцтваў, калі не надрукавала праграму. Прадстаўнік БАЖ настойваў, што дзяржаўныя СМІ не маюць права цэнзураваць праграмы кандыдатаў, і што спрэчныя моманты павінен вырашаць суд, а не рэдактар выдання.

Другой разглядалася скарга ад прадстаўніка РПГА «БХК» Рамана Юргеля і фактычна паўтарала тое, што разглядалася на мінулым паседжанні Савета адносна сітуацыі з выданнямі ў Гродзенскай вобласці. Паколькі некаторыя публікацыі ўжо былі прадметам разгляду, Савет вырашыў падтрымаць рэкамендацыі да дзяржаўных СМІ аб карэктным асвятленні кампаніі. Пры гэтым кіраўнік Савета, першы намеснік міністра інфармацыі Беларусі Ігар Луцкі выказаў меркаванне, што падобныя рэкамендацыі трэба скіраваць і недзяржаўным выданням. Ён дастаў цэлы стос нумароў «Народнай волі», «Свободных новостей», іншых выданняў. А. Бастунец нагадаў, што Выбарчы кодэкс Беларусі не рэгулюе працу прыватных медыя, таму яны могуць друкаваць любыя матэрыялы за ці супраць тых ці іншых кандыдатаў, калі не парушаецца заканадаўства, у адрозненні ад дзяржаўных СМІ, якія абавязаныя забяспечваць роўныя магчымасці для ўсіх кандыдатаў.

Трэцяя скарга тычылася публікацыі ў недзяржаўным СМІ. Кандыдат па Свіслацкай выбарчай акрузе № 94 у Мінску Максім Крупейчанка прасіў Савет разглядзець публікацыю інтэрнэт-газеты «Салідарнасць» «5 фактов о самом богатом кандидате в депутаты». Кандыдату не спадабалася, што журналістка выказала меркаванне, што на дадзенай акрузе пераможцам у гонцы будзе названы іншы чалавек. А.Бастунцу зноў прыйшлося казаць, што Выбарчы кодэкс не рэгламентуе працу прыватных медыяў. Савет у гэтым выпадку таксама не знайшоў парушэння з боку інтэрнэт-газеты «Салідарнасць».

Сваю ацэнку дзейнасці Назіральнага Савета пры Цэнтральнай камісіі прадстаўнік «Беларускай асацыяцыі журналістаў» выклаў у інтэрв'ю DW[7]. А.Бастунец адзначыў: «Назіральны Савет па кантролі за публікацыямі ў СМІ — орган чыста фармальны, хутчэй імітацыя дэмакратычнай дзейнасці для камуфляжу сітуацыі вакол асвятлення выбараў. Мне невядома таксама, як у выніку былі сфармуляваны высновы і рашэнні гэтага Савета, іх рыхтавалі прадстаўнікі сакратарыята ЦВК. Я лічу, што такі Савет наогул не патрэбны. Не павінна быць ніякіх рэкамендацыйных псеўдаорганаў, якія не нясуць адказнасці за свае высновы. Спрэчкі павінны разглядацца ў судзе. Акрамя судовага разгляду, ёсць яшчэ этычнае самарэгуляванне СМІ».

Удзел БАЖ у Савеце старшыня арганізацыі патлумачыў некалькімі прычынамі: «Па-першае, таму што мы спрабуем выкарыстаць усе магчымасці для камунікацыі, але пры гэтым гаворым тое, што думаем. Па-другое, зараз мы дакладна ведаем, што і як там абмяркоўвалася. Па-трэцяе, я падрабязна інфармаваў назіральнікаў аб дзейнасці Савета. Заўважу, што нацыянальных назіральнікаў на паседжанні не дапусцілі на падставе недахопу месцаў. У той жа час прысутныя на Савеце назіральнікі АБСЕ змаглі паслухаць аргументы і контраргументы ўдзельнікаў».

6 https://baj.by/be/content/hashchavacki-salidarnasc-i-grodzenskaya-prauda-na-razglyadze-saveta-pry-cvk

7 https://baj.by/be/analytics/glava-bazh-sovet-po-smi-na-vyborah-v-belarusi-eto-imitaciya-raboty

# ДАТЭРМІНОВАЕ ГАЛАСАВАННЕ

Датэрміновае галасаванне пачалося 6 верасня і скончылася 10 верасня 2016 г.

364 кароткатэрміновыя назіральнікі кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары» ажыццяўлялі назіранне за этапам датэрміновага галасавання на працягу пяці дзён на 182 УВК на ўсёй тэрыторыі краіны (3% ад 5971 УВК), што з'яўляецца рэпрэзентатыўнай выбаркай і дазваляе ацаніць асноўныя тэндэнцыі правядзення дадзенага этапу галасавання.

.

## 1. Прававая база

Згодна з арт. 53 ВК, выбаршчык, які не можа ў дзень выбараў быць па месцы свайго знаходжання, мае права не раней, чым за пяць дзён да выбараў прыйсці ў памяшканне для галасавання і прагаласаваць. Афіцыйнага пацверджання прычын немагчымасці грамадзяніна прыйсці ў памяшканне для галасавання ў дзень выбараў не патрабуецца.

Датэрміновае галасаванне не праводзіцца на ўчастках для галасавання ўтвораных у санаторыях, прафілакторыях, дамах адпачынку, шпіталях і іншых арганізацыях аховы здароўя, якія аказваюць медыцынскую дапамогу ў стацыянарных умовах, а таксама для грамадзян, якія адбываюць пакаранне ў выглядзе арышту, знаходзяцца ў ЛТП.

Датэрміновае галасаванне адбываецца ў прысутнасці не менш за двух сяброў УВК з 10.00 да 16.00 і з 16 да 19.00. Для яго выкарыстоўваецца асобная скрыня, якая апячатваецца ў першы дзень датэрміновага галасавання перад пачаткам галасавання па правілах, устаноўленых ч. 3 арт. 51 ВК, пры апячатванні мае права прысутнічаць назіральнік. Кожны дзень пасля заканчэння галасавання старшыня камісіі ці ягоны намеснік заклейваюць шчыліну ў выбарчай скрыні для галасавання лістом паперы і распісваюцца на ім. Ускрыццё шчыліны адбываецца штодзённа перад пачаткам галасавання ў прысутнасці старшыні камісіі ці ягонага намесніка, пры ўскрыцці мае права прысутнічаць назіральнік. Пасля заканчэння кожнага дня галасавання старшыня камісіі ці ягоны намеснік складаюць пратакол, у якім указваюцца колькасць бюлетэняў, атрыманых ВК, колькасць грамадзян, якія атрымалі выбарчыя бюлетэні (у апошні дзень датэрміновага галасавання — агульная колькасць грамадзян, што атрымалі бюлетэні), колькасць папсаваных бюлетэняў і колькасць невыкарыстаных бюлетэняў. Пратакол падпісваецца старшынёй камісіі ці ягоным намеснікам і вывешваецца для ўсеагульнага азнаямлення ў памяшканні для галасавання.

Захаванне скрыні для галасавання забяспечваецца старшынёй камісіі. Пасля закрыцця выбарчага ўчастка адказнасць за ахову выбрачага ўчастку нясуць органы МУС. Памяшканні абсталяваныя ахоўнай сігналізацыяй з вывадам на сігнал трывогі на пульт цэнтральнага назірання падраздзяленняў Дэпартамента аховы МУС, здаюцца пад сігналізацыю. Ні нормы ВК, ні пастановы ЦВК, не рэгулююць пытанні захавання выбарчых бюлетэняў, спісаў выбаршчыкаў у перыяды па-за працай УВК. Адзіным дакументам, які рэгулюе гэтыя пытанні з'яўляецца Зборнік метадычных матэрыялаў для УВК па выбарам дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь шостага склікання, зацверджаных ЦВК, згодна з якім спісы выбаршчыкаў і выбарчыя бюлетэні ў перыяд з 19.00 да 10.00 гадзін і з 14.00 да 16.00 гадзін павінны захоўвацца ў сейфах альбо металічных шафах. Сейф (металічная шафа) штодня па заканчэнні галасавання ў 19.00 апячатваецца старшынёй камісіі ці ягоным намеснікам.

## 2. Прымус да ўдзелу ў датэрміновым галасаванні

Па выніках назірання на ўсіх этапах датэрміновага галасавання эксперты кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары» адзначаюць адсутнасць якога-небудзь прагрэсу ў параўнанні з папярэднімі выбарчамі кампаніямі. Як і раней, датэрміновае галасаванне насіла арганізаваны мясцовай уладай, адміністрацыяй прадпрыемстваў, устаноў, ВНУ, характар. У шэрагу выпадкаў арганізацыя выбарчшыкаў для ўдзелу ў датэрміновым галасаванні спалучалася з элементамі кантролю над імі і пагрозамі прымянення разнастайных дысцыплінарных санкцый у дачыненні да тых, хто не галасуе.

Гэта з'яўляецца грубым парушэннем канстытуцыйных правоў грамадзян і прынцыпа свабоднага ўдзелу ў выбарах, не адпавядае міжнародным прынцыпам правядзення свабодных і дэмакратычных выбараў.

Таксама варта адзначыць, што ні адміністрацыі прадпрыемстваў, ні адміністрацыі ВНУ, згодна з дзеючым выбарчым заканадаўствам, не з'яўляюцца арганізатарамі выбараў, адказнымі за іх правядзенне.

Прымус да галасавання і арганізаваны характар датэрміновага галасавання заставаўся адным з асноўных відаў парушэнняў. Ён зафіксаваны назіральнікамі кампаніі не менш, чым на 18% УВК.

6 верасня ў Магілёўскім дзяржаўным універсітэце імя Куляшова адбылася сустрэча рэктарата са студэнтамі *(Дакумент 4)*, на якой, па сутнасці, кіраўніцтва загадала студэнтам пайсці на датэрміновыя выбары. Падчас свайго выступу рэктар універсітэта Канстанцін Бандарэнка непрыхавана пагражаў студэнтам, якія не прагаласуюць, занесці іх у «спіс няўдачнікаў» (аўдыёзапіс быў размешчаны на сайце магілёўскага аддзялення ПЦ «Вясна»). «...І яшчэ адзін момант. Многія з вас збіраюцца паехаць дадому ... І адкладаецца галасаванне. Ну, прыеду ў нядзелю з дому і схаджу прагаласую. Раптам аўтобус не прыйшоў. Раптам захварэлі. Раптам нешта яшчэ здарылася. Ну, непрадбачаныя абставіны. І не з'явіліся ў нядзелю, не паспелі да часу заканчэння галасавання. І патрапілі ў так званыя «спісы няўдачнікаў». Каб гэтага пазбегнуць — не адкладайце ў доўгую скрыню. Бярыце пашпарты. У нас гэтыя ўчасткі працуюць ... Прагаласавалі і спакойна з'ехалі па хатах...

...Ужо пачалося датэрміновае галасаванне. Сёння я быў на сходзе ў губернатара, паўтары гадзіны ішло абмеркаванне і давялося кожнаму рэктару даваць справаздачу губернатару, што зроблена для таго, каб выбары адбыліся і мы годна правялі іх. Мы пакуль выглядаем не горш за іншых на агульным фоне. Але хачу шчыра вам сказаць. Дзесьці да суботы мы павінны ведаць прыкладную колькасць людзей, якія прагаласавалі датэрмінова. Я яшчэ раз кажу: за каго — не важна, вас ніхто пытацца не будзе...» Начальнік аддзела выхаваўчай работы з моладдзю Людміла Набокава папярэджвала, што студэнты, якія не прагаласуюць, будуць абавязкова выяўлены. «Нашы супрацоўнікі, я нават ведаю, прагаласавалі на ўчастку, які размешчаны ва ўніверсітэце, выканалі свой грамадзянскі абавязак. Хлопцы і дзяўчаты. Праверыць, галасавалі вы ці не галасавалі вельмі лёгка. Ёсць шмат кантралёраў — гэта і куратары, і выхавальнікі, і намеснікі дэканаў, якія таксама, дарэчы, прысутнічаюць на гэтай сустрэчы. Але галоўны кантралёр, які павінен вызначыць вашы паводзіны — вашае сумленне».

Студэнцкі актыў 5 верасня на чале з Андрэем Лойшам уваходзіў ва ўсе блокі інтэрната №11 БДУ са спісамі выбаршчыкаў і гучна папярэджваў прысутных пра тое, што «заўтра трэба ісці галасаваць». А ўжо 6 верасня па ўсіх блоках гэтага ж інтэрната са спісамі выбаршчыкаў, якія не прыйшлі датэрмінова галасаваць у першы дзень, хадзілі студэнты жыллёва-бытавой камісіі на чале з Кацярынай Верэніч. Студэнты адзначалі, што Кацярына Верэніч пагражала, што тыя, хто не прагаласуе датэрмінова, «больш не жывуць у інтэрнаце, а калі і жывуць, то са студэнтамі з Туркменістана ў пакоях па чатыры чалавекі». Таксама яна папярэджвала, што тыя, хто не прагаласуе ў першыя дні датэрміновага галасавання, будуць мець праблемы з адміністрацыяй, раіла замест заняткаў пайсці галасаваць, а пропускі заняткаў будуць «закрыты» намеснікам дэкана па выхаваўчай працы. Кацярына Верэніч «вучыла», калі да кагосьці са студэнтаў падыдуць журналісты з пытаннем аб удзеле ў датэрміновым галасаванні, то ім неабходна адказаць: «З'язжаю на выходныя дадому, таму вырашыў прагаласаваць датэрмінова».

Ціск на студэнтаў праз стараст груп, БРСМ ці прафкам аказваўся ў Баранавіцкам дзяржаўным універсітэце, Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце, юрыдычным каледжы БДУ. У Віцебскай дзяржаўнай акадэміі ветэрынарнай медыцыны, Беларускім нацыянальным тэхнілагічным універсітэце, Беларускім дзяжаўным універсітэце інфарматыкі і радыёэлектронікі, Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, Беларускай дзяржаўнай акадэміі сувязі, Беларускай дзяржаўнай сельскагаспадарчай акадэміі студэнтам пагражалі пераздачамі, адлічэннем і «праблемамі па вучобе». Некаторыя ВНУ абяцалі студэнтам прадаставіць афіцыйныя выходныя 9 і 12 верасня нібыта для таго, каб студэнты добра адпачылі дома.

У Беларускай дзяржаўнай сельскагаспадарчай акадэміі студэнтам «рэкамендавалі», за каго галасаваць — кандыдата, які вылучаўся ад іх ВНУ, прарэктара па вучэбнай працы Алену Калесневу.

А на ўчастку №17 па выбарчай акрузе №84 утварылася чарга з курсантаў Магілёўскага інстытута Міністэрства ўнутраных спраў. За 25 хвілін тут прагаласавала 50 чалавек.

У Бабруйску ў першы дзень галасавання на ўчастку №26, які размяшчаўся ў медыцынскім каледжы (Ленінская акруга), прагаласаваў 91 чалавек. Усе яны — студэнты каледжу, былі апранутыя ў медыцынскія халаты. На другі дзень галасавання каля памяшкання ўжо можна было заўважыць невялікія чэргі.

На выбарчым участку №21 Слуцкай выбарчай акругі №67 быў зафіксаваны масавы ўдзел у датэрміновым галасаванні навучэнцаў медычнага каледжу, якія ўжо за першыя два дні галасавання забяспечылі яўку ў дваццаць адсоткаў. Выбарчая камісія па гэтым участку, у склад якой уваходзілі пераважна супрацоўнікі медкаледжа, а старшынёй з'яўлялася намесніца дырэктара Алена Казлоўская, ужо нават загадзя для датэрміновага галасавання абрала найбольшую скрыню, а на асноўны дзень выбараў пакінула маленькую. За 4 дні датэрміновага галасавання свой выбар зрабілі ўжо каля сарака адсоткаў ад спіскавай колькасці выбаршчыкаў. Інфармацыя аб прымусовым характары галасавання пацвердзілася і фактычнымі сведчаннямі: адна са студэнтак медкаледжу на ўчастку прызналася, што настойлівыя «просьбы» аб неабходасці прагаласаваць датэрмінова сыходзяць ад куратараў навучальных груп.

Улады выкарыстоўвалі яшчэ адзін правераны падчас папярэдніх выбарчых кампаній спосаб забеспячэння яўкі на датэрміновым галасаванні — правядзенне бацькоўскіх сходаў (вялікая колькасць выбарчых участкаў размяшчалася ў навучальных установах).

Так, у Баранавічах у сярэдняй школе № 21у першы дзень датэрміновага галасавання адбыўся агульнашкольны бацькоўскі сход, на які бацькам вучняў было прапанавана прыйсці з пашпартамі. На сход з выступам прыехала дэпутат Палаты прадстаўнікоў і кандыдат у дэпутаты Вольга Палітыка. Пасля нядоўгай яе прамовы выступіў дырэктар школы, які сказаў: «Вось наш кандыдат, давайце яго падтрымаем». У другі дзень датэрміновага галасавання таксама адбыўся сход бацькоў — ужо 1-3 класаў. На 8 верасня быў запланаваны сход бацькоў 4-6 класаў і так — да канца тыдня. А на дзень галасавання ў актавай зале школы быў прызначаны для бацькоў святочны канцэрт. Бацькоўскія сходы праходзілі ў дні датэрміновага галасавання і ў сярэдняй школе №16 Баранавічаў, дзе быў размешчаны выбарчы ўчастак №19. 7 верасня адбыліся бацькоўскія сходы амаль па ўсіх школах гэтага горада, у гімназіі №4 — 9 верасня агульнагімназічны бацькоўскі сход. *(Дакумент 5)* На сходах у сярэдняй школе №15 і гімназіі зноў адбыліся выступы кандыдаткі Вольгі Палітыка.

Такая ж сітуацыя фіксавалася і ў навучальных установах Бабруйска. Напрыклад, у гімназіі №2 (у будынку гімназіі быў размешчаны выбарчы ўчастак №4 Ленінскай акругі) 7 верасня збіралі бацькоў вучняў малодшых класаў, на 8-е верасня былі запланаваныя сходы з удзелам бацькоў вучняў старэйшых класаў. Бацькоўскі сход у гімназіі №3 наведала першая сакратарка бабруйскага БРСМ і яна ж — давераная асоба кандыдата Ірыны Рынейскай (начальніка ўпраўлення адукацыі, спорту і турызму гарвыканкама). У школе №9 таксама прайшлі бацькоўскія сходы, 8 і 9 верасня падобныя сходы праходзілі і ў іншых бабруйскіх школах і гімназіях.

У салігорскай школе №1 размяшчаліся адразу чатыры ўчасткі для галасавання. Адміністрацыя школы, супрацоўнікі якой прымалі актыўны ўдзел у выбарах у якасці сяброў участковых выбаркамаў, а дырэктар школы ўзначальвала адзін з іх, амаль ва ўсе дні датэрміновага галасавання праводзілі бацькоўскія сходы.

На выбарчы ўчастак №19 Салігорскай гарадской выбарчай акругі №68 пад канец працоўнага дня людзі прыходзілі арганізаванымі групкамі па 5-6 чалавек. Самі выбаршчыкі не хавалі, што галасуюць датэрмінова з-за ціску на працы. У прыватнасці, такая інфармацыя на ўчастку агучвалася работнікам першага рудаўпраўлення «Беларуськалія».

Пра прымус да ўдзелу ў датэрміновым галасаванні на Случчыне паведамляў незалежны назіральнік з участка №13 па Слуцкай выбарчай акрузе №67Анатоль Болазь. У прыватнасці, пра гэта казалі супрацоўнікі слуцкай ЖКГ, якія праз ціск адміністрацыі вымушаны былі ісці на ўчасткі для галасавання датэрмінова.

Жыхары пасёлка Брожа Бабруйскага раёна расказалі назіральнікам, што мясцовыя ўлады былі вельмі занепакоеныя невялікай яўкай на датэрміновае галасаванне: за першыя два дні тут прагаласавалі 12 чалавек. 7 верасня ў пасёлак прыязджаў старшыня райвыканкама Аляксандр Осіпаў, і пасля гэтага наведвальнасць выбарчага ўчастку №4 палепшылася: за трэці дзень датэрміновага галасавання сюды прыйшлі 39 чалавек. Мясцовыя жыхары расказалі назіральнікам, што работнікі Брожскага сельсавета ў адкрытую «гоняць» іх галасаваць і наказваюць, каб абіралі кандыдата-гендырэктара «Бабушкиной крынки» Ігара Кананчука.

## 3. Разыходжанні ў дадзеных па колькасці прагаласаваўшых датэрмінова

Адным з найбольш распаўсюджаных відаў выяўленых парушэнняў стала несупадзенне дадзеных назіральнікаў з дадзенымі УВК аб колькасці грамадзян, што ўзялі ўдзел у галасаванні. Не

менш, чым у 55% УВК назіральнікі былі сведкамі такіх несупадзенняў па яўцы: колькасці прагаласаваўшых датэрмінова, прадстаўленых УВК, з дадзенымі назіральнікаў.

Агульны працэнт разыходжання ў дадзеных за ўсе пяць дзён датэрміновага галасавання склаў 14% у бок завышэння яўкі. Для параўнання: падчас парламенцкіх выбараў 2012 г. агульны працэнт завышэння яўкі УВК у параўнанні за дадзенымі назіральнікаў складаў 10,4% за ўсе пяць дзён датэрміновага галасавання.

Адрозненне ў дадзеных камісій і назіральнікаў у яўцы выбаршчыкаў у бок павелічэння фіксавалася ва ўсе дні датэрміновага галасавання. Па некаторых выбарчых участках розніца ў дадзеных камісій і назіральнікаў па яўцы выбаршчыкаў на датэрміновым галасаванні насіла анамальны характар — у два, тры, пяць і нават у дзесяць разоў болей за дадзеныя назіральнікаў.

У першы дзень вялікае разыходджанне паміж лічбамі ў пратаколах і атрыманымі назіральнікамі было зафіксавана: ва УВК №3 АВК №46 г.Светлагорска (49 па дадзеных УВК і 18 па дадзеных назіральнікаў), ва УВК №11 АВК №84 г. Магілёва (217 і 85 адпаведна), ва УВК №17 АВК №52 г. Гродна (77 і 29 адпаведна), ва УВК №122 АВК №94 г. Мінска (105 і 9 адпаведна), ва УВК №401 АВК №103 г. Мінска (80 і 66 адпаведна), ва УВК №420 АВК №103 (56 і 19 адпаведна), ва УВК №8 АВК №6 г. Баранавічы (57 і 30 адпаведна), ва УВК №12 АВК №59 г. Смаргоні (57 і 19 адпаведна).

У другі дзень датэрміновага галасавання разыходжанне паміж лічбамі ў пратаколах і атрыманымі назіральнікамі было зафіксавана: ва УВК №1 АВК №46 г. Светлагорска (59 па дадзеных УВК і 33 па дадзеных назіральнікаў), ва УВК №21 АВК №68 г. Салігорска (103 і 83 адпаведна), ва УВК №30 АВК №73 г. Маладэчна (175 і 103 адпаведна), ва УВК № 28 АВК №46 (94 і 43 адпаведна), УВК №10 АВК №72 г. Маладэчна (106 і 45 адпаведна), УВК №29 АВК №2 г. Брэста (81 і 31 адпаведна), УВК №11 АВК №84 г. Магілёва (198 і 73 адпаведна), УВК №6 АВК №44 г. Рэчыцы (120 і 60 адпаведна), ва УВК №31 АВК №42 г. Мазыра (48 і 23 адпаведна), ва УВК №420 АВК 103 г. Мінска (91 і 73 адпаведна). Варта адзначыць, што сярод тых УВК, дзе ў першы дзень галасавання была адзначана не самая высокая розніца паміж дадзенымі назіральнікаў і УВК, з'явіліся тыя, што паказалі гэтую анамальную розніцу ў другі дзень датэрміновага галасавання. У той жа час УВК, па якіх назіральнікі кампаніі зафіксавалі самую высокую, анамальную, розніцу ў дадзеных у першы дзень, знізілі сваю актыўнасць у другі дзень галасавання.

Вялікае разыходджанне ў трэці дзень галасаваня паміж лічбамі ў пратаколах і атрыманымі назіральнікамі было зафіксавана: ва УВК №38 АВК №85, якая цалкам была сфармавана з настаўнікаў гімназіі №2 г. Магілёва пад кіраўніцтвам дырэктара гэтай жа гімназіі Уладзіміра Фешчанкі, дзе прагаласавалі 263 чалавекі па дадзеных УВК і 46 па дадзеных назіральнікаў кампаніі; ва УВК №11 АВК №84 г. Магілёва (184 і 81 адпаведна). Стабільна завышаныя лічбы ўсе тры дні датэрміновага галасавання зафіксаваныя на тэрыторыі выбарчай акругі №46 г. Светлагорска: 08.09 ва УВК №17 па дадзеных камісіі прагаласавалі 187 чалавек, а па дадзеных назіральнікаў кампаніі — 55 чалавек, ва УВК № 23 (115 і 50 адпаведна), ва УВК №28 (107 і 62 адпаведна),ва УВК №22 (131 і 68 адпаведна). У Брэсцкай вобласці ва УВК №29 АВК №2 г. Брэста па дадзеных камісіі прагаласавала 157, а па дадзеных назіральнікаў — 45 чалавек, ва УВК №8 АВК №6 г.Баранавічы — 210 і 67 адпаведна. Падобная сітуацыя і ў Гомельскай вобласці: УВК №6 АВК №44 г.Рэчыцы (181 і 61 адпаведна), УВК №9 АВК №32 г.Гомеля (350 па дадзеных УВК і 135 — па дадзеных назіральнікаў). З вельмі высокай розніцай паміж дадзенымі камісіі і яўкай выбаршчыкаў сутыкнуліся і ў Мінску і Мінскай вобласці: ва УВК №420 АВК №103 г.Мінска па дадзеных камісіі прагаласавала 117 чалавек, а па дадзеных назіральнікаў — 68, ва УВК №91 АВК №93г.Мінска (165 і 26 адпаведна), ва УВК №402 АВК №103 г. Мінска (127 і 93 адпаведна), ва УВК №21 АВК №68 г.Салігорска (145 і 74 чалавекі адпаведна).

У чацвёрты дзень галасавання абсалютна рэкордная розніца паміж дадзенымі УВК і назіральнікаў была зафіксавана ва УВК №9 на акрузе №32 ў г.Гомелі, дзе па дадзеных УВК датэрмінова прагаласавалі 584 чалавекі, а па дадзеных назіральнікаў — 106. Там жа, у Гомелі, ва УВК №1 АВК № 35 па дадзеных УВК прагаласавалі 125 чалавек, па дадзеных назіральнікаў — 56. Высокая розніца паміж дадзенымі аб яўцы зафіксаваная ў Мінску: ва УВК №91 АВК №93 г. Мінска (115 чалавек па дадзеных УВК і 25 — па дадзеных назіральнікаў), ва УВК №420 АВК №103 г. Мінска (128 і 33 адпаведна); у Маладэчна ва УВК №10 АВК №72 (183 і 114 адпаведна). Ва УВК №22 АВК №84 г. Магілёва зафіксавана яўка — 236 па дадзеных УВК і 77 чалавек па дадзеных назіральнікаў; ва УВК №11 АВК №84 г. Магілёва — 174 і 94 адпаведна. У Брэсцкай вобласці ва УВК №29 АВК №2 г. Брэста па дадзеных УВК яўка на галасаванне — 249 чалавек, а па дадзеных назіральнікаў — 68. Ва УВК №21 АВК № 5 г. Баранавічы таксама зафіксавана вялікая роз-

ніца ў дадзеных (224 і 154 адпаведна), ва УВК №10 той жа акругі — 131 і 46 адпаведна. Ва УВК №8 АВК №6 г. Баранавічы розніца паміж дадзенымі — 219 і 72, УВК №28 той жа акругі — 141 і 41 адпаведна. Ва УВК №17 АВК №42 г.Мазыра таксама была вялікая розніца паміж дадзенымі (255 і 155 чалавек адпаведна).

Была адзначана, што на выбарчых ўчастках, дзе не было арганізавана назіранне, яўка была значна вышэйшая, чым на тых, дзе назіранне было наладжана. Напрыклад, у Гомельскай-Цэнтральнай акрузе №34 пры прысутнасці назіральнікаў на ўчастку №32 яўка была 24-25 чалавек у першы і другі дзень датэрміновага галасавання. У трэці дзень, калі назіральнік не прысутнічаў на ўчастку, а толькі прыйшоў вечарам, у пратаколе ўбачыў ужо трохзначную лічбу — 131 чалавек. На суседнім участку, які размяшчаўся ў памяшканні той жа школы, — 200 чалавек прагаласавалі датэрмінова за трэці дзень, там таксама не было назіральніка.

На ўчастку №24 па Салігорскай гарадской выбарчай акрузе №68, дзе вялося назіранне, за 4 дні датэрміновага галасавання свае галасы пакінулі каля 150 чалавек. На суседнім жа ўчастку №23, які па колькасці і сацыяльна-дэмаграфічным складзе выбаршчыкаў падобны на ўчастак №24, афіцыйная лічба тых, хто прыняў удзел у галасаванні за гэты ж перыяд, удвая большая. На апошнім участку незалежнае назіранне адсутнічала.

Не менш, чым у 14,44% УВК адзначаны факты ўмяшальніцтва пабочных асоб у працу камісій (гэтая тэндэнцыя развівалася па нарастаючай: 8,6% — у першы дзень, 12% — у другі дзень, 12,8% — у трэці, 9,4% — у чацвёрты). Фіксаваліся выпадкі невывешвання выніковых пратаколаў з дадзенымі датэрміновага галасавання, а таксама працы камісій па-за графікам.

## Дынаміка дадзеных па днях датэрміновага галасавання




Прадстаўнікі кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары» канстататалі, што практыка правядзення датэрміновага галасавання застаецца адной з сістэмных праблем выбарчага працэсу і стварае глебу для разнастайных маніпуляцый і фальсіфікацый. У сувязі з гэтым рэкамендацыі БДІПЧ АБСЕ адносна зменаў працэдур датэрміновага галасавання застаюцца актуальнымі і пасля правядзення выбараў дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь шостага склікання.

## 4. Умовы для назірання падчас датэрміновага галасавання

Падчас датэрміновага галасавання 5% назіральнікаў кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары» сутыкнуліся з перашкодамі і адмовамі сябраў ВК прадставіць прадугледжаную дзеючым выбарчым заканадаўствам інфармацыю.

Сябры ўчастковых выбарчых камісій патрабавалі ад назіральнікаў сачыць за ходам выбараў толькі з вызначаных месцаў, што часам знішчала сам сэнс назірання ці стварала значныя перашкоды. Назіральнікаў на выбарчым участку №12, які быў размешчаны ў школе №1 Смаргоні размясцілі такім чынам, што яны не бачылі ні працэсу выдачы бюлетэняў выбаршчыкам, ні працэсу ўкідвання імі запоўненых бюлетэняў у скрыню. Перад вачыма назіральнікаў былі толькі ўваходы ў кабіны для таемнага галасавання.

У кабінеце дырэктара школы №20 Бабруйска былі размешчаны два выбарчыя ўчасткі — №35 і №36. Назіральнікам спачатку дазволілі сядзець у прыёмнай на канапе, пасля сказалі, што на канапах нельга — трэба знаходзіцца па-за памяшканнем, каб нікому не перашкаджаць. Назіральнікам сказалі: «Калі моцна захочаце, усё ўбачыце». На Галіну Смірнову, даверaную асобу кандыдата ў дэпутаты Алега Жалнова сябры камісіі пагражалі скласці скаргу за тое, што яна падышла да выбарчага ўчастку бліжэй, чым на тры метры. На ўчастку № 2, які знаходзіўся ў Цэнтры вольнага часу і творчасці Бабруйска, сябры камісіі таксама адразу вызначылі для незалежнага назіральніка вельмі нязручнае месца: за калонай. Калі назіральнік сядаў на адзін бок стала, бачыў з-за калоны толькі сябраў камісіі, на другім баку стала — толькі скрыню для галасавання. Толькі пасля звароту ў акруговую камісію назіральніка перасадзілі на больш зручнае месца.

Назіральнікі ў некаторых выпадках атрымлівалі агрэсіўнае супрацьдзеянне за спробы ўказаць сябрам камісій на выяўленыя недахопы. Міхаіл Сашко — давераная асоба кандыдата ў дэпутаты Алеся Масюка па Слонімскай выбарчай акрузе № 58, які назіраў на Новым участку № 9, заўважыў, што члены камісіі не апячаталі сейф і пакой, у якім захоўваюцца скрыня і бюлетэні для галасавання. На заўвагу і патрабаванне апячатаць сейф з бюлетэнямі і пакой яму адказалі: «Не ваше дело!».

На многіх участках назіральнікі сутыкаліся з неабгрунтаванай забаронай на фота- і відэаздымкі. Незалежныя назіральнікі з Гродна ў першы дзень датэрміновага галасавання заўважылі, што на ўчастку №14 Гродзенскай-Цэнтральнай выбарчай акругі 51 (знаходзіўся ў сярэдняй школе №2) вечка скрынкі не шчыльна прылягала да сценак. Шчыліны ў скрынцы заклеены звычайным скотчам, які пры жаданні можна адклейваць і пераклейваць. Сфатаграфаваць скрынку назіральнікам прадстаўнікі ўчастковай камісіі не дазволілі. Участковая камісія Сожавага ўчастка №33 у Крычаве спачатку дазволіла, а на наступны дзень забараніла назіральніку Сяргею Няроўнаму фатаграфаваць на выбарчым участку. 6 верасня ён пісьмова звярнуўся ва ўчастковую выбарчую адносна дазволу на фатаграфаванне працэсу галасавання, і 8 верасня атрымаў станоўчы адказ. Аднак ужо на наступны дзень УВК перагледзела сваё рашэнне і паведаміла назіральніку, што здымаць на выбарчым участку яму нельга.

Улады, як і ў папярэднія выбарчыя кампаніі, ініцыявалі масавае вылучэнне праўладных назіральнікаў. Для іх быў выдадзены асобны Дапаможнік (быў выяўлены ў назіральнікаў у Гомелі — *Дакумент 6*), у якім мэта дзейнасці была вызначана наступным чынам: « Мэтай Вашай прысутнасці з'яўляецца садзеянне камісіі ў выкананні заканадаўства аб выбарах, таму, калі хто-небудзь неабгрунтавана абвінаваціць камісію ў якіх-небудзь парушэннях, Вашыя тлумачэнні могуць дапамагчы вырашыць непаразуменне. У сувязі з гэтым рэкамендуецца адлюстроўваць у адпаведных справаздачах вынікі назірання». У дадатках былі прадстаўленыя тыповыя заява і акт. У заяве прапаноўвалася ўказаць, што «працэс галасавання быў арганізаваны і праведзены ў адпаведнасці з патрабаваннямі Выбарчага кодэкса Рэспублікі Беларусь» і папрасіць далучыць такую заяву і копію справаздачы да матэрыялаў міжнародных назіральнікаў. У акце аб парушэнні Выбарчага кодэкса ўнутранаму назіральніку рэкамендавалася зафіксаваць парушэнні з боку незалежных назіральнікаў, якія «часта падыходзілі да стала выдачы бюлетэняў, вылучалі ўчастковай камісіі прэтэнзіі і прапаноўвалі свае рэкамендацыі». Такі акт павінен быў быць накіраваны ў пракуратуру горада і ў тэрытарыяльную выбарчую камісію. Складанне заяў і актаў было вынесена таксама ў 10 асноўных патрабаванняў да ўнутраных назіральнікаў пад пунктам 9. А пад нумарам 4 — «адкрытасць да дыялогу і пераканаўчасць з міжнароднымі назіральнікамі».

Такім чынам, праўладных назіральнікаў рыхтавалі не для таго, каб сачыць за аб'ектыўнасцю выбарчага працэса, а каб масава падаваць заявы міжнародным назіральнікам, што выбары праходзяць у адпаведнасці з законам, а таксама быць «зброяй» па пазбаўленні акрэдытацыі незалежных назіральнікаў і назіральнікаў ад апазіцыйных партый.

Незалежны назіральнік з салігорскага ўчастка №24 Салігорскай гарадской выбарчай акругі №68 Уладзімір Шыла адзначаў, што на ўчастках без незалежнага назірання ніякіх іншых назіральнікаў фактычна не прысутнічала. На тых жа ўчастках, дзе прысутнічалі прадстаўнікі кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары», былі і праўладныя назіральнікі. Як яны самі прызнаваліся Уладзіміру Шылу, удзельнічалі не па ўласным жаданні, а праз ціск адміністрацыі на працоўным месцы. Фіксаваліся выпадкі, калі такія назіральнікі ўвогуле не ведалі, што за выбары адбываюцца і што за кандыдаты ў іх удзельнічаюць. На гэтым участку не толькі старшыня і сябры камісіі з'ўляліся дырэктарам і падначаленымі яму супрацоўнікамі першага рудаўпраўлення «Беларуськалія», але і праўладныя псеўданазіральнікі з'ўляліся работнікамі гэтага ж рудніка. Спадар Гарбачоў, той самы дырэктар і старшыня камісіі, нават не хаваючыся, наўпрост аддаваў загады сваім падначаленым-назіральнікам, калі ім сядзець на ўчастку, а калі ісці на працу.

Назіральнікі кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары» сутыкаліся і з адкрытым супрацьдзеяннем з боку камісій у ажыццяўленні сваіх паўнамоцтваў.

Так, Кацярыну Пільнік, якая назірала на ўчастку №126 па Свіслацкай акрузе №94 Мінска, у апошні дзень датэрміновага галасавання сябры камісіі ў 18.50, за 10 хвілін да заканчэння галасавання, прымусілі выйсці з памяшкання, а самі зачыніліся на ключ. Дзяўчына разам з назіральніцай з суседняга участку №125 Інай Мудрачэнка дачакаліся, пакуль камісія пакіне пакой, і запатрабавалі, каб ім паведамілі вынікі апошняга дня датэрміновага назірання, а таксама далі зрабіць копію пратакола. Аднак старшыня камісіі пачала некаму тэлефанаваць, раіцца і сказала, што адчыняць пакой не будзе, бо працоўны час скончыўся, а ключ яна нібыта ўжо аддала супрацоўніку міліцыі. Назіральніцы палічылі, што паколькі старшыня камісіі не хоча адчыняць участак і паказваць выніковы пратакол, то ён мог быць і не вывешаны. Назіральніцы адзначылі, што за папярэднія дні датэрміновага галасавання сябры камісіі не дапісвалі колькасць выбаршчыкаў на гэтым участку, і звязалі забарону азнаёміцца з выніковым пратаколам з тым, што ў апошні дзень камісія вырашыла выправіць сітуацыю і дабавіць галасоў. У выніку назіральніцам сказалі, калі яны хочуць убачыць пратакол — каб прыходзілі на наступны дзень. Скаргу назіральніцы падаць не змаглі, бо камісія спаслалася на закрыццё ўчастку і не прыняла яе.

Ва УВК № 28 АВК № 27 г. Полацка быў адзначаны выпадак беспадстаўнага пазбаўлення акрэдытацыі назіральніка Юрыя Бельскага. Назіральнік падаў у камісію скаргу на тое, што жыхарцы Полацка выдалі бюлетэнь для галасавання, хаця яна не з'ўлялася грамадзянкай Беларусі і не мела права галасаваць. Ю.Бельскі заўважыў, што бюлетэнь ёй выдалі па расійскім пашпарце. Участковай камісіі давялося прызнаць, што скарга небеспадстаўная, але тут жа з'явілася скарга і на назіральніка — за тое, што ён замінае працы камісіі. На гэтай падставе яго выдалілі з участка.

# ДЗЕНЬ ВЫБАРАЎ

У адпаведнасці з Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь № 190 выбары ў Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь шостага склікання былі прызначаны і прайшлі 11 верасня 2016 года.

У гэты дзень выбаршчыкі маглі галасаваць як на ўчастках для галасавання, так і па месцы свайго знаходжання.

Згодна з арт. 50 ВК, галасаванне ў дзень выбараў праводзіцца з 8 да 20 гадзін.

Высновы адносна галасавання ў дзень выбараў, а таксама падліку галасоў грунтуюцца на справаздачах назіральнікаў кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары» з 326 выбарчых участкаў, апрацоўка якіх завершылася ў 6.00 12 верасня 2016 г.

## 1. Галасаванне на выбарчых участках

Перад пачаткам галасавання скрыні для галасавання правяраюцца, пламбуюцца. Бюлетэнь для галасавання выдаецца грамадзяніну сябрам УВК на падставе спісу выбаршчыкаў пасля прад'яўлення пашпарта або іншага дакумента, вызначанага ЦВК.

Галасаванне на выбарчых участках традыцыйна праводзілася на дастаткова высокім тэхнічным узроўні, у цэлым працэдуры галасавання забяспечваліся ў адпаведнасці з ВК.

Станоўчай практыкай з'яўлялася пашырэнне магчымасцяў для ўдзелу ў галасаванні людзей з інваліднасцю. Разам з тым, толькі 42% выбарчыя ўчасткі былі даступны для людзей з паніжанай мабільнасцю. Там, дзе такіх умоў не было, у 65% выпадкаў у камісіі прысутнічалі людзі, якія маглі дапамагчы зайсці чалавеку з інваліднасцю. На 7% участкаў, дзе былі грамадзяне з парушэннем зроку, не стварылі магчымасці прагаласаваць пасродкам лупы ці трафарэту.

Аб немагчымасці бачыць сталы для выдачы бюлетэняў, кабіны для галасавання і выбарчых скрыняў паведамілі назіральнікі з 7% участкаў, дзе вялося назіранне: з участкаў № 320, 321, 322 Ясенінскай ВА №100, з участка № 28 Гомельскай-Цэнтральнай ВА № 33, з участка № 85 Васнецоўскай ВА № 93, з участкаў № 4 і № 13 Аршанскай гарадской ВА №25, з участка №24 Баранавіцкай-Усходняй ВА № 6, з участка № 50 Барысаўскай сельскай ВА № 63, з участка № 11 Жодзінскай ВА № 64, з участка № 1 Магілёўскай-Ленінскай ВА № 84, з участка № 62 Магілёўскай-Цэнтральнай ВА № 85 ды іншых.

Асноўнай прычынай немагчымасці бачыць сталы для выдачы бюлетэняў, кабін для галасавання і скрыняў з'яўлялася тое, што назіральнікаў размясцілі ў нязручных месцах або на вялікай адлегласці.

| ПЫТАННЕ | ТАК,% | НЕ,% |
|---|---|---|
| Ці прадставілі назіральнікам інфармацыю аб колькасці выбаршчыкаў на ўчастку? | 96,6% | 3,4% |
| Ці прадставілі назіральнікам колькасць атрыманых выбаршчыкамі бюлетэняў? | 97,4% | 2,6% |
| Ці прадставілі назіральнікам інфармацыю аб колькасці пажадаўшых галасаваць па месцы свайго знаходжання? | 85% | 15% |
| Ці маглі назіральнікі бачыць сталы для выдачы бюлетэняў, кабіны для галасавання і скрыні для бюлетэняў? | 92,3% | 7,7% |
| Ці фіксаваліся факты выдачы некалькіх бюлетэняў адной асобе? | 2,6% | 97,4% |
| Ці фіксаваліся выпадкі агітацыі на выбарчым участку? | 2,2% | 97,8% |
| Ці паступалі скаргі на працу камісіі? | 16,7% | 83,3% |
| Ці была прадстаўлена выбаршчыкам з парушэннем зроку магчымасць прагаласаваць пасродкам лупы ці трафарэту? | 88,9% | 11,1% |
| Ці даступны ўчастак для людзей з паніжанай мабільнасцю? | 41,6% | 58,4% |

На некаторых закрытах участках фіксавалася 100% галасаванне выбаршчыкаў, што пакідала пытанне адносна добраахвотнасці іх удзелу ў выбарах. Так, на закрытым участку №60 па Аўтазаводскай акрузе №92 у 10-й гарадской клінічнай бальніцы Мінска яўка выбаршчыкаў склала

100% — прагаласавалі ўсе 605 чалавек. 10-я клінічная бальніца Мінска спецыялізуецца на афтальмалагічнай мікрахірургіі, хірургічнай панкрэаталогіі, таракальнай хірургіі. Усяго ў бальніцы сем хірургічных аддзяленняў і яшчэ два аддзяленні анэстэзіялогіі і рэанімацыі. Заставалася пытанне і адносна таго, ці сапраўды выбаршчыкі, змешчаныя ў рэанімацыі, галасавалі самастойна і ці галасавалі ўвогуле.

Хворым у Бярозаўскай бальніцы галасаваць без дакументаў дазволіў намеснік старшыні ўчастковай выбарчай камісіі №62 і адначасова намеснік галоўнага ўрача Вячаслаў Саковіч. Назіральніку Тамары Шчапёткінай дазволілі пайсці на галасаванне ў аддзяленні бальніцы, але ў самім аддзяленні пасадзілі на медсястрынскім пасту і сказалі: «Сядзіце тут, а мы пойдзем па палатах, бо там цяжкія хворыя». Камісія прайшла па «цяжкіх» палатах без назіральніка, а калі прыйшлі зноў да медсястрынскага стала, то назіральніцы Шчапёткінай сказалі, што цяпер пойдзем да яшчэ «цяжэйшых». У выніку назіральніцы не далі магчымасці сачыць за галасаваннем нават з калідора, па словах Саковіча, каб «не турбаваць хворых».

## 2. Галасаванне па месцы знаходжання выбаршчыкаў

УВК абавязана забяспечыць магчымасць удзельнічаць у галасаванні выбаршчыкам, якія па стане здароўя або па іншых уважлівых прычынах не змогуць прыйсці ў дзень выбараў у памяшканне для галасавання. На падставе вусных і пісьмовых просьб такіх грамадзян УВК арганізуе галасаванне па месцы знаходжання выбаршчыкаў у дзень выбараў. Афіцыйнага пацвярджэння прычын немагчымасці прыйсці ў памяшканне для галасавання не патрабуецца.

Як і падчас мінулых выбараў, фіксаваліся факты арганізацыі галасавання па месцы знаходжання выбаршчыкаў без адпаведных іх зваротаў. Так, у вёсках Смалявіцкага раёна вялося галасаванне не толькі без зваротаў выбаршчыкаў, а нават без адмысловага адпаведнага спіса.

У 68% выпадкаў назіральнікам дазвалялася паехаць разам з сябрамі камісіі для прысутнасці пры галасаванні па месцы знаходжання выбаршчыкаў, у астатніх 32% — назіральнікі атрымалі адмовы. У Гродне на некалькіх выбарчых участках Гродзенскай-Ленінскай выбарчай акругі №52 участковыя камісіі адмовілі назіральнікам у праве назіраць за працэсам галасавання дома ў тых выбаршчыкаў, якія падалі адпаведныя заявы. Такія адмовы па выязным галасаванні атрымалі назіральнікі Андрэй Коця на ўчастку №25, які быў размешчаны ў сярэдняй школе №32 (старшыня камісіі Галіна Кошур) і Аляксандра Навумава на ўчастку №27, які быў размешчаны ў сярэдняй школе №36 з польскай мовай навучання (старшыня камісіі Жанна Казловіч). Старшыні гэтых выбарчых камісій заявілі назіральнікам, што не абавязаны іх браць на выязное галасаванне, і гэта іх праблемы, як назіраць за гэтай часткай галасавання.

Факты, калі ў спісе выбаршчыкаў для галасавання па месцы іх жыхарства знаходзіліся асобы, якія не звярталіся ва УВК з просьбай аб галасаванні на даму, зафіксаваныя на 14% участкаў назірання, у тым ліку на ўчастку № 8 Наваполацкай ВА № 24, на ўчастку № 61 Бярозаўскай ВА № 9, на ўчастку № 39 Магілёўскай-Цэнтральнай ВА № 85, на ўчастку № 92 Васняцоўскай ВА № 93, на ўчастку № 6 Полацкай сельскай ВА № 28, на ўчастку № 10 Брэсцкай-Цэнтральнай ВА № 2, на ўчастках № 1 і № 10 Магілёўскай-Ленінскай ВА № 84.

На некаторых участках зафіксавана анамальна высокая колькасць прагаласаваўшых па месцы знаходжання. Напрыклад, ва УВК №28 Барысаўскай гарадской ВА №62 назіральнікі адзначылі толькі 86 зваротаў па такую форму галасавання, але па выніках ускрыцця адпаведнай выбарчай скрыні быў знойдзены 321 бюлетэнь.

Назіральнік на Глускім выбарчым участку №2 Асіповіцкай ВА № 89 Ігар Кірын адзначыў неверагодную актыўнасць выбаршчыкаў пры галасаванні на даму: «Члены камісіі Мазалеўскі Андрэй Міхайлавіч і Басякова Святлана Фёдараўна некалькі разоў выязджалі з пераноснай скрыняй. Сумарны час, праведзены на выездзе, склаў 5 г. 23 мін. (323 хв.). Пры падвядзенні вынікаў галасавання старшыня камісіі В.М. Беразоўскі абвясціў вынікі галасавання па месцы знаходжання: 472 выбаршчыкі, што склала больш за 32% ад колькасці ўсіх выбаршчыкаў, якія прынялі ўдзел у галасаванні (1437). Атрымліваецца, што на аднаго выбаршчыка члены выязной групы трацілі ў сярэднім менш за 1 хвіліны». Пры гэтым у пачатку галасавання 11 верасня назіральнік спытаў у старшыні камісіі В.М. Бярозаўскага, колькі заявак для галасавання па месцы знаходжання выбаршчыкаў зарэгістравана. Ён адказаў, што 12.

Незалежная назіральніца па ўчастку №42 Сельскай акругі Бабруйска Ванда Архіпенка падала скаргу наконт таго, што ў спісе на галасаванне па месцы жыхарства было 175 выбаршчыкаў,

але бюлетэняў сябрам камісіі, якія ехалі для галасавання на даму, выдалі 200. Сябры камісіі на хаду складалі дадатковыя спісы, якія нават не падпісваліся старшынём камісіі. Пры гэтым на ўчастку прагаласавалі 117 чалавек, па месцы жыхарства — 200. Назіральнікі з выбарчых участкаў па Ленінскай акрузе Бабруйска таксама адзначалі вялікія паказчыкі галасавання па месцы жыхарства. На ўчастку №26 на 18.00 назіральнкіі налічылі 259 выбаршчыкаў, што прагаласавалі на ўчастку, а па месцы жыхарства на гэтым жа ўчастку прагаласавалі 120 чалавек. На ўчастку №24 прагаласаваў 301 чалавек, па месцы жыхарства — 150. На ўчастку №20 прагаласавалі 268, а па месцы жыхарства — 217 чалавек. На ўчастку № 37 яшчэ ў абед было 206 заявак на галасаванне па месцы жыхарства, і, як адзначалі назіральнікі, гэты спіс вельмі хутка павялічваўся.

У асноўным УВК традыцыйна ўключалі ў спісы для галасавання па месцы знаходжання без іх просьб састарэлых грамадзян, а таксама тых, хто не можа перасоўвацца. Але былі і выпадкі, калі ў спісе знаходзіліся і выбаршчыкі без дадзеных асаблівасцяў.

На ўчастку для галасавання № 14 Гродзенскай-Цэнтральнай ВА № 51 падчас галасавання па месцы знаходжання 4 выбаршчыкі заявілі, што не звярталіся да УВК з просьбай аб галасаванні на даму, 2 з іх адмовіліся галасаваць, а 2 іншых прагаласавалі.

Кандыдат у дэпутаты Рыгор Кастусёў Шклоўскай выбарчай акругі №90 падаў скаргу ў АВК адносна інфармацыі, якая стала яму вядомай, што падчас выязнога галасавання на даму члены многіх участковых выбарчых камісій у акрузе папросту ажыццяўлялі ўкід выбарчых бюлютэняў у скрыні для галасавання, нават не заязджаючы да многіх выбаршчыкаў. У якасці аднаго з прыкладаў Рыгор Кастусёў прывёў выпадак на Цяхцінскім участку для галасавання №17 у Бялыніцкім раёне. Там 11 верасня 2016 г. каля 19 гадзін 20 хв. жыхары в.Бахані Бялыніцкага раёна Лістападаў Алег Івананавіч і Царанок Міхаіл Рыгоравіч з'явіліся на выбарчы ўчастак, размешчаны ў школе в.Цяхцін, для ўдзелу ў галасаванні. Але, як было выяўлена — у ведамасцях на атрыманне бюлетэняў для галасавання насупраць іх прозвішчаў ужо стаялі чыесьці подпісы з адзнакай аб здзяйсненні галасавання.

На 16% участкаў назірання інфармацыя аб колькасці тых, хто пажадаў прагаласаваць па месцы свайго знаходжання, назіральнікам не прадстаўлялася.

На 26% участкаў колькасць прагаласаваўшых па месцы знаходжання не супала з колькасцю скарыстаных сябрамі УВК бюлетэняў.

Падчас галасавання па месцы знаходжання выбаршчыкаў у Ізалятары часовага ўтрымання УУС Віцебскага аблвыканкама выбаршчыкам выдалі бюлетэні для галасавання па раздрукоўках з АІС «Пашпарт». У некаторых выбаршчыкаў узнікалі праблемы з запаўненнем бюлетэня, паколькі перад галасаваннем у адпаведнай камеры ў іх адбіралі акуляры ў металічнай аправе, а сябры УВК не бралі з сабой лупы і трафарэты.

| ПЫТАННЕ | ТАК, % | НЕ, % |
|---|---|---|
| Ці вёўся асобны спіс выбаршчыкаў, якія заявілі пра сваё жаданне галасаваць па месцы знаходжання? | 91% | 9% |
| Ці зафіксаваны факты ўнясення ў спіс асоб, якія не звярталіся з падобнай просьбай? | 13,6% | 86,4% |
| Ці прадастаўлялася назіральнікам старшынёй УВК інфармацыя аб колькасці пажадаўшых прагаласаваць па месцы свайго знаходжання? | 84% | 16% |
| Ці выдавалася сябрам УВК, якія ажыццяўляюць арганізацыю галасавання па месцы знаходжання выбаршчыкаў, колькасць бюлетэняў, адпаведная колькасці выбаршчыкаў у спісе? | 75% | 25% |
| Ці было дазволена назіральнікам паехаць разам з сябрамі камісіі для прысутнасці пры галасаванні па месцы знаходжання выбаршчыкаў? | 68% | 32% |
| Ці фіксаваліся выпадкі, калі выбаршчыкі заяўлялі, што не выказвалі жадання галасаваць па месцы свайго знаходжання, калі да іх прыходзілі сябры УВК? | 11,7% | 88,3% |
| Ці фіксаваліся выпадкі прамой ці прыхаванай агітацыі з боку сябраў УВК падчас арганізацыі галасавання па месцы знаходжання выбаршчыкаў? | 4,2% | 95,8% |
| Ці ўносіліся імёны выбаршчыкаў у спіс для галасавання па месцы знаходжання пасля 18.00? | 0% | 100% |
| Ці захоўваліся скрыні для галасавання па месцы знаходжання выбаршчыкаў у бачным для назіральнікаў месцы? | 91% | 9% |
| Ці супала колькасць прагаласаваўшых па месцы свайго знаходжання з колькасцю скарыстаных сябрамі УВК бюлетэняў? | 74% | 26% |

# 3. Падлік галасоў

Асноўным прынцыпам правядзення падліку бюлетэняў з'яўляецца іх асобны падлік: спачатку лічаць бюлетэні са скрыняў для датэрміновага галасавання, потым — са скрыняў для галасавання па месцы знаходжання выбаршчыкаў, а потым — са скрыняў для датэрміновага галасавання. Вынікі такога падліку агучваюцца, а затым шляхам складання вынікаў раздзельнага падліку ўстанаўліваюцца на пасяджэнні камісіі і заносяцца ў пратакол аб выніках галасавання. Копія пратакола аб выніках галасавання вывешваецца для агульнага азнаямлення. Назіральнік мае права зрабіць сам копію пратакола аб выніках галасавання. Гэта копія сябрамі камісіі не падпісваецца, пячаткай камісіі не замацоўваецца.

Важна адзначыць, што непасрэдна сам метад падліку бюлетэняў УВК у заканадаўстве не прапісаны. Менавіта гэта акалічнасць з'яўляецца адной з асноўных праблем беларускага выбарчага заканадаўства. Рэкамендацыі БДІПЧ АБСЕ і прапановы кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары», скіраваныя на паляпшэнне працэдур падліку, не былі ўлічаны ўладамі.

Нагадаем, што Пастановай Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў ад 12 лютага 2016 года была створана міжведамасная экспертная рабочая група па разглядзе рэкамендацый БДІПЧ АБСЕ па пытаннях удасканалення выбарчага працэсу. Прадстаўнікі кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары» накіравалі кіраўніку ЦВК Лідзіі Ярмошынай прапановы і напрацоўкі, карысныя створанай міжведамаснай групе, а таксама прапанавалі далучыць да ўдзелу ў ёй сваіх экспертаў *(Дакумент 7)*. Пры гэтым прадстаўнікі кампаніі падкрэслівалі, што ў сваёй працы яны засяродзіліся на тых рэкамендацыях Бюро па дэмакратычных інстытутах і правах чалавека АБСЕ, якія не патрабуюць унясення адпаведных змяненняў і дапаўненняў у Выбарчы кодэкс і іншыя заканадаўчыя акты, гэта значыць, маглі быць рэалізаваныя да пачатку кампаніі па выбарах дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь шостага склікання шляхам урэгулявання пастановамі Цэнтрвыбаркама.

15 сакавіка старшыня Цэнтрвыбаркама Лідзія Ярмошына паведаміла, што Міжведамасная экспертная рабочая група па вывучэнні рэкамендацый БДІПЧ АБСЕ ўжо выпрацавала прапановы аб мерах па ўдасканаленні выбарчага працэсу. Паводле яе слоў, «кожнае ведамства распрацавала свае прапановы з улікам уласных поглядаў на заканадаўства і з улікам прапаноў, якія прадставіла не толькі БДІПЧ АБСЕ, але і кампанія «Праваабаронцы за свабодныя выбары».

Аднак адказ, які прадстаўнікі кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары» атрымалі з Цэнтрвыбаркама на свае прапановы па імплементацыі рэкамендацый БДІПЧ АБСЕ, супярэчыў заявам Лідзіі Ярмошынай. «Просім паведаміць аўтарам прапаноў, што іх меркаванне аб магчымасці імплементаваць многія рэкамендацыі БДІПЧ АБСЕ пры дапамозе тлумачэнняў Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў не грунтуецца на заканадаўстве. Паўнамоцтвы Цэнтральнай камісіі як правапрымяняльнага органа, прадугледжаныя Выбарчым кодэксам Рэспублікі Беларусь, не дазваляюць ёй устанаўліваць або змяняць нормы выбарчага права, чаго патрабуе большасць рэкамендацый БДІПЧ АБСЕ. Напрыклад, рэкамендацыя аб дэманстрацыі назіральнікам кожнага бюлетэня, прадастаўленні ім завераных копій выніковых пратаколаў і іншыя», — указвалася ў адказе ЦВК.

Пры гэтым рэкамендацыя БДІПЧ была не пра «дэманстрацыю назіральнікам кожнага бюлетэня», а пра дакладнае прапісанне працэдуры падліку галасоў: каб падлік вёўся адным сябрам камісіі, і кожны бюлетэнь дэманстраваўся ўсім прысутным, і ў тым ліку назіральніку. Гэта была адна з асноўных рэкамендацый, датычная менавіта працэдуры падліку галасоў. Улічваючы, што Выбарчы кодэкс не ўтрымлівае ніякага апісання ніякай працэдуры, то гэта рэкамендацыя якраз не пярэчыць Выбарчаму кодэксу. Больш за тое, паводле адказаў ЦВК, якія «Праваабаронцы за свабодныя выбары» атрымлівалі ў тым ліку падчас папярэдніх прэзідэнцкіх выбараў, працэдура падліку галасоў кожнай выбарчай камісіяй устанаўліваецца самастойна.

27 красавіка адбылася нарада старшыні ЦВК Лідзіі Ярмошынай з прэзідэнтам краіны, на якой былі ўзгоднены прапановы ЦВК па змяненнях выбарчага працэсу ў адпаведнасці з рэкамендацыямі АБСЕ. Былі агучаны чатыры асноўныя нававўядзенні парламенцкай кампаніі: мясцовыя выканкамы будуць прызначаць членаў ва ўчастковыя выбаркамы толькі пасля дыскусій; вынікі разгляду ўсіх выбарчых спрэчак будуць публікаваць у інтэрнэце; міжнародных назіральнікаў пусцяць у акруговыя выбаркамы, калі тыя будуць атрымліваць бюлетэні з участкаў. Што датычыць падліку

галасоў, то сябры ўчастковых выбаркамаў больш не павінны засланяць спінамі працэс падліку галасоў, а выбудуюцца з аднаго боку стала. Па словах Л.Ярмошынай, «была ўзгоднена ініцыятыва ЦВК аб тым, што ўвесь падлік бюлетэняў будзе праводзіцца на адным баку стала. Назіральнікі будуць мець поўную магчымасць бачыць працэс падліку галасоў. Акрамя таго, назіральнікам будзе прадастаўляцца інфармацыя, якая не прадугледжана арт. 13 Выбарчага кодэкса, напрыклад, звесткі пра колькасць выбаршчыкаў, звесткі пра колькасць прагаласаваўшых выбаршчыкаў.

«Праваабаронцы за свабодныя выбары» стрымана паставіліся да новаўвядзенняў ЦВК, заявіўшы, што недастаткова выстраіць сябраў выбаркама з аднаго боку стала, а назіральнікаў — з другога. Эксперты выказалі шкадаванне, што прапанова, каб падлік вёў адзін сябра камісіі, паказваў і агучваў змест кожнага бюлетэня ўсім прысутным, не была прынята.

Перасцярогі адносна таго, што новаўвядзенні ЦВК неададуць транспарэнтнасці падліку выбарчых бюлетэняў, у выніку спраўдзіліся: 95,31% назіральнікаў указалі на адсутнасць галоснага і празрыстага для ўсіх сябраў камісіі і назіральнікаў падліку галасоў. На парламенцкіх выбарах 2012 г. на гэта ўказвалі 92,3% назіральнікаў.

Варта дадаць, што назіральнікі звярталіся ў асабістым парадку ва ўчастковыя камісіі з просьбамі аб усталяванні выразнай працэдуры падліку галасоў з магчымасцю бачыць волявыяўленне грамадзян у кожным выбарчым бюлетэні, аднак гэтыя просьбы не былі задаволены. Так, усе ўчастковыя выбаркамы Салігоршчыны і Случчыны паабяцалі правесці падлік галасоў у адпаведнасці з артыкулам 55 Выбарчага кодэксу. Участковая камісія ўчастка для галасавання №9 Салігорскай гарадской выбарчай акругі №68 пад кіраўніцтвам Анатоля Самуйлава нават дала афіцыйнае тлумачэнне гэтай адпаведнасці: «Парадак падліку галасоў, усталяваны Выбарчым кодэксам, не прадугледжвае дэманстрацыі і агалошвання адзнак у бюлетэнях». У адказе назіральніку Аляксандру Вайцешыку ад старшыні ўчастковай камісіі №21 Баранавіцкай-Заходняй выбарчай акругі №5 Т.Н.Жытко на прапанову аб адкрытым і галосным падліку адзначалася: «Выбарчае заканадаўства не прадугледжвае падчас падліку галасоў працэдуру дэманстравання бюлетэняў» *(Дакумент 8)*.



Такім чынам, падлік галасоў большасцю УВК ажыццяўляўся непразрыста, усімі сябрамі камісіі адначасова, без агучвання выніку галасавання, адлюстраванага ў кожным выбарчым бюлетэні. Назіральнікі (60,94%) адзначалі, што знаходзіліся на такой адлегласці ад стала, дзе вёўся падлік галасоў, якая не дазваляла бачыць змест бюлетэняў.

Супольны і адначасовы падлік бюлетэняў усімі сябрамі камісіі адразу рабіў немагчымым назіранне за працэдурай падліку галасоў. 85,94% назіральнікаў адзначылі, што яны не маглі бачыць змест бюлютэня, 89,64% — што камісіі не разгледзелі паступіўшыя скаргі на пасяджэнні УВК.

На участку №2 (Калінкавічы, Калінкавіцкая акруга) сябры УВК назіральніку Дзянісу Рабянку вызначылі месца для назірання на адлегласці ў 10 метраў, да стала з бюллетэнямі падыходзіць забаранілі. Відавочна, у такіх абставінах ён не мог рэальна бачыць падлік галасоў.

На Глускім выбарчым участку №2 Асіповіцкай ВА № 89 пры падліку бюлетэняў, па словах назіральніка Ігара Кірына, да стала было каля 10 метраў, члены камісіі атачылі стол і закрылі яго спінамі. На просьбу забяспечыць агляд для назіральнікаў у адпаведнасці з рэкамендацыямі Цэнтрвыбаркама старшыня камісіі В.М. Беразоўскі не адрэагаваў. У выніку за спінамі нічога не было відаць. Ігар Кірын таксама адзначыў, што камісіяй быў вывешаны толькі адзін бок выніковага пратакола. Пасяджэнне камісіі па разглядзе вынікаў галасавання не праводзілася. У вывешаным выніковым пратаколе былі зафіксаваны неверагодныя лічбы: колькасць выбаршчыкаў, якія прынялі ўдзел у датэрміновым галасаванні — 460, прагаласаваўшых па месцы знаходжання — 566, і толькі 421 выбаршчык прагаласаваў у дзень выбараў непасрэдна на ўчастку для галасавання.

На ўчастку №45 (Гомельская-Цэнтральная акруга) назіральнікі маглі сачыць за падлікам галасоў з адлегласці 5-6 метраў. Па дадзеных назіральнікаў, у дзень выбараў тут прагаласаваў 371 чалавек, але ў пратаколе камісія заявіла 587 прагаласаваўшых выбаршчыкаў.

На выбарчым участку №595 па Усходняй выбарчай акрузе №107 у Мінску назіраў за падлікам галасоў старшыня Праваабарончага цэнтра «Вясна» Алесь Бяляцкі. Ён адзначыў, што спачатку лічылі бюлетэні са скрыні датэрміновага галасавання — адначасова ўсе сябры камісіі. Пасля гэтага сакратар камісіі сабрала лічбы ва ўсіх сябраў УВК, агучаныя ей шэптам ці напісаныя на аркушы. Затым падлічылі бюлетэні са скрыні галасавання на даму, высыпалі бюлетэні са скрыняў, якія знаходзіліся на ўчастку ў дзень галасавання. Камісія паставіла шыльдачкі з прозвішчамі кандыдатаў, а таксама «несапраўдныя» і «супраць усіх», і пачаўся аднначасовы калектыўны расклад бюлетэняў, у якім бралі ў 10 сяброў камісіі. 7 назіральнікаў сядзелі насупраць у 4-х метрах ад сталоў, на якіх вёўся падлік. Лічылі ўсе дзесяцёра, кожны «свайго» кандыдата. На просьбу агучыць падлічаныя сябрамі камісіі бюлетэні старшыня адказаў: «Мае права абвяшчаць лічбы старшыня камісіі ці сакратар». Сакратар абышла ўсіх сябрау камісіі і ціха запісала вынікі падліку, пасля чаго села за стол і складала лічбы на калькулятары. У 20.55 былі абвешчаныя вынікі. Увесь падлік заняў 55 хвілін.

Пра немагчымасць рэальна пракантраляваць падлік галасоў заявілі незалежныя назіральнікі з Салігорскай гарадской выбарчай акругі №68 і Слуцкай выбарчай акругі №67. Нягледзячы на тое, што назіральнікаў дапусцілі да месцаў падліку камісіямі галасоў на тры метры, у цэлым працэдура насіла звыклы характар: кожны сябра камісіі складаў пэўную частку бюлетэняў, якую потым перадаваў сакратару. Той ужо агульныя стосы перадаваў старшыні, і яны ўдвух калькулявалі канчатковыя лічбы. Гэтая падгонка лічбаў займала больш часу за «падлік» галасоў сябрамі камісіі і суправаджалася разлікамі на калькулятары, алоўкавымі запісамі і шэптам, пачуць які назіральнікі не мелі магчымасці. Абурэнне назіральнікаў выклікала велізарнае завышэнне яўкі выбарцаў у выніковых пратаколах участковых камісій. Паводле пратакола камісіі, у асноўны дзень выбараў у галасаванні ўдзел прынялі 926 чалавек, але рэальная колькасць была меншая на 470 чалавек. Назіранне і паралельны падлік яўкі вёўся назіральнікамі абсалютна без перапынкаў, адзначыў назіральнік з салігорскага ўчастка №24 Уладзімір Шыла. Пры гэтым лічба была кіраўніцтвам камісіі проста дабаўлаеная ў пратакол нават без укідвання бюлетэняў, бо нават візуальна была бачная адсутнасць такой іх колькасці ў пачках. Значную фальсіфікацыю выявіў назіральнік з салігорскага выбарчага ўчастку №9 Алег Стахаевіч. Па гэтым участку паводле выніковага пратакола камісіі колькасць выбаршчыкаў, якія прынялі ўдзел у галасаванні ў дзень выбараў у памяшканні ўчастка для галасавання, склала 694 чалавекі. Насамрэч на ўчастак прыйшло 548 чалавек, на паўтры сотні менш. Неверагодную лічбу далі па тых, хто прагаласаваў па месцы знаходжання. У двух скрынях апынуўся 181 бюлетэнь, пры тым, што сакаратар агучваў колькасць заявак па надомным галасаванні — іх было толькі 46.

Назіральнікі, якія працавалі на ўчастку №17 у Першамайскай акрузе Бабруйска, зафіксавалі, як маленькія стосікі бюлетэняў «пераўтварыліся» ў вялікія лічбы. У асноўны дзень галасавання яўка была катастрафічна нізкая, у другой палове дня было заўважна, што сябры камісіі вельмі хвалююцца з гэтай нагоды. Участак наведалі назіральнікі АБСЕ, адзін з якіх спытаў у старшыні камісіі адносна колькасці прагаласаваўшых. Старшыня камісіі разгубілася, сказала, што не ведае і пабегла некуды тэлефанаваць. Вярнулася, і назвала лічбу: «500 чалавек!». Назіральнікі здзівіліся, бо па іх падліках было каля 200. Яны расказалі прадстаўнікам АБСЕ, што адбылося. Падчас падліку галасоў назіральнікі ўбачылі даволі вялікі стос бюлетэняў з датэрміновага галасавання, сябры камісіі агучылі лічбу 481. Пасля дасталі маленькі стосік з асноўнага дня, і агучылі лічбу ў 625 бюлетэняў. Па падліках назіральнікаў іх там павінна было быць 218, і гэта было бачна нават візуальна. Назіральнікі папрасілі, каб сябры камісіі паказвалі кожны бюлетэнь пры падліку, але ім адмовілі. Такім чынам, сябры камісіі проста называлі лічбы, а колькі бюлетэняў на стале — для іх гэта было неістотна.

Аляксандр Гехт назіраў на ўчастку №17 Гомельскай-Цэнтральнай акругі №33. У дзень выбараў ён ні на хвіліну не пакідаў участак і налічыў 218 чалавек. А пасля падліку галасоў старшыня камісіі паведаміла, што ў дзень галасавання яўка склала 345 чалавек, то бок на 127 чалавек больш. Назіральнікам забаранялі стаяць блізка каля стала пры падліку галасоў.

На ўчастках, дзе назіральнікі не фіксавалі парушэнняў ні падчас датэрміновага галасавання, ні ў дзень выбараў, вынікі аказваліся моцна адрознымі ад вынікаў на іншых участках. Так, Сяргей Колышкін назіраў на ўчастку (№9, акруга Гомельская-Цэнтральная №33), выбары там не адбыліся, яўка была крыху болей за 30%. Назіральнікі маглі рэальна бачыць падлік галасоў, камісія паставіла сталы так, каб было нам ўсё бачна.

Непразрыстасць працэдур падліку галасоў не дазваляе зрабіць высновы аб рэальным волевыяўленні выбаршчыкаў і паўтарае негатыўную практыку папярэдніх выбарчых кампаній.

# НАЗІРАННЕ ЗА ВЫБАРАМІ

Міжнароднае назіранне ў Беларусі традыцыйна было прадстаўлена Назіральнай місіяй Міжпарламенцкай Асамблеі СНД, Міжнароднай місіяй БДІПЧ АБСЕ, місіяй Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы, прадстаўнікамі дыпламатычнага корпусу ў Рэспубліцы Беларусь. Таксама нешматлікія місіі міжнароднага назірання былі накіраваны Парламенцкай асамблеяй АБСЕ, Шанхайскай Арганізацыяй Садружнасці.

Акрамя кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары», нацыянальнае назіранне ажыццяўляла таксама кампанія «Права выбару», якая аб'яднала восем палітычных суб'ектаў (Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Грамада), Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя, Аб'яднаная Грамадзянская партыя, Рух «За Свабоду!», Партыя БНФ, Беларуская партыя «Зялёныя», незалежны прафсаюз Радыёэлектроннай прамысловасці, аргкамітэт Партыі Свабоды і прагрэса) і можа лічыцца назіраннем з боку апазіцыйных палітычных партый і рухаў.

Асобныя праўладныя грамадскія аб'яднанні і палітычныя партыі (Белая Русь, БРСМ, Беларускі саюз жанчын, Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі і інш.) традыцыйна вылучалі вялікую колькасць назіральнікаў. Аднак іх дзейнасць у першую чаргу была скіравана на кантроль за іншымі назіральнікамі, падтрымку дзейнасці камісій, падрыхтоўку скаргаў на назіральнікаў дзеля абгрунтавання іх выдалення з выбарчых участкаў. Трэба адзначыць, што вынікі назірання праўладных грамадскіх аб'яднанняў і палітычных партый раней не агучваліся і не прадстаўляліся грамадству.

Агулам у выбарчых камісіях усіх узроўняў было акрэдытавана 37 834 нацыянальныя назіральнікі *(Дадатак 13)*.

У працэсе назірання за выбарамі ўдзельнікі кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары» сутыкаліся з ціскам з боку органаў улады, адмовамі ў прадстаўленні інфармацыі з выбарчых камісій, выдаленнем з выбарчых участкаў. Асобна трэба адзначыць неабгрунтаваную забарону на фота- і відэаздымкі на выбарчых участках, супрацьдзеянне назіральнікам падчас падліку яўкі, а таксама назіранню за падлікам галасоў на выбарчых участках.

Кампанія «Праваабаронцы за свабодныя выбары» заяўляе пра 5 фактаў незаконнага пазбаўлення акрэдытацыі сваіх назіральнікаў.

**Прававы аналіз Пастановы Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў «Аб зацвярджэнні Палажэння аб парадку накіравання назіральнікаў пры падрыхтоўцы і правядзенні выбараў дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь шостага склікання» ад 8 чэрвеня 2016 года № 20[8]**

Дадзенае Палажэнне было зацверджана на пасяджэнні Цэнтральнай камісіі 8 чэрвеня 2016 г. і рэгулявала парадак накіравання і акрэдытацыі назіральнікаў пры падрыхтоўцы і правядзенні выбараў дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь.

Асноўны прынцып накіравання назіральнікаў, замацаваны ў п.2 Палажэння, заключаецца ў тым, што палітычныя партыі, грамадскія аб'яднанні, працоўныя калектывы і іх структурныя падраздзяленні, група выбаршчыкаў маюць права накіраваць назіральнікам аднаго свайго прадстаўніка (з папярэдняй згоды камісіі — больш за аднаго) на паседжанне адпаведнай выбарчай камісіі, на ўчастак для галасавання.

Варта адзначыць, што Палажэннем прадугледжана магчымасць накіравання назіральнікаў рэспубліканскім грамадскім аб'яднаннем, палітычнай партыяй у выбарчыя камісіі ўсіх узроўняў, у тым ліку на ўчасткі для галасавання, размешчаныя на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, незалежна ад наяўнасці ніжэйстаячых арганізацыйных структур.

Такі парадак адлюстроўвае пазітыўны падыход да накіравання назіральнікаў, у першую чаргу, для апазіцыйных партый, паколькі ў большасці выпадкаў яны не маюць ніжэйстаячых структурных падраздзяленняў, зарэгістраваных ва ўстаноўленым парадку, а таксама для грамадскіх аб'яднанняў, якія не маюць ніжэйстаячых структурных падраздзяленняў у адпаведнасці са сваімі Статутамі. Раней, на папярэдніх парламенцкіх выбарах, ЦВК нярэдка зацвярджаў такі парадак накіравання назіральнікаў, калі толькі ніжэйстаячыя структурныя падраздзяленні палітычных партый і грамадскіх аб'яднанняў маглі накіроўваць назіральнікаў на ўчасткі для галасавання.

[8] http://rec.gov.by/sites/default/files/pdf/Elections-PPNS6-post20.pdf

Пры такім парадку грамадскае аб'яднанне, якое не мае структурных падраздзяленняў, магло накіроўваць назіральнікаў толькі на паседжанні ЦВК.

П. 17 Палажэння прадугледжвала новы парадак спынення паўнамоцтваў назіральнікаў на ўчастку для галасавання. Так, у адпаведнасці з дадзеным пунктам, тэрмін паўнамоцтваў назіральніка ва ўчастковай выбарчай камісіі і на ўчастку для галасавання пачынаецца з моманту яго акрэдытацыі ў дадзенай камісіі і спыняецца пасля падвядзення вынікаў галасавання на ўчастку, у акруговай, абласной, Мінскай гарадской выбарчай камісіі — у дзень ўстанаўлення вынікаў выбараў адпаведна па акрузе, вобласці, гораду Мінску. У той жа час, у адпаведнасці з ч. 6 арт. 13 Выбарчага кодэкса (змены 2013 года), паўнамоцтвы назіральніка пачынаюцца з моманту яго акрэдытацыі і завяршаюцца ў дзень устанаўлення адпаведнай камісіяй вынікаў падліку галасоў, вынікаў выбараў.

Дадзеная фармулёўка на практыцы можа тлумачыцца такім чынам, што назіральнікам на ўчастку для галасавання можна адмаўляць у магчымасці падачы скаргаў на вынікі падліку галасоў і выніковыя пратаколы камісій у сувязі з завяршэннем паўнамоцтваў назіральніка.

Асаблівай увагі заслугоўвае п. 15 Палажэння, які канкрэтызаваў правы назіральнікаў, устанавіўшы, што назіральнікі ў перыяд датэрміновага галасавання і ў дзень выбараў маюць права атрымліваць інфармацыю пра колькасць выбаршчыкаў, уключаных у спісы выбаршчыкаў, і колькасць выбаршчыкаў, якія прынялі ўдзел у галасаванні.

Акрамя таго, канкрэтызавана права назіральнікаў, зарэгістраваных у акруговых выбарчых камісіях, прысутнічаць там пры прыёме пратаколаў участковых выбарчых камісій аб выніках галасавання на ўчастку.

Варта адзначыць, што раней прадстаўнікі кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары» падвяргалі крытыцы факты нядопуску назіральнікаў, зарэгістраваных у тэрытарыяльных камісіях, да назірання ў дадзеных камісіях у момант перадачы пратаколаў участковых выбарчых камісій з вынікамі галасавання на ўчастках. Падставай для нядопуску было сцвярджэнне сябраў камісій аб тым, што назіральнікі, у адпаведнасці з арт. 13 ВК, маюць права прысутнічаць толькі на паседжаннях выбарчых камісій, а прыём пратаколаў з вынікамі галасавання на ўчастках, на думку у тым ліку і ЦВК, не з'яўляецца паседжаннем камісіі. Назіральнікаў такім чынам пазбаўлялі магчымасці назіраць за працэсам ўстанаўлення вынікаў галасавання па тэрыторыі альбо акрузе, запрашаючы іх толькі на паседжанні тэрытарыяльных альбо акруговых камісій па зацвярджэнні вынікаў выбараў, якія праходзілі праз некалькі дзён.

Пазіцыя экспертаў кампаніі заключаецца ў тым, што арт. 13 ВК утрымлівае прыкладны пералік правоў назіральнікаў і ў вычарпальным пераліку забароненых для назіральніка дзеянняў не ўтрымліваецца забаронаў на атрыманне інфармацыі, якая тычыцца колькасці зарэгістраваных на ўчастку выбаршчыкаў, колькасці тых, хто прагаласаваў, а таксама забароны на ажыццяўленне назірання за працай тэрытарыяльных камісій у момант перадачы пратаколаў участковых камісій з вынікамі падліку галасоў на ўчастках для галасавання.

«Праваабаронцы за свабодныя выбары» віталі больш дэталёвае тлумачэнне норм арт. 13 ВК, зробленае ў дадзенай пастанове ЦВК, але не лічылі, што такім чынам ЦВК выйшаў за рамкі ВК.

У той жа час, сакратар ЦВК Мікалай Лазавік адзначыў, што «ў нас было шмат заўваг ад міжнародных назіральнікаў, якія хацелі паглядзець, як прымаюцца пратаколы акруговымі камісіямі. Мы ўлічылі іх пажаданні, хоць гэта пашырае рамкі закона». У такім выпадку, выклікае здзіўленне выбіральнасць падыходу ЦВК да магчымасці «пашырэння рамак закона», паколькі ў выпадку з прапановамі кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары» па ўрэгуляванні працэдур падліку галасоў пазіцыя ЦВК заключалася ў тым, што гэтыя працэдуры не могуць быць урэгуляваны пастановамі ЦВК у сувязі з тым, што яны супярэчаць палажэнням ВК. Пры тым, што нормы ВК не ўтрымліваюць апісання працэдур падліку выбарчых бюлетэняў участковымі камісіямі. Акрамя гэтага, у адпаведнасці з п.3 ч.1 арт. 33 ВК, Цэнтральная камісія ў рамках сваёй кампетэнцыі толькі дае тлумачэнні заканадаўства Рэспублікі Беларусь аб выбарах у мэтах яго аднастайнага выканання.

Таксама эксперты кампаніі лічаць, што рэкамендацыя БДІПЧ АБСЕ, якая тычыцца правоў назіральнікаў, не была ўлічаная ў поўным аб'ёме, паколькі не прадугледзела магчымасць атрымання назіральнікамі копіі пратакола аб выніках галасавання і азнаямлення са зместам спісу выбаршчыкаў.

Напярэдадні асноўнага дня галасавання ЦВК унесла змены ў Палажэнне аб парадку накіравання назіральнікаў у выбарчыя камісіі, звёўшы да мінімуму колькасць давераных асоб кандыда-

таў у дэпутаты. Адзначаючы хуткі і таемны характар унясення гэтых зменаў, эксперты кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары» расцанілі гэта як палітычны крок, скіраваны на зніжэнне празрыстасці падліку галасоў.

Змены, унесеныя ў пункты 3 и 15 Палажэння аб парадку накіравання назіральнікаў ад 8 чэрвеня 2016 г., былі зацверджаны апублікаванай на сайце ЦВК Пастановай №57 ад 10 верасня 2016 г.:

« <...> пункт 3 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«Давераныя асобы кандыдата ў дэпутаты Палаты прадстаўнікоў маюць права ажыццяўляць назіранне на паседжаннях акруговай і ўчастковых выбарчых камісій, на ўчастках для галасавання той выбарчай акругі, па якой балатуецца кандыдат у дэпутаты.

На паседжанні акруговай, участковай выбарчай камісіі, на ўчастку для галасавання маюць права прысутнічаць не больш за аднаго назіральніка з колькасці давераных асоб кандыдата ў дэпутаты Палаты прадстаўнікоў (з папярэдняй згоды камісіі — больш за аднаго)»;

частку другую пункта 15 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«Назіральнікі, акрэдытаваныя пры акруговых выбарчых камісіях, маюць права прысутнічаць у гэтых камісіях пры прыёме пратаколаў участковых выбарчых камісій аб выніках галасавання на ўчастках. З давераных асоб кандыдата ў дэпутаты Палаты прадстаўнікоў у адпаведнай акруговай выбарчай камісіі мае права прысутнічаць толькі адзін назіральнік (з папярэдняй згоды камісіі — больш за аднаго)».

Асаблівую ўвагу кампанія «Праваабаронцы за свабодныя выбары» звяртала на той факт, што Пастанова №57 ЦВК была прынятая таемна ад назіральнікаў з няўрадавых грамадскіх арганізацый і апазіцыйных палітычных партый. Цэнтральная камісія, у парушэнне сваіх жа метадычных рэкамендацый, згодна з якімі камісія абавязаная запрашаць назіральнікаў на кожнае паседжанне, правяла таемнае паседжанне. Ніхто з незалежных назіральнікаў ці назіральнікаў ад апазіцыйных палітычных партый, акрэдытаваных пры ЦВК, не быў на яго запрошаны. Назіральнік кампаніі Зміцер Чарных не атрымліваў запрашэння на гэтае паседжанне ні тэлефанаваннем, ні нават праз смс. Гэтае паседжанне было прысвечанае толькі адной тэме — абмежаванню колькасці давераных асоб кандыдатаў у дэпутаты на выбарчых участках да адной асобы. Да прыняцця гэтай пастановы, падчас усіх папярэдніх выбарчых кампаній такога абмежавання не было.

Таемны і хуткі характар прыняцця гэтай пастановы (бо яна прымаецца за суткі да асноўнага дня выбараў, калі ўжо прайшло пяць дзён датэрміновага галасавання) сведчыла, што яна скіраваная толькі на адно — каб падлік галасоў 11 верасня быў як мага менш празрыстым. Каб, накіраваўшы на выбарчыя ўчасткі давераных асоб кандыдатаў у дэпутаты, немагчыма было адсачыць усю працэдуру падліку галасоў.

Пры гэтым эксперты кампаніі не ўпершыню ўказвалі на супярэчлівасць у падыходах кіраўніцтва ЦВК, якое заўсёды казала, што не можа ўнесці змены ў выбарчае заканадаўства менш чым за паўгады да выбарчай кампаніі, што ёсць у рэкамендацыях Венецыянскай камісіі і БДІПЧ АБСЕ. Але сваімі пастановамі яно змяняе правапрымяняльную практыку за суткі, падчас галасавання.

# СКАРГІ І ЗВАРОТЫ

Паводле афіцыйнай інфармацыі ЦВК, па стане на 16 верасня было пададзена 1716 зваротаў па пытаннях падрыхтоўкі і правядзення выбараў *(Дадатак 14)*. Падчас папярэдніх выбараў дэпутатаў, згодна дадзеных, было зафіксавана 938 зваротаў. З іх у 82 зваротах (4,7%) ставіліся пытанні, не звязаныя з падрыхтоўкай і правядзеннем выбараў, у 87 (каля 5%) — пытанні, звязаныя з тлумачэннем выбарчага заканадаўства, у 229 (каля 13%) — іншыя пытанні, звязаныя з падрыхтоўкай і правядзеннем выбараў.

Значную частку зваротаў склалі звароты аб парадку галасавання і падліку галасоў — 589 (34%). На этапе перадвыбарчай агітацыі пададзена 139 зваротаў (8%); на этапе вылучэння і рэгістрацыі кандыдатаў пададзена 114 зваротаў (6,6%). Аб прызнанні выбараў несапраўднымі і аб правядзенні паўторнага падліку галасоў выбаршчыкаў пададзена 115 зваротаў (6,7%), са скаргамі на дзейнасць выбарчых камісій паступіла 250 зваротаў (каля 15%).

Паводле дадзеных ЦВК, большасць зваротаў прыйшло менавіта ў АВК (524 ці 30%). Адзначым, што 486 зваротаў (28%) паступіла ў УВК, большасць з іх тычылася парадку галасавання і падліку галасоў (63%).

Варта ўказаць на негатыўную практыку не падаваць інфармацыю аб колькасці спрэчак, разгледжаных выбарчымі камісіямі і судамі. У ходзе выбараў дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў шостага склікання Цэнтральная камісія публікавала статыстыку па ўсіх зваротах агулам. Пры гэтым з дадзеных ЦВК немагчыма зразумець, якую долю з гэтай колькасці зваротаў складаюць скаргі, што падаваліся ў выпадках, наўпрост прадугледжаных ВК: абскарджанне рашэнняў мясцовых выканкамаў аб утварэнні выбарчых камісій, рашэнняў выбарчых камісій аб адмове ў рэгістрацыі ініцыятыўных груп, кандыдатаў у дэпутаты, вынясенне папярэджанняў ініцыятыўным групам і кандыдатам у дэпутаты і інш.

На думку экспертаў кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары», адсутнасць дакладнай інфармацыі аб выбарчых спрэчках не спрыяе рэалізацыі прынцыпа адкрытасці і галоснасці правядзення выбараў, замацаванага ў артыкуле 13 ВК.

Згодна з пастановай Цэнтральнай камісіі па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферендумаў ад 8 чэрвеня 2016 № 22 «Аб інфармаванні грамадзян аб рабоце па падрыхтоўцы і правядзенні выбараў у Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь шостага склікання», абласныя (Мінскі гарадскі) выканаўчыя камітэты на сваіх афіцыйных сайтах у спецыяльна створаных рубрыках «Выбары-2016» павінны публікаваць рашэнні ТВК і АВК па выбарчых спрэчках. Аднак на практыцы большасць такіх рашэнняў не былі апублікаваныя.

У некаторых выпадках выканкамы абмяжоўваліся публікацыяй кароткай інфармацыі аб прынятых выбарчымі камісіямі рашэннях. Такая практыка можа быць звязаная з тым, што выбарчае заканадаўства не ўтрымлівае вызначэнне тэрміна «выбарчая спрэчка». У практычным дапаможніку для АВК і ТВК, зацверджаным ЦВК пастановай № 9 ад 17.05.2016 г., таксама адсутнічаюць тлумачэнні адносна таго, разгляд якіх зваротаў з'яўляецца выбарчай спрэчкай.

Па дадзеных афіцыйных сайтаў абласных і Мінскага гарадскога судоў, на сумесныя рашэнні Прэзідыумаў абласных (Мінскага гарадскога) Саветаў дэпутатаў і абласных (Мінскага гарадскога) выканаўчых камітэтаў аб фарміраванні абласных і акруговых выбарчых камісій пададзена 8 скаргаў. Ні адна з іх не была задаволеная.

На рашэнні мясцовых выканкамаў аб фарміраванні ўчастковых выбарчых камісій, па дадзеных юрыстаў кампаніі, пададзена 13 скаргаў, з якіх ніводная не задаволеная *(прыклад — Дакумент 9)*. Агульная статыстыка па скаргах на рашэнні аб утварэнні ўчастковых камісій адсутнічае, паколькі суды не публікавалі рашэнні па выніках іх разгляду.

У тэрытарыяльныя выбарчыя камісіі пададзена 21 скарга на рашэнні аб адмове ў рэгістрацыі кандыдатамі ў дэпутаты. Адна скарга была задаволеная. У суды пададзеныя 16 скаргаў на рашэнні тэрытарыяльных выбарчых камісій аб адмове ў задавальненні скаргаў патэнцыйных кандыдатаў. З іх 3 скаргі былі задаволеныя.

Па дадзеных ЦВК, на этапе перадвыбарчай агітацыі пададзена 139 зваротаў. Як ужо ўзгадвалася, ЦВК не дэталізуе, які адсотак з дадзенай лічбы складаюць скаргі, а таксама не ўказвае таго, якія менавіта пытанні ставіліся ў пададзеных зваротах. Праблемай з'яўляецца тое, што на сайтах мясцовых выканкамаў у раздзеле «ВЫБАРЫ-2016» публікаваліся толькі адзінкавыя рашэнні выбарчых камісій, што не дазваляла сабраць агульную статыстку па скаргах на этапе перадвыбарчай агітацыі.

Напрыклад, юрыстам кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары» вядома аб падачы 22 скаргаў, пры гэтым апублікавана менш за 10% рашэнняў па дадзеных скаргах. У асноўным скаргі падчас агітацыіі тычыліся наступных парушэнняў выбарачага заканадаўства: парушэнні патрабаванняў аб выхадных дадзеных у агітацыйных матэрыялах; адмова друкарняў вырабляць агітацыйныя матэрыялы; перашкоды ў агітацыі на перадвыбарчых пікетах; унясенне зменаў у біяграфічныя звесткі кандыдатаў; адмова ў апублікаванні перадвыбарчай праграмы; адмова ў паказе тэлевыступа кандыдата; выкарыстанне адміністрацыйнага рэсурсу праўладнымі кандыдатамі.

Як і раней, у сёлетніх выбарах дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў шостага склікання мелі месца факты адвольнага прымянення нормаў ВК аб тэрмінах падачы скаргаў. Так, згодна з выбарчым заканадаўствам, скаргі, як правіла, падаюцца ў трохдзённы тэрмін з дня прыняцця рашэння. Паколькі парадак цячэння тэрмінаў у Выбарчым кодэксе не вызначаны, на погляд юрыстаў кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары», павінны дзейнічаць агульныя правілы падліку тэрмінаў, вызначаныя ў Грамадзянскім працэсуальным кодэксе (тэрмін для падачі скаргі пачынаецца на наступны дзень). Але ж на практыцы суды і выбарчыя камісіі трактуюць норму аб тэрмінах абмежавальна, паколькі залічваюць дзень вынясення рашэння ў трохдзённы тэрмін для абскарджвання. У выпадку, калі рашэнне выносіцца ўвечары, а само рашэнне, як правіла, выдаецца на рукі на наступны дзень, многія скаргі падаюцца з пропускам тэрміна і, адпаведна, не разглядаюцца. Такія сітуацыі сведчаць пра абмежаванні магчымасцяў рэалізацыі права на абскарджанне незаконных рашэнняў. Мяркуем, што такая праблема павінна быць вырашаная праз адпаведныя дапаўненні і змены ў ВК.

У Цэнтральнай камісіі пасля выбараў разгледжаныя 2 скаргі былых кандыдатаў у дэпутаты аб прызнанні выбараў па адпаведных выбарчых акругах несапраўднымі і адмене іх вынікаў. Такія скаргі падалі Віктар Міхальчык, які балатаваўся кандыдатам у дэпутаты па Гродзенскай-Занёманскай ВА №5, і Сяргей Калякін, які ішоў па Аршанскай гарадской ВА №25. Згодна са скаргамі кандыдатаў, падставай для прызнання выбараў несапраўднымі з'яўляліся парушэнні пры фарміраванні выбарчых камісій па акругах, неабгрунтаваныя абмежаванні ў правядзенні перадвыбарчай агітацыі, стварэнне перашкодаў для працы назіральнікам на ўчастках, завышэнне рэальнай яўкі выбаршчыкаў і інш. Па выніках разгляду скаргаў ЦВК «не ўстанавіла парушэнняў выбарчага заканадаўства, дапушчаных падчас выбараў або пры падліку галасоў, якія ўплываюць на вынікі выбараў або не дазваляюць з пэўнасцю вызначыць вынікі волевыяўлення выбаршчыкаў»[9].

Варта адзначыць, што ВК не прадугледжвае магчымасць абскарджання рашэнняў ЦВК, прынятых па скаргах кандыдатаў на прызнанне выбараў несапраўднымі. Паводле ВК, кандыдат у дэпутаты можа абскардзіць у Вярхоўны Суд толькі рашэнне ЦВК аб прызнанні выбараў несапраўднымі. У цэлым права абскарджання ў судовым парадку дзеянняў і рашэнняў, якія прымаюцца выбарчымі камісіямі, абмяжоўваецца толькі выпадкамі, непасрэдна прадугледжанымі ВК, што супярэчыць канстытуцыйнаму праву на зварот у суд.

9 http://rec.gov.by/sites/default/files/pdf/Elections-PPNS6-post69.pdf і http://rec.gov.by/sites/default/files/pdf/Elections-PPNS6-post70.pdf

# РЭКАМЕНДАЦЫІ

Змены ВК апошніх гадоў не ўлічваюць большасці рэкамендацый АБСЕ і Венецыянскай камісіі, вынесеных па выніках назірання за папярэднімі выбарамі, а таксама прапановы кампаніі «Праваабронцы за свабодныя выбары». Большасць гэтых рэкамендацый не страціла сваю актуальнасць і пасля выбараў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь 2015 года. Выбары паказалі, што без дэталёвай рэгламентацыі парадку фарміравання ВК, галасавання і падліку галасоў немагчыма забяспечыць правядзенне выбараў, якія б адпавядалі міжнародным стандартам у галіне свабодных і справядлівых выбараў, у прыватнасці, Капенгагенскаму дакументу АБСЕ 1990 г.

Выбарчая кампанія таксама засведчыла неабходнасць забеспячэння рэальнай роўнасці кандыдатаў у сферы доступу да сродкаў масавай інфармацыі і пашырэння правоў назіральнікаў. Змены ў выбарчым заканадаўстве, прапанаваныя ніжэй, дазволяць наблізіць выбары да міжнародных стандартаў, а таксама павялічыць давер да вынікаў выбараў як з боку грамадзян Беларусі, так і з боку міжнароднай супольнасці.

## Выбарчыя камісіі

У ВК трэба закласці норму, якая б давала гарантыі прысутнасці ў выбарчых камісіях прадстаўнікоў палітычных партый і забяспечвала плюралістычны склад камісій. Неабходна забяспечыць, каб палітычныя партыі, якія прынялі ўдзел у выбарчай кампаніі, у тым ліку парламенцкай, мелі права дэлегаваць аднаго прадстаўніка ў кожную з тэрытарыяльных, акруговых і ўчастковых выбарчых камісій. І толькі ў выпадку, калі палітычная партыя не скарысталася такім правам, мясцовыя распарадчыя і выканаўчыя органы атрымаюць права самастойна запаўняць вакантныя месцы ў выбарчых камісіях. Аналагічным чынам першачарговае права вылучаць сваіх прадстаўнікоў у выбарчыя камісіі павінны мець кандыдаты ў дэпутаты. Акрамя таго, трэба заканадаўча вызначыць крытэры для кандыдатаў у склад выбарчых камісій (дэлегаванне палітычнай партыяй, адукацыя, іншыя прафесійныя веды), якія б зменшылі магчымасці адвольнага іх прызначэння і маглі б ацэньвацца судом пры разглядзе адпаведных скаргаў.

## Рэгістрацыя кандыдатаў

Неабходна выключыць магчымасць выкарыстання адміністрацыйнага рэсурсу пры зборы подпісаў, у прыватнасці, забараніць збор подпісаў не сябрамі ініцыятыўных груп. Акрамя таго, трэба прадугледзець права назіральнікаў прысутнічаць пры праверцы подпісаў за вылучэнне кандыдатаў.

## Спісы выбаршчыкаў

Для павелічэння празрыстасці і падсправаздачнасці працэсу рэгістрацыі выбаршчыкаў неабходна стварыць агульнанацыянальны спіс выбаршчыкаў. Грамадзянам і назіральнікам (у тым ліку давераным асобам, прадстаўнікам СМІ і міжнародным назіральнікам) павінен быць дадзены поўны доступ да спісаў. Кожны грамадзянін павінен мець права знаёміцца са спісамі выбаршчыкаў да пачатку галасавання. Акрамя таго, назіральнікі павінны мець магчымасць знаёміцца з гэтымі спісамі падчас галасавання. Колькасць выбаршчыкаў, зарэгістраваных на ўчастку для галасавання, павінна абвяшчацца выбарчымі камісіямі як напярэдадні галасавання, так і пасля яго заканчэння. Варта стварыць адзіны рэестр усіх выбаршчыкаў Рэспублікі Беларусь.

## Фінансаванне выбараў

Замацаваная ВК норма дазваляе самастойнае выкарыстанне ЦВК сродкаў дзяржаўнага бюджэту на выраб інфармацыйных улётак з агульнымі дадзенымі кандыдатаў замест фінансавання іх выдаткаў на агітацыйныя друкаваныя матэрыялы. Гэта прывяло да нізкай актыўнасці большай часткі кандыдатаў у вырабе агітацыйных матэрыялаў. Таму трэба на заканадаўчым узроўні вярнуць дзяржаўнае фінансаванне выдаткаў кандыдатаў па вырабе друкаванай агітацыйнай прадукцыі. Варта прадугледзець магчымасць адкрыцця спецыяльных фондаў з моманту рэгістрацыі

# Звесткі аб вылучэнні ва ўчастковыя выбарчыя камісіі[*]

***Дадатак 5***

**СВЕДЕНИЯ***
**о выдвижении представителей в состав участковых избирательных комиссий по выборам депутатов Палаты представителей Национального собрания Республики Беларусь шестого созыва**

| | Брестская область | | Витебская область | | Гомельская область | | Гродненская область | | Минская область | | Могилевская область | | г.Минск | | Республика Беларусь | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **Количество комиссий** | **928** | | **819** | | **1 038** | | **686** | | **1 023** | | **767** | | **710** | | **5 971** | |
| **Поступило документов о выдвижении (всего)** | **10 483** | | **11 160** | | **11 849** | | **9 481** | | **11 184** | | **9 091** | | **10 080** | | **73 328** | |
| **Выдвинуто в состав комиссий представителей (всего)** | **10 483** | | **11 160** | | **11 848** | | **9 481** | | **11 184** | | **9 091** | | **10 046** | | **73 293** | |
| **Представители выдвинуты:**** | кол-во | %*** | кол-во | % | кол-во | % | кол-во | % | кол-во | % | кол-во | % | кол-во | % | кол-во | % |
| **одним субъектом** | **10 483** | *100,0* | **11 160** | *100,0* | **11 847** | *99,99* | **9 481** | *100,0* | **11 184** | *100,0* | **9 091** | *100,0* | **10 012** | *99,7* | **73 258** | *99,95* |
| гражданами путем подачи заявлений | 4 116 | *39,3* | 4 621 | *41,4* | 4 169 | *35,2* | 4 298 | *45,3* | 5 748 | *51,4* | 3 849 | *42,3* | 627 | *6,2* | **27 428** | *37,4* |
| трудовыми коллективами | 1 630 | *15,5* | 1 619 | *14,5* | 1 825 | *15,4* | 610 | *6,4* | 764 | *6,8* | 1 455 | *16,0* | 1 354 | *13,5* | **9 257** | *12,6* |
| общественными объединениями | 4 737 | *45,2* | 4 920 | *44,1* | 5 853 | *49,4* | 4 573 | *48,2* | 4 672 | *41,8* | 3 787 | *41,7* | 8 031 | *79,9* | **36 573** | *49,9* |
| **двумя субъектами** | | | | | **1** | *0,01* | | | | | | | **34** | *0,3* | **35** | *0,05* |
| гражданами путем подачи заявлений и общественными объединениями | | | | | 1 | *0,01* | | | | | | | 34 | *0,3* | **35** | *0,05* |
| **Всего выдвинуто каждым субъектом:** | кол-во | %**** | кол-во | % | кол-во | % | кол-во | % | кол-во | % | кол-во | % | кол-во | % | кол-во | % |
| **гражданами путем подачи заявлений** | **4 116** | *39,3* | **4 621** | *41,4* | **4 170** | *35,2* | **4 298** | *45,3* | **5 748** | *51,4* | **3 849** | *42,3* | **661** | *6,6* | **27 463** | *37,5* |
| **трудовыми коллективами** | **1 630** | *15,5* | **1 619** | *14,5* | **1 825** | *15,4* | **610** | *6,4* | **764** | *6,8* | **1 455** | *16,0* | **1 354** | *13,4* | **9 257** | *12,6* |
| **общественными объединениями,** | **4 737** | *45,2* | **4 920** | *44,1* | **5 854** | *49,4* | **4 573** | *48,2* | **4 672** | *41,8* | **3 787** | *41,7* | **8 065** | *80,0* | **36 608** | *49,9* |
| в том числе: | кол-во | %*** | кол-во | % | кол-во | % | кол-во | % | кол-во | % | кол-во | % | кол-во | % | кол-во | % |
| **политических партий:** | **217** | *2,1* | **289** | *2,6* | **570** | *4,8* | **99** | *1,0* | **102** | *0,9* | **144** | *1,6* | **2866** | *28,5* | **4 287** | *5,8* |
| Белорусская аграрная партия | | | 1 | *0,01* | | | 7 | *0,1* | | | | | 647 | *6,4* | **655** | *0,9* |
| Белорусская партия левых «Справедливый мир» | 24 | *0,2* | 40 | *0,4* | 73 | *0,6* | 12 | *0,1* | | | 13 | *0,1* | 7 | *0,1* | **169** | *0,2* |
| Белорусская социал-демократическая партия (Грамада) | 6 | *0,1* | | | | | 2 | *0,02* | | | 20 | *0,2* | 14 | *0,1* | **42** | *0,1* |
| Белорусская социально-спортивная партия | | | | | | | | | | | | | 660 | *6,6* | **660** | *0,9* |
| Коммунистическая партия Беларуси | 106 | *1,0* | 112 | *1,0* | 142 | *1,2* | 51 | *0,5* | 84 | *0,8* | 20 | *0,2* | 473 | *4,7* | **988** | *1,3* |
| Либерально-демократическая партия | | | | | | | | | | | | | 15 | *0,1* | **15** | *0,02* |
| Объединенная гражданская партия | 20 | *0,2* | 23 | *0,2* | 61 | *0,5* | 23 | *0,2* | | | 46 | *0,5* | 50 | *0,5* | **223** | *0,3* |
| Партия БНФ | 11 | *0,1* | 31 | *0,3* | | | 4 | *0,04* | 5 | *0,04* | | | 29 | *0,3* | **80** | *0,1* |
| Республиканская партия | | | | | | | | | | | | | 310 | *3,1* | **310** | *0,4* |
| Республиканская партия труда и справедливости | 50 | *0,5* | 82 | *0,7* | 290 | *2,4* | | | 13 | *0,1* | 45 | *0,5* | 661 | *6,6* | **1 141** | *1,6* |
| Социал-демократическая партия Народного Согласия | | | | | 4 | *0,03* | | | | | | | | | **4** | *0,01* |
| **других общественных объединений:** | **4 520** | *43,1* | **4 631** | *41,5* | **5 284** | *44,6* | **4 474** | *47,2* | **4 570** | *40,9* | **3643** | *40,1* | **5199** | *51,8* | **32 321** | *44,1* |
| Белая Русь | 690 | *6,6* | 646 | *5,8* | 662 | *5,6* | 573 | *6,0* | 817 | *7,3* | 552 | *6,1* | 686 | *6,8* | **4 626** | *6,3* |
| Белорусский республиканский союз молодежи | 644 | *6,1* | 597 | *5,3* | 679 | *5,7* | 543 | *5,7* | 472 | *4,2* | 452 | *5,0* | 679 | *6,8* | **4 066** | *5,5* |
| Белорусский союз женщин | 694 | *6,6* | 404 | *3,6* | 767 | *6,5* | 598 | *6,3* | 828 | *7,4* | 369 | *4,1* | 684 | *6,8* | **4 344** | *5,9* |
| Белорусское общественное объединение ветеранов | 431 | *4,1* | 572 | *5,1* | 536 | *4,5* | 446 | *4,7* | 418 | *3,7* | 362 | *4,0* | 395 | *3,9* | **3 160** | *4,3* |
| Федерация профсоюзов Беларуси | 1 579 | *15,1* | 1 756 | *15,7* | 1 785 | *15,1* | 1 903 | *20,1* | 881 | *7,9* | 1025 | *11,3* | 421 | *4,2* | **9 350** | *12,8* |
| иные общественные объединения | 482 | *4,6* | 656 | *5,9* | 855 | *7,2* | 411 | *4,3* | 1 154 | *10,3* | 883 | *9,7* | 2334 | *23,2* | **6 775** | *9,2* |

*** Сведения указаны без учета участковых комиссий, образованных за пределами Республики Беларусь.**
**** Если представитель выдвинут несколькими субъектами, то в таблице указывается выдвижение каждым субъектом.**
***** Определяется к общему числу граждан, выдвинутых в состав комиссии**
****** Определяется к общему числу поступивших документов.**

[*] http://rec.gov.by/sites/default/files/pdf/Elections-PPNS6-Elect10.pdf

# Звесткі аб складзе ўчастковых выбарчых камісій*

**СВЕДЕНИЯ***
**о составе участковых избирательных комиссий по выборам депутатов Палаты представителей Национального собрания Республики Беларусь шестого созыва**

| | Брестская область | | Витебская область | | Гомельская область | | Гродненская область | | Минская область | | Могилевская область | | г.Минск | | ВСЕГО по РБ | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **Количество комиссий** | **928** | | **819** | | **1 038** | | **686** | | **1 023** | | **767** | | **710** | | **5 971** | |
| **Численный состав комиссий** | **9 508** | | **10 149** | | **10 476** | | **8 092** | | **10 732** | | **8 397** | | **8 502** | | **65 856** | |
| в том числе: | кол-во | %** | кол-во | % | кол-во | % | кол-во | % | кол-во | % | кол-во | % | кол-во | % | кол-во | % |
| государственные служащие | 541 | *5,7* | 339 | *3,3* | 557 | *5,3* | 410 | *5,1* | 620 | *5,8* | 314 | *3,7* | 73 | *0,9* | **2 854** | *4,3* |
| граждане в возрасте до 30 лет | 954 | *10,0* | 670 | *6,6* | 791 | *7,6* | 637 | *7,9* | 823 | *7,7* | 668 | *8,0* | 1 131 | *13,3* | **5 674** | *8,6* |
| женщины | 6 635 | *69,8* | 6 970 | *68,7* | 7 576 | *72,3* | 5 790 | *71,6* | 7 665 | *71,4* | 6 371 | *75,9* | 5 902 | *69,4* | **46 909** | *71,2* |
| **Члены комиссий выдвинуты:** | кол-во | % | кол-во | % | кол-во | % | кол-во | % | кол-во | % | кол-во | % | кол-во | % | кол-во | % |
| **одним субъектом** | **9508** | *100,0* | **10149** | *100,0* | **10476** | *100,0* | **8092** | *100,0* | **10732** | *100,0* | **8397** | *100,0* | **8500** | *99,98* | **65854** | *99,997* |
| гражданами путем подачи заявлений | 3693 | *38,8* | 4146 | *40,9* | 3554 | *33,9* | 3394 | *41,9* | 5463 | *50,9* | 3318 | *39,5* | 534 | *6,3* | 24102 | *36,6* |
| трудовыми коллективами | 1483 | *15,6* | 1485 | *14,6* | 1646 | *15,7* | 520 | *6,4* | 747 | *7,0* | 1440 | *17,1* | 1000 | *11,8* | 8321 | *12,6* |
| общественными объединениями | 4332 | *45,6* | 4518 | *44,5* | 5276 | *50,4* | 4178 | *51,6* | 4522 | *42,1* | 3639 | *43,3* | 6966 | *81,9* | 33431 | *50,8* |
| **двумя субъектами** | | | | | | | | | | | | | **2** | *0,02* | **2** | *0,003* |
| гражданами путем подачи заявлений и общественными объединениями | | | | | | | | | | | | | 2 | *0,02* | 2 | *0,003* |
| **В состав комиссии включены представители:*** ** | | | | | | | | | | | | | | | | |
| **граждан путем подачи заявлений** | **3 693** | | **4 146** | | **3 554** | | **3 394** | | **5 463** | | **3 318** | | **536** | | **24 104** | |
| **трудовых коллективов** | **1 483** | | **1 485** | | **1 646** | | **520** | | **747** | | **1 440** | | **1 000** | | **8 321** | |
| **общественных объединений,** | **4 332** | | **4 518** | | **5 276** | | **4 178** | | **4 522** | | **3 639** | | **6 968** | | **33 433** | |
| в том числе: | | | | | | | | | | | | | | | | |
| **политических партий:** | **101** | *1,1* | **96** | *0,9* | **378** | *3,6* | **58** | *0,7* | **83** | *0,8* | **65** | *0,8* | **2630** | *30,9* | **3 411** | *5,2* |
| Белорусская аграрная партия | | | 1 | *0,01* | | | 7 | *0,1* | | | | | 629 | *7,4* | **637** | *1,0* |
| Белорусская партия левых «Справедливый мир» | 7 | *0,1* | 9 | *0,1* | 9 | *0,1* | 3 | *0,04* | | | | | 3 | *0,04* | **31** | *0,05* |
| Белорусская социал-демократическая партия (Грамада) | 1 | *0,01* | | | | | | | | | 1 | *0,01* | 1 | *0,01* | **3** | *0,005* |
| Белорусская социально-спортивная партия | | | | | | | | | | | | | 639 | *7,5* | **639** | *1,0* |
| Коммунистическая партия Беларуси | 59 | *0,6* | 59 | *0,6* | 116 | *1,1* | 48 | *0,6* | 74 | *0,7* | 18 | *0,2* | 442 | *5,2* | **816** | *1,2* |
| Либерально-демократическая партия | | | | | | | | | | | | | 5 | *0,1* | **5** | *0,01* |
| Объединенная гражданская партия | 2 | *0,02* | 4 | *0,04* | 3 | *0,03* | | | | | 2 | *0,02* | 3 | *0,04* | **14** | *0,02* |
| Партия БНФ | 1 | *0,01* | | | | | | | 1 | *0,01* | | | 3 | *0,04* | **5** | *0,01* |
| Республиканская партия | | | | | | | | | | | | | 265 | *3,1* | **265** | *0,4* |
| Республиканская партия труда и справедливости | 31 | *0,3* | 23 | *0,2* | 248 | *2,4* | | | 8 | *0,1* | 44 | *0,5* | 640 | *7,5* | **994** | *1,5* |
| Социал-демократическая партия Народного Согласия | | | | | 2 | *0,02* | | | | | | | | | **2** | *0,003* |
| **других общественных объединений:** | **4231** | *44,5* | **4 422** | *43,6* | **4 898** | *46,8* | **4120** | *50,9* | **4439** | *41,4* | **3574** | *42,6* | **4338** | *51,0* | **30 022** | *45,6* |
| Белая Русь | 673 | *7,1* | 640 | *6,3* | 641 | *6,1* | 562 | *6,9* | 810 | *7,5* | 540 | *6,4* | 670 | *7,9* | **4 536** | *6,9* |
| Белорусский республиканский союз молодежи | 536 | *5,6* | 548 | *5,4* | 568 | *5,4* | 396 | *4,9* | 429 | *4,0* | 431 | *5,1* | 582 | *6,8* | **3 490** | *5,3* |
| Белорусский союз женщин | 684 | *7,2* | 402 | *4,0* | 725 | *6,9* | 586 | *7,2* | 814 | *7,6* | 366 | *4,4* | 664 | *7,8* | **4 241** | *6,4* |
| Белорусское общественное объединение ветеранов | 368 | *3,9* | 547 | *5,4* | 471 | *4,5* | 404 | *5,0* | 406 | *3,8* | 356 | *4,2* | 324 | *3,8* | **2 876** | *4,4* |
| Федерация профсоюзов Беларуси | 1 532 | *16,1* | 1 697 | *16,7* | 1 684 | *16,1* | 1 797 | *22,2* | 859 | *8,0* | 1 014 | *12,1* | 356 | *4,2* | **8 939** | *13,6* |
| иные общественные объединения | 438 | *4,6* | 588 | *5,8* | 809 | *7,7* | 375 | *4,6* | 1 121 | *10,4* | 867 | *10,3* | 1 742 | *20,5* | **5 940** | *9,0* |

*** Сведения указаны без учета участковых избирательных комиссий, образованных за пределами Республики Беларусь.**
**** Определяется к общему числу членов комиссий.**
***** Если представитель выдвинут несколькими субъектами, то в таблице указывается выдвижение каждым субъектом.**

* http://rec.gov.by/sites/default/files/pdf/Elections-PPNS6-Elect11.pdf

***Дадатак 7***

# Звесткі аб колькасці зарэгістраваных ініцыятыўных груп[*]

**Республика Беларусь**

**СВЕДЕНИЯ**
**о количестве зарегистрированных окружными избирательными комиссиями инициативных групп граждан по сбору подписей избирателей в поддержку лиц, предлагаемых для выдвижения кандидатами в депутаты Палаты представителей Национального собрания Республики Беларусь шестого созыва**

| | Брестская область | Витебская область | Гомельская область | Гродненская область | Минская область | Могилевская область | г.Минск | Республика Беларусь |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **Количество инициативных групп** | кол-во | кол-во | кол-во | кол-во | кол-во | кол-во | кол-во | кол-во |
| **подано заявлений** | **59** | **48** | **58** | **52** | **61** | **62** | **139** | **479** |
| отозвано заявлений | 1 | | 1 | 1 | | | | **3** |
| отказано в регистрации | 1 | | | 1 | 2 | 1 | 25 | **30** |
| **зарегистрировано** | **57** | **48** | **57** | **50** | **59** | **61** | **114** | **446*** |
| **Партийность лиц, выдвигаемых кандидатами в депутаты, инициативные группы которых зарегистрированы** | | | | | | | | |
| **Беспартийные** | **28** | **27** | **40** | **35** | **47** | **46** | **64** | **287** |
| **Всего членов партий, в том числе:** | **29** | **21** | **17** | **15** | **12** | **15** | **50** | **159** |
| Белорусская партия «Зелёные» | | | 1 | 1 | | | 1 | **3** |
| Белорусская партия левых «Справедливый мир» | 6 | 5 | 3 | 3 | 1 | 1 | 4 | **23** |
| Белорусская патриотическая партия | 1 | | | | 1 | | 1 | **3** |
| Белорусская социал-демократическая партия (Грамада) | 12 | 2 | | | 1 | | 1 | **16** |
| Коммунистическая партия Беларуси | | | 2 | 1 | 2 | 3 | 12 | **20** |
| Либерально-демократическая партия | 1 | 3 | 2 | 3 | 1 | 1 | 5 | **16** |
| Объединенная гражданская партия | 5 | 4 | 7 | 3 | 3 | 7 | 10 | **39** |
| Партия БНФ | 3 | 7 | 2 | 4 | 3 | 1 | 9 | **29** |
| Республиканская партия труда и справедливости | 1 | | | | | 2 | 7 | **10** |

*** Из них 3 инициативные группы прекратили деятельность по сбору подписей (Брестский-Западный избирательный округ № 1, Барановичский-Восточный избирательный округ № 6, Вилейский избирательный округ № 74).**

[*] http://rec.gov.by/sites/default/files/pdf/Elections-PPNS6-Elect5.pdf

# Звесткі аб рэгістрацыі кандыдатаў у дэпутаты*

***Дадатак 8***

**По состоянию на 12 августа 2016 г.**

**Республика Беларусь**

**СВЕДЕНИЯ**
**о регистрации кандидатов в депутаты Палаты представителей Национального собрания Республики Беларусь шестого созыва**

| | Брестская область | | Витебская область | | Гомельская область | | Гродненская область | | Минская область | | Могилевская область | | г. Минск | | Республика Беларусь | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **Число избирательных округов** | 16 | | 14 | | 17 | | 13 | | 17 | | 13 | | 20 | | 110 | |
| | Кол - во | % | Кол - во | % | Кол - во | % | Кол - во | % | Кол - во | % | Кол - во | % | Кол - во | % | Кол - во | % |
| **Выдвинуто кандидатов в депутаты** | 79 | - | 86 | - | 81 | - | 79 | - | 89 | - | 85 | - | 131 | - | 630 | - |
| **Отозвано заявлений о согласии баллотироваться** | | | | | 1 | 1,2 | 9 | 11,4 | 4 | 4,5 | 1 | 1,2 | 1 | 0,8 | 16 | 2,5 |
| **Отказано в регистрации кандидатами в депутаты** | 4 | 5,1 | 21 | 24,4 | 6 | 7,4 | 15 | 19,0 | 19 | 21,3 | 15 | 17,6 | 13 | 9,9 | 93 | 14,8 |
| **Зарегистрировано кандидатов в депутаты,** | 75 | - | 65 | - | 74 | - | 55 | - | 66 | - | 69 | - | 117 | - | 521 | - |
| в том числе выдвинутых: | | | | | | | | | | | | | | | | |
| **одним субъектом** | 56 | 74,7 | 50 | 76,9 | 53 | 71,6 | 42 | 76,4 | 50 | 75,8 | 50 | 72,5 | 98 | 83,8 | 399 | 76,6 |
| гражданами путем сбора подписей | 9 | 12,0 | 2 | 3,1 | 10 | 13,5 | 9 | 16,4 | 10 | 15,2 | 15 | 21,7 | 22 | 18,8 | 77 | 14,8 |
| трудовыми коллективами | 10 | 13,3 | | | 2 | 2,7 | | | 8 | 12,1 | | | 4 | 3,4 | 24 | 4,6 |
| политическими партиями | 37 | 49,3 | 48 | 73,8 | 41 | 55,4 | 33 | 60,0 | 32 | 48,5 | 35 | 50,7 | 72 | 61,5 | 298 | 57,2 |
| **двумя субъектами** | 17 | 22,7 | 15 | 23,1 | 20 | 27,0 | 13 | 23,6 | 14 | 21,2 | 15 | 21,7 | 16 | 13,7 | 110 | 21,1 |
| гражданами путем сбора подписей и трудовыми коллективами | 12 | 16,0 | 14 | 21,5 | 16 | 21,6 | 11 | 20,0 | 14 | 21,2 | 14 | 20,3 | 8 | 6,8 | 89 | 17,1 |
| гражданами путем сбора подписей и политическими партиями | 5 | 6,7 | 1 | 1,5 | 4 | 5,4 | 2 | 3,6 | | | 1 | 1,4 | 8 | 6,8 | 21 | 4,0 |
| **тремя субъектами** | 2 | 2,7 | | | 1 | 1,4 | | | 2 | 3,0 | 4 | 5,8 | 3 | 2,6 | 12 | 2,3 |
| **Зарегистрированных кандидатов выдвинули:** | Кол - во | % | Кол - во | % | Кол - во | % | Кол - во | % | Кол - во | % | Кол - во | % | Кол - во | % | Кол - во | % |
| **граждане путем сбора подписей** | 28 | 37,3 | 17 | 26,2 | 31 | 41,9 | 22 | 40,0 | 26 | 39,4 | 34 | 49,3 | 41 | 35,0 | 199 | 38,2 |
| **трудовые коллективы** | 24 | 32,0 | 14 | 21,5 | 19 | 25,7 | 11 | 20,0 | 24 | 36,4 | 18 | 26,1 | 15 | 12,8 | 125 | 24,0 |
| **политические партии:** | 44 | 58,7 | 49 | 75,4 | 46 | 62,2 | 35 | 63,6 | 34 | 51,5 | 40 | 58,0 | 83 | 70,9 | 331 | 63,5 |
| Белорусская партия «Зелёные» | | | | | 2 | 2,7 | 1 | 1,8 | | | | | 2 | 1,7 | 5 | 1,0 |
| Белорусская партия левых «Справедливый мир» | 8 | 10,7 | 6 | 9,2 | 9 | 12,2 | 3 | 5,5 | 2 | 3,0 | 5 | 7,2 | 5 | 4,3 | 38 | 7,3 |
| Белорусская патриотическая партия | 2 | 2,7 | 5 | 7,7 | | | | | 1 | 1,5 | 1 | 1,4 | 7 | 6,0 | 16 | 3,1 |
| Белорусская социал-демократическая партия (Грамада) | 11 | 14,7 | 2 | 3,1 | 3 | 4,1 | 2 | 3,6 | 3 | 4,5 | 5 | 7,2 | 1 | 0,9 | 27 | 5,2 |
| Коммунистическая партия Беларуси | 2 | 2,7 | 8 | 12,3 | 3 | 4,1 | 2 | 3,6 | 6 | 9,1 | 4 | 5,8 | 19 | 16,2 | 44 | 8,4 |
| Либерально-демократическая партия | 8 | 10,7 | 12 | 18,5 | 14 | 18,9 | 8 | 14,5 | 10 | 15,2 | 7 | 10,1 | 18 | 15,4 | 77 | 14,8 |
| Объединенная гражданская партия | 6 | 8,0 | 6 | 9,2 | 11 | 14,9 | 7 | 12,7 | 5 | 7,6 | 9 | 13,0 | 13 | 11,1 | 57 | 10,9 |
| Партия БНФ | 5 | 6,7 | 6 | 9,2 | 2 | 2,7 | 12 | 21,8 | 6 | 9,1 | 6 | 8,7 | 12 | 10,3 | 49 | 9,4 |
| Республиканская партия труда и справедливости | 2 | 2,7 | 4 | 6,2 | 2 | 2,7 | | | 1 | 1,5 | 3 | 4,3 | 6 | 5,1 | 18 | 3,5 |

* http://rec.gov.by/sites/default/files/pdf/Elections-PPNS6-Elect13.pdf

| | Брестская область | | Витебская область | | Гомельская область | | Гродненская область | | Минская область | | Могилевская область | | г. Минск | | Республика Беларусь | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **Из зарегистрированных кандидатами:** | | | | | | | | | | | | | | | | |
| женщины | 17 | *22,7* | 11 | *16,9* | 14 | *18,9* | 10 | *18,2* | 24 | *36,4* | 22 | *31,9* | 31 | *26,5* | **129** | *24,8* |
| граждане в возрасте до 30 лет | 6 | *8,0* | 10 | *15,4* | 6 | *8,1* | 1 | *1,8* | 9 | *13,6* | 5 | *7,2* | 15 | *12,8* | **52** | *10,0* |
| являются депутатами Палаты представителей действующего созыва | 4 | *5,3* | 5 | *7,7* | 7 | *9,5* | 3 | *5,5* | 2 | *3,0* | 2 | *2,9* | 5 | *4,3* | **28** | *5,4* |
| являются депутатами местных Советов депутатов | 10 | *13,3* | 5 | *7,7* | 3 | *4,1* | 3 | *5,5* | 10 | *15,2* | 5 | *7,2* | 7 | *6,0* | **43** | *8,3* |
| **по сферам деятельности:** | | | | | | | | | | | | | | | | |
| образование, культура, наука, здравоохранение | 16 | *21,3* | 8 | *12,3* | 9 | *12,2* | 6 | *10,9* | 13 | *19,7* | 15 | *21,7* | 28 | *23,9* | **95** | *18,2* |
| торговля, бытовое обслуживание населения | 4 | *5,3* | 4 | *6,2* | 3 | *4,1* | 7 | *12,7* | 2 | *3,0* | 1 | *1,4* | 3 | *2,6* | **24** | *4,6* |
| государственные органы | 9 | *12,0* | 6 | *9,2* | 10 | *13,5* | 6 | *10,9* | 7 | *10,6* | 7 | *10,1* | 6 | *5,1* | **51** | *9,8* |
| правоохранительные органы и военная служба | | | 2 | *3,1* | | | 4 | *7,3* | 1 | *1,5* | | | 1 | *0,9* | **8** | *1,5* |
| предприниматели | 7 | *9,3* | 11 | *16,9* | 4 | *5,4* | 1 | *1,8* | 4 | *6,1* | 2 | *2,9* | 5 | *4,3* | **34** | *6,5* |
| промышленность, транспорт, строительство | 22 | *29,3* | 6 | *9,2* | 11 | *14,9* | 11 | *20,0* | 13 | *19,7* | 7 | *10,1* | 20 | *17,1* | **90** | *17,3* |
| сельское хозяйство | 2 | *2,7* | 2 | *3,1* | 1 | *1,4* | | | 2 | *3,0* | 2 | *2,9* | | | **9** | *1,7* |
| иные сферы деятельности | 5 | *6,7* | 15 | *23,1* | 22 | *29,7* | 9 | *16,4* | 18 | *27,3* | 25 | *36,2* | 44 | *37,6* | **138** | *26,5* |
| неработающие | 5 | *6,7* | 3 | *4,6* | 5 | *6,8* | 6 | *10,9* | 2 | *3,0* | 3 | *4,3* | 6 | *5,1* | **30** | *5,8* |
| пенсионеры | 5 | *6,7* | 8 | *12,3* | 9 | *12,2* | 5 | *9,1* | 4 | *6,1* | 7 | *10,1* | 4 | *3,4* | **42** | *8,1* |

*Дадатак 9*

# Звесткі аб колькасці ўведамленняў аб правядзенні масавых мерапрыемстваў*

**По состоянию на 10 сентября 2016 г.**

**Республика Беларусь**

**СВЕДЕНИЯ**
**о количестве поданных уведомлений о проведении массовых мероприятий кандидатами в депутаты Палаты представителей Национального собрания Республики Беларусь, их доверенными лицами**

| № п/п | Наименование административно-территориальной единицы | Количество избирательных округов | Количество кандидатов в депутаты | Количество поданных уведомлений | Количество массовых мероприятий, указанных в уведомлениях |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Брестская область | 16 | 64 | 57 | 463 |
| 2 | Витебская область | 14 | 64 | 70 | 1 731 |
| 3 | Гомельская область | 17 | 65 | 110 | 1 397 |
| 4 | Гродненская область | 13 | 56 | 98 | 1 256 |
| 5 | Минская область | 17 | 55 | 143 | 1 535 |
| 6 | Могилевская область | 13 | 68 | 64 | 839 |
| 7 | г. Минск | 20 | 112 | 496 | 173 900 |
| **ВСЕГО** | | **110** | **484** | **1 038** | **181 121** |

* http://rec.gov.by/sites/default/files/pdf/Elections-PPNS6-Elect16.pdf

***Дадатак 10***

# Звесткі аб колькасці заяў на прадстаўленне памяшканняў для сустрэч з выбаршчыкамі*

**По состоянию на 10 сентября 2016 г.**

**Республика Беларусь**

**СВЕДЕНИЯ**
**о количестве поданных заявлений о предоставлении помещений для проведения встреч кандидатов в депутаты, их доверенных лиц с избирателями, а также для предвыборных собраний, организуемых избирателями**

| № п/п | Наименование административно-территориальной единицы | Количество избирательных округов | Количество кандидатов в депутаты | Количество поданных заявлений | Количество мероприятий, указанных в заявлениях |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Брестская область | 16 | 64 | 68 | 211 |
| 2 | Витебская область | 14 | 64 | 362 | 1 141 |
| 3 | Гомельская область | 17 | 65 | 121 | 508 |
| 4 | Гродненская область | 13 | 56 | 114 | 449 |
| 5 | Минская область | 17 | 55 | 433 | 1 013 |
| 6 | Могилевская область | 13 | 68 | 106 | 393 |
| 7 | г. Минск | 20 | 112 | 91 | 299 |
| **ВСЕГО** | | **110** | **484** | **1 295** | **4 014** |

* http://rec.gov.by/sites/default/files/pdf/Elections-PPNS6-Elect17.pdf

***Дадатак 11***

# Звесткі аб выкарыстанні кандыдатамі ў дэпутаты эфірнага часу*

**По состоянию на 7 сентября 2016 г.**

**Республика Беларусь**

**СВЕДЕНИЯ**
**об использовании кандидатами в депутаты Палаты представителей Национального собрания Республики Беларусь шестого созыва эфирного времени для выступлений по государственному телевидению и радио**

| № п/п | Наименование административно-территориальной единицы | Количество зарегистрированных кандидатов | Количество кандидатов, участвовавших в жеребьевке | Количество кандидатов, выступивших по телевидению | Количество кандидатов, выступивших по радио |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Брестская область | 75 | 65 | 45 | 39 |
| 2 | Витебская область | 65 | 62 | 55 | 47 |
| 3 | Гомельская область | 74 | 72 | 62 | 56 |
| 4 | Гродненская область | 58 | 44 | 51 | 51 |
| 5 | Минская область | 66 | 64 | 44 | 44 |
| 6 | Могилевская область | 70 | 70 | 54 | 41 |
| 7 | г. Минск | 117 | 115 | 105 | 102 |
| **ВСЕГО** | | **525** | **492** | **416** | **380** |

* http://rec.gov.by/sites/default/files/pdf/Elections-PPNS6-Elect18.pdf

*__Дадатак 12__*

# Звесткі пра кандыдатаў, якія прынялі ўдзел у тэледэбатах*

**По состоянию на 7 сентября 2016 г.**

**Республика Беларусь**

**СВЕДЕНИЯ**
**о кандидатах в депутаты Палаты представителей Национального собрания Республики Беларусь шестого созыва, принявших участие в теледебатах**

| № п/п | Наименование административно-территориальной единицы | Количество зарегистрированных кандидатов | Количество кандидатов, выразивших согласие на участие в теледебатах | Количество кандидатов, принявших участие в теледебатах |
|---|---|---|---|---|
| 1 | Брестская область | 75 | 23 | 15 |
| 2 | Витебская область | 65 | 50 | 45 |
| 3 | Гомельская область | 74 | 33 | 23 |
| 4 | Гродненская область | 58 | 17 | 13 |
| 5 | Минская область | 66 | 12 | 8 |
| 6 | Могилевская область | 70 | 47 | 43 |
| 7 | г. Минск | 117 | 88 | 80 |
| **ВСЕГО** | | **525** | **270** | **227** |

* http://rec.gov.by/sites/default/files/pdf/Elections-PPNS6-Elect19.pdf

## Звесткі аб акрэдытаваных нацыянальных назіральніках*

***Дадатак 13***

**По состоянию на 11 сентября 2016 г.**

**Республика Беларусь**

**СВЕДЕНИЯ**
**о наблюдателях, аккредитованных избирательными комиссиями по выборам депутатов Палаты представителей Национального собрания Республики Беларусь шестого созыва**

| Субъекты, направившие наблюдателей | Количество наблюдателей, аккредитованных комиссиями | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | Центральной комиссией | территориальными | окружными | участковыми | **ИТОГО** |
| **граждане путем подачи заявлений** | | **2** | **59** | **3 639** | **3 700** |
| **трудовые коллективы** | | | **2** | **2 306** | **2 308** |
| **политические партии:** | **4** | **7** | **72** | **4 072** | **4 155** |
| Белорусская аграрная партия | | | | 322 | **322** |
| Белорусская партия левых «Справедливый мир» | 1 | | 4 | 224 | **229** |
| Белорусская патриотическая партия | | | | 172 | **172** |
| Белорусская социал-демократическая партия (Грамада) | | | | 182 | **182** |
| Белорусская социально-спортивная партия | | | 1 | 364 | **365** |
| Коммунистическая партия Беларуси | | 5 | 51 | 1 331 | **1 387** |
| Консервативно-Христианская Партия-БНФ | | | | 34 | **34** |
| Либерально-демократическая партия | 1 | | | 78 | **79** |
| Объединенная гражданская партия | | | 1 | 234 | **235** |
| Партия «Белорусская социал-демократическая Грамада» | | | | 1 | **1** |
| Партия БНФ | 1 | 1 | | 170 | **172** |
| Республиканская партия | | | | 176 | **176** |
| Республиканская партия труда и справедливости | 1 | | 14 | 771 | **786** |
| Социал-демократическая партия Народного Согласия | | 1 | 1 | 13 | **15** |
| **другие общественные объединения:** | **4** | **30** | **548** | **27 089** | **27 671** |
| Белая Русь | 1 | 6 | 92 | 4 509 | **4 608** |
| Белорусский республиканский союз молодежи | | 7 | 111 | 6 642 | **6 760** |
| Белорусский союз женщин | | 3 | 49 | 2 712 | **2 764** |
| Белорусское общественное объединение ветеранов | | 2 | 57 | 3 743 | **3 802** |
| Белорусский Хельсинкский Комитет | 1 | 4 | 48 | 176 | **229** |
| БНФ «Адраджэнне» | 1 | | | 63 | **64** |
| Федерация профсоюзов Беларуси | | 4 | 112 | 6 031 | **6 147** |
| иные общественные объединения | 1 | 4 | 79 | 3 213 | **3 297** |
| **ВСЕГО** | **8** | **39** | **681** | **37 106** | **37 834** |

* http://rec.gov.by/sites/default/files/pdf/Elections-PPNS6-Elect7.pdf

*Дадатак 14*

# Звесткі аб зваротах па пытаннях падрыхтоўкі і правядзення выбараў*

**По состоянию на 16 сентября 2016 г.**

**Республика Беларусь**

**СВЕДЕНИЯ**
**об обращениях граждан, поступивших в местные представительные, исполнительные и распорядительные органы, в избирательные комиссии по вопросам подготовки и проведения выборов депутатов Палаты представителей Национального собрания Республики Беларусь шестого созыва**

| Тематика обращений | Количество поступивших обращений | Количество поступивших обращений | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | в Центральную комиссию Республики Беларусь по выборам и проведению республиканских референдумов | в местные представительные, исполнительные и распорядительные органы | в областные, Минскую городскую избирательные комиссии | в окружные избирательные комиссии | в участковые избирательные комиссии |
| Разъяснение избирательного законодательства | **87** | 46 | | 7 | 11 | 23 |
| Деятельность территориальных, окружных и участковых избирательных комиссий | **250** | 98 | 4 | 75 | 60 | 13 |
| Деятельность инициативных групп | **45** | 5 | | 1 | 39 | |
| Выдвижение кандидатов в депутаты Палаты представителей | **26** | 22 | | 1 | 3 | |
| Регистрация кандидатов в депутаты Палаты представителей | **43** | 6 | | 30 | 7 | |
| Проведение предвыборной агитации | **139** | 41 | 16 | 19 | 60 | 3 |
| Аккредитация и деятельность наблюдателей | **69** | 32 | | 6 | 20 | 11 |
| Формирование собственных избирательных фондов кандидатов в депутаты Палаты представителей, расходование денежных средств этих фондов | **2** | 1 | | | 1 | |
| Составление списков избирателей | **40** | 12 | 2 | 2 | 13 | 11 |
| Порядок голосования и подсчета голосов | **589** | 76 | | 2 | 201 | 310 |
| Признание выборов недействительными | **82** | 9 | | 22 | 33 | 18 |
| Проведение повторного подсчета голосов избирателей | **33** | 1 | | 3 | 15 | 14 |
| Иные вопросы подготовки и проведения выборов | **229** | 75 | 12 | 9 | 56 | 77 |
| Вопросы, не связанные с подготовкой и проведением выборов | **82** | 67 | X | 5 | 5 | 5 |
| **ВСЕГО** | **1 716** | **491** | **34** | **182** | **524** | **485** |

* http://rec.gov.by/sites/default/files/pdf/Elections-PPNS6-Elect12.pdf

*Дадатак 15*

## ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў»

# Маніторынг:

## «Асвятленне парламенцкіх выбараў 2016 г. у беларускіх СМІ»

**(4 ліпеня — 21 верасня 2016 г.)**[*]

# Выніковы даклад

## Уводзіны

Даклад падсумоўвае вынікі маніторынгу асвятлення парламенцкай кампаніі 2016 г. у Беларусі. Маніторынг меў на мэце спрыяць прафесійнаму і аб'ектыўнаму асвятленню выбарчай кампаніі.

ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў», якая праводзіла гэты маніторынг, імкнулася з'вярнуць увагу калег на неабходнасць нескажона, непрадузята і поўна інфармаваць выбаршчыкаў пра электаральны працэс, праграмы кандыдатаў, а таксама меркаванні іх прыхільнікаў і апанентаў.

Метадалогія маніторынгу дазваляе апісваць як агульны кантэкст, так і асобныя выпадкі непрафесійнага асвятлення выбарчай кампаніі. Медыйныя матэрыялы аналізаваліся з гледзішча якасных і колькасных паказчыкаў. Найбольш істотнымі для іх ацэнкі з'яўляліся міжнародна прызнаныя прынцыпы і стандарты асвятлення выбарчых кампаній, а таксама нормы журналісцкай этыкі.

Даклад улічвае дадзеныя, атрыманыя цягам усяго перыяду маніторынгу.

## Падсумаванне

Дзяржаўныя медыя асвятлялі выбарчую кампанію ў сваёй традыцыйнай манеры, а менавіта:

- дамінантнае становішча ў іх займалі Цэнтральная і іншыя выбарчыя камісіі. Прадстаўнікі гэтых камісій (найчасцей старшыні) мелі найбольшы эфірны час паралельна з усімі іншымі персаніфікаванымі суб'ектамі маніторынгу. Да таго ж дзяржаўныя медыя рэпрэзентавалі гэтыя камісіі як найбольш кампетэнтныя крыніцы інфармацыі датычна выбарчага працэсу;
- у навінавых праграмах пераважала дэперсаніфікаваная манера рэпрэзентацыі кандыдатаў у дэпутаты. Што праўда, зрэдчас дзяржаўныя медыя стваралі калектыўны партрэт кандыдатаў, падзяляючы іх на розныя катэгорыі;
- палітычныя партыі, якія ўдзельнічалі ў выбарах, заставаліся ў цені і былі рэпрэзентаваныя пад агульнай назвай «палітычныя партыі». Доля часу і плошчы, адведзеная ім, была мізэрная;
- дыскусіі з выбаршчыкамі адсутнічалі. Апошнія, як правіла, былі рэпрэзентаваныя дэперсаніфікавана;
- прыкладна аднолькавую ўвагу дзяржаўныя медыя надалі назіральнікам з краін СНД і місіі БДІПЧ АБСЕ і ацэньвалі іх дзейнасць пераважна нейтральна;
- паралельна са спартыўнымі выпускамі інфармацыйных праграм ці прагнозамі надвор'я, выбарчая тэматыка альбо была сувымернай, альбо саступала ім. З завяршэннем летняй алімпіяды не паменшыла спартыўнай інфармацыі, але і не павялічылася істотна доля выбарчай тэматыкі;
- нягледзячы на тое, што кандыдаты атрымалі магчымасць звярнуцца да выбаршчыкаў па тэлебачанні і радыё, увага да гэтых зваротаў ніяк не акцэнтавалася. Тэлевізійныя праграмы падавалі іх выступы пад назвай «Выбары 2016» альбо «Выступления кандидатов в депутаты Палаты представителей Национального собрания Республики Беларусь шестого созыва». Канкрэтныя прозвішчы кандыдатаў, а таксама дакладны час выступу кожнага з іх не ўказваліся;
- інфармацыйныя сайты буйнейшых дзяржаўных медыя таксама не падавалі канкрэтнай інфармацыі пра дзень і час выступаў кандыдатаў па ТБ і радыё;
- недзяржаўныя медыя надалі большую ўвагу кандыдатам і палітычным партыям, што ўдзельнічалі ў выбарах. Пры гэтым, праўда, ані партал tut.by, ані друкаваныя недзяржаўныя медыя не сталі рэальнымі канкурэнтамі дзяржаўных тэле- і радыёканалаў;
- па завяршэнні выбарчай кампаніі дзяржаўныя і недзяржаўныя медыя падавалі адрозныя ацэнкі працэдуры галасавання, падліку галасоў, вынікаў галасавання дый самой выбарчай кампаніі.

[*] http://baj.by/be/analytics/yak-zrabic-vybary-nezauvazhnymi-bazh-prezentavau-manitoryng-asvyatlennya-parlamenckay

# Асноўныя факты

## Дзяржаўныя медыя

Нягледзячы на тое, што падчас агітацыйнай кампаніі дзяржаўныя медыя павялічылі ўвагу да кандыдатаў, рэпрэзентуючы іх галоўным чынам неперсаніфікавана, Цэнтральная камісія Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў (ЦВК) разам з абласнымі камісіямі (АК) захавала сваё лідзіруючае месца. Так, паводле выніковых дадзеных (11.07.16 — 11.09.16), у тыднёвай праграме «Главный эфир» («Беларусь 1») яны мелі амаль 44% эфірнага часу, у тэлевізійнай праграме «Наши новости» ОНТ — 17 %, у праграме «Радыёфакт» — амаль 34% параўнальна з усімі астатнімі суб'ектамі маніторынгу. У рэгіянальных тэлепраграмах («Навіны. Гомель» і «Навіны-рэгіён» — ТРК «Магілёў») дамінавалі абласныя і ўчастковыя камісіі (да 40% часу параўнальна з усімі астатнімі суб'ектамі выбарчага працэсу).

Як можна бачыць на адпаведных графіках, дзяржаўныя медыя, назіральнікі місій СНД і Шанхайскай арганізацыі супрацоўніцтва ацэньвалі дзейнасць гэтых камісій станоўча. Напрыклад, прадстаўнік назіральнай місіі СНД сп. Ташыбаеў казаў: «... мы бы хотели отметить хорошую подготовку руководителей округовых избирательных комиссий, профессиональный подход со стороны председателей участковых комиссий...» («Радыёфакт» — 02.08.16). Назіральнік той жа місіі сп. Віктар Мялешка пдкрэсліў: «За время пребывания на Слонимщине я посетил целый ряд избирательных участков как в городе, так и на селе, наблюдал за работой окружной избирательной комиссии. Избирательный процесс в Слонимском районе проходит на высоком организационном уровне» («Слонімскі веснік»— 14.09.16). Дый самі прадстаўнікі гэтых камісій пазітыўна ацэньвалі сваю працу.

Адрозна ад іх і дзяржаўных службоўцаў, маніторынгавыя праграмы рэпрэзентавалі патэнцыйных, а потым і зарэгістраваных кандыдатаў у пераважна дэперсаніфікаванай форме, г.зн. не называючы іх прозвішчаў, не пазначаючы іх партайнай прыналежнасці. Вось адно з тыповых апісанняў, якое агучыла карэспандэнт тэлепраграмы «Навіны-рэгіён» ТРК «Магілёў»: «Акрамя інтэлігенцыі, свае кандыдатуры на дэпутацкія месцы ў парламенце вылучылі прамыслоўцы, транспартнікі, будаўнікі — восем працэнтаў ад агульнай колькасці; столькі ж — прадстаўнікі органаў дзяржаўнага кіравання, чвэрць прадстаўленых кандыдатур — жанчыны. Восем працэнтаў — моладзь да трыццаці год. Ад васьмідзесяці пяці патэнцыйных кандыдатаў у дэпутаты, — было агучана падчас прэс-канферэнцыі, — у акруговыя камісіі вобласці паступіла сто восем пакетаў дакументаў. Паводле суб'ектаў вылучэння яны размеркаваліся наступным чынам: сорак два — грамадзяне шляхам збору подпісаў, васямнаццаць — ад працоўных калектываў».

У праграме «Главный эфир» (21.08.16) старшыня Белтэлерадыёкампаніі сп. Давыдзька, азнаёміўшыся з выступамі кандыдатаў, намаляваў такі партрэт, падзяліўшы іх на тры групы: «Первая группа — это такие, знаете, состоявшиеся, опытные люди: директора школ, предприятий, производств. Они уверены в себе. Они, как правило, хорошо подготовились к выступлению, знают что делают, зачем идут в парламент. И умеют держаться перед камерой.

Вторая группа, категория людей, — это, грубо говоря, партия сказала «надо», значит я ответил «есть». То есть, они не сильно, возможно, верят там в победу, но в мере своих способностей пытаются сделать узнаваемым свой бренд, ну и себя, и партию.

И третий вот самый интересный, как мне кажется, такой вот приход новых людей в нашу избирательную историю, вообще, да. Это вот такие кандидаты «на авось». За ними нет никакого опыта, они идут на выборы, не зная «зачем», не умея, собственно говоря, себя подать и часто несут околесицу». Пададзеныя ацэнкі кожнай з груп не пакідалі сумневу за каго галасаваць.

Другі ўдзельнік дыскусіі, галоўны рэдактар дзяржаўнай газеты «Звязда» сп. Карлюкевіч дапоўніў: «Мне здаецца, яшчэ ёсць такая катэгорыя вельмі вядомых асоб... у інфармацыйнай прасторы... Іх праграмы скіраваны на, ну, папярэдне ўжо плануемыя ў сваім уяўленні, што людзі ведаюць, што гэта будуць аўтары гэтых праграм выключна крытыкаваць, выключна выстаўляць пэўныя лозунгі, вось, і дастаткова, ну лозунгі без глебы».

А галоўны рэдактар газеты «Беларусь сегодня» сп. Якубовіч выказаў меркаванне, што адказныя кандыдаты ў дэпутаты «должны... риторику сменить и говорить так, что «я помогу власти вот в вопросе парковок, если я стану кандидатом в депутаты, я помогу власти навести порядок в микрорайоне по таким, по таким вопросам...». Прапанова, як можна бачыць, моцна абмяжоўвала заканадаўчы статус будучых дэпутатаў, а, да таго ж, і ставіла пад сумнеў неабходнасць падзелу ўлады ў нашай краіне.

Апісваючы падобным чынам кандыдатаў, маніторынгавыя праграмы адвялі ім дастаткова шмат часу (ад 7 да 14% у залежнасці ад праграмы), што стварала ўражанне прысутнасці апошніх у медыйным полі, але ніякім чынам не знаёміла выбаршчыкаў з палітычнымі платформамі кандыдатаў і тых плітычных партый, якія іх падтрымлівалі.

Што да медыйнай прысутнасці палітычных партый, дык яна была не проста меншай, а мізэрнай, калі пра іх увогуле штосьці казалі. Напрыклад, праграмы «Наши новости» ОНТ, «Панарама» («Беларусь 1»), «Главный эфир» («Беларусь 1») нічога не казалі пра канкрэтныя палітычныя партыі. А ў

тых выпадках, калі пра іх штосьці казалася, доля часу і плошчы была меншай за 0,5% (напрыклад, гл. Графікі інфармацыйнага парталу belta.by ці праграмы «Радыёфакт»).

Замест канкрэтных апазіцыйных партый у дзяржаўных медыя была прадстаўлена «апазіцыя» ў якасці дэперсаніфікаванага суб'екта. Праўда, медыйная ўвага была зусім невялікай, можна сказаць нікчэмнай, параўнальна з папярэднімі выбарчымі кампаніямі.

Рэальным персаніфікаваным актарам гэтай кампаніі стаў Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі (БРСМ). Падчас мінулагодняй прэзідэнцкай кампаніі яго роля не была такой заўважнай. Дзейнасць гэтай праўладнай арганізацыі была пададзена выключна ў пазітыўным ключы, а яе прадстаўнікі мелі доступ да эфіру, у адрозненне ад хоць якіх апазіцыйных партый, рухаў ці няўрадавых арганізацый (прыклад у праграме «Наши Новости» ОНТ, 03.08.16).

Павышаную медыйную увагу да БРСМ, напэўна, можна патлумачыць шматбаковасцю яе дзейнасці падчас выбарчай кампаніі. Як паведаміў першы сакратар сп. Белякоў, «союз молодежи всегда был достаточно активным участником политических кампаний, в том числе и этой...»; «из членов БРСМ включено шесть представителей в состав областных и Минской городской комиссии; окружных комиссий — девяносто человек и участковых — около трех с половиной тысяч членов БРСМ. По состоянию на первого августа уже аккредитовано сто восемь наблюдателей, причем мы планируем до двадцатого августа аккредитовать не менее пяти с половиной тысяч представителей БРСМ»; «мы подключимся уже и в период агитации за кандидатов» («Радыёфакт 08.08.16). Інакш кажучы, арганізацыя займалася не толькі мабілізацыяй маладых выбаршчыкаў, не толькі падлікам галасоў і назіраннем, але і падтрымлівала сваіх кандыдатаў падчас агітацыйнай кампаніі. Урэшце, як стала потым вядома, лідар гэтай арганізацыі быў прызначаны дэпутатам верхняй палаты парламенту.

Выбаршчыкі рэпрэзентаваліся галоўным чынам ананімна. Іхнія галасы былі чутныя пераважна ў тых выпадках, калі гаворка ішла пра неабходнасць удзелу ў выбарах.

Увага да дзейнасці назіральнікаў з краін СНД і місіі БДІПЧ АБСЕ, як мы адзначалі вышэй, была размеркаваная прыкладна пароўну. Дамінавала нейтральная манера рэпрэзентацыі, кароткія інтэрв'ю з прадстаўнікаміі гэтых місій раз-пораз з'яўляліся ў дзяржаўных медыя. Разам з тым трэба адзначыць, што меркаванні прадстаўнікоў назіральнай місіі СНД гучалі ў эфіры электронных медыя часцей за меркаванні іх калег з місіі БДІПЧ АБСЕ. Напрыклад, у праграме «Панарама», паводле дадзеных за перыяд з 25.07.16 па 10.09.16, прадстаўнікі місіі СНД прамаўлялі наўпрост, а не ў пераказе журналістаў, у два разы даўжэй за сваіх заходніх калег. Да таго ж, меркаванні апошніх часам ацэньваліся негатыўна.

У тых жа медыя прысутнічалі, хоць і ў значна меншым аб'ёме, і меркаванні прадстаўнікоў місіі назіральнікаў ад Шанхайскай арганізацыі супрацоўніцтва (ШАС).

Нягледзячы на тое, што маніторынгавыя медыя падавалі дастаткова шмат інфармацыі пра выбарчы працэс (галоўным чынам арганізацыйнага і падрыхтоўча-тэхнічнага плану), выбарчая тэматыка была далёка не прыярытэтнай. Як мы адзначалі ў прамежкавых бюлетэнях, чатырохгадовы цыкл парламенцкіх выбараў у Беларусі супадае з гэткім жа цыклам летніх алімпійскіх гульняў. Але калі падчас папярэдніх выбараў кандыдатаў рэгістравалі пасля заканчэння алімпійскіх гульняў, то на гэты раз — да іх завяршэння, у выніку чаго ладная частка выбарчай кампаніі супала з тэлевізійнымі трансляцыямі гэтай спартыўнай падзеі. У выніку час, адведзены выбарчай тэматыцы, альбо саступаў спартыўным навінам (як у выпадку з тэлевізійнай праграмай «Наши новости» ОНТ, «Навіны», Радыё «Сталіца»), альбо быў сувымерны (як у выпадку з праграмай «Радыёфакт» (Першы нацыянальны канал Беларускага радыё) ці «Навіны-рэгіён» ТРК «Магілёў») (гл. адпаведныя выніковыя графікі). Да таго ж сюжэты, прысвечаныя выбарам, з'яўляліся не на пачатку, а, як правіла, у сярэдзіне інфармацыйных выпускаў. У некаторых выпадках выбарчая тэматыка была сувымерная па часе з прагнозам надвор'я ў інфармацыйных праграмах.

## Прамы доступ

Зарэгістраваныя кандыдаты атрымалі магчымасць выступіць у эфіры дзяржаўных электронных медыя — тэлеканалаў «Беларусь 3», «СТВ», мясцовых радыё, а таксама бясплатна надрукаваць свае праграмы ў вызначаных ЦВК дзяржаўных газетах. Трансляцыя выступаў кандыдатаў па ТБ адбывалася з 19.00 да 20.00, а па радыё — з 07.00 да 08.00 і прыпадала на працоўныя дні.

У праграме перадач тэлеканала «Беларусь 3» гэты эфір быў пазначаны як **«Выбары-2016»**. Цікава, што пад гэтай агульнай назвай трансляваліся не толькі выступы кандыдатаў, але і дэбаты. Да таго ж праграма не паведамляла, што мае адбыцца ў перадачы і хто ў ёй бярэ ўдзел.

Што праўда, у праграме перадач канала «СТВ» звароты кандыдатаў былі вылучаныя асобна — **«Выступления кандидатов в депутаты Палаты представителей Национального собрания Республики Беларусь шестого созыва».** Але прозвішчы кандыдатаў, а таксама дакладны час іх выступаў адсутнічалі. Разам з тым, праграма перадач гэтага канала мела і рубрыку **«Выборы 2016»**, дзе далей невыразна было пазначана «Дебаты». Такая своеасаблівая інфаграфіка, як і сама назва (пад гэтай назвай на тэлеканале «Беларусь 3» адбываліся выступы кандыдатаў) ніяк не акцэнтавала ўвагу да інфармацыі.

У той час як надрукаваныя ў газетах тэлепраграмы не канкрэтызавалі хто і калі будзе выступаць ці ўдзельнічаць у дэбатах, назвы кінафільмаў і серыялаў не толькі падаваліся вялікімі і тлустымі літарамі, але і суправаджаліся анатацыямі, у якіх фігуравалі нават прозвішчы галоўных герояў. Напрыклад, ТБ-праграма канала «Беларусь 2» рэпрэзентавала «ДЕТЕКТИВ **«ОБМАНИ МЕНЯ-2»** наступным чынам: «Убойный отдел ГУВД. Самые громкие... дела достаются... капитанам Филлипову, Лернеру, Ильинскому и старшему лейтенанту Стрельниковой» («Беларусь 2», 29.08.16).

Напрыканцы адзначым, што ні самі каналы, ні шырока рэкламаваны дзяржаўнымі медыя інфармацыйны партал **«Выборы 2016»**, ні спецпраект БЕЛТА **«Парламентские выборы 2016»**, ні **сайт Белтэлерадыёкампаніі** не падавалі інфармацыю пра выступы і дэбаты (дзень, час і канкрэтныя прозвішчы кандыдатаў). Да таго ж, сайт Белтэлерадыёкампаніі не выклаў ніводзін з выступаў. Тым самым ён пазбавіў магчымасці пазнаёміцца са зместам праграм абраных кандыдатаў тых выбаршчыкаў, якія раней не змаглі паглядзець трансляцыю па тэлебачанні.

Такім чынам, адсутнасць хоць якога сур'ёзнага анансавання ў медыя выступаў і дэбатаў кандыдатаў, а таксама канкрэтнай інфармацыі пра тое, хто і калі мусіў прамаўляць, ёсць фактычна працягам агульнай тэндэнцыі дэперсаніфікаванай рэпрэзентацыі галоўных дзеючых асоб выбарчай кампаніі ў дзяржаўных медыя. Выкарыстанне абстрактнай назвы **«Выборы 2016»**, пад якой тэлеканал «Беларусь 3» дэманстраваў таксама і расійска-савецкія дакументальныя фільмы (напрыклад, фільм пра стварэнне савецкага аўтамабіля «ЗИЛ» цягам 40 хвілін — 29.08.16) дэзарыентаваў выбаршчыкаў і пазбаўляў іх магчымасці азнаёміцца з праграмамі сваіх кандыдатаў.

## Недзяржаўныя медыя

Недзяржаўныя медыя, відавочна, менш увагі надалі арганізацыйнай і тэхнічнай інфармацыі датычна выбарчага працэсу. Да таго ж яны імкнуліся пазбягаць дэперсаніфікаванай манеры рэпрэзентацыі яго суб'ектаў. Перадусім гэта тычыцца інфармацыйнага партала tut.by і газеты «Народная Воля». Гэтыя рэсурсы імкнуліся мінімізаваць ужыванне абстрактных і дэперсаніфікаваных паняццяў — такіх як «палітычныя партыі», «кандыдат»ці «электарат».

Пасля рэгістрацыі кандыдатаў на інтэрнэт-старонках партала tut.by з'явілася дастаткова вялікая колькасць прозвішчаў кандыдатаў і інфармацыі пра іх. Тое ж самае тычыцца і палітычных партый, якія былі ў той ці іншай ступені прадстаўленыя пад сваімі афіцыйнымі назвамі. У адмысловай перадачы **«Гость TUT.BY»** партал ладзіў інтэрв'ю з лідарамі партый, што бралі ўдзел у выбарах. На перадачу (працягласцю 35—55 хвілін) запрашалі лідараў як апазіцыйных, так і праўладных партый (1—3 чалавекі). Вядучы, як правіла, практыкаваў крытычны погляд на праграмы партый і іх кандыдатаў.

Кандыдатаў гэты партал рэпрэзентаваў пераважна нейтральна, а станоўчыя і адмоўныя ацэнкі былі збалансаваныя.

У адрозненне ад tut.by, агульнанацыянальная «Народная Воля» падавала больш кантрастныя (пераважна адмоўныя) ацэнкі дзейнасці ЦВК, улады, дзеючага парламента, Прэзідэнта, выбарчых участкаў і г.д. Разам з тым, канкрэтных кандыдатаў яна ацэньвала галоўным чынам нейтральна.

«Комсомольская правда в Белоруссии» («Таўстушка») пэўны перыяд маніторынгу ўвогуле не друкавала ніякіх матэрыялаў, прысвечаных тэме выбараў. А калі пазней пачала пісаць пра некаторых кандыдатаў, то плошча, адведзеная ім, была мізэрная. Палітычныя партыі ўзгадваліся адно мімаходзь.

На пачатку кампаніі рэгіянальныя недзяржаўныя газеты («Intex-press» і «Газета Слонімская») таксама не выявілі хоць якой сур'ёзнай увагі да выбарчай тэматыкі. Але пазней досыць часта факусіравалі сваю ўвагу на мясцовых кандыдатах у парламент, пра якіх пісалі нейтральна.

## Ацэнкі выбарчай кампаніі

Традыцыйна журналісты дзяржаўных медыя, а таксама іх суразмоўцы станоўча ацэньвалі выбарчую кампанію.

У праграме «Главный эфир « Беларусь 1 (11.09.16) старшыня ЦВК спн. Ярмошына сказала: «Это были самые либеральные выборы за последние двадцать лет». Як дэмакратычныя ацаніў іх і кіраўнік місіі СНД сп. Лебедзеў: «Они были демократичными и прозрачными. И, самое главное, они обеспечили право граждан Беларуси на свободное волеизъявление».

Як прыклад для пераймання ахарактарызавала выбары місія назіральнікаў ад ШАС: «То, что мы увидели, безусловно, можно отнести к разряду образцового проведения выборов депутатов в парламент».

Што да пазіцыі назіральнікаў БДІПЧ АБСЕ, то яна была інтэрпрэтаваная дзяржаўнымі медыя неадназначна.

Так, беларускія афіцыйныя асобы заяўлялі: «Мы выполнили практически все установки и замечания БДИПЧ ОБСЕ. Семьдесят пять процентов прозрачных урн, а также доступ к подсчету голосов. Буквально у столов стояли наблюдатели, которым было позволено видеть, как идет подсчет голосов на каждом избирательном участке» («Наши Новости» ОНТ — 12.09.16). Праўда, праз некалькі дзён

парламента зноў прымалі ўдзел у выбарах. Адыходзячы склад парламенту меў прыкладна 15 адсоткаў жанчын-дэпутатаў і 2 з 26 кабінетных пасадаў займалі жанчыны.

Выбары праводзіліся падчас эканамічнага спаду і ў атмасферы заклапочанасці сітуацыяй з рэгіянальнай бяспекай. Некаторыя мясцовыя і міжнародныя суразмоўцы апісалі іх як сур'ёзнае выпрабаванне на шляху паляпшэння адносінаў з міжнароднымі партнёрамі краіны.

## IV. ВЫБАРЧАЯ СІСТЭМА І ЗАКАНАДАЎЧАЯ БАЗА

### A. ВЫБАРЧАЯ СІСТЭМА

Палата Прадстаўнікоў абіраецца тэрмінам на 4 гады згодна з мажарытарнай сістэмай у адзін тур у 110 аднамандатных акругах. Каб быць абраным, кандыдат мусіць набраць найбольшую колькасць галасоў. Кандыдатам, якія удзельнічаюць на безальтэрнатыўнай аснове, патрабуецца набраць больш за 50 адсоткаў галасоў, каб перамагчы на выбарах. Каб выбары былі прызнаныя сапраўднымі, патрабуецца 50-адсоткавая яўка на ўзроўні акругі. Калі неабходна, паўторныя выбары абвяшчаюцца ЦВК па меншай меры за тры месяцы загадзя, і дзейнічае тое ж патрабаванне да яўкі.

*Можна было б разгледзець магчымасць зняцця патрабавання яўкі на выбарах, ці, прынамсі, зняцця ў выпадку паўторных выбараў. Гэта дазволіла б пазбегнуць магчымасці бясконцага паўтору выбараў з-за недастатковай яўкі выбаршчыкаў.*

### B. ПРАВАВАЯ БАЗА

Асноўнае заканадаўства, якое рэгулюе парламенцкія выбары, складаецца з Канстытуцыі 1994 г. і Выбарчага кодэксу 2000 г.[6] Змены ў заканадаўстве, якія адбыліся ў 2013 г., былі станоўчым крокам, аднак іх прыняцце прайшло без абмеркавання з грамадскасцю. Згодна з гэтымі зменамі, абсалютная мажарытарная сістэма была замененая адноснай мажарытарнасцю, патрабаванне аб другім туры было скасавана, а кандыдатам дазволілі вылучацца толькі па адной акрузе. У лютым 2016 г. была створана міжведамасная экспертная рабочая група па вывучэнні папярэдніх рэкамендацый БДІПЧ/АБСЕ па паляпшэнню выбарчага працэсу.[7] Яна перадала ў ЦВК сем прапаноў, звязаных з тэхнічнымі аспектамі выбарчага працэсу. ЦВК прыняла шэсць пастаноў, якія закранулі некаторыя з рэкамендацый, у прыватнасці, публікаванне ў Інтэрнэце інфармацыі аб паседжаннях выбарчых камісіяў, рашэнні па выбарчых спрэчках, выніки выбараў; таксама пашырыліся правы назіральнікаў.[8] Рэгуляванне некаторых пытанняў у пастановах ЦВК не мела юрыдычна абавязковага статусу для мясцовых выканаўчых органаў і судоў[9]. Усе гэтыя

---

6 Заканадаўчая база таксама змяшчае Закон аб сродках масавай інфармацыі, аб масавых мерапрыемствах, аб палітычных партыях, аб зваротах грамадзянаў, Крымінальны кодэкс, Кодэкс аб адміністратыўных правапарушэннях, Грамадзянска-працэсуальны кодэкс, а таксама пастановы ЦВК.

7 Міжведамасная экспертная рабочая група была заснавана пастановай ЦВК і складаецца з аднаго прадстаўніка з кожнай з наступных установ: ЦВК, абедзвюх палатаў парламента, Міністэрства юстыцыі, Міністэрства замежных спраў, Міністэрства інфармацыі і Нацыянальнага цэнтра заканадаўства і прававых даследванняў, а таксама сакратарыятаў абедзвюх палатаў парламента.

8 Пастановы ЦВК 9, 10 ад 17 мая 2016 г., 18, 20, 21, 22 ад 8 чэрвеня 2016 г.

9 Напрыклад, пастанова ЦВК № 18 аб крытэрах адбору чальцоў выбарчых камісій не была прынятая пад увагу судом і пастанова ЦВК № 9 аб выдзяленні агітацыйных месцаў не з'яўлялася абавязковай для мясцовых уладаў. У якасці добрасумленнай міжнароднай практыкі, можна звярнуцца да раздзела II.2.а Кодэкса добрасумленнай практыкі пры правядзенні выбараў Венецыянскай камісіі Савета Еўропы 2002 года (Кодэкс добрасумленнай практыкі), які абвяшчае, што "акрамя правіл па тэхнічных пытаннях і дэталях - якія могуць быць ўключаныя ў нарматыўна-прававыя акты выканаўчай улады - правілы выбарчага права павінны мець, па меншай меры, ранг закона".

юрыдычныя папраўкі былі прынятыя без правядзення кансультацый з грамадскасцю, што супярэчыць пункту 5.8 Капенгагенскага дакумента АБСЕ 1990 года.[10]

*Дзеля таго, каб забяспечыць прававую пэўнасць, асноўныя аспекты выбарчага працэсу павінны рэгулявацца законам, а не пастановай ЦВК. Прававую рэформу належыць правесці задоўга да правядзення выбараў у рамках празрыстага і ўсёахопнага працэсу з удзелам усіх зацікаўленых бакоў.*

Канстытуцыйная і прававая база не забяспечвае адэкватных гарантый правядзення выбараў у адпаведнасці з забавязаннямі АБСЕ і міжнароднымі стандартамі.[11] Шэраг ключавых даўнейшых рэкамендацый БДІПЧ/АБСЕ і Венецыянскай Камісіі застаўся без увагі, захоўваецца неабходнасць усебаковай рэформы як часткі больш шырокага працэса дэмакратызацыі. Асноўныя недахопы ўключаюць незбалансаванасць складу выбарчых камісій, якія знаходзяцца пад моцным уплывам з боку выканаўчай улады і недастатковай празрыстасцю; неабгрунтаваныя абмежаванні правоў кандыдатаў; недахоп працэдурных гарантыяў падчас датэрміновага галасавання, галасавання, падліку галасоў ізанясення вынікаў у пратаколы ; неабгрунтаваныя абмежаванні правоў назіральнікаў; неадпаведныя рэгуляванні працэсу вырашэння выбарчых спрэчак. Больш за тое, існуе тэндэнцыя да празмерна фармальнай інтэрпрэтацыі заканадаўства, калі ўсё, што не адназначна дазволена, забаронена.

*Заканадаўчую базу належыць усебакова перагледзець дзеля выканання папярэдніх рэкамендацый БДІПЧ/АБСЕ і Венецыянскай камісіі, у тым ліку адносна складу выбарчых камісій, правоў кандыдатаў, правоў назіральнікаў, галасавання, падліку галасоў і падвядзення вынікаў. Закон трэба тлумачыць і прымяняць такім чынам, каб забяспечваліся аднолькавыя ўмовы барацьбы для ўдзельнікаў, сапраўдная канкурэнцыя, свабоднае выказванне волі выбаршчыкаў, а таксама надзейнасць выбарчага працэсу.*

Больш таго, у заканадаўчай базе існуюць празмерныя абмежаванні фундаментальных правоў, уключна са свабодай асацыяцый, слова і сходаў, а таксама іншых грамадзянскіх і палітычных правоў. Абмежаванні ўключаюць шырокія дыскрэцыйныя паўнамоцтвы для адмовы ў рэгістрацыі альбо адмены рэгістрацыі палітычных партый і грамадскіх аб'яднанняў; крыміналізацыю незарэгістраванай дзейнасці праваабарончых арганізацый; крымінальную і адміністрацыйную адказнасць за дыскрэдытацыю, паклёп і абразу, а таксама заклікі або дзеянні, накіраваныя на зрыў, адмену або перанос выбараў; груваcткую працэдуру правядзення публічных мерапрыемстваў; і непрапарцыйныя пакаранні за правядзенне несанкцыянаваных мітынгаў.[12]

*Усе адпаведныя законы і ўказы павінны быць перагледжаны і зменены, каб гарантаваць, што любыя абмежаванні ў дачыненні да асноўных свабод носяць характар выключэння, прымяняюцца толькі ў выпадку неабходнасці ў дэмакратычным грамадстве, з'яўляюцца суразмернымі з легітымнай мэтай, і не ўжываюцца адвольна і празмерна абмежавальным чынам.*

---

10 У пункце 5.8 Капенгагенскага дакумента АБСЕ 1990 года гаворыцца, што заканадаўства павінна прымацца ў канцы публічнай працэдуры.

11 Гл. папярэднія выбарчыя справаздачы БДІПЧ/АБСЕ па Беларусі і Сумеснае меркаванне БДІПЧ/АБСЕ і Венецыянскай камісіі па папраўках у Выбарчы кодэкс Рэспублікі Беларусь 2010 года.

12 Гл. Справаздачу спецыяльнага дакладчыка па сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі ад 21 красавіка 2016 г., Справаздачы Рабочай групы Рады ААН па Правах Чалавека ў Агульным перыядычным аглядзе Беларусі 2015 A/HRC/30/3, 2010/A/HRC/15/16, а таксама Сумеснае меркаванне БДІПЧ/АБСЕ і Венецыянскай камісіі па закону аб масавых мерапрыемствах у Рэспубліцы Беларусь 2012 года.

Старшыня ЦВК зрабіла некалькі перадузятых заяў, якія скампраментавалі вобраз неперадузятасці выбарчай адміністрацыі.[16]

Камісіі больш нізкага ўзроўня – часовыя органы, якія прызначаюцца для кожных выбараў асобна. Чальцы ТВК, АВК і УВК вылучаюцца палітычнымі партыямі, грамадскімі арганізацыямі, працоўнымі калектывамі і ініцыятыўнымі групамі з мінімальнай колькасцю ў дзесяць выбаршчыкаў. Згодна з законам, дзяржаўныя служачыя могуць складаць не больш за адну трэціну членаў камісіі, а не менш за адну трэціну членаў ТВК і УВК павінна быць вылучана палітычнымі партыямі і грамадскімі аб'яднаннямі, прычым ад кожнага вылучаючага суб'екта можа быць толькі адзін член у камісіі. Нягледзячы на тое, што формула складу палітычнай партыі *de jure* дазваляе палітычным партыям і іншым вылучаць чальцоў, гэта не гарантуе іх прызначэнне і, як вынік, плюралістычны склад камісій.[17]

Больш за тое, ЦВК вызначыла "прафесійныя і палітычныя якасці" вылучэнца ў якасці крытэраў для ўдзелу ў выбарчай камісіі нізкага ўзроўню. Гэтае паняцце было прадметам разнастайнай інтэрпрэтацыі мясцовымі ўладамі, якія заяўлялі, што прыярытэтам для адбору ў камісіі з'яўляліся заслугі асобы, а не дасягненне шырокай палітычнай рэпрэзентатыўнасці. Толькі невялікая колькасць чальцоў камісіяў была вылучаная органамі апазіцыі.[18] Большасць членаў УВК былі супрацоўнікамі з адной установы, часта іх кіраўнік выступаў у якасці старшыні УВК. Нягледзячы на тое, што гэта не супярэчыць закону, такія ўсталяваныя іерархічныя адносіны могуць паставіць пад пагрозу незалежнасць членаў УВК. Палітычныя партыі могуць вылучаць чальцоў АВК з правам дарадчага голасу; тым не менш, большасць партый праінфармавалі МНВ БДІПЧ/АБСЕ, што яны не бачаць ніякай каштоўнасці ў вылучэнні такіх чальцоў.[19]

*Дзеля павышэння плюралістычнага прадстаўніцтва ў выбарчых камісіях і каб спрыяць умацаванню даверу да выбарчай адміністрацыі, варта разглядзець магчыасць забеспячэння ўключэння чальцоў камісіі, прызначаных усімі канкуруючымі бакамі. Дзеля павышэння незалежнасці членаў выбарчай камісіі, камісіям не павінны ўзнаўляць існуючыя іерархічныя адносіны ў дзяржаўных установах.*

АВКі правялі незначную колькасць публічных паседжанняў, і іх праца ў значнай ступені выконвалася мясцовымі выканаўчымі ўладамі.[20] Падзел паміж выканаўчымі і выбарчымі органамі быў размыты, і часта такі падзел успрымаўся грамадствам як неіснуючы. Службовыя асобы альбо працаўнікі мясцовых уладаў часта з'яўляліся чальцамі АВКаў, у тым ліку займалі ў

---

16 Напрыклад, Старшыня ЦВК у сваім інтэрв'ю тэлеканалу "Сталічнае Тэлебачанне"(СТВ) 18 жніўня 2016 г. адзначыла: "...таму што нашыя палітычныя партыі імкнуцца да ўлады, асабліва апазіцыйныя. І яны прымуць каго заўгодна. Для іх няважна, ці ў гэтай асобы добрая рэпутацыя. Самае галоўнае – штыкі (людзі). Такім чынам, сярод штыкоў сустракаюцца вельмі дзіўныя людзі, незвычайныя. Не заўсёды адэкватныя". Старшыню ЦВК таксама працытавала агенцтва "Інтэрфакс" 15 жніўня 2016 г., калі яна сказала, што "апазіцыя рыхтуецца да паразы; таму ім трэба дыскрэдытаваць выбарчую сістэму".

17 Сумеснае меркаванне БДІПЧ/АБСЕ і Венецыянскай камісіі ад 2010 г. назвала гэта "вялікім недахопам у заканадаўстве".

18 Апазіцыйныя кандыдаты склалі менш за 0,1 адсотка ад агульнай колькасці 65 856 чальцоў УВКаў. Чальцы УВК ўключалі толькі 53 (10,4 адсотка) з 514 намінантаў ад 4 апазіцыйных партый: Беларускага народнага фронту (БНФ), Партыі левых "Справядлівы свет" , Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (БСДП) "Грамада" і Аб'яднанай грамадзянскай партыя (АГП). З іншага боку, былі прызначаныя 3 356 (96,9 працэнтаў) з 3 463 кандыдатаў ад астатніх 5 палітычных партый і 24 082 (94,2 працэнтаў) з 25 546 намінантаў ад 5 грамадскіх аб'яднанняў, якія субсідуюцца дзяржавай.

19 Члены АВК з правам дарадчага голасу не маюць права голасу, але могуць прысутнічаць на паседжаннях АВК, рабіць прапановы, задаваць пытанні і правяраць дакументы АВК.

20 Згодна з законам, мясцовыя органы выканаўчай улады прызначаюцца прэзідэнтам і падпарадкоўваюцца прэзыдэнту.

Абмежаванні на свабоду асацыяцый прывялі да адмовы ў рэгістрацыі новых палітычных партый пачынаючы з 2000 года, нягледзячы на шматлікія заяўкі, што супярэчыць пункту 7.6 Капенгагенскага дакумента АБСЕ 1990 года.[13] У цэлым, роля палітычных партый застаецца слабой. У краіне існуе 15 зарэгістраваных партый, а таксама некалькі арганізацыйных камітэтаў палітычных партый і іншых груповак, якія дзейнічаюць без афіцыйнай рэгістрацыі.

*Органы ўлады павінны забяспечыць права асобаў і групаў ствараць, без празмерных абмежаванняў, уласныя палітычныя партыі ці палітычныя арганізацыі, а таксама забяспечваць ім неабходныя юрыдычныя гарантыі, каб яны канкуравалі адна з адной на роўных падставах.*

## V. ВЫБАРЧАЯ АДМІНІСТРАЦЫЯ

Падрыхтоўка і правядзенне выбараў ажыццяўлялася з дапамогай чатырохузроўневай сістэмы выбарчых камісіяў, якая складалася з ЦВК, 6 абласных і Мінскай гарадской тэрытарыяльных выбарчых камісій (ТВК), 110 акружных выбарчых камісій (АВК) і 5 971 участковых выбарчых камісій (УВК). Вынікі галасавання за межамі краіны звадзіліся у АВК № 95 у Мінску. Упершыню ТВК ажыццяўлялі нагляд за дзейнасцю УВКаў і АВКаў і разглядалі скаргі супраць прынятых УВКрашэнняў. Тэхнічныя пытанні, звязаныя з выбарамі, вырашаліся эфектыўна і згодна з вызначанымі законам тэрмінамі. Былі арганізаваныя трэнінгі для чальцоў АВК і УВК, а таксама розныя адукацыйныя мерапрыемствы для выбаршчыкаў. Жанчыны складалі значную частку выбарчай адміністрацыі: 71 адсотак чальцоў УВК, 57 адсоткаў – АВК і 39 адсоткаў – ТВК.[14] Чатыры з 12 чальцоў ЦВК з'яўляюцца жанчынамі, у тым ліку старшыня.

ЦВК з'яўляецца пастаянна дзеючым выбарчым органам з пяцігадовым мандатам. Шэсць чальцоў ЦВК прызначаюцца прэзідэнтам і шэсць – Саветам Рэспублікі. Гэта ставіць пад сумнеў аўтаномнасць выбарчай адміністрацыі, бо на практыцы яна ўсталёўвае панаванне ў выбарчай адміністрацыі праўрадавых сіл, якія маюць вырашальную большасць ва ўсіх камісіях[15]. У выніку гэтага, прадстаўнікі апазіцыі і грамадзянскай супольнасці выказалі адсутнасць ўпэўненасці ў неперадузятасці выбарчых камісій.

*Механізм фармавання ЦВК варта пераглядзець, каб забяспечыць дастатковыя гарантыі яе незалежнасці і неперадузятасці,і ўмацаваць грамадскі давер да выбарчай адміністрацыі.*

Ад моманту абвяшчэння выбараў, ЦВК прыняла 18 пастаноў, якія былі апублікаваныя на яе вэб-сайце. ЦВК правяла чатыры публічныя паседжанні, адкрытыя для назіральнікаў і прадстаўнікоў сродкаў масавай інфармацыі. Рашэнні ў асноўным былі прынятыя адзінагалосна і без грунтоўных абмеркаванняў. Увесь аб'ём працы быў фактычна падзелены паміж супрацоўнікамі ЦВК і двумя чальцамі ЦВК, у той час як астатнія чальцы не былі цалкам уцягнутыя ў працу.

13 Пункт 7.6 Капенгагенскага дакумента АБСЕ 1990 года прадугледжвае, што краіны-ўдзельніцы "павінны паважаць права асобных асобаў і груп асобаў ствараць ва ўмовах поўнай свабоды свае палітычныя партыі і іншыя арганізацыі, а таксама забяспечваць такім палітычным партыям і арганізацыям неабходныя прававыя гарантыі, якія дазваляля б ім канкураваць адна з адной на падставе роўнасці перад законам і органамі ўлады". Глядзіце таксама пункт 27 Заўвагі агульнага парадку № 25 Камітэта Арганізацыі Аб'яднаных Нацый па правах чалавека (КПЧ) 1996 года да Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах (МПГПП) 1996 года.

14 У 65 адсоткаў выбарчых участкаў, на якіх ММНВ ажыццяўляла назіранне, старшынёй участковай выбарчай камісіі была жанчына.

15 Глядзіце таксама пункт 20 Заўвагі агульнага парадку № 25 КПЧ да МПГПП. Гл. таксама Сумеснае меркаванне БДІПЧ/АБСЕ і Венецыянскай камісіі па выбранному заканадаўству Рэспублíцы Беларусь 2006 года

іх кіруючыя пасады.[21] Амаль усе АВКі знаходзіліся ў памяшканнях мясцовых уладаў. У некалькіх выпадках трэнінгі для АВК і УВК праводзіліся з удзелам высокапастаўленых прадстаўнікоў мясцовых выканаўчых уладаў, якія таксама з'яўляліся чальцамі АВК.[22] Такая практыка выклікала далейшую занепакоенасць адносна незалежнасці выбарчай адміністрацыі ад выканаўчай улады.

*У мэтах забеспячэння неперадузятасці выбарчых органаў і павышэння грамадскага даверу, мясцовыя выканаўчыя службовыя асобы не павінны мець магчымасці адначасова ўваходзіць у склад выбарчых камісій або ўмешвацца ў іх дзейнасць.*

## VI. РЭГІСТРАЦЫЯ ВЫБАРШЧЫКАЎ

Грамадзяне, дасягнуўшыя да дня альбо ў дзень выбараў 18 год, маюць права прагаласаваць на ўчастку па месцы іх жыхарства. Выбарчым кодэксам вызначана, што ў галасаванні не прымаюць удзел грамядзяне, прызнаныя судом па законе абмежаванымі ў праве або дзеяздольнасці, што супярэчыць мэце і сутнасці Канвенцыі ААН аб правах інвалідаў[23]. Асобы, якія ўтрымліваюцца ў месцах пазбаўлення волі, не дапускаюцца да галасавання, незалежна ад цяжкасці зробленага злачынства і тэрміна пакарання, што аспрэчвае прынцып прапарцыйнасці.[24] ЦВК гэта часткова вырашыла, прыняўшы пастанову, якая надала выбарчыя правы грамадзянам пад арыштам на тэрмін да трох месяцаў. Акрамя таго, асобы, якія знаходзяцца пад вартай або ў папярэднім зняволенні, не маюць права голасу, што парушае прынцып прэзумпцыі невінаватасці.[25]

*Усеагульнае адмаўленне выбарчых правоў грамадзянам, якія адбываюць пакаранне, незалежна ад цяжкасці здзейсненага злачынства, трэба перагледзець, каб забяспечыць суразмернасць абмежавання, якое накладаецца, і цяжкасці здзейсненага злачынства. Абмежаванне выбарчых правоў асоб, прызнаных псіхічна недзеяздольнымі, павінна быць адмененае альбо разледжанае ў кожным індывідуальным выпадку. Уладам варта разгледзець пытанне аб ратыфікацыі Канвенцыі ААН аб правах інвалідаў.*

Рэгістрацыя выбаршчыкаў з'яўляецца пасіўнай і кіруецца лакальна. Не існуе цэнтралізаванага рэестра выбаршчыкаў, што па сутнасці выключае магчымасць перакрыжаванай праверкі множных рэгістрацый. Спісы выбаршчыкаў складаюцца і аднаўляюцца УВК на падставе дадзеных, атрыманых ад мясцовых уладаў. Спісы выбаршчыкаў не з'яўляюцца даступнымі для шырокай грамадскасці на падставе абароны персанальных дадзеных. Ад 26 жніўня спісы выбаршчыкаў былі даступныя на выбарчых участках, каб выбаршчыкі мелі магчымасць праверыць сваю рэгістрацыю ў спісе і звярнуцца з запытам унесці змены. Выбаршчыкі могуць быць зарэгістраваныя перад і ў дзень выбараў шляхам прадстаўлення дзеснага пашпарту і

[21] У 92 АВКаў па меншай меры адну з трох ключавых пасадаў (старшыня, намеснік старшыні, сакратар) займаў прадстаўнік мясцовай ўлады.

[22] Напрыклад, у Гомелі і Мінску. Навучанне для АВК 91, 92 і 93 праводзіў высокапастаўлены чыноўнік раённай адміністрацыі Заводскага раёна г. Мінска, які не быў чальцом АВК.

[23] Артыкул 29 Канвенцыі ААН 2006 года аб правах інвалідаў (КПІ) патрабуе, каб дзяржавы "гарантавалі інвалідам палітычныя правы і магчымасць карыстацца імі нароўні з іншымі". Беларусь падпісала КПІ 28 верасня 2015 года, але не ратыфікавала яе. Пункт 13.2 Венскага дакумента АБСЕ 1989 года абавязвае дзяржавы-ўдзельніцы "разгледзець пытанне аб далучэнні да ... адпаведных міжнародных інструментаў".

[24] Згодна з пунктам 7.3 Капенгагенскага дакумента АБСЕ 1990 года, краіны-ўдзельніцы "гарантуюць дарослым грамадзянам усеагульнае і роўнае выбарчае права", а паводле пункта 24, абмежаванне правоў і свабодаў павінна быць "строга суразмерна прызначэнню гэтага закона". Гл. Таксама пункт 14 Заўваг агульнага парадку 25, прынятых Камітэтам па правах чалавека і Частку I.1.1.1.d.iii Кодэкса добрых практык у выбарчых пытаннях Венецыянская камісіі Рады Еўропы 2002 г. (Кодэкс добрасумленнайпрактыкі).

[25] Пункт 5.19 Капенгагенскага дакумента АБСЕ 1990 сцвярджае: "Усе лічацца невінаватымі, пакуль вінаватасць не даказаная ў адпаведнасці з законам".

доказу рэгістрацыі ,без пастановы суда, што не забяспечвае абароны супраць множнай рэгістрацыі і галасавання.[26] ЦВК аб'явіла лічбу зарэгістраваных выбаршчыкаў агульнай колькасцю ў 6 990 696 чалавек па ўсёй краіне, у тым ліку 4 403 па-за межамі Беларусі.

*Варта разгледзець пытанне аб распрацоўцы цэнтралізаванага, кампутарызаванага і агульнадаступнага рэестра выбаршчыкаў у адпаведнасці з правіламі абароны дадзеных. Варта ўвесці законны тэрмін рэгістрацыі выбаршчыкаў да дня выбараў, калі дадатковыя запісы дазваляюцца толькі ў адпаведнасці з пэўнымі юрыдычнымі патрабаваннямі, якія з'яўляюцца прадметам судовага кантролю.*

## VII. РЭГІСТРАЦЫЯ КАНДЫДАТАЎ

Выбаршчыкі, не маладзейшыя за 21 год на момант выбараў, і якія пастаянна пражываюць на тэрыторыі Беларусі, могуць быць кандыдатамі ў выбарах. Асобы з непагашанай судзімасцю не могуць удзельнічаць у якасці кандыдатаў, што з'яўляецца несуразмерным абмежаваннем выбарчых правоў.[27] Кандыдат можа быць вылучаны палітычнай партыяй, працоўным калектывам, ініцыятыўнай групай з дзесяці выбаршчыкаў пры ўмове збору мінімум 1 000 подпісаў у падтрымку, альбо з дапамогай больш за аднаго з вышэйназваных спосабаў.

*У мэтах забеспячэння выбарчых правоў, варта перагледзець абмежаванні права на ўдзел у якасці кандыдата для фізічных асоб з нязнятай судзімасцю. Такія абмежаванні варта ўжываць толькі для самых сур'ёзных злачынстваў.*

З 630 вылучаных кандыдатаў было зарэгістравана 525, і 484 у выніку балатаваліся, прычым ні адзін з кандыдатаў не ўдзельнічаў на безальтэрнатыўнай аснове.[28] Гэта ўявіла сабой павелічэнне колькасці зарэгістраваных кандыдатаў, у тым ліку і ад апазіцыі. З усіх кандыдатаў, якія удзельнічалі ў гэтых выбарах, 308 былі вылучаныя 9 палітычнымі партыямі.[29] Большасць кандыдатаў, вылучаных ад працоўных калектываў і ініцыятыўных груп, з'яўляліся сябрамі грамадскага аб'яднання "Белая Русь".[30] Са 129 зарэгістраваных жанчын-кандыдатаў 114 прынялі ўдзел у выбарах. Не існуе спецыяльных мер па павелічэнню ўдзелу жанчын, а вылучаючыя органы не маюць абавязку вылучаць жанчын-кандыдатаў.

Прававыя палажэнні, якія тычацца рэгістрацыі кандыдатаў, у прыватнасці, у дачыненні да фінансавай справаздачнасці і збора подпісаў у падтрымку, дазвалялі прымяняць выбарачныя

---

26 Частка I.1.1.2 iv Кодэкса добрасумленнай практыкі рэкамендуе: "Павінна дзейнічаць адміністрацыйная працэдура - пры ўмове судовага кантролю - ці судовая працэдуру, якая дазваляе выбаршчыкам, якіх не месціць спіс выбаршчыкаў, уключаць свае імёны... У любым выпадку рэгістрацыя выбаршчыкаў у дзень выбараў на выбарчым участку не павінна быць дазволена".

27 Частка 1.1.d Кодэкса добрасумленнай практыкі рэкамендуе, што "пазбаўленне права ўдзельнічаць у выбарах павінна асновывацца на асуджэнні ў сур'ёзным правапарушэнні". Глядзіце таксама пункт 15 Заўвагі агульнага парадку № 25 да МПГПП і пункт 24 Капенгагенскага дакумента АБСЕ 1990 года.

28 З 522 зарэгістраваных кандыдатаў 308 было вылучана палітычнымі партыямі, 31 – працоўнымі калектывамі і 80 – ініцыятыўнымі групамі. Восемдзесят дзевяць кандыдатаў былі вылучаныя і ініцыятыўнымі групамі, і працоўнымі калектывамі, 21 – і ініцыятыўнымі групамі, і палітычнымі партыямі, а 12 – усімі трыма спосабамі. 16 кандыдатаў знялі свае кандыдатуры перад рэгістрацыяй.

29 У дадатак, кандыдаты, звязаныя з грамадскім аб'яднаннем "Рух 'За Свабоду'", незарэгістраванай кампаніяй "Гавары праўду!" (ГП) і Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыяй (БХД) былі вылучаныя ініцыятыўнымі групамі, палітычнымі партыямі, альбо абодвума шляхамі.

30 Восемдзесят чатыры кандыдаты былі сябрамі грамадскага аб'яднання "Белая Русь", якое заявіла, што падтрымала пятнаццаць дадатковых кандыдатаў. Шэраг кандыдатаў былі сябрамі Беларускага Рэспубліканскага Саюза Моладзі (БРСМ) і іншых грамадскіх аб'яднанняў, якія фінансуе дзяржава.

выканальныя і адвольныя рашэнні, што супярэчыла пунктам 7.5 і 24 Капенгагенскага дакумента АБСЕ 1990 года і іншым міжнародным стандартам і добрасумленнай практыцы.[31]

Агулам, 93-м вылучэнцам было адмоўлена ў рэгістрацыі, з якіх 38 вылучэнцаў не былі зарэгістраваныя з-за недакладнасцяў у сваіх фінансавых дэкларацыях, 34 – з-за несапраўдных альбо недастатковай колькасці сапраўдных подпісаў, 17 – з-за немагчымасці здаць неабходныя дакументы, 2 – з-за наяўнасці непагашанай судзімасці, 1 – з-за атрыманых папярэджанняў і 1 – на падставе нязгоднасці з патрабаваннем аб пастаянным пражыванні. АВК і суды адмянілі 4 з 34 абскарджаных адмоваў у рэгістрацыі. Пазней, аднаму кандыдату адмянілі рэгістрацыю з-за не ўзятага водпуску падчас кампаніі, а 40 зарэгістраваных кандыдатаў знялі свае кандыдатуры.[32]АВКі адказваюць за рэгістрацыю кандыдатаў і валодаюць шырокімі паўнамоцтвамі ў гэтым працэсе, што выклікае занепакоеннасць з нагоды непаслядоўнага прымянення закона і няроўнага абыходжання з кандыдатамі.[33] АВКі вельмі часта ўжывалі занадта абмяжоўваючую інтэрпрэтацыю закона і фармалісцкі падыход пры адмове ў рэгістрацыі.[34] У дадатак, АВКі не дазвалялі вылучэнцам выправіць недахопы ў сваіх заяўках, уключна з дэкларацыямі аб маёмасці і даходах, як гэта прадугледжана законам.[35]

*У мэтах павышэння адкрытасці і празрыстасці, Выбарчы кодэкс павінен забяспечыць дакладныя і мэтазгодныя крытэры і механізмы рэгістрацыі кандыдатаў. Нязначныя недакладнасці ў фінансавых дэкларацыях кандыдатаў не павінны прыводзіць да аўтаматычнай адмовы і кандыдатам трэба даваць магчымасць выправіць нязначныя або тэхнічныя памылкі ў сваіх заяўках.*

Патэнцыйны кандыдат павінен прадставіць не менш за 1 000 подпісаў у сваю падтрымку, што перавышае адзін працэнт ад агульнай колькасці зарэгістраваных выбаршчыкаў у раёне, насуперак міжнароднай практыцы.[36] Правілы па праверцы подпісаў няясныя, і дазваляюць АВКам прымаць адвольныя рашэнні, якія не могуць быць абскарджаныя.[37] АВКі павінны былі

---

[31] Параграф 7.5 Капенгагенскага дакумента АБСЕ 1990 года прадугледжвае, што дзяржавы-ўдзельніцы "паважаюць правы грамадзян намагацца палітычных ці грамадскіх пасад у індывідуальным парадку альбо ў якасці прадстаўнікоў палітычных партый і арганіўацый без дыскрымінацыі". Частка I.1.1.1.d.iii Кодэкса добрасумленнай практыкі рэкамендуе, каб прынцып прапарцыйнасці захоўваўся, калі асоба пазбаўляецца права быць абранай.

[32] Кандыдат ад ЛДП у АВК 86 быў пазбаўлены рэгістрацыі з-за таго, што не сышоў у адпачынак.

[33] Згодна з Артыкулам 68.1 Выбарчага кодэксу, падставы для абавязковай адмовы ў рэгістрацыі ў кандыдаты ўключаюць: непагашаная судзімасць; недахоп дакументаў, неабходных для рэгістрацыі; ужыванне замежнага фінансавання і недастатковая колькасць сапраўдных сабраных подпісаў. Падставы для неабавязковай адмовы ў рэгістрацыі ў кандыдаты ўключаюць у сябе: недакладныя дэкларацыі аб даходах і маёмасці; злоўжыванне службовым становішчам у выбарчых мэтах; злоўжыванне адміністратыўнымі рэсурсамі; узнагароджванне выбаршчыкаў і прымушэнне ў працэсе збору подпісаў, а таксама паўторныя папярэджанні кандыдата альбо ініцыятыўнай групы.

[34] АВКі 15, 19, 55 і 96 адмовілі ў рэгістрацыі чатыром кандыдатам з нагоды таго, што яны не прадставілі ўсе свае дадатковыя дакументы аднačасова. У двух выпадках дакументы былі пададзеныя ў двух асобных пачках. Іншым кандыдатам было адмоўлена з нагоды падачы незавераных дакументаў, хоць няма ніякага юрыдычнага патрабавання завярэння, наяўнасці граматычных памылак у заяўках, або таго, што яны не прадставілі копію статута партыі, якая іх вылучае.

[35] Артыкул 66 Кодэкса аб выбарах дазваляе кандыдатам уносіць папраўкі ў дэкларацыі даходаў і актываў, але АВКі не абавязаныя паведамляць кандыдатам аб недакладнасцях і не рабілі гэтага.

[36] Глядзіце Раздзел I.1.3.ii. Кодэкса добрасумленнай практыкі.

[37] АВКі правяраюць 20працэнтаў з мінімальна неабходнай колькасці подпісаў (200 з 1 000). Калі больш за 30 подпісаў (15%) з'яўляюцца несапраўднымі, АВК правяраюць дадатковыя 150 (15 працэнтаў з 1 000). Калі агульная лічба несапраўдных подпісаў перавышае 53 (15% з 350 правераных подпісаў), у рэгістрацыі адмаўляецца, нават калі патэнцыйны кандыдат мае больш за 1 000 подпісаў. Тры кандыдаты не былі зарэгістраванія на падставах таго, што прадставілі 999 подпісаў, часта подпісы былі прызнаныя несапраўднымі, паколькі дата была прастаўлена іншым почыркам, назвы раёнаў або першыя імёны былі напісаныя не ў поўным аб'ёме ці не ва ўсіх выпадках.

праверыць толькі частку атрыманых у падтрымку подпісаў.[38] Грамадзянскія назіральнікі паінфармавалі МНВ БДІПЧ/АБСЕ, што ім не дазволілі назіраць большую частку аспектаў рэгістрацыі кандыдатаў, у тым ліку праверку подпісаў і фінансавых дэкларацый, памяншаючы такім чынам упэўненасць удзельнікаў выбарчага працэсу ў яго асноўных аспектах. Некаторыя патэнцыйныя кандыдаты атрымалі папярэджванні за распаўсюд матэрыялаў і іншыя віды дзейнасці падчас збору подпісаў, што ў адным выпадку прывяло да адмовы ў рэгістрацыі.[39] Шэраг суразмоўцаў паінфармавалі МНВ БДІПЧ/АБСЕ, што грамадскія аб'яднанні, якія субсідуюцца дзяржавай, прымалі ўдзел у зборы подпісаў для некаторых кандыдатаў, і што подпісы таксама збіраліся на дзяржаўных прадпрыемствах і ў дзяржаўных установах.[40]

*Варта разгледзець пытанне аб памяншэнні неабходнай колькасці подпісаў у падтрымку для рэгістрацыі, увядзенні дакладных і абгрунтаваных крытэрыяў праверкі, а таксама запэўніванні роўных умоў для збору подпісаў. Варта было б таксама разгледзець пытанне аб уводзінах альтэрнатыўнага патрабавання, напрыклад, прымальнага фінансавага дэпазіту, які вяртаецца, калі кандыдат атрымлівае пэўную колькасць галасоў.*

## VIII. ВЫБАРЧАЯ КАМПАНІЯ

Кампанія распачалася пасля рэгістрацыі кандыдатаў, якая завяршылася 11 жніўня, і скончылася апоўначы 10 верасня. Яна праходзіла ў вельмі рэгуляваным асяроддзі, з наяўнасцю абмежаванняў на асноўныя свабоды асацыяцыяў, выказванняў і сходаў, што звузіла публічны прастор і негатыўна адбілася на асяроддзі кампаніі. У той час, як кандыдаты і іх давераныя асобы маглі праводзіць публічныя сходы пасля інфармавання мясцовых уладаў адпаведнага ўзроўню, якія таксама вызначаюць месцы для правядзення выбарчых мерапрыемстваў, іншым удзельнікам выбарчага працэсу патрабаваўся дазвол, как арганізаваць мерапрыемствы.[41] Мясцовыя ўлады таксама вызначалі месцы для правядзення выбарчых мерапрыемстваў і размяшчэння матэрыялаў выбарчай кампаніі.[42] Варта адзначыць, што станоўчым момантам было выкананне шматлікімі мясцовымі ўладамі інструкцый ЦВК, якія датычылі больш спрыяльнага размеркавання публічных пляцовак. Аднак, некаторыя кандыдаты паскардзіліся МНВ БДІПЧ/АБСЕ, што іх супернікі загадзя браніравалі пляцоўкі на працяглыя перыяды часу, а некаторыя вызначаныя пляцоўкі былі непадыходзячымі для мэтаў перадвыбарчай агітацыі.[43]

*Дзеля запэўнівання права на свабоду мірных сходаў працэдуру інфармавання пра арганізацыю мерапрыемстваў трэба ўжываць аднолькава да ўсіх зацікаўленых бакоў і пашырыць яе такім чынам, каб яна ўключала дзейнасці і да і пасля выбараў.*

АВКі складаюць дадзеныя і публікуюць інфармацыйныя плакаты аб кандыдатах, якія

38 Частка I.1.1.3 iv Кодэкса добрасумленнай практыкі сведчыць, што працэс праверкі подпісаў павінен кіравацца яснымі правіламі, ахопліваць усе подпісы і, як толькі ўстаноўлена, што неабходная колькасць подпісаў была сабраная, астатнія подпісы не павінны правярацца. Гл. таксама Ацэнка Еўрапейскага суда па правах чалавека Таіраў супраць Азербайджана, канчатковая ацэнка 11/09/2015.

39 Напрыклад, адзін з кандыдатаў па акрузе № 101 атрымаў два папярэджанні, адно за правядзенне канцэрта, а другое – за распаўсюд візітовак і газет падчас збору подпісаў.

40 Аб гэтым паведамлялася ў Бабруйску, Брэсце, Дзяржынску, Гарадку, Гомеле, Крычаве, Магілёве, Мазыры, Мінску, Полацку, Сеніцы, Шклове, Слуцку, Віцебску.

41 Пункт 9.2 Капенгагенскага дакумента АБСЕ 1990 года прадугледжвае, што "кожны чалавек мае права на мірныя сходы і дэманстрацыі ... любыя абмежаванні павінны быць прадпісаныя законам і адпавядаць міжнародным стандартам". Артыкул 21 МПГПП гарантуе права на свабоду мірных сходаў без неабгрунтаваных абмежаванняў.

42 У дадатак, кандыдаты могуць выкарыстоўваць асабістыя сродкі для арэнды памяшканняў, але такія выпадкі былі адзінкавыя.

43 Першае было адзначана ў Мінску і Оршы, апошняе – у Віцебску і Оршы.

распаўсюджваюцца сярод выбаршчыкаў і размяшчаюцца ўнутры выбарчых участкаў і на вызначаных пляцоўках. Некалькі кандыдатаў крытыкавалі практыку стандартызацыі бяграфічных звестак без магчымасці іх рэдагавання самімі кандыдатамі.[44] Упершыню інфармацыя аб судзімасцях была ўключана ў агульныя інфармацыйныя плакаты, што патэнцыйна стыгматызавала кандыдатаў. Шэраг друкарняў адмовіліся друкаваць матэрыялы, замоўленыя кандыдатамі, альбо затрымалі друкаванне, чакаючы спецыяльнага дазволу з АВК.[45]

*Дзеля запэўнівання эфектыўнага ажыццяўлення права на свабоду выказванняў і каб даць выбаршчыкам магчымасць зрабіць абгрунтаваны выбар, усе кандыдаты павінны магчы свабодна распрацоўваць свае паведамленні для выбаршчыкаў у рамках закона. Звесткі аб кандыдатах або іх праграмы не павінны быць прадметам разгляду выбарчымі камісіямі або любым іншым органам.*

Назіральнікі МНВ БДІПЧ/АБСЕ адзначылі распаўсюджаныя выпадкі выкарыстоўвання адміністратыўных рэсурсаў, вынікам чаго былі няроўныя магчымасці для кандыдатаў. Кандыдаты, вылучаныя працоўнымі калектывамі, карысталіся прывілеяваным доступам да дзяржаўных прадпрыемстваў і устаноў для арганізацыі мерапрыемстваў, якія ў некаторых выпадках наведваліся іх працаўнікамі пад прымусам.[46] Прадстаўнікі і чальцы грамадскіх аб'яднанняў, якія фінансуюцца дзяржавай, актыўна вялі агітацыйную дзейнасць за некаторых кандыдатаў.[47] Многія чальцы АВК і УВК выконвалі ролю пасярэднікаў на агітацыйных мерапрыемствах, дзе яны паказвалі перадузятае стаўленне да некаторых кандыдатаў падчас такіх сустрэч.[48] Некаторыя чальцы парламента, якія балатаваліся паўторна, выкарыстоўвалі вэб-сайт парламента з мэтай агітацыі. Такія выпадкі супярэчаць Артыкулу 73 Выбарчага кодэксу і параграфу 5.4 і 7.6 Капенгагенскага дакумента АБСЕ 1990 года.[49]

*Улады павінны запэўніць выразны падзел паміж дзяржавай і кандыдатамі, а таксама гарантаваць роўнае стаўленне ўдзельнікаў перад законам. Агітацыя павінна адбывацца без злоўжывання службовым становішчам, ціску да ўдзелу на супрацоўнікаў або падтрымкі з боку дзяржаўных прадпрыемстваў або фінансаваных дзяржавай аб'яднанняў.*

Кампаніі некаторых кандыдатаў сутыкаліся з перашкодамі, што выклікала занепакоенасць адносна здольнасці выбаршчыкаў аддаваць свае галасы "без страху пакарання", як гэта прадугледжана параграфам 7.7 Капенгагенскага дакумента АБСЕ 1990 года.[50] Некаторыя суразмоўцы МНВ БДІПЧ/АБСЕ адзначылі, што нядаўні арышт і пераследванне падазраванага ва

---

44 Кандыдат з Оршы, лідар Беларускай партыі левых "Справядлівы свет", склаў у АВК скаргу аб выдаленні частак яго біяграфіі з інфармацыйнага плакату АВК. Пра падобныя сітуацыі была атрыманая інфармацыя з Гомеля, Гродна, Магілёва, Мазыра, Мінска, Пінска і Віцебска.

45 Адзначана у Мінску і Магілёве.

46 Назіралася у Бабруйску, Баранавічах, Брэсце, Гомелі, Мазыры, Магілёве, Мінску, Оршы, Пінску і Слуцку.

47 Назіралася у Баранавічах, Брэсце, Гомелі, Гродне, Мазыры, Мінску і Віцебску.

48 Назіралася а з Бабруйска, Баранавічаў, Магілёва, Мазыра, Мінска і Віцебска.

49 Параграф 5.4 прадугледжвае "выразны падзел паміж дзяржавай і палітычнымі партыямі, у прыватнасці, палітычныя партыі павінны не злівацца з дзяржавай". Параграф 7.6 абавязвае дзяржавы-чальцы павінны "паважаць права асобаў і групаў засноўваць, у поўнай свабодзе, свае палітычныя партыі альбо іншыя палітычныя аб'яднанні, і надаваць палітычным партыям і арганізацыям неабходныя юрыдычныя гарантыі, якія дазвалялі б ім супернічаць адна з аднлй на падставе роўнасці перад законам і ўладамі". Глядзіце таксама Сумесныя Рэкамендацыі ЮДІПЧ/АБСЕ і Венецыянскай камісіі па прадухіленні і рэагаванні на злоўжыванні адміністрацыйным рэсурсам падчас выбарчых працэсаў ад 2016 года.

50 Пункт 7.7 абавязвае дзяржавы-ўдзельніцы "забяспечваць, каб закон і дзяржаўная палітыка дапускалі правядзенне палітычных кампаній у атмасферы справядлівасці і свабоды, у якой ніякія адміністратыўныя дзеянні, гвалт ці запужванне не стрымлівалі б партыі і кандыдатаў ад вольнага выяўлення сваіх поглядаў і азначэнняў, а таксама не перашкаджалі б выбаршчыкам знаёміцца з імі і абмяркоўваць іх альбо галасаваць свабодна, не баючыся пакарання".

ўдзеле ў паслявыбарчых пратэстах у снежні 2010 г., а таксама здыманне працэсу збору подпісаў і агітацыйных мерапрыемстваў на камеры, што таксама было заўважана МНВ БДІПЧ/АБСЕ, служаць таму, каб запужаць кандыдатаў і выбаршчыкаў.[51] Шэраг кандыдатаў і іх прыхільнікаў атрымалі адміністратыўных штрафаў іпапярэджванняў і за удзел у насенкцыяваных агітацыйных мерапрыемствах і неўключэнне неабходных дадзеных на агітацыйных матэрыялах.[52] 12 верасня некалькі актывістаў былі затрыманыя на шляху да паслявыбарчай акцыі пратэсту ў Мінску.

*Улады павінны забяспечыць, каб кандыдаты і выбаршчыкі маглі ажыццяўляць сваё права на сход і выказванне або атрымоўванне інфармацыі, не асцерагаючыся пакарання, адміністрацыйных дзеянняў або запалохвання.*

Нізкі ўзровень бачнасці передвыбарчай кампаніі і відавочная незацікаўленасць грамадства ў выбарах выклікалі непакой адносна здольнасці выбаршчыкаў зрабіць свядомы выбар. Яўка выбаршчыкаў была прыкметна нізкай у многіх з 39 агітацыйных падзей, за якімі ажыццяўлялася назіранне, хоць вышэйшая наведвальнасць была адзначана ў большасці падзей тых кандыдатаў, якія былі членамі грамадскага аб'яднання "Белая Русь". Шмат кандыдатаў не праводзілі передвыбарчай агітацыі, што выклікала сумневы адносна іх сапраўднасці сярод некаторых суразмоўцаў МНВ БДІПЧ/АБСЕ.[53] У выпадках назірання, метады агітацыі ўключалі арганізацю пікетаў і невялікіх сустрэч з выбаршчыкамі, размяшчэнне плакатаў у вітрынах крамаў, а таксама раздаванне агітацыйных улётак падчас абыходу выбаршчыкаў па дамах. На працягу двух апошніх тыдняў перад днём выбараў з'явілася невялікая колькасць білбордаў. Публікацыя апытанняў грамадскай думкі забароненая на працягу пяці дзён перад днём выбараў.[54]

Нягледзячы на тое, што закон дазваляе свабоднае і поўнааб'ёмнае абмеркаванне выбарчых праграм, Старшыня ЦВК перасцерагла кандыдатаў ад агітацыі на базе платформы адпаведнай палітычнай партыі, заклікаючы засяродзіцца на праблемах адпаведнай акругі.[55] Некаторыя кандыдаты выказалі адсутнасць упэўненасці ў сумленнасці выбарчага працэсу і адзначылі, што яны ўдзельнічаюць у першую чаргу дзеля таго, каб выкарыстаць магчымасць распаўсюдзіць свае погляды, якая адсутнічае па-за перыядам агітацыі. Партнёры па правацэнтрысцкай кааліцыі, прадстаўляючыя апазіцыйныя АГП, РЗС і незарэгістраваную БХД, апублікавалі заяву, падпісаную больш за 80 кандыдатамі і асуджаючую працэс правядзення выбараў, абмежаваную ролю парламента і пастаяннае падаўленне свабоды сходаў, аб'яднанняў і выказванняў.[56] Некалькі кандыдатаў, якія выбылі, выказалі падобную заклапочанасць у якасці прычыны зняцця сваіх кандыдатур.

---

51 Аб гэтым паведамлялася ў Гомеле, Мінску, Пінску і Віцебску. У чэрвені яшчэ адзін меркаваны ўдзельнік пратэстаў, якія адбыліся ў снежні 2010 года, быў арыштаваны і абвінавачаны ў масавых беспарадках.

52 Напрыклад, кандыдат ад АГП у Мінску атрымаў агулам тры штрафыпадчас збірання подпісаў. У дадатак, тры іншыя кандыдаты былі абвінавачаныя ва ўдзеле ў несанкцыянаваным мерапрыемстве падчас збору подпісаў. Абвінавачванні пазней былі зятыя, але расследаванне было зноў распачата за тыдзень перад выбарамі.

53 Паведамлена з Брэста, Гомеля, Магілёва, Мінска, Пінска і Віцебска.

54 Незалежная сацыялагічная ўстанова НІСЭПД, якая працавала ў Літве ад моманту пазбаўлення яе рэгістрацыі ў Беларусі ў 2005 г., спыніла ўсю сваю дзейнасць на пачатку жніўня 2016 г. пасля трансляцыі праграмы на канале "Беларусь – 1", дзе сцвярджалася, што вынікі апытанняў былі сфабрыкаваныя.

55 Гл. заяву Старшыні ЦВК на tut.by ад 19 жніўня 2016 г.

56 Гл. заяву кааліцыі правацэнтрыстаў.

## IX. ФІНАНСАВАННЕ КАМПАНІІ

Гэтыя парламенцкія выбары – першыя, якія не мелі наўпроставага дзяржаўнага фінансавання, даступнага кандыдатам, і некалькі суразмоўцаў МНВ БДІПЧ/АБСЕ назвалі недахоп належнага фінансавання ў якасці сур'ёзнай перашкоды да здольнасці ажыццяўляць перадвыбарчую агітацыю.[57] Тым не менш, закон прадугледжвае ўскоснае дзяржаўнае фінансаванне кандыдатам на роўнай аснове ў форме бясплатнага доступу ў памяшканні для агітацыйных мерапрыемстваў, агітацыйных матэрыялаў і доступу да сродкаў масавай інфармацыі.

Кандыдаты маглі карыстацца сваімі асабістымі сродкамі альбо атрымоўваць прыватныя ахвяраванні на кампанію, у памеры да 105 BYN ад фізічнай асобы і да 210 BYN – ад юрыдычнай.[58] Агульная сума выдаткаў аднаго кандыдата не павінна перавышаць 21 000 BYN. Усе фінансавыя транзакцыі павінны былі праводзіцца праз прызначаныя выбарчыя фонды. Патэнцыйным кандыдатам не дазволілі адкрываць фонды кампаніі загадзя, каб фінансаваць збор подпісаў і шукаць сродкі для кампаніі, што абмежавала іх агітацыйныя магчымасці. Прамое або ўскоснае фінансаванне кампаніі з замежных, ананімных, дзяржаўных крыніц і арганізацыямі з замежным фінансаваннем забаронена. АВКі маглі адмяніць рэгістрацыю кандыдата, які выдаткаваў больш за 20 працэнтаў ад ліміту альбо выкарыстоўваў фінансаванне па-за вызначаных выдаткаў на кампанію або ужываў замежныя сродкі ці матэрыяльную дапамогу. Нягледзячы на тое, што дабрачынным, рэлігійным і фінансаваным дзяржавай арганізацыям не дазваляецца ахвяраваць сродкі ў выбарчыя фонды, некалькі фінансаваных дзяржавай арганізацый удзельнічалі ў агітацыі за некаторых кандыдатаў.[59]

*Можна было б разгледзець магчымасць паўторнага ўвядзення прамога дзяржаўнага фінансавання кампаніі ў якасці сродку забяспечвання роўных умоў сярод кандыдатаў. Патэнцыйныя кандыдаты павінны мець магчымасць адкрываць выбарчыя фонды да рэгістрацыі, каб мець магчымасць фінансаваць дзейнасць, звязаную са зборам подпісаў, і прыцягваць дадатковыя сродкі для сваіх кампаній.*

ТВКі, АВКі і фінансавыя інстытуты былі адказныя за катраляванне згоднасці з фінансавымі нормамі. Банкі павінны былі штотыдзень дасылаць справаздачы аб фінансавых транзакцыях у АВКі, але гэта інфармацыя не заўсёды публікавалася, як гэта прадугледжана законам. Большасць кандыдатаў перадалі свае першыя фінансавыя справаздачы за дзесяць дзён да выбараў, а другія – за пяць пасля выбараў, згодна з законам. Тым не менш, закон не патрабуе, каб гэтыя справаздачы публікаваліся або падлягалі аўдыту, што абмяжоўвае агульную празрыстасць і падсправаздачнасць фінансавання кампаніі і не адпавядае міжнародным абавязацельствам і добрасумленнай практыцы.[60]

*Дзеля павышэння празрыстасці кампаніі, фінансавыя справаздачы, у тым ліку ўсе дадзеныя аб даходах і выдатках, павінны своечасова публікавацца. Незалежны, непрадузяты прафесійны орган павінен праводзіць аўдыт фінансавых справаздачаў кампаніі паводле справядлівых і аб'ектыўных крытэраў.*

---

57 Гл. параграф 176 Сумесных Кіруючых прынцыпаў БДІПЧ/АБСЕ і Венецыянскай камісіі па рэгуляванні дзейнасці палітычных партый, звязаных з фінансаваннем грамадскай кампаніі, у якой адзначаецца патэнцыял дзяржаўнага фінансавання дзеля ўмацавання палітычнага плюралізму.

58 1 EUR каштуе прыблізна 2.18 Беларускіх рублеў (BYN).

59 Паведамлена з Гомеля, Магілёва, Мінска, Пінска, Полацка і Слуцка.

60 Артыкул 7.3 Канвенцыі ААН супраць карупцыі 2003 года абавязвае дзяржавы "разгледзець магчымасць прыняцця належных заканадаўчых і адміністрацыйных мер ... у мэтах павышэння празрыстасці фінансавання кандыдатур на выбарчыя дзяржаўныя пасады". Глядзіце таксама параграф 201 Кіраўніцтва БДІПЧ/АБСЕ і Венецыянскай камісіі па палітычных партыях.

# X. СРОДКІ МАСАВАЙ ІНФАРМАЦЫІ

## A. АГЛЯД

Каля 723 газет, 174 радыёстанцый, 100 тэлевізійных станцый, 9 інфармацыйных агенцтваў і шэраг анлайнавых навінавых парталаў даступныя ў Беларусі.[61] Тэлебачанне з'яўляецца асноўнай крыніцай інфармацыі і дзяржаўная Белтэлерадыёкампанія (БТРК) з'яўляецца найбуйнейшай медыя-кампаніяй, якая дамінуе сярод вяшчальных СМІ. Газеты распаўсюджваюцца праз дзяржаўныя сеткі, якія спрыяюць дзяржаўным друкаваным сродкам і паступова выключылі незалежныя друкаваныя сродкі з рынку. Прыватныя СМІ маюць абмежаванае значэнне і часта падпадаюць пад ціск з боку ўладаў.[62] У адсутнасці незалежных вяшчальных СМІ анлайн-медыя павялічваць сваю ролю ў якасці альтэрнатыўных рэсурсаў палітычнай інфармацыі і інфармацыі, якая датычыць выбараў.

Журналісты павінны мець акрэдытацыю Міністэрства замежных спраў, каб працаваць на замежныя, і беларускія СМІ, працуючыя з-за мяжы, і не могуць працаваць аднačасова на нацыянальныя і замежныя СМІ.[63] Фрылансеры не лічацца журналістамі і не могуць атрымаць акрэдытацыю. Калі яны працуюць з краіны, то атрымоўваюць штрафы і падпадаюць пад ціск і могуць быць абвінавачаныя ў нелегальнам друкаванні і распаўсюджванні прадуктаў СМІ.[64] Прадстаўніца АБСЕ па свабодзе ў СМІ (ПССМІ) заклікала ўлады Беларусі спрыяць працы журналістаў, не перашкаджаць іх дзейнасці і не запужваць іх, а таксама спыніць прыняцце абмежавальных мер у адносінах да журналістаў-фрылансераў.[65]

*Акрэдытацыю журналістаў павінна быць перагледжаная ў рэчышчы паляпшэння ўмовы іх працы, а не дзейнічання ў якасці дазволу на працу. Фрылансеры і анлайн-журналісты павінны карыстацца тым жа статусам, што і іншыя журналісты, без дыскрымінацыі.*

## B. ПРАВАВАЯ БАЗА

Медыя-асяроддзе характарызуецца абмежавальнымі прававымі рамкамі, якія пагражаюць свабодзе выказванняў і прэсы. Канстытуцыя гарантуе свабоду слова, забараняе цэнзуру і ўстанаўлівае права на атрыманне, захоўванне і распаўсюд інфармацыі. Аднак, насуперак міжнародным стандартам і папярэднім рекамендацыям БДІПЧ/АБСЕ, Крымінальны кодэкс па-ранейшаму ўтрымоўвае палажэнні аб дэфамацыі, паклёпе і абразе, а таксама забараняе заклікаць да байкоту выбараў.[66] Сродкі масавай інфармацыі і Інтэрнэт-выданні могуць падпадаць пад санкцыі за публікацыю або трансляцыю заклікаў да байкоту выбараў, у тым ліку передвыбарных праграмы кандыдатаў і выступаў з такім зместам. Пачынаючы з 2014 года,

---

61 Зарэгістравана па стане на жнівень 2016 года.

62 Адміністратыўныя метады ўключаюць: выбарачныя падаткавыя праверкі, груваcткія патрабаванні да ліцэнзавання і рэгістрацыі, адмовы ў рэгістрацыі, штрафы, абмежаваны доступ да анлайн-медыяў і папярэджванні. Гл. таксама Даклад Спецыяльнага дакладчыка па пытанні аб становішчы ў галіне правоў чалавека ў Беларусі, 21 красавіка 2016 года.

63 Артыкул 35 Закона аб СМІ, Артыкул 5 Норм па акрэдытацыі замежных журналістаў у Беларусі.

64 Артыкул 1 Закона аб СМІ вызначае журналіста як асобу, якая мае пастаянны кантракт з зарэгістраваным СМІ.

65 Гл. заявы ПССМІ АБСЕ ад 22 снежня 2014 года, 3 студзеня 2015 года і 27 студзеня 2016 года.

66 Параграф 47 Заўвагі агульнага парадку № 34 2011 года да артыкулу 19 МПГПП сцвярджае, што "законы аб дыскрэдатацыі трэба распрацоўваць з асцярожнасцю, каб гарантаваць, што яны не служаць на практыцы абмежаваннем свабоды выказвання ... Дзяржавы-ўдзельніцы павінны разгледзець пытанне аб дэкрыміналізацыі дыскрэдатацыі і, у любым выпадку, прымяненне крымінальнага закона павінна ўхваляцца толькі ў самых сур'ёзных выпадках і турэмнае зняволенне ніколі не з'яўляецца адпаведным пакараннем".

інтэрнэт-СМІ маюць тыя ж абавязкі і падпарадкоўваюцца тым жа абмежаванням, што і традыцыйныя сродкі масавай інфармацыі, за выключэннем патрабавання рэгістрацыі. Больш таго, Міністэрства інфармацыі мае шырокія дыскрэцыйныя паўнамоцтвы на абмежаванне доступу да вэб-сайтаў без пастановы суда. ПССМІ АБСЕ крытыкавала новыя правілы за падрыў свабоды слова ў Інтэрнэце.[67]

*Прававую базу для сродкаў масавай інфармацыі трэба рэфармаваць, каб запэўніць поўную абарону прынцыпу свабоды слова і друку, як для афлайн-, так і анлайн-СМІ. Дыфамацыютрэба дэкрыміналізаваць.*

Дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі абавязаныя забяспечыць роўныя магчымасці ўсім кандыдатам ад моманту іх рэгістрацыі. Кандыдаты мелі права на атрыманне адной бясплатнай пяціхвілiннай прамовы на дзяржаўным радыё і дзяржаўным тэлебачанні з 15 жніўня па 2 верасня, і маглі удзельнічаць у тэлевізійных дэбатах з іншымі кандыдатамі з таго ж участку.[68] Яны таксама мелі права на публікацію сваёй перадвыбарчай праграмы бясплатна ў агульнанацыянальных і рэгіянальных дзяржаўных газетах і маглі набыць час і плошчу ў традыцыйных і анлайнавых СМІ.

Назіральны савет па СМІ (НСС) быў створаны, каб кантраляваць асвятленне выбарчай кампаніі ў СМІ і разглядаць спрэчныя пытанні.[69] НСС узначальваўся першым намеснікам міністра інфармацыі, складаўся з сямі чальцоў, шэсць з якіх прадстаўляюць дзяржаўныя СМІ і адзін – упершыню – Беларускую асацыяцыю журналістаў. НСС не праводзіць сістэматычны маніторынг сродкаў масавай інфармацыі і можа выдаць неабавязковыя рэкамендацыі да ЦВК і СМІ. Савет правёў тры паседжанні, якія мадэраваліся Старшынёй ЦВК, якая не з'яўляецца чальцом НСС. Былі разгледжаныя чатыры скаргі па пытаннях СМІ, якія датычыліся выбарчых праграмаў кандыдатаў. Дзве з іх былі адхіленыя, а па двум былі дадзеныя рэкамендацыі.[70] Склад НСС не запэўнівае ў неперадузятасці, а недахоп сістэматычнага маніторынгу СМІ не запэўнівае ў яго эфектыўнасці.

*Варта было б разгледзець магчымасць забяспечыць больш збалансаваны склад Назіральнага савета шляхам уключэння прафесіяналаў з прыватных СМІ і дадатковых прадстаўнікоў грамадзянскай супольнасці. Савет павінен быць упаўнаважаны і валодаць дастатковымі рэсурсамі для правядзення паслядоўнага маніторынгу асвятлення ў СМІ выбарчай кампаніі, каб больш эфектыўна выконваць сваю ролю.*

## C. Вынікі маніторынгу СМІ

З 11 жніўня па 11 верасня МНВ БДІПЧ/АБСЕ ажыццяўляла колькасны і якасны маніторынг асвятлення кампаніі, ахопліваючы 11 СМІ і10 навасных анлайн-парталаў.[71] У цэлым, манітараваныя дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыіажыццяўлялі вельмі абмежаванае асвятленне выбарчай кампаніі і не не змаглі паспрыяць таму, каб выбаршчыкі зрабілі

[67] Гл. заяву ПССМІ АБСЕ ад 17 чэрвеня 2014 года.
[68] Пастанова ЦВК № 32 ад 28 чэрвеня 2016 года.
[69] Пастанова ЦВК № 33 ад 28 чэрвеня 2016 года.
[70] Абедзве рэкамендацыі былі накіраваныя галоўнаму рэдактару газеты "Гарадзенская праўда" за друкаванне матэрыялаў кампаніі перад рэгістрацыяй кандыдата.
[71] Тэлеканалы "Беларусь 1", "Беларусь 3", "ОНТ ТВ", "СТВ"; радыёканалы "Першы нацыянальны канал Беларускага радыё" і "Еўрарадыё" і газеты "Звязда", "Народная Воля", "Советская Белоруссия" ("СБ – Беларусь Сегодня"), "Комсомольская правда в Белоруссии" і "БелГазета". Анлайн СМІ: *news.tut.by, belta.by, charter97.org, interfax.by, nn.by, euroradio.fm, sputnik.by, belaruspartisan.org, svaboda.org, naviny.by.*

ўсвядомлены выбар, што супярэчыць міжнародным стандартам.[72] Акрамя бясплатнага эфіра, асвятленне агітацыі кандыдатаў літаральна адсутнічала ў навінах і палітычных праграмах. Манітараваныя дзяржаўныя тэлевізійныя каналы прысвяцілі 82 працэнты сваіх навінаў асвятленню дзейнасці прэзідэнта і дзяржаўных службоўцаў, 17 працэнтаў – дзейнасці Старшыні ЦВК, у той час як усе кандыдаты агулам атрымалі 1 працэнт палітычнага эфіру ў прайм-тайм, да таго ж яны згадваліся толькі калектыўна, без спасылак да асобаў. Падобная тэндэнцыя была адзначаная на дзяржаўным канале "Радыё 1". У сваю чаргу, манітараваныя прыватныя СМІ, у тым ліку асноўныя анлайн-медыі, транслявалі ўсебаковую і разнастайную інфармацыю пра дзейнасць кампаніі і ўдзельнікай выбараў[73] Нягледзячы на тое, што гэта дазволена і ў прыватных і ў дзяржаўных СМІ, толькі некалькі кандыдатаў набылі платную палітычную рэкламу.

*Дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі павінны забяспечыць неперадузятае і збалансаванае асвятленне ўсіх удзельнікаў у сваіх навінавых і палітычных праграмах і даваць выбаршчыкам дастаткова інфармацыі, каб яны маглі зрабіць абгрунтаваны выбар. Дзеля дасягнення гэтай мэты, кампетэнтныя ўлады маглі б распрацаваць стратэгічнае кіраўніцтва і правесці падрыхтоўку на час выбарчых перыядаў.*

У агульнай складанасці 109 кандыдатаў не выкарыстала свой бясплатны эфірны час, а 257 не ўдзельнічала ў дэбатах, у той час як некаторым было адмоўлена ў эфіры.[74] Расклады эфірнага часу зваротаў і дэбатаў кандыдатаў былі абвешчаныя большасцю дзяржаўных вяшчальных кампаній. Доступ кандыдатаў да інтэрнэт-СМІ не рэгулюецца законам. Па гэтай прычыне звароты кандыдатаў з эфірнага часу не вяшчаліся онлайн і не былі загружаныя на сайты дзяржаўных вяшчальнікаў.[75] 9 верасня міністр інфармацыі абвясціла аб тым, што будуць прымацца меры ў дачыненні да некаторых інтэрнэт-СМІ, якія "дэманстравалі дэструктыўныя паводзіны" падчас кампаніі. У дзень выбараў тры сайты былі недаступныя на працягу некалькіх гадзін.[76] Акрамя таго, два журналісты былі выключаныя з выбарчых участкаў падчас падліку галасоў.[77]

## XI. СКАРГІ І ЗВАРОТЫ

Выбарчы кодэкс не прадугледжвае яснай працэдуры складвання скаргаў і зваротаў з адзінай іерархічнай структурай. З гэтай нагоды часта ўзнікала блытаніна паміж зацікаўленымі бакамі датычна таго, які орган разглядае саргі, і некалькі скаргаў былі пададзеныя ў некампетэнтныя

---

[72] Параграф 7.8 Капенгагенскага дакумента АБСЕ 1990 года заклікае дзяржавы-ўдзельніцы "забяспечыць адсутнасць любых юрыдычных або адміністрацыйных бар'ераў для беспярашкоднага доступу да сродкаў масавай інфармацыі на недыскрымінацыйнай аснове для ўсіх палітычных груповак і асобаў, якія жадаюць прыняць удзел у выбарчым працэсе". Глядзіце таксама параграфы 16 і 20 Заўвагі агульнага парадку № 34 (2011) да артыкула 19 МПГПП. Гл. таксама Рэкамендацыя № (99)15 Камітэта міністраў Савета Еўропы аб мерах, якія тычацца асвятлення сродкамі масавай інфармацыі выбарчай кампаніі і Даклады Спецыяльнага дакладчыка ААН па пытанні аб забеспячэнні і абароне права на свабоду меркаванняў і выказвання (1999-2009).

[73] Менавіта, "Еурарадыё", "Народная Воля", "Комсомольская правда ", *tut.by, naviny.by, Interfax.by.*

[74] *Беларусь 3* адмовіла ў вяшчанні двум кандытатам АГП. Акрамя таго, каля 15 друкаваных СМІ адмовіліся публікаваць або рэдагавалі перадвыбарчыя праграмы шэрагу кандыдатаў.

[75] У дадатак, 18 жніўня палітычны зварот кандыдата быў заблакаваны на *YouTube.com* пасля скаргі Белтэлерадыёкампаніі аб парушэнні аўтарскіх правоў.

[76] Менавіта, *udf.by*, *Belaruspartisan.org* і *Charter97.org*. Апошнія два – не зарэгістраваныя ў Беларусі.

[77] Менавіта, два журналісты "Нашай Нівы" і "Еўрарадыё". Апошняму дазволілі зноў увайсці пасля звароту ў ЦВК.

органы.[78] Дзеянні і рашэнні выбарчых камісіяў могуць быць абскарджаныя ў камісіях больш высокага ўзроўню, а некаторыя іх віды– у судах.[79] Вярхоўны суд валодае юрысдыкцыяй ў дачыненні да рашэнняў ЦВК, у той час як абласныя суды валодаюць юрысдыкцыяй у дачыненні да рашэнняў, адпаведных ТВК. Неадпаведнасці ў спісах выбаршчыкаў і склад УВК падпадаюць пад сферу кампетэнцыі раённых і гарадскіх судоў. Не ўсе рашэнні і дзеянні могуць быць абскарджаныя, у тым ліку адносна аспектаў рэгістрацыі кандататаў і вынікаў выбараў, што зніжае эфектыўнасць сродкаў прававой абароны.

*Варта разгледзець пытанне аб пераглядзе Выбарчага кодэксу, каб забяспечыць спецыяльны раздзел па скаргах і зваротах, што забяспечвала б сістэматычныя і простыя асновы ўсіх механізмаў прававой абароны ў адной іерархічнай і выразнай структуры. Папраўкі павінны запэўніць, каб усе дзеянні, бяздзейнасць і рашэнні выбарчых камісій маглі быць абскарджаныя ў судзе.*

Скаргі падаюцца і разглядаюцца на працягу трох дзён. Скаргі, патрабуючыя дадатковай праверкі, разглядаюцца на працягу 10 дзён, у той час як скаргі, атрыманыя ў дзень выбараў, павінны быць разгледжаныя неадкладна. Трохдзённы тэрмін для падачы скаргаў быў, па сутнасці, скарочаны з-за абмежавальнага тлумачэння.[80] Па законе кандыдаты, давераныя асобы, выбаршчыкі, грамадскія аб'яднанні, палітычныя партыі і назіральнікі маюць права падаваць скаргі і звароты. Аднак, на практыцы, права падаваць скаргі абмежавана да тых асоб, чые асабістыя выбарчыя правы непасрэдна закранутыя. Напрыклад, толькі кандыдаты могуць запытаць пералік галасоў і прызнання несапраўднымі вынікаў выбараў у іх акрузе.[81] Гэта пакідае іншыя зацікаўленыя бакі выбараў без магчымасці аспрэчваць абгрунтаванасць вынікаў і не адпавядае абавязацельствам АБСЕ і добрасумленнай практыцы.[82]

*Кожны выбаршчык, кандыдат і палітычная партыя павінна мець права падаць скаргу на кожны аспект выбарчага працэсу. Тэрміны падачы скаргаў павінны падыходзіць да тэмпу і кантэксту выбарчага працэсу, каб запэўніць права на эфектыўныя сродкі прававой абароны.*

У перадвыбарчы перыяд у выбарчыя камісіі, мясцовыя ўлады і суды было накіравана 545 скаргаў, заяваў і зваротаў. Сярод іх, 38 скаргаў і 21 абскарджванне датычылі адмовы ў рэгістрацыі кандыдатаў; чатыры адмовы былі адхіленыя судом. Акрамя таго, 24 скаргі былі пададзеныя супраць адмоваў у прызначэнні вылучэнцаў у склад выбарчых камісій; усе яны былі адхіленыя без належнага разгляду.[83] Да таго ж, на дзеянні выбарчых камісій была пададзеная 191 скарга, 108 тычыліся парушэнняў у кампаніі, 32 – акрэдытацыі і дзейнасці назіральнікаў; большасць з іх былі адхіленыя альбо атрымала адмову .

[78] Напрыклад, у той час як запыт аб пераліку галасоў падаецца ў ТВК, запыт на прызнанне вынікаў несапраўднымі падаецца ў АВК. Што датычацца спісаў выбаршчыкаў, то існуе перакрыцце юрысдыкцыі паміж судамі і выбарчымі камісіямі.

[79] Упершыню, папярэджанні, якія выдаюцца кандыдатам, можна было аспрэчваць ў судзе.

[80] Па меншай меры шэсць скаргаў былі не прынятыя судамі і выбарчымі камісіямі на падставе таго, што трохдзённы тэрмін для абскарджвання набывае моц у дзень дня пастановы, нягледзячы на тое, што Артыкул 150 Грамадзянска-працэсуальнага кодэкса вызначае, што гэты тэрмін пачынаецца ў першы працоўны дзень пасля прыняцця пастановы.

[81] Рашэнне ЦВК аб несапраўднасьці вынікаў можа быць абскарджана ў Вярхоўным судзе, а рашэнне аб сапраўднасці вынікаў не можа быць аспрэчана.

[82] Параграф 18.2 1991 Маскоўскага дакумента АБСЕ сцярджае, што "кожны чалавек павінен валодаць эфектыўнымі сродкамі прававой абароны ад адміністрацыйных рашэнняў дзеля гарантавання захавання асноўных правоў і запэўнівання прававой дабрачыннасці". Пункт II.3.3.f Кодэкса добрасумленнай практыкі рэкамендуе каб "ўсе кандыдатам і ўсе выбаршчыкі, зарэгістраваныя ў адпаведнай акрузе, мелі права на апеляцыю. Можна прызначыць мэтазгодны кворум для зваротаў выбаршчыкаў па выніках выбараў".

[83] Суды ацэньвалі толькі, ці прытрымліваліся мясцовыя выканаўчыя ўлады працэсуальных правілаў па прызначэнню чальцоў у УВК. Яны не ацэньвалі выкананне крытэраў прызначэння.

Звароты і скаргі ў ЦВК не абмяркоўваліся падчас публічных паседжанняў і разглядаліся працаўнікамі ЦВК, што не забяспецыла празрыстасці і скампраментавала мандат ЦВК. ТВК і АВК не заўсёды разглядалі скаргі падчас публічных паседжанняў, у той час, як слуханні ў судах праходзілі адкрыта з фармальным выкананнем працэса. Тым не менш, у многіх выпадках разгляд скаргаў быў адзначаны фармалістычным ужываннем закону.[84] ЦВК карысталася шырокімі дыскрэцыйнымі паўнамоцтвамі па тлумачэнню закона – часам непаслядоўна.[85] ЦВК публікавала статыстыку па скаргах, але не па саміх рашэннях, што супярэчыла адпаведнай пастанове ЦВК.[86] Былі апублікаваныя некалькі рашэнняў ТВК і АВК па скаргах. Агулам, у цяперашнім механізме ўрэгулявання спрэчак адсутнічае празрыстасць і не запэўніваецца прававая абарона, што супярэчыць пункту 5.10 Капенгагенскага дакумента АБСЕ 1990 г. і Артыкулу 2.1 МПГПП.[87]

*Дзеля павышэння празрыстасці працэсу ўрэгулявання спрэчак разгляд скаргаў і зваротаў варта было б ажыццяўляць выбарчым камісіям і судам у прысутнасці зацікаўленых бакоў, а рашэнні публікаваць своечасова. Усе судовыя працэсы павінны быць публічнымі.*

## XII. ГАМАДЗЯНСКІЯ І МІЖНАРОДНЫЯ НАЗІРАЛЬНІКІ

Назіральнікі з ліку грамадзян могуць вылучацца палітычнымі партыямі, грамадскімі аб'яднаннямі, працоўнымі калектывамі і ініцыятыўнымі групамі. Кандыдаты не маюць права вылучаць назіральнікаў, але іх давераныя асобы могуць назіраць.[88] Прадстаўнікі міжнародных назіральных арганізацый не могуць быць акрэдытаваныя без папярэдняга запрашэння ўладаў.

Выбарчы кодэкс вызначае правы і абавязкі міжнародных і грамадзянскіх назіральнікаў, якія часта з'яўляюцца прадметам празмерна абмежавальнай інтэрпрэтацыі выбарчай адміністрацыяй, што супярэчыць пункту 8 Капенгагенскага дакумента АБСЕ 1990 года і міжнароднай добрасумленнай практыцы.[89] У адрозненне ад міжнародных назіральнікаў, назіральнікі з ліку грамадзян маюць права назіраць толькі ў выбарчых камісіях, дзе яны акрэдытаваныя. Назіральнікам не дазваляецца назіраць за ўсімі відамі дзейнасці камісій і аглядаць спісы выбаршчыкаў, яны не маюць права атрымліваць засведчаныя копіі пратаколаў УВК і АВК.[90] Нядаўнія пастановы ЦВК надалі назіральнікам права атрымліваць інфармацыю аб спісах выбаршчыкаў і магчымасць знаходзіцца бліжэй да стала, дзе адбываецца падлік галасоў, а

[84] Напрыклад, Суд прызнаў непрымальнай па сутнасці скаргу, пададзеную намеснікам старшыні палітычнай партыі, а не стыршынёй.

[85] У адным выпадку (Ушакоў), ЦВК заявіла, што недакладныя біяграфічныя дадзеныя для сумесных інфармацыйных плакатаў не з'яўляюцца парушэннем, тады як у іншым выпадку (Кузьмін), ЦВК сцвярдзіла адваротнае.

[86] Пастанова ЦВК № 22 ад 8 чэрвеня 2016 года. Артыкул 14.1 МПГПП прадугледжвае, што "любое судовае рашэнне, вынесенае ў судовым працэсе, павінна абнародвацца".

[87] Параграф 5.10 Капенгагенскага дакумента АБСЕ 1990 г. абавязвае дзяржавы-чальцы даваць права кожнаму "на эфектыўныя сродкі прававой абароны ад адміністратыўных рашэнняў дзеля гарантавання павагі фундаментальных правоў і запэўнівання прававой дабрачыннасці". Артыкул 2.1 МПГПП адзначае, што "кожная асоба, чые правы і свабоды вызначаныя тут як парушаныя, павінна мець права на прававую абарону". Гл. таксама раздзел II.3.3 Кодэкса добрасумленнай практыкі.

[88] Кандыдат можа мець да 15 давераных асобаў і таму не мае неабходнай колькасці, каб назіраць ва ўсіх УВК яе/яго АВК. Напрыклад, самы вялікі раён (АВК 39) уключае ў сябе 121 выбарчы ўчастак, найменшы (АВК 102) мае 26.

[89] Пункт 8 Капенгагенскага дакумента АБСЕ 1990 года сцвярджае, што "прысутнасць назіральнікаў, як замежных, так і нацыянальных, можа павысіць аўтарытэтнасць выбарчага працэсу для дзяржаў, у якіх праводзяцца выбары". Гл. таксама Дэкларацыю прынцыпаў міжнароднага назірання за выбарамі.

[90] У некалькіх выпадках назіральнікі з ліку грамадзян не змаглі наведаць увесь працэс рэгістрацыі ў кандыдаты, у тым ліку праверку подпісаў і фінансавых дэкларацый, а таксама паседжані НСС.

таксама назіраць за перадачай пратаколаў УВК з вынікамі галасавання. Тым не менш, частяком УВК не выконвалі гэтыя пастановы (гл. *Датэрміновае галасаванне і дзень выбараў*).

*Варта прыняць меры для запэўнівання бесперашкоднага доступу назіральнікаў да ўсіх аспектаў выбарчага працэсу. Назіральнікі павінны мець магчымасць назіраць увесь працоўны працэс выбарчых камісій, у тым ліку праверку подпісаў і іншых дакументаў для рэгістрацыі кандыдатаў, правяраць спісы выбаршчыкаў і атрымліваць завераныя копіі пратаколаў выбарчых камісій.*

Агулам, акрэдытацыю атрымалі больш за 827 міжнародных і 32 105 мясцовых назіральнікаў.[91] Сярод іх, 24 000 прадстаўлялі фінансаваныя дзяржавай грамадскія аб’яднанні, якія таксама бралі ўдзел у агітацыі за праўладных кандыдатаў. Падчас датэрміновага галасавання і ў дзень выбараў, БДІПЧ/АБСЕ атрымала шматлікія заявы ад назіральнікаў, вылучаных грамадскімі аб’яднаннямі, у якіх сцвярджалася, што выбары былі праведзеныя ў адпаведнасці з Выбарчым кодэксам.

“Права выбару” і “Праваабаронцы за свабодныя выбары” (ПСВ) былі самымі актыўнымі недзяржаўнымі арганізацыямі з агульнай колькасцю назіральнікаў каля 3 000. Гэтыя групы праводзілі доўгатэрміновае назіранне і публікавалі перыядычныя справаздачы аб сваіх высновах. Падчас датэрміновага галасавання і ў дзень выбараў 35 грамадскіх назіральнікаў былі выдаленыя з выбарчых участкаў або іх акрэдытацыя была ануляваная, а адзін назіральнік быў затрыманы міліцыяй.[92]

## XIII. ДАТЭРМІНОВАЕ ГАЛАСАВАННЕ І ДЗЕНЬ ВЫБАРАЎ

### A. ДАТЭРМІНОВАЕ ГАЛАСАВАННЕ

Закон прадугледжвае датэрміновае галасаванне на працягу пяці дзён да дня выбараў, калі ўсе выбаршчыкі могуць галасаваць без якога-небудзь абгрунтавання.[93] Існуюць некаторыя нарматывы ў мэтах садзейнічання беззаганнасці датэрміновага галасавання, у тым ліку стварэнне і вывешваннештодзённых пратаколаў, апячатванне скрыняў, захоўванне скрыняў уначы ў сейфе або металічнай скрыні.[94] Тым не менш, гэтыя меры не з’яўляюцца вычарпальнымі. Напрыклад, датэрміновае галасаванне ажыццяўляецца толькі двума чальцамі УВК (у адрозненне ад двух трацін чальцоў УВК у дзень выбараў), а захаванасць скрыняў падчас перапынкаў і ўначы не забяспечваецца. Акрамя таго, агітацыйныя матэрыялы і мерапрыемствы не забароненыя на выбарчых участках падчас датэрміновага галасавання.

ММНВ назірала за апошнім днём датэрміновага галасавання на сістэматычнай аснове. У УВК, за якімі назіралі, прысутнічалі, у сярэднім, два назіральнікі ад грамадскіх аб’яднанняў, у той час як грамадзянскія назіральнікі ад няўрадавых арганізацый прысутнічалі ў 10 працэнтахУВК .

---

91 У прыватнасці, Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі (БРСМ) зарэгістраваў 6 170 назіральнікаў, Беларуская федэрацыя прафсаюзаў – 5 040, “Белая Русь” – 4 261, Беларускі саюз жанчын – 2 473, Беларускае грамадскае аб’яднанне ветэранаў – 3 070, Беларускі Хельсінскі камітэт – 53. Астатнія назіральнікі былі вылучаныя рознымі палітычнымі партыямі і грамадскімі аб’яднаннямі, працоўнымі калектывамі і ініцыятыўнымі групамі.

92 Гэта ўключае 31 назіральніка ад “Права Выбара” і 4 праваабаронцаў ПСВ. Назіральнік “Права выбару” быў затрыманы на тры дні за запіс відэа на выбарчым участку 626 у Мінску.

93 Датэрміновае галасаванне праводзіцца з аўторка па суботу напярэдадні выбараў з 10.00-14.00 і 16.00-19.00.

94 Закон патрабуе, каб у дзённым пратаколе УВК для датэрміновага галасавання ўлічвалася толькі колькасць атрыманых выбарчых бюлетэняў і колькасць выбаршчыкаў, якія атрымалі выбарчы бюлетэнь.

Асноўныя правілы датэрміновага галасавання не заўсёды выконваліся. У амаль што палове УВК, згодна з паведамленнямі назіральнікаў, скрыня для галасавання не была схаваная ў сейфе альбо металічнай скрыні, як гэта патрабуецца законам. Акрамя таго, адзначаліся недахопы у запаўненніштодзённых пратаколаў. Насуперак закону, у 16 працэнтах УВК, на якіх адбывалася назіранне, рэгістравалі сукупную, а не штодзённую яўку ў штодзённых пратаколах, што магло патэнцыйна прывесці для завышаных лічбаў яўкі. У тых выпадках, калі назіральнікам было дазволена правяраць спісы выбаршчыкаў, колькасць подпісаў была значна ніжэй, чым яўка, якую паведамлялі УВК. Насуперак закону, у 17 працэнтах УВК штодзённыя пратаколы не былі размешчаныя на ўсеагульны агляд і ў каля 7 працэнтаў УВК назіральнікам не дазволілі зрабіць фатаграфіі з іх. Закон не патрабуе, каб штодзённыя пратаколы заставаліся на агульным аглядзе да закрыцця, што не гарантуе падсправаздачнасці працэсу. Па заканчэнні датэрміновага галасавання, ЦВК абвясціла аб яўцы ў 31 працэнт. Яўка выбаршчыкаў была значна вышэй у УВК, прызначаных выбаршчыкам на дзяржаўных прадпрыемствах і грамадскіх установах, у тым ліку студэнцкіх інтэрнатах, дзе меліся дакладныя сцвярджэнні і адзнакі таго, што выбаршчыкаў прымушалі галасаваць.

*Датэрміновае галасаванне неабходна праводзіць з тымі ж гарантыямі, што і галасаванне ў дзень выбараў, у тым ліку з кворумам УВК і без перапынкаў. Штодзённыя пратаколы павінны ўключаць колькасць выбаршчыкаў, зарэгістраваных у спісе выбаршчыкаў, колькасць дададзеных выбаршчыкаў і колькасць выбаршчыкаў, якія прагаласавалі. Яны павінны заставацца ў агульнай бачнасціпасля заканчэння падліку галасоў і да заканчэння апошняга тэрміну для падачы скаргаў.*

## B. АДКРЫЦЦЁ ЎЧАСТКАЎ І ГАЛАСАВАННЕ

Дзень выбараў агульна прайшоў эфектыўным чынам. Амаль што ўсе участкі, на якіх праводзілася назіранне, былі своечасова адкрытыя. Агульная ацэнка працэсу адкрыцця ўчасткаў і галасавання была станоўчай у 94 адсотках участкаў, дзе ажыццяўлялася назіранне. Аднак, не заўсёды была гарантаваная сумленнасць працэсу. Чальцы УВК галоўным чынам былі працаўнікамі адной дзяржаўнай установы, а старшынёй камісіі звычайна з'яляўся іх кіраўнік, што ставіла пад сумнеў іх незалежнасць. У той час як назіральнікі з грамадскіх аб'яднанняў, якія фінансуе дзяржава, прысутнічалі на ўсіх участках, дзе праводзілася назіранне, міжнародныя назіральнікі прысутнічалі на 10 працэнтах участкаў. У каля 6 працэнтах выпадкаў назіральнікі не мелі добрай бачнасці падчас назірання за галасаваннем, а УВК супрацоўнічалі з імі не цалкам. Прысутнасць міліцыі і іншых службоўцаў не забаронена заканадаўствам, аднак яна можа запужваць чальцоў УВК і выбаршчыкаў. Акрамя гэтага, назіральнікі адзначылі прысутнасць неўпаўнаважаных асоб на 5 працэнтах участкаў. Больш за палову ўчасткаў для галасавання не прадугледжвалі доступу для людзей з абмежаванымі магчымасцямі, нягледзячы на пастанову ЦВК стварыць належныя ўмовы для выбаршчыкоў з абмежаванымі магчымасцямі.

Міжнародныя назіральнікі адзначылі сур'ёзныя працэдурныя памылкі, непаслядоўнасці і недахопы. Невыкарыстаныя бюлетэні для галасавання не былі размешчаныя ў добрай бачнасці чальцоў УВК і назіральнікаў у 18 працэнтах участках, на якіх адбывалася назіранне. Сярож іншых недахопаў былі: прысутнасць агітацыйных матэрыялаў альбо дзеянняў на участках (10 працэнтаў), галасаванне групай (3 працэнты), а таксама прыкметы прымусу да галасавання на вялікай колькасці участкаў. Адсутнічае стандарт па скрынях для галасавання і надзейная працэдура апячатвання, што не гарантуе таго, што скрыні для галасавання застануцца апячатанымі ці што іх не заменяць. У некаторых выпадках скрыні датэрміновага галасавання былі апячатаныя неналежным чынам, і не былі вывешаныя канчатковыя пратаколы па датэрміновым галасаванні. У 22 працэнтах УВК назіральнікі не мелі магчымасці праверыць спіс выбаршчыкаў. У тых выпадках, калі ў іх была такая магчымасць, колькасць подпісаў была значна меншай за лічбы па яўцы, якія падавалі УВК. Некаторыя УВК дадавалі выбаршчыкаў да

галоўнага спіса выбаршчыкаў, што супярэчыць заканадаўству, якое прадугледжвае дадатковы спіс.

*Дзеля запэўнівання беззаганнасці працэсу галасавання, уладам трэба разгледзець больш надзейныя меры бяспекі, такія як, пранумараваныя пячаткі для скрыняў для галасавання, адзіны узор празрыстых скрыняў для галасавання, выбарчыя бюлетэні з функцыямі бяспекі і ўнікальныя пячаткі УВК. Дзеля прадухілення неправамернага ўплыву на выбаршчыкаў і членаў УВК, прысутнасць мясцовых службовых асоб на выбарчых участках павінна быць забаронена.*

## C. Падлік галасоў

Працэс падліку быў ацэнены негатыўна ў 24 працэнтах участковых камісій, што выяўляе сур'ёзныя праблемы. Нягледзячы на пастанову ЦВК, у 27 працэнтах выпадкаў назіральнікам не дазволілі падысці блізка да стала, дзе рабілі падлік галасоў, і паўнавартасна назіраць. УВК часта не былі здольныя здзейсніць працэдуры па кантрольнай праверцы, якія маглі б запэўніць празрыстасць працэсу падліку галасоў. Напрыклад, у 21 працэнтах выпадкаў не была вызначаная і абвешчаная колькасць зарэгістраваных выбаршчыкаў, а ў большасці выпадкаў не былі падлічаныя подпісы ў спісе выбаршчыкаў перад адкрыццём скрыняў, што не запэўнівае дакладнасці абвешчаных лічбаў яўкі.

Назіральнікі часта адзначалі, што падлік галасоў быў паспешным, і працэсу не хапала празрыстасці. У чвэрці выпадкаў назіральнікі не былі здольныя бачыць адзнакі на бюлетэнях, чальцы УВК падлічвалі бюлетэні паасобку, а не калектыўна, а колькасць галасоў за кандыдатаў не агучвалася. У каля адной пятай выпадкаў сапраўднасць бюлетэняў не вызначалі паслядоўным і абгрунтаваным чынам, а сапсаваныя бюлетэні не падлічвалі, не пакавалі і не апячатвалі. Былі адзначаныя значныя прыкметы ўкіду бюлетэняў у скрыні для галасавання ў дзень выбараў (13 працэнтаў), у скрыні для мабільнага галасавання (8 працэнтаў ), а таксама ў скрыні для датэрміновага галасавання (8 працэнтаў ). Прававыя палажэнні, якія датычаць падліку галасоў, а таксама іх рэалізацыя, значылі, што сумленны падлік не мог быць гарантаваны, як гэта прадугледжана ў пункце 7.4 Капенгагенскага дакумента АБСЕ 1990 года.

Адносна пратаколаў УВК, назіральнікі паведамілі, што пратаколы УВК былі папярэдне падпісаны (10 адсоткаў), тры афіцыйныя копіі не былі падпісаныя ўсімі чальцамі УВК (10 адсоткаў), заяўленыя лічбы не былі запісаныя дакладна (10 адсоткаў), што сведчыць аб наўмыснай фальсіфікацыі запісаў у спісах выбаршчыкаў і вынікаў (7 адсоткаў) і іншых істотных працэдурных памылках ці недаглядах (16 адсоткаў). У супярэчнасці з законам, 8 працэнтам назіральнікаў не дазволілі рабіць фатаграфіі пратаколаў УВК.

*Падлік галасоў трэба праводзіць празрыстым чынам, каб усе чальцы УВК, назіральнікі і давераныя асобы кандыдатаў мелі магчымасць праверыць вынік працэсу. У якасці сродка для ўмацавання грамадскага даверу, варта разгледзець магчымасць абвяшчаць і паказваць прысутным асобам частку кожнага выбарчага бюлетэня, а таксама аб'яўляць ўсе лічбы, запісаныя ў пратаколы УВК.*

## D. Звядзенне і абвяшчэнне вынікаў

Міжнародныя назіральнікі ажыццявілі назіранне за працэсам звядзення вынікаў ва ўсіх 110 АВК, і прыблізна ў чвэрці выпадкаў гэты працэс атрымаў адмоўную ацэнку, што з'яўляецца значным паказчыкам. У 12 працэнтах выпадкаў былі зазначаныя затрымкі ў транспартыроўцы пратаколаў УВК да АВК, што не зарэўнівае недатычнасці пратаколаў і захаванасці матэрыялаў. Часта чальцы УВК разам ехалі на аўтобусе ў АВК.

Прыблізна ў двух трацінах не ўсе чальцы АВК прысутнічалі падчас перадачы пратаколаў УВК і звядзенні вынікаў. Больш за палову АВК спынілі і адклалі звядзенне вынікаў на другую палову наступнага дня, што зніжае ўзровень надзейнасці і справаздачнасці працэсу.[95] Працэсу звядзення цалкам бракавала празрыстасці. У чвэрці АВК назіральнікі ММНВ не мелі магчымасці бачыць працэдуру перадачы пратаколаў, а ў палове АВК назіральнікі знаходзіліся не дастаткова блізка, каб бачыць, як уводзяць дадзеныя. У некаторых выпадках працэдуры праводзілі ў асобных памяшканнях. Назіральнікі адзначылі шэраг істотных працэдурных памылак. У 16 працэнтах АВК дадзеныя ад УВК не былі ўведзеныя ў электронныя зводныя табліцы, а ў большасці выпадкаў дадзеныя не былі ўведзеныя чарніламі. У неадпаведнасці з пастановай ЦВК, у 22 выпадках назірання АВК не ўжывалі кантрольныя ўраўненні дадзеных па пратаколах УВК, і ў 15 выпадках назірання дадзеныя пратаколу УВК не былі ўведзеныя ў выніковыя табліцы.

*Дзеля таго, как павысіць празрыстасць падліку і ўпэўненасць грамадскасці ў дакладнасці вынікаў, АВК павінны весці бесперапынныя сесіі з моманту перадачы пратаколаў УВК да запаўнення выніковых пратаколаў АВК у прысутнасці чальцоў УВК і назіральнікаў.*

11 верасня ЦВК абвесціла, што яўка скала 74,7 адсотка. 12 верасня ЦВК абвесціла папярэднія вынікі і апублікавала імёны абраных дэпутатаў, перш, чым усе АВК завяршылі звядзенне вынікаў. Больш за тое, ЦВК не публікавала вынікі выбараў з разбіўкай па выбарчых участках, што не забяспечвае падсправаздачнасць працэсу падліку галасоў. 16 верасня ЦВК абвясціла канчатковыя вынікі выбараў. У агульнай складанасці 38 жанчын-дэпутатаў былі абраныя ў склад новага парламента, што ўяўляе сабой павелічэнне з 15 да 35 адсоткаў.

*Дзеля павышэння празрыстасці і падсправаздачнасці вынікі варта публікаваць з разбіўкай па выбарчых участках і асобна па кожнаму кандыдату, яны павінны таксама ўключаюць у сябе колькасць сапраўдных і несапраўдных галасоў, галасоў супраць усіх кандыдатаў і колькасць сапсаваных бюлетэняў.*

## E. СКАРГІ І ЗВАРОТЫ Ў ДЗЕНЬ ВЫБАРАЎ

У агульнай складанасці былі пададзеныя 1066 заяў і скаргаў на парушэнні падчас датэрміновага галасавання і ў дзень выбараў. З іх 222 датычыліся датэрміновага галасавання, 367 – галасавання і падліку галасоў, 157 – працы выбарчых камісій, 37 – правоў назіральнікаў, 33 – патрабаванні аб пераліку галасоў, 82 – патрабаванні аб прызнанні несапраўднымі вынікаў УВК і 131 – іншых пытанняў. У большасці скаргаў сцвярджалася адсутнасць празрыстасці і фальсіфікацыі падчас падліку галасоў, фальсіфікацыя пратаколаў датэрміновага галасавання, пратаколуў у дзень выбараў і паказчыкаў яўкі, парушэнні падчас мабільнага галасавання, маніпуляцыі ў спісах выбаршчыкаў, недастатковае запэўніванне аховы ўрны, а таксама фіктыўнае звядзенне вынікаў. Акрамя таго, каля 60 скаргаў на меркаваныя крымінальныя злачынствы былі пададзеныя ў рэгіянальныя пракуратуры, якія не разглядалі іх, але перадалі ў выбарчыя камісіі або мясцовыя органы выканаўчай улады.

Выбарчыя камісіі адхілілі амаль усе скаргі і звароты. Не ўсе скаргі былі разгледжаны ў ходзе адкрытых паседжанняў у прысутнасці склаўшых скаргі асоб і рашэнням часта бракавала сутнаснага абгрунтавання. Варта адзначыць, што ўсе звароты назіральнікаў пералічыць галасы і

[95] АВК ў Брэсце, Гродна, Мінску, Мінскай вобласці і Віцебску.

прызнаць вынікі несапраўднымі былі адхіленыя як несанкцыянаваныя.[96] Падобныя звароты кандыдатаў таксама былі адхіленыя на той падставе, што меркаваныя працэсуальныя парушэнні не мелі ніякага ўплыву на вынікі выбараў у акрузе.[97] Скарга на шматразовае галасаванне была адхіленая ЦВК на падставе таго, што рэгістрацыя выбаршчыкаў праводзіцца ў адпаведнасці з законам і, такім чынам, шматразовае галасаванне немагчыма.[98] Шэраг падобных зваротаў быў разгледжаны такім жа непаслядоўным чынам.[99] УВКі, АВКі і ТВКі перасталі функцыянаваць адразу пасля завяршэння звядзення вынікаў, але да трохдзённага тэрміну для падачы скаргаў. ЦВК абвясціла канчатковыя вынікі выбараў да заканчэння тэрмінаў падачы скаргаў. 29 верасня ЦВК правяла паседжанне для разгляду двух скаргаў з запытам аб прызнанні несапраўднымі вынікаў выбараў у двух АВК, якія былі адхіленыя.[100] У цэлым, разгляд скаргаў не з'явіўся эфектыўным сродкам прававой абароны іпакінуў магчымыя парушэнні без санкцый.

## XIV. РЭКАМЕНДАЦЫІ

Гэтыя рэкамендацыі, як і пададзеныя ў тэксце вышэй, прапаноўваюцца дзеля павышэння эфектыўнасці правядзення выбараў у Беларусі і падтрымкі намаганняў па правядзенні выбараў у адпаведнасці з абавязацельствамі АБСЕ і іншымі міжнароднымі абавязацельствамі і стандартамі дэмакратычных выбараў. Дадзеныя рэкамендацыі варта разглядаць як дадатак да папярэдніх рэкамендацый з канчатковых справаздачаў БДІПЧ/АБСЕ 2010, 2012 і 2015 гадоў і Сумеснага Заключэння БДІПЧ/АБСЕ і Венецыянскай камісіі 2010 года. БДІПЧ/АБСЕ гатова аказаць дапамогу ўладам у далейшым паляпшэнні выбарчага працэсу.[101]

### A. ПРЫЯРЫТЭТНЫЯ РЭКАМЕНДАЦЫІ

1. Заканадаўчую базу належыць усебакова перагледзець дзеля выканання папярэдніх рэкамендацый БДІПЧ/АБСЕ і Венецыянскай камісіі, у тым ліку адносна складу выбарчых камісій, правоў кандыдатаў, правоў назіральнікаў, галасавання, падліку галасоў і падвядзення вынікаў. Закон трэба тлумачыць і прымяняць такім чынам, кабзабяспечваліся аднолькавыя ўмовы для барацьбы для ўдзельнікаў, сапраўдная канкурэнцыя, свабоднае выказванне волі выбаршчыкаў, а таксама надзейнасць выбарчага працэсу.

2. Усе адпаведныя законы і ўказы павінны быць перагледжаныя і змененыя, каб гарантаваць, што любыя абмежаванні ў дачыненні да асноўных свабод носяць характар

---

96 БДІПЧ/АБСЕ вядома пра па меншай меры 15 рашэнняў АВК, якія сцвердзілі, што візуальны падлік яўкі выбаршчыкаў і выбарчых бюлетэняў назіральнікамі не прадугледжаны законам і, такім чынам, не мае ніякага юрыдычнага значэння.

97 Напрыклад, скаргі на несвоечасовую дэманстрацыю пратакола датэрміновага галасавання (заяўнік Кузьмін), ілжывыя звесткі ў пратаколе датэрміновага галасавання (Гоўша) і няздольнасць правесці паўнавартаснае назіранне (Шастак і Гузоўскі) былі разгледжаныя як звесткі пра працэсуальныя парушэнні, якія не маюць ўплыву на вынікі акругі.

98 Пастанова ЦВК № 01-11 / Р-354 ад 11 верасня.

99 ЦВК разгледзела дзве скаргі на разыходжанні ў лічбах яўкі ў ходзе датэрміновага галасавання, у той час як усе іншыя такія выпадкі яна накіравала ў АВК.

100 Два кандыдаты беларускай партыі левых "Справядлівы свет" патрабавалі прызнання несапраўднымі вынікі АВК 25 і 49 пасля адхілення іх запыту ў адпаведныя АВК і ТВК. Меркаваныя парушэнні тычыліся фармавання УВК, сумесных інфармацыйных плакатаў, неапраўданых абмежаванняў падчас агітацыі, няздольнасці гарантаваць ахову скрыняў падчас датэрміновага галасавання; перашкодаў працы назіральнікаў, павялічанай яўкі.

101 У пункце 25 Стамбульскага дакумента АБСЕ 1999 года, дзяржавы-ўдзельніцы АБСЕ абавязаліся "неадкладна рэагаваць на ацэнку выбараў і рэкамендацыі БДІПЧ".

выключэння, накладваюцца толькі ў выпадку неабходнасці ў дэмакратычным грамадстве, з'яўляюцца суразмернымі з легітымнай мэтай, і не ўжываюцца адвольна і празмерна абмежавальным чынам.

3. Органы ўлады павінны запэўніць права асоб і груп ствараць, без неабгрунтаваных абмежаванняў, уласныя палітычныя партыі ці палітычныя арганізацыі, а таксама даваць ім неабходныя юрыдычныя гарантыі канкураваць адзін з адным на роўных падставах.

4. Дзеля забяспечвання прававой пэўнасці, асноўныя аспекты выбарчага працэсу павінны рэгулявацца законам, а не пастановай ЦВК. Прававую рэформу належыць правесці задоўга да правядзення выбараў у рамках празрыстага і ўсёахопнага працэсу з удзелам усіх зацікаўленых бакоў.

5. Улады павінны запэўніць, каб кандыдаты і выбаршчыкі маглі ажыццяўляць свае права на сход і выказваць або атрымліваць інфармацыю, не асцерагаючыся пакарання, адміністрацыйных дзеянняў або запалохвання.

6. Дзеля павышэння празрыстасці і падсправаздачнасці вынікі варта публікаваць з разбіўкай па выбарчых участках і асобна па кожнаму кандыдату, яны павінны таксама ўключаюць у сябе колькасць сапраўдных і несапраўдных галасоў, галасоў супраць усіх кандыдатаў і колькасць сапсаваных бюлетэняў.

7. Варта прыняць меры для запэўнівання бесперашкоднага доступу назіральнікаў да ўсіх аспектаў выбарчага працэсу. Назіральнікі павінны мець магчымасць назіраць увесь працоўны працэс выбарчых камісій, у тым ліку праверку подпісаў і іншых дакументаў для рэгістрацыі кандыдатаў, правяраць спісы выбаршчыкаў і атрымліваць завераныя копіі пратаколаў выбарчых камісій.

8. Датэрміновае галасаванне неабходна праводзіць з тымі ж гарантыямі, што і галасаванне ў дзень выбараў, у тым ліку з кворумам УВК і без перапынкаў. Штодзённыя пратаколы павінны ўключаць колькасць выбаршчыкаў, зарэгістраваных у спісе выбаршчыкаў, колькасць дададзеных выбаршчыкаў і колькасць выбаршчыкаў, якія прагаласавалі. Яны павінны заставацца ў агульнай бачнасціпасля заканчэння падліку галасоў і да заканчэння апошняга тэрміну для падачы скаргаў.

9. Падлік галасоў трэба праводзіцьпразрыстым чынам, каб ўсе чальцы УВК, назіральнікі і давераныя асобы кандыдатаў мелі магчымасць праверыць вынік працэсу. У якасці сродка для ўмацавання грамадскага даверу, варта разгледзець магчымасць абвяшчаць і паказваць прысутным асобам частку на кожнага выбарчага бюлетэня, а таксама аб'яўляць ўсе лічбы, запісаныя ў пратаколы УВК.

10. Дзеля таго, как павысіць празрыстасць падліку і ўпэўненасць грамадскасці ў дакладнасці вынікаў, АВК павінны весці бесперапынныя сесіі з моманту перадачы пратаколаў УВК да запаўнення выніковых пратаколаў АВК у прысутнасці чальцоў УВК і назіральнікаў.

## B. ІНШЫЯ РЭКАМЕНДАЦЫІ

### Прававая база

11. Можна было б разгледзець магчымась выдалення патрабавання яўкі на выбарах, ці, прынамсі, выдалення гэтага патрабавання ў выпадку паўторных выбараў. Гэта дазволіла

б пазбегнуць магчымасці бясконца паўтаральных выбараў з-за недастатковай яўкі выбаршчыкаў.

**Рэгістрацыя выбаршчыкаў**

12. Усеагульнае адмаўленне выбарчых правоў грамадзянам, якія адбываюць пакаранне, незалежна ад цяжкасці здзейсненага злачынства, трэба перагледзець, каб забяспечыць суразмернасць абмежавання, якое накладаецца, і цяжкасці здзейсненага злачынства. Абмежаванне выбарчых правоў асоб, прызнаных псіхічна недзеяздольнымі, павінна быць адмененае альбо разгледжанае ў кожным індывідуальным выпадку ў. Уладам варта разгледзець пытанне аб ратыфікацыі Канвенцыі ААН аб правах інвалідаў.

13. Варта разгледзець пытанне аб распрацоўцы цэнтралізаванага, кампутарызаванага і агульнадаступнага рэестра выбаршчыкаў у адпаведнасці з правіламі абароны дадзеных. Варта ўвесці законны тэрмін рэгістрацыі выбаршчыкаў да дня выбараў, калі дадатковыя запісы дазваляюцца толькі ў адпаведнасці з пэўнымі юрыдычнымі патрабаваннямі, якія з'яўляюцца прадметам судовага кантролю.

**Выбарчая адміністрацыя**

14. Механізм фармавання ЦВК варта пераглядзець, каб забяспечыць дастатковыя гарантыі яе незалежнасці і непрадузятасці і ўмацаваць грамадскі давер да выбарчай адміністрацыі.

15. Дзеля запэўнівання непрадузятасці выбарчых органаў і павышэння грамадскага даверу, мясцовыя выканаўчыя службовыя асобы не павінны мець магчымасці адначасова ўваходзіць у склад выбарчых камісій або ўмешвацца ў іх дзейнасць.

16. Дзеля павышэння плюралістычнага прадстаўніцтва ў выбарчых камісіях і каб спрыяць умацаванню даверу да выбарчай адміністрацыі, варта разглядзець магчымасць забеспячэння ўключэння чальцоў камісіі, прызначаных ўсімі канкуруючымі бакамі. Дзеля павышэння незалежнасці членаў выбарчай камісіі, камісіям не павінны ўзнаўляць існуючыя іерархічныя адносіны ў дзяржаўных установах.

**Рэгістрацыя кандыдатаў**

17. У мэтах забеспячэння выбарчых правоў, варта перагледзець абмежаванні права на ўдзел у якасці кандыдата для фізічных асоб з нязнятай судзімасцю. Такія абмежаванні варта ўжываць толькі для самых сур'ёзных злачынстваў.

18. У мэтах павышэння адкрытасці і празрыстасці, Выбарчы кодэкс павінен забяспечыць дакладныя і мэтазгодныя крытэры і механізмы рэгістрацыі кандыдатаў. Нязначныя недакладнасці ў фінансавых дэкларацыях кандыдатаў не павінны прыводзіць да аўтаматычнай адмовы і кандыдатам трэба даваць магчымасць выправіць нязначныя або тэхнічныя памылкі ў сваіх заяўках.

19. Варта разгледзець пытанне аб памяншэнні неабходнай колькасці подпісаў у падтрымку для рэгістрацыі, увядзенні дакладных і абгрунтаваных крытэрыяў праверкі, а таксама запэўніванніроўных умоў для збору подпісаў. Варта было б таксама разгледзець пытанне аб уводзінах альтэрнатыўнага патрабавання, напрыклад, прымальнага фінансавага дэпазіту, які вяртаецца, калі кандыдат атрымлівае пэўную колькасць галасоў.

**Абставіны кампаніі**

20. Улады павінны запэўніць выразны падзел паміж дзяржавай і кандыдатамі, а таксама гарантаваць роўнае стаўленне ўдзельнікаў перад законам. Агітацыя павінна адбывацца без злоўжывання службовым становішчам, ціску да удзелу на супрацоўнікаў або падтрымкі з боку фінансаваных дзяржавай аб'яднанняў.

21. Дзеля запэўнівання эфектыўнага ажыццяўлення права на свабоду выказванняў і каб даць выбаршчыкам магчымасць зрабіць абгрунтаваны выбар, усе кандыдаты павінны магчы свабодна распрацоўваць свае паведамленні для выбаршчыкаў у рамках закона. Звесткі аб кандыдатах або іх праграмы не павінны быць прадметам разгляду выбарчымі камісіямі або любым іншым органам.

22. Дзеля запэўнівання права на свабоду мірных сходаў працэдуру інфармавання пра арганізацыю мерапрыемстваў трэба ўжываць аднолькава да ўсіх зацікаўленых бакоў і пашырыць такім чынам, каб яна датычылася дзейнасці і да і пасля выбараў.

**Фінансаванне кампаніі**

23. Можна было б разгледзець магчымасць паўторнага ўвядзення прамога дзяржаўнага фінансавання кампаніі ў якасці сродку забяспечвання роўных умоў сярод кандыдатаў. Патэнцыйныя кандыдаты павінны мець магчымасць адкрываць выбарчыя фонды да рэгістрацыі, каб мець магчымасць фінансаваць дзейнасць, звязаную са зборам подпісаў, і прыцягваць дадатковыя сродкі для сваіх кампаній.

24. Дзеля павышэння празрыстасці кампаніі, фінансавыя справаздачы, у тым ліку ўсе дадзеныя аб даходах і выдатках, павінны своечасова публікавацца. Незалежны, неперадузяты і прафесійны орган павінен праводзіць аўдыт фінансавых справаздачаў кампаніі паводле справядлівых і аб'ектыўных крытэраў.

**СМІ**

25. Прававую базу для сродкаў масавай інфармацыі трэба рэфармаваць, каб запэўніць поўную абарону прынцыпу свабоды слова і друку, як для афлайн-, так і анлайн-СМІ. Дыфамацыю трэба дэкрыміналізаваць.

26. Акрэдытацыю журналістаў павінна быць перагледжаная ў рэчышчы паляпшэння ўмовы іх працы, а не дзейнічання ў якасці дазволу на працу. Фрылансеры і анлайн-журналісты павінны карыстацца тым жа статусам, што і іншыя журналісты, без дыскрымінацыі.

27. Варта было б разгледзець магчымасць забяспечыць больш збалансаваны склад Назіральнага савета шляхам уключэння прафесіяналаў з прыватных СМІ і дадатковых прадстаўнікоў грамадзянскай супольнасці. Савет павінен быць упаўнаважаны і валодаць дастатковымі рэсурсамі для правядзення паслядоўнага маніторынгу асвятлення выбарчай кампаніі ў СМІ, каб больш эфектыўна выконваць сваю ролю.

28. Дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі павінны забяспечыць неперадузятае і збалансаванае асвятленне ўсіх удзельнікаў у сваіх навінавых і палітычных праграмах і даваць выбаршчыкам дастаткова інфармацыі, каб яны маглі зрабіць абгрунтаваны выбар. Дзеля дасягнення гэтай мэты, кампетэнтныя ўлады маглі б распрацаваць стратэгічнае кіраўніцтва і правесці падрыхтоўку на час выбарчых перыядаў.

## Скаргі і звароты

29. Варта разгледзець пытанне аб пераглядзе Выбарчага кодэксу, каб забяспечыць спецыяльны раздзел па скаргах і зваротах, што забяспечвала б сістэматычныя і простыя асновы ўсіх механізмаў прававой абароны ў адной іерархічнай і выразнай структуры. Папраўкі павінны запэўніць, каб усе дзеянні, бяздзейнасць і рашэнні выбарчых камісіймаглі быць абскарджаныя ў судзе.

30. Кожны выбаршчык, кандыдат і палітычная партыя павінна мець права падаць скаргу на кожны аспект выбарчага працэсу. Тэрміны падачы скаргаў павінны падыходзіць да тэмпу і кантэксту выбарчага працэсу, каб запэўніць права на эфектыўныя сродкі прававой абароны.

31. Дзеля павышэння празрыстасці працэсу ўрэгулявання спрэчак, разгляд скаргаў і зваротаў варта было б ажыццяўляць выбарчым камісіям і судам у прысутнасці зацікаўленых бакоў, а рашэнні публікаваць своечасова. Усе судовыя працэсы павінны быць публічнымі.

## Дзень выбараў

32. Дзеля запэўнівання беззаганнасціпрацэсу галасавання, уладам трэба разгледзець больш надзейныя меры бяспекі, такія як, пранумараваныя пячаткі для скрыняў для галасавання, адзіны ўзор празрыстых скрыняў для галасавання, выбарчыя бюлетэні з функцыямі бяспекі і ўнікальныя пячаткі УВК. Дзеля прадухілення неправамернага ўплыву на выбаршчыкаў і членаў УВК, прысутнасць мясцовых службовых асоб на выбарчых участках павінна быць забаронена.

## ДАДАТАК: КАНЧАТКОВЫЯ ВЫНІКІ

| АВК | Колькасць выбаршчыкаў | Дададзеныя ў дзень выбараў | Выдана бюлетэняў | Яўка % | Датэрміновае галасаванне | Мабільнае галасаванне | Галасавалі ў дзень выбараў на ВУ | Супраць усіх | Несапраўдных галасоў |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 69,563 | 465 | 46,613 | 67.0 | 19,314 | 2,137 | 25,148 | 4,932 | 776 |
| 2 | 60,143 | 338 | 41,470 | 68.9 | 19,926 | 1,702 | 19,835 | 5,478 | 558 |
| 3 | 59,845 | 210 | 34,843 | 58.2 | 11,960 | 1,042 | 21,806 | 3,939 | 461 |
| 4 | 61,855 | 189 | 45,330 | 73.3 | 20,963 | 3,101 | 21,259 | 5,068 | 627 |
| 5 | 66,514 | - | 48,641 | 73.1 | 21,398 | 2,259 | 24,983 | 5,937 | 803 |
| 6 | 61,687 | 265 | 49,151 | 79.7 | 22,821 | 1,493 | 24,835 | 3,856 | 525 |
| 7 | 62,645 | 211 | 56,354 | 90.0 | 21,889 | 7,197 | 27,268 | 4,434 | 844 |
| 8 | 62,455 | - | 53,715 | 86.0 | 18,726 | 7,527 | 27,454 | 5,350 | 705 |
| 9 | 59,343 | - | 47,698 | 80.3 | 16,607 | 5,927 | 25,130 | 8,013 | 961 |
| 10 | 60,121 | 112 | 52,003 | 86.5 | 20,044 | 5,947 | 26,012 | 4,438 | 834 |
| 11 | 64,051 | 6 | 52,081 | 81.3 | 17,545 | 5,700 | 28,830 | 4,908 | 825 |
| 12 | 62,024 | 100 | 48,498 | 78.2 | 18,448 | 6,934 | 23,114 | 4,801 | 1,085 |
| 13 | 59,964 | 118 | 50,383 | 84.0 | 18,987 | 2,333 | 29,055 | 2,508 | 643 |
| 14 | 61,199 | 89 | 46,199 | 75.5 | 13,226 | 1,519 | 31,452 | 5,877 | 816 |
| 15 | 66,741 | - | 57,076 | 85.5 | 17,644 | 2,873 | 36,559 | 4,546 | 808 |
| 16 | 54,578 | 42 | 44,491 | 81.5 | 18,957 | 1,699 | 23,833 | 1,962 | 771 |
| 17 | 64,364 | 306 | 46,399 | 72.1 | 20,627 | 4,750 | 21,019 | 2,835 | 550 |
| 18 | 66,993 | 120 | 40,297 | 60.1 | 13,134 | 3,715 | 23,431 | 2,501 | 599 |
| 19 | 64,385 | 204 | 56,108 | 87.1 | 24,846 | 6,241 | 25,016 | 3,201 | 433 |
| 20 | 62,510 | 247 | 52,662 | 84.2 | 28,320 | 3,882 | 20,419 | 3,207 | 651 |
| 21 | 64,449 | 32 | 56,345 | 87.4 | 23,142 | 10,681 | 22,522 | 6,267 | 824 |
| 22 | 57,654 | - | 51,050 | 88.5 | 19,549 | 11,034 | 20,467 | 1,770 | 476 |
| 23 | 64,435 | 258 | 55,957 | 86.8 | 24,249 | 8,010 | 23,692 | 3,620 | 652 |
| 24 | 70,801 | 198 | 53,596 | 75.7 | 18,866 | 2,160 | 32,569 | 5,824 | 793 |
| 25 | 60,601 | 20 | 43,920 | 72.5 | 19,874 | 7,293 | 16,748 | 2,624 | 407 |

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **26** | 58,712 | 31 | 45,564 | 77.6 | 18,949 | 7,372 | 19,240 | 4,748 | 811 |
| **27** | 59,365 | 25 | 46,789 | 78.8 | 20,623 | 7,583 | 18,580 | 4,151 | 719 |
| **28** | 59,223 | 53 | 49,856 | 84.2 | 21,955 | 11,917 | 15,981 | 4,673 | 730 |
| **29** | 60,359 | - | 48,410 | 80.2 | 20,222 | 8,366 | 19,818 | 5,194 | 762 |
| **30** | 60,289 | 174 | 52,195 | 86.6 | 20,967 | 11,577 | 19,651 | 5,153 | 817 |
| **31** | 69,161 | - | 46,830 | 67.7 | 22,642 | 1,580 | 22,584 | 4,770 | 854 |
| **32** | 68,718 | - | 46,483 | 67.6 | 20,963 | 1,542 | 23,953 | 5,044 | 1,286 |
| **33** | 69,523 | - | 42,826 | 61.6 | 19,808 | 1,279 | 21,732 | 4,982 | 609 |
| **34** | 65,343 | - | 41,547 | 63.5 | 19,299 | 2,357 | 19,848 | 2,511 | 122 |
| **35** | 63,149 | - | 45,709 | 72.3 | 17,391 | 2,986 | 25,287 | 4,575 | 149 |
| **36** | 69,797 | 152 | 48,165 | 68.9 | 20,846 | 1,854 | 25,421 | 4,319 | 507 |
| **37** | 67,750 | - | 55,972 | 82.6 | 28,480 | 2,852 | 24,631 | 5,404 | 1,302 |
| **38** | 67,154 | - | 56,814 | 84.6 | 28,762 | 3,195 | 24,850 | 6,583 | 500 |
| **39** | 57,446 | 15 | 50,137 | 87.3 | 22,629 | 2,935 | 24,564 | 4,972 | 626 |
| **40** | 69,511 | 154 | 51,565 | 74.2 | 26,191 | 2,070 | 23,302 | 6,329 | 665 |
| **41** | 57,240 | 2 | 47,779 | 83.4 | 19,680 | 4,096 | 23,985 | 4,310 | 367 |
| **42** | 65,862 | 32 | 48,623 | 73.8 | 25,714 | 635 | 22,244 | 2,025 | 494 |
| **43** | 66,241 | 35 | 54,192 | 81.8 | 27,742 | 2,817 | 23,629 | 2,697 | 411 |
| **44** | 57,671 | 330 | 42,808 | 74.2 | 18,116 | 5,180 | 19,505 | 3,304 | 497 |
| **45** | 61,591 | - | 50,344 | 81.7 | 21,764 | 5,114 | 23,441 | 5,306 | 671 |
| **46** | 66,443 | 134 | 47,568 | 71.6 | 21,151 | 2,573 | 23,837 | 2,758 | 508 |
| **47** | 58,171 | 25 | 52,462 | 90.2 | 26,401 | 5,503 | 20,545 | 6,827 | 1,150 |
| **48** | 55,582 | 17 | 44,251 | 79.6 | 20,277 | 3,949 | 20,025 | 3,250 | 641 |
| **49** | 58,358 | 115 | 40,881 | 70.1 | 18,747 | 1,811 | 20,323 | 2,233 | 442 |
| **50** | 47,450 | 97 | 40,687 | 70.8 | 18,991 | 369 | 21,314 | 3,161 | 405 |
| **51** | 57,350 | 141 | 31,459 | 54.8 | 13,634 | 3,035 | 14,777 | 4,810 | 552 |
| **52** | 57,629 | 102 | 40,447 | 70.2 | 18,247 | 1,178 | 21,019 | 4,952 | 475 |
| **53** | 66,388 | 7 | 59,813 | 90.1 | 21,312 | 8,706 | 29,795 | 6,610 | 742 |
| **54** | 66,263 | 82 | 57,235 | 86.4 | 25,320 | 7,429 | 24,486 | 3,602 | 783 |
| **55** | 65,632 | 60 | 45,942 | | 20,904 | 1,672 | 23,351 | 5,639 | 753 |

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 70.0 | | | | | |
| **56** | 56,889 | 50 | 48,679 | 85.6 | 20,111 | 6,008 | 22,560 | 3,264 | 559 |
| **57** | 57,145 | 73 | 49,259 | 86.2 | 18,917 | 10,987 | 19,355 | 5,049 | 708 |
| **58** | 63,539 | 5 | 46,638 | 73.4 | 18,371 | 7,727 | 20,540 | 4,269 | 481 |
| **59** | 57,404 | 112 | 41,411 | 72.1 | 15,851 | 6,339 | 19,217 | 5,522 | 854 |
| **60** | 55,931 | 3 | 47,924 | 85.7 | 22,086 | 8,545 | 17,288 | 6,992 | 1,002 |
| **61** | 63,244 | 25 | 51,970 | 82.2 | 22,545 | 9,180 | 20,245 | 5,107 | 524 |
| **62** | 69,016 | - | 45,688 | 66.2 | 19,325 | 2,404 | 23,959 | 3,945 | 536 |
| **63** | 61,371 | - | 46,273 | 75.4 | 19,521 | 4,436 | 22,316 | 4,264 | 991 |
| **64** | 65,867 | 86 | 44,670 | 67.8 | 20,403 | 2,671 | 21,596 | 4,421 | 290 |
| **65** | 68,296 | - | 56,653 | 82.9 | 25,268 | 6,922 | 24,461 | 4,986 | 711 |
| **66** | 58,102 | 9 | 50,667 | 87.2 | 21,224 | 8,364 | 21,078 | 4,422 | 700 |
| **67** | 60,256 | 12 | 44,589 | 74.0 | 16,720 | 3,640 | 24,217 | 5,257 | 886 |
| **68** | 68,091 | 207 | 44,968 | 66.0 | 19,628 | 706 | 24,623 | 3,667 | 628 |
| **69** | 67,203 | 419 | 56,664 | 84.3 | 22,058 | 6,680 | 27,925 | 6,502 | 1,007 |
| **70** | 62,210 | 48 | 47,130 | 75.8 | 19,188 | 7,193 | 20,746 | 6,321 | 711 |
| **71** | 69,112 | 32 | 52,175 | 75.5 | 22,584 | 10,442 | 19,144 | 5,351 | 727 |
| **72** | 67,315 | 515 | 46,023 | 68.4 | 20,121 | 1,969 | 23,928 | 5,184 | 703 |
| **73** | 67,523 | 247 | 54,540 | 80.8 | 20,569 | 10,245 | 23,724 | 3,121 | 639 |
| **74** | 59,046 | 146 | 48,420 | 82.0 | 19,943 | 10,058 | 18,417 | 4,166 | 911 |
| **75** | 70,174 | 54 | 56,019 | 79.8 | 20,871 | 8,368 | 26,780 | 5,562 | 510 |
| **76** | 71,775 | 108 | 43,369 | 60.4 | 14,221 | 13,216 | 15,921 | 8,417 | 1,051 |
| **77** | 71,083 | 194 | 54,299 | 76.4 | 20,193 | 3,235 | 30,871 | 4,903 | 261 |
| **78** | 62,625 | 89 | 45,677 | 72.9 | 14,037 | 7,035 | 24,604 | 3,860 | 571 |
| **79** | 71,278 | 129 | 52,861 | 74.1 | 22,844 | 3,036 | 26,937 | 3,402 | 399 |
| **80** | 60,110 | 27 | 49,896 | 83.0 | 20,251 | 6,382 | 23,258 | 2,029 | 436 |
| **81** | 58,946 | 111 | 55,066 | 93.4 | 25,614 | 5,640 | 23,796 | 1,976 | 975 |
| **82** | 54,933 | 41 | 49,467 | 90.0 | 21,184 | 8,430 | 19,840 | 1,738 | 451 |
| **83** | 64,658 | 79 | 59,380 | 91.8 | 25,724 | 5,695 | 27,905 | 1,766 | 581 |
| **84** | 66,104 | 48 | 49,831 | 75.3 | 23,652 | 3,844 | 22,270 | 3,100 | 418 |

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **85** | 62,422 | 15 | 44,053 | 70.5 | 15,658 | 7,959 | 20,377 | 3,558 | 346 |
| **86** | 67,772 | 91 | 51,570 | 76.1 | 20,462 | 1,814 | 29,279 | 2,587 | 794 |
| **87** | 64,255 | 107 | 46,954 | 73.0 | 19,250 | 1,997 | 25,679 | 1,955 | 482 |
| **88** | 65,050 | 62 | 53,410 | 82.1 | 20,727 | 8,305 | 24,373 | 10,509 | 727 |
| **89** | 59,789 | 293 | 50,659 | 84.7 | 22,988 | 7,727 | 19,932 | 5,264 | 965 |
| **90** | 60,922 | 92 | 55,749 | 91.5 | 21,750 | 7,546 | 26,451 | 2,311 | 477 |
| **91** | 63,425 | 115 | 39,686 | 62.6 | 15,824 | 779 | 23,083 | 3,443 | 423 |
| **92** | 63,937 | 324 | 36,912 | 57.7 | 15,068 | 1,842 | 20,002 | 3,422 | 385 |
| **93** | 56,557 | 223 | 36,582 | 64.7 | 16,448 | 982 | 19,150 | 3,497 | 338 |
| **94** | 67,833 | 20 | 40,290 | 59.0 | 17,105 | 551 | 22,394 | 3,602 | 352 |
| **95** | 65,416 | 5 | 41,939 | 63.7 | 16,776 | 1,172 | 23,727 | 5,148 | 518 |
| **96** | 61,999 | 84 | 37,078 | 59.7 | 15,227 | 806 | 21,002 | 6,942 | 141 |
| **97** | 60,803 | 122 | 36,319 | 59.7 | 14,098 | 598 | 21,588 | 8,800 | 151 |
| **98** | 64,422 | 442 | 40,585 | 63.0 | 16,463 | 507 | 23,598 | 7,077 | 309 |
| **99** | 67,199 | 943 | 42,335 | 63.0 | 15,838 | 1,140 | 25,354 | 4,320 | 95 |
| **100** | 68,445 | 224 | 43,640 | 63.7 | 16,253 | 412 | 26,962 | 5,820 | 166 |
| **101** | 67,597 | 340 | 41,742 | 60.9 | 17,218 | 577 | 23,369 | 6,876 | 541 |
| **102** | 57,245 | 390 | 38,701 | 67.3 | 13,899 | 382 | 24,255 | 4,396 | 349 |
| **103** | 67,539 | 780 | 42,473 | 62.4 | 16,875 | 989 | 24,259 | 4,516 | 211 |
| **104** | 63,035 | 160 | 41,598 | 65.7 | 15,598 | 835 | 24,996 | 3,308 | 284 |
| **105** | 66,062 | 60 | 42,015 | 63.5 | 17,770 | 1,266 | 22,930 | 6,262 | 514 |
| **106** | 63,195 | 370 | 39,902 | 62.8 | 19,125 | 1,765 | 18,771 | 2,713 | 181 |
| **107** | 68,507 | 40 | 40,682 | 59.0 | 20,775 | 3,244 | 16,417 | 3,233 | 310 |
| **108** | 70,092 | - | 41,030 | 58.5 | 16,344 | 647 | 23,984 | 3,667 | 86 |
| **109** | 70,131 | - | 45,613 | 65.0 | 20,349 | 651 | 24,570 | 3,646 | 54 |
| **110** | 63,304 | 129 | 39,403 | 62.2 | 17,410 | 2,177 | 19,808 | 3,763 | 454 |

Центральная комиссия обеспечила дополнительные условия для голосования избирателей с нарушениями зрения. Для незрячих избирателей были изготовлены трафареты для заполнения избирательных бюллетеней, выполненные шрифтом Брайля, а слабовидящим предоставлялись увеличительные стекла (лупы). Во взаимодействии с местными исполнительными и распорядительными органами было организовано дежурство волонтеров в дни голосования в зданиях, где расположены помещения для голосования, для оказания необходимой помощи лицам с ограниченными физическими возможностями.

В день выборов наблюдатели от Содружества посетили 2959 участков для голосования во всех избирательных округах республики.

На участках, где побывали члены Миссии, голосование проходило в спокойной обстановке, в присутствии международных и национальных наблюдателей, доверенных лиц кандидатов в депутаты. Все участки для голосования имели предусмотренные информационные материалы, необходимое оборудование и средства связи.

По мнению наблюдателей от Содружества, зафиксированные отдельные нарушения не носили массового характера и не оказали влияния на итоги выборов. О выявленных нарушениях Миссия проинформировала Центральную комиссию.

УИК обеспечили возможность участия в голосовании избирателям, которые по состоянию здоровья или по другим уважительным причинам не смогли прибыть в день выборов в помещение для голосования. Избиратель мог обратиться письменно или устно в участковую комиссию в любое время после ее образования, а в день голосования — не позднее 18.00 часов. В таких случаях голосование проходило с использованием переносного ящика для голосования в присутствии не менее двух членов комиссии.

Наблюдатели от СНГ также считают, что участие в мониторинге выборов более 35 000 национальных наблюдателей позволило усилить общественный контроль за ходом голосования.

В целях обеспечения объективного и оперативного информирования общественности о ходе и предварительных итогах голосования на выборах Центральная комиссия организовала работу Информационного центра «Выборы — 2016».

Члены Миссии присутствовали при подсчете голосов участковыми комиссиями и отметили, что данная процедура проводилась открыто. В соответствии с Кодексом наблюдателям была предоставлена возможность обозревать процедуру подсчета избирательных бюллетеней, что свидетельствует о стремлении организаторов выборов обеспечить общественное доверие к результатам голосования.

По мнению Миссии, органы власти Республики Беларусь и избирательные комиссии всех уровней обеспечили в ходе выборов реализацию права граждан страны на свободное волеизъявление.

Оценку прошедшей избирательной кампании наблюдатели от Содружества дают на основании анализа фактического материала, собранного в процессе долгосрочного и краткосрочного мониторинга выборов, а также на основе собственного наблюдения.

## Выводы

**Миссия наблюдателей от Содружества Независимых Государств приходит к следующим выводам:**

**выборы 11 сентября 2016 года проведены в соответствии с Конституцией и Избирательным кодексом Республики Беларусь;**

**прошедшие выборы соответствовали принципам проведения демократических выборов, были прозрачными, открытыми и свободными;**

**избирательная кампания прошла в спокойной атмосфере, в духе открытой конкуренции и на высоком организационном уровне.**

***Дадатак 19***

# Выбары членаў Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь. Нататкі назіральніка ў Гродзенскай вобласці

Савет Рэспублікі — адна з палат Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь. У яе склад уваходзяць 64 члены. На пасяджэннях дэпутатаў мясцовых Саветаў базавага ўзроўню вобласці, дэпутатаў Мінскага гарадскога Савета дэпутатаў абіраюцца 56 членаў: па 8 ад кожнай вобласці і горада Мінска. Яшчэ 8 членаў Савета Рэспублікі прызначае Прэзідэнт.

Членам Савета Рэспублікі можа стаць грамадзянін Рэспублікі Беларусь, які дасягнуў 30 гадоў і пражыў на тэрыторыі адпаведнай вобласці, горада Мінска не менш за пяць гадоў. Кандыдатамі ў члены Савета Рэспублікі не могуць быць вылучаны грамадзяне з наяўнасцю судзімасці. Член Савета Рэспублікі не можа быць адначасова членам урада, Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь, дэпутатам Палаты прадстаўнікоў, суддзёй.

Усе члены Савета Рэспублікі карыстаюцца недатыкальнасцю. Заробак у Савеце Рэспублікі атрымліваюць усяго 7 чалавек: старшыня, яго намеснік і старшыні пастаянных камісій. Астатнія прыбываюць на сесіі для разгляду законапраектаў і галасавання. Члены Савета Рэспублікі праводзяць прыёмы грамадзян і могуць накіроўваць запыты ва ўсе органы ўлады і арганізацыі.

Выбары членаў Савета Рэспублікі шостага склікання праходзілі на безальтэрнатыўнай аснове. Прэзідыюмы мясцовых Саветаў дэпутатаў базавага ўзроўню і адпаведныя выканаўчыя камітэты, а ў горадзе Мінску — прэзідыюм Мінскага гарадскога Савета дэпутатаў і Мінскі гарадскі выканаўчы камітэт вылучылі роўна столькі кандыдатаў, колькі ў далейшым павінна быць абрана таемным галасаваннем — па восем чалавек. У выніку ўсе кандыдаты, 56 з 56, былі абраны членамі Савета Рэспублікі без усялякага конкурсу. Яшчэ восем членаў Савета Рэспублікі прызначыў Прэзідэнт.

Пасля вылучэння кандыдатаў мясцовымі Саветамі дэпутатаў і адпаведнымі выканаўчымі камітэтамі выбары ў Савет Рэспублікі становяцца выключна фармальнай працэдурай. Фактычна выбары адбываюцца ў момант вылучэння кандыдатаў, і важна, каб гэты этап быў канкурэнтным і празрыстым. Аднак працэс падбору кандыдатур быў у цэлым закрытым.

Яго асвятленне было вельмі бедным. Дзяржаўныя СМІ абмяжоўваліся рэдкімі фармальнымі паведамленнямі з пералікам кандыдатаў і іх рэгалій і апісаннем працэдуры выбараў. Напрыклад, на сайце БелТА (Беларускага тэлеграфнага агенцтва) былі апублікаваны толькі тры нататкі аб вылучэнні кандыдатаў ад канкрэтных рэгіёнаў: Гродзенскай і Брэсцкай абласцей, горада Мінска*. Вэб-сайты абласных выканкамаў публікавалі нататкі іншых СМІ (у асноўным БелТА) і ўласных заяў не рабілі. Больш падрабязную інфармацыю паведамлялі незалежныя СМІ, аднак у сітуацыі закрытасці ўсяго працэсу іх публікацыі таксама былі малаінфармацыйныя.

Толькі ў адным з сямі рэгіёнаў (шасці абласцей і горада Мінск) «Беларускаму Хельсінкскаму камітэту» ўдалося арганізаваць назіранне за працэсам вылучэння кандыдатаў у Савет Рэспублікі — у Гродзенскай вобласці.

Вылучэнне кандыдатаў у члены Савета Рэспублікі ў Гродзенскай вобласці праходзіла фармальна, з парушэннем арт. 13 Выбарчага кодэкса, насіла схаваны, негалосны характар. Адборам кандыдатаў займалася Галоўнае ўпраўленне арганізацыйна-кадравай працы Гродзенскага аблвыканкама і цалкам кантралявала ўвесь працэс (у тым ліку збірала даведкі з КДБ, МУС і Адміністрацыі Прэзідэнта са станоўчымі характарыстыкамі кандыдатаў). Гэта падкрэслівае безальтэрнатыўны характар адбору кандыдатаў па крытэрах лаяльнасці да існуючай улады і «добранадзейнасці».

Аб вылучэнні кандыдатаў у мясцовых СМІ друкавалася толькі агульная інфармацыя са спасылкай на БелТА. Грамадскасць заставалася ў няведанні, каго і як вылучаюць прэзідыюмы мясцовых Саветаў дэпутатаў базавага ўзроўню і адпаведныя выканаўчыя камітэты.

19 жніўня завяршылася вылучэнне кандыдатаў у члены Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу шостага склікання ад Гродзенскай вобласці: былі праведзены сумесныя пасяджэнні прэзідыуюмаў гарадскіх і раённых Саветаў дэпутатаў і выканаўчых камітэтаў, на якіх былі вылучаны кандыдаты. У СМІ не публікавалі прозвішчаў кандыдатаў, а толькі агульную інфармацыю: «Усе вылучаныя кандыдатуры — кіраўнікі ў розных галінах, якія добра вядомыя жыхарам вобласці і не толькі. Сярод іх — старшыня СВК «Азёры» Гродзенскага раёна, дырэктар ААТ «Гродзенскі мясакамбінат», галоўны ўрач абласной інфекцыйнай бальніцы, рэктар Гродзенскага дзяржаўнага медыцынскага ўніверсітэта, старшыня Ваўкавыскага райвыканкама, два дэпутаты (старшыні абласнога і Лідскага раённага Савета дэпутатаў) і старшыня абласной арганізацыі «Чырвонага крыжа».**

* http://parlament2016.belta.by/sovrep

** http://parlament2016.belta.by/sovrep/view/vybory-2016-v-grodnenskoj-oblasti-zavershilos-vydvizhenie-kandidatov-v-chleny-soveta-respubliki-234/

Усе 8 вылучаных кандыдатаў у члены Савета Рэспублікі — беспартыйныя. З 20 па 24 жніўня праходзіла іх рэгістрацыя.

13 верасня адбылося абранне членаў Савета Рэспублікі ад Гродзенскай вобласці. На сумесным пасяджэнні сабраліся дэпутаты мясцовых Саветаў дэпутатаў базавага ўзроўню вобласці ў правамоцным складзе ў актавай зале Гродзенскага аблвыканкама. Зарэгістравалася 368 дэпутатаў — 67% ад агульнай колькасці дэпутацкага корпуса.

На пасяджэнні правялі абмеркаванне кандыдатаў у члены Савета Рэспублікі. Разам з тым, арт. 103 Выбарчага кодэкса ўстанаўлівае, што «вылучэнне іншых кандыдатур у члены Савета Рэспублікі на пасяджэнні дэпутатаў мясцовых Саветаў дэпутатаў базавага ўзроўню вобласці не праводзіцца». Такім чынам, як і пры вылучэнні ў кандыдаты ў члены Савета Рэспублікі, так і на сумесным пасяджэнні выбаршчыкі, прадстаўнікі апазіцыйных палітычных партый і грамадскіх арганізацый абмежаваны ў вылучэнні сваіх прадстаўнікоў і ў абмеркаванні вылучаных кандыдатур.

Бюлетэні выдаваліся без парушэнняў, па адным кожнаму ўдзельніку пасяджэння па прадстаўленні дэпутацкага пасведчання. Перад пачаткам галасавання празрыстая скрыня была праверана і апячатана старшынёй падліковай камісіі ў прысутнасці членаў падліковай камісіі.

Кожны ўдзельнік пасяджэння галасаваў асабіста. Падлік галасоў дэпутатаў праводзіўся непасрэдна членамі падліковай камісіі без перапынку да атрымання вынікаў галасавання. Змест бюлетэняў можна было аглядаць.

Вынікі падліку галасоў былі разгледжаны на пасяджэнні падліковай камісіі і ўнесены ў пратакол. Пратакол у двух экземплярах падпісалі ўсе члены падліковай камісіі. Па дакладзе падліковай камісіі на пасяджэнні дэпутатаў адкрытым галасаваннем было прынята рашэнне аб зацвярджэнні вынікаў галасавання.

Выбраным лічыцца кандыдат у члены Савета Рэспублікі, які атрымаў больш за палову галасоў дэпутатаў, якія прынялі ўдзел у галасаванні. Дэпутаты падтрымалі ўсіх вылучаных кандыдатаў:

Раманію Скамарошка, старшыню Гродзенскай абласной арганізацыі Беларускага таварыства «Чырвонага Крыжа» падтрымалі 360 дэпутатаў,

Міхаіла Сіцько, старшыню Ваўкавыскага райвыканкама — 361,

Інэсу Белуш, старшыню Лідскага раённага Савета дэпутатаў — 362,

Алену Караткову, галоўнага лекара Гродзенскай абласной інфекцыйнай бальніцы — 363,

Віктара Сняжыцкага, рэктара Гродзенскага дзяржаўнага медыцынскага ўніверсітэта — 363,

Анатоля Грышука, дырэктара ААТ «Гродзенскі мясакамбінат» — 366,

Ігара Жука, старшыню Гродзенскага абласнога Савета дэпутатаў, — 366,

Аляксандра Шышко, старшыню СВК «Азёры» Гродзенскага раёна — 366.

Падчас пасяджэння асаблівых меркаванняў і выступаў супраць кандыдатур не было. Асаблівых меркаванняў у членаў падліковай камісіі не было.

Старшынёй Савета Рэспублікі шостага склікання быў адзінагалосна абраны таемным галасаваннем на безальтэрнатыўнай аснове старшыня Савета Рэспублікі папярэдняга склікання Міхаіл Мясніковіч. Яго кандыдатуру прапанавала Марыяна Шчоткіна, экс-міністра працы і сацыяльнай абароны. Яе ж адзінагалосна абралі намеснікам старшыні Савета Рэспублікі.

Старшыняў пяці пастаянных камісій Савета Рэспублікі выбіралі не таемным, а адкрытым галасаваннем, але таксама на безальтэрнатыўнай аснове. Старшынёй камісіі па эканоміцы, бюджэце і фінансах стаў Уладзімір Панцюхоў, які ўзначальваў гэтую камісію ў Савеце Рэспублікі пятага склікання. Старшынёй камісіі па заканадаўству і дзяржаўнаму будаўніцтву абралі Алу Бодак, былога намесніка міністра юстыцыі. Старшынёй камісіі па адукацыі, навуцы, культуры і сацыяльным развіцці была абрана Ірына Старавойтава, былы рэктар Магілёўскага дзяржаўнага абласнога інстытута развіцця адукацыі. Старшынёй камісіі па міжнародных справах і нацыянальнай бяспецы стаў Сяргей Рахманаў, былы амбасадар Беларусі ў Японіі. Старшынёй камісіі па рэгіянальнай палітыцы і мясцовым самакіраванні абраны Аляксандр Папкоў, былы віцэ-прэм'ер, намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта.